


# HOMO HISTORICUS 2019

## The Annual of Anthropological History

Edited by Aliaksandr Smaliančuk,
Doctor in History




# HOMO HISTORICUS 2019

## Гадавік антрапалагічнай гісторыі

Пад рэдакцыяй
доктара гістарычных навук Аляксандра Смаленчука

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

Рэдактар
доктар гістарычных навук Аляксандр Смалянчук

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Захар Шыбека, Універсітэт у Тэль-Авіве;
доктар Рымантас Мікніс, Інстытут гісторыі Літвы (Вільня);
доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч, Варшаўскі ўніверсітэт;
доктар габілітаваны Ганна Энгелькінг, Інстытут славістыкі
Польскай акадэміі навук (Варшава)

**Homo Historicus 2019.** Гадавік антрапалагічнай гісторыі / пад. рэд. Аляксандра Смаленчука. – Вільня: Палітычная сфера, 2019. – 307 с.

*Homo Historicus 2019* працягвае традыцыі чатырох папярэдніх тамоў (2008, 2009, 2012 і 2016 гг.) з іх арыентацыяй на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага. Большасць апублікаваных матэрыялаў датычаць праблемы суадносянаў біяграфіі навукі з біяграфіяй навукоўца на прыкладах жыцця і дзейнасці вядомых гісторыкаў М. Біча і Ю. Бардаха, лінгвісткі А. Абрэмбскай-Яблоньскай, антраполага Ю. Абрэмбскага, генетыка А. Жэбрака ды інш. Таксама ў томе публікуюцца раней невядомыя дакументы, звязаныя з паўстаннем 1863 г. і камуністычнымі рэпрэсіямі. Сярод аўтараў вядомыя даследчыкі з Беларусі, Польшчы, Літвы, Ізраіля і Украіны.

# ЗМЕСТ

ISSN 2424-5224

# ПРАДМОВА

Чарговы том гадавіка *Homo Historicus* – гэта запрашэнне даследчыкаў і аматараў гісторыі падумаць над асаблівасцямі біяграфіі навукі і біяграфіі/аўтабіяграфіі навукоўцаў. Славуты даследчык Леў Гумілёў у «Аўтанекралогу» (1987) заўважыў, што не можа быць ідэі без асобы аўтара. Гэтая асоба таксама мае жыццё па-за навукай, якое ў той ці іншай ступені ўплывае на характар і ход даследаванняў, на імкненне навукоўца дайсці да ісціны, адказаць на пэўныя важныя для грамадства пытанні.

У 2005 г. вядомы французскі даследчык у галіне аўтабіяграфіі Філіп Лежон (Philippe Lejeune) добраахвотна адыграў ролю доследнай жывёлы ў парыжскай Лабараторыі клінічнай сацыялогіі, супрацоўнікаў якой цікавіла сувязь паміж ягонай «гісторыяй жыцця» і навуковымі інтарэсамі. Ф. Лежону давялося ў пэўным сэнсе прэпараваць самога сябе. Падобнае «прэпараванне» ці самарэфлексія з'яўляецца непазбежным этапам жыцця ў навуцы. Раней ці пазней перад кожным навукоўцам паўстаюць пытанні, накшталт таго, што было вызначальным у ягоным выбары сферы навуковых інтарэсаў або даследчага метаду? Як гэты выбар быў звязаны з асабістым жыццём? Гэтыя пытанні з'яўляюцца часткай таго, што можна назваць біяграфіяй/аўтабіяграфіяй навукоўца. Біяграфія навукі, як і біяграфія ідэі, не павінна ігнараваць «гісторыю жыцця» яе аўтара.

У сваю чаргу, усё гэта элементы антрапалагічнага падыходу да гісторыі навукі, які, між іншым, ставіць пытанні: *як становяцца навукоўцамі і даследчыкамі? дзе вытокі ім-*

*кнення знайсці ісціну, якое авалодвае адзінкамі? як «гісторыя жыцця» па-за навукай уплывае на даследаванні і якое месца яна займае ў біяграфіі навукоўца? як нараджаюцца гіпотэзы, канцэпцыі і тэорыі, з чаго складаецца іх біяграфія? як паўстаюць навуковыя школы і ў якой ступені асобы стваральнікаў вызначаюць іх будучыню?...*

Рэаліі развіцця сацыяльных і гуманітарных дысцыплінаў у сучаснай беларускай навуцы таксама прымушаюць ставіць пытанні пра адказнасць даследчыка перад грамадствам, пра ягонае сумленне і гонар як навукоўца. Тая ж гістарычная навука здаўна крытыкуецца за тое, што нібыта заўсёды арыентаваная не на пошук ісціны, а на патрэбы існуючага палітычнага рэжыму. Але гэта праблема не столькі гісторыі як навукі, колькі асобных гісторыкаў. Відавочна, што ў сітуацыі, калі ў краіне адсутнічае свабода навуковых даследаванняў, будзе даволі шмат тых, хто пошук ісціны прамяняў на адабрэнне чарговага палітычнага начальніка. З усіх метадаў гістарычнага даследавання яны выкарыстоўваюць толькі метад «нажніцаў і клею», які выдатна апісаў англійскі гісторык Робін Джордж Калінгвуд (*The Idea of History*, 1946, 1993). Але поза лёкая нягодная жыцця ў навуцы. Дарэчы, усё гэта мы ўжо праходзілі ў незабыўны савецкі перыяд, калі афіцыйная гістарычная палітыка вызначалася не даследчыкамі, а «рашэннямі» Пленумаў ЦК КПСС і прамовамі чарговага партыйнага сакратара.

У гэтым томе гадавіка *Homo Historicus* прадстаўленыя асобы, якія ў самыя неспрыяльныя часы заставаліся вернымі навуцы: Міхась Біч (1937–1999), Юліуш Бардах (1914–2010), Антаніна Абрэмбская-Яблоньская (1901–1994), Юзаф Абрэмбскі (1905–1967), Антон Жэбрак (1901–1965). Лёс апошняга, дарэчы, сведчыць, што біяграфія навукі – гэта таксама гісторыя паразаў не толькі ў выніку навуковых дыскусій і эксперыментаў.

Пра ўласны шлях у навуку на старонках гадавіка распавёў беларускі гісторык Алег Яноўскі (Мінск). Аўтарамі іншых тэкстаў сталі вядомыя беларускія і польскія навукоўцы: Ганна Энгелькінг (Варшава), Захар Шыбека (Тэль-Авіў), Анджэй Закжэўскі (Варшава), Анатоль Вялікі (Мінск), Эльжбета Смулкова (Варшава). Асаблівай увагі заслугоўваюць тэксты прамоваў прафесара Юліуша Бардаха з нагоды атрымання ступені *doktor honoris causa* Варшаўскага (1996) і Віленскага (1997) універсітэтаў, а таксама ягоны апошні артыкул *Пра краёвасць, краёўцаў і лакальны патрыятызм – некалі і сёння.*

У рубрыцы «Дакумент» можна пазнаёміцца з чарнавікам № 6 славутай «Мужыцкай праўды» (12 кастрычніка 1862 г.), які так і не быў апублікаваны, а таксама з *Curriculum vitae* (1918) навукоўца і дзеяча беларускага Адраджэння Вацлава Іваноўскага (1880–1943), з успамінамі літоўскага гісторыка

і акадэміка БелАН у 1930-я гг. Стасіса Матулайціса (1866–1956). Знішчэнне беларускай акадэмічнай навукі ў перыяд «Вялікага тэрору» 1937–1938 гг. адлюстравалася ў дакладной запісцы *О положении в Белорусской Академии Наук* намесніка Упаўнаважанага Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК УсеКП(б) па БССР А. Астроўскага ад 10 верасня 1937 г.

У апошнім раздзеле гадавіка прадстаўленыя тэксты вядомых даследчыкаў: Леаніда Смілавіцкага (Тэль-Авіў), Аляксандра Гужалоўскага (Мінск), Аляксандра Радзюка (Гродна) і Вольгі Кавалеўскай (Кіеў), – аўтары якіх знаёмяць чытача з малавядомымі старонкамі гісторыі і імкнуцца да пашырэння антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага.

Выданне гэтага тома *Homo Historicus* стала магчымым дзякуючы падтрымцы *Orsa-Romano Cultural and Educational Foundation Inc.*

Аляксандр Смалянчук

ISSN 2424-5224

# МІХАСЬ БІЧ (1937–1999)

# «СВАЁ ЖЫЦЦЁ Я ПРЫСВЯЦІЎ ВЫВУЧЭННЮ АЙЧЫННАЙ ГІСТОРЫІ»



*Міхась Біч. 1997 г.*


## *Summary*

Historian Michail Bič (1937–1999) was at the forefront of revival of historical science in the early 1990s and reforming the system of historical education in Belarus. He led the team of scholars that developed the *National and State concept* of Belarusian history.

In the text below Michail Bič recalls his own way in the study of history. The significance of his role and research activity is described by his former student Prof. Aliaksandr Smaliančuk (Hrodna-Warsaw) and his colleagues Z. Šybieka (Tel Aviv) and Jerzy Milewski (Białystok).

ISSN 2424-5224

# ЗГАДВАЮЧЫ МІХАСЯ БІЧА

***Аляксандр Смалянчук,***
*доктар гіст. навук (Варшава)*

Мінула 20 год, як мы развіталіся з Міхасём Бічом. Сёння ўжо відавочна, што ягоны адыход сімвалізаваў заканчэнне кароткай, але надзвычай яскравай і важнай эпохі адраджэння і развіцця беларускай гістарычнай навукі пры ўдзеле дзяржавы. У пэўным сэнсе гэта была «эпоха» Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, які ў той час узначальвалі прафесары Міхась Касцюк і Міхась Біч. Апошні быў намеснікам дырэктара, але менавіта ён у найбольшай ступені быў заангажаваны ў працэс адраджэння навукі.

Міхась Біч адным з першых беларускіх гісторыкаў старэйшага пакалення падтрымаў беларускае Адраджэнне 1990-х гг. Менавіта ён узначаліў калектыў па распрацоўцы нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі, якая ў значнай ступені перадвызначыла асноўныя кірункі даследавання нашай мінуўшчыны. Актыўна супрацоўнічаў з выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя» і стаяў ля вытокаў выдання «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Таксама ўзяў на сябе адказную працу па стварэнні школьнага падручніка па гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст.

Асоба Міхася Восіпавіча выклікала павагу. Ягоная праца была вельмі эфектыўнай: дзве навуковыя манаграфіі («Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 гг.» (1973), «Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг.»(1984)), удзел у падрыхтоўцы шэрагу калектыўных выданняў (сярод якіх «Нарысы гісторыі Беларусі. У 2-х частках» (1987) ды інш.), вышэйзгаданы шко-

льны падручнік, вялікая колькасць навуковых артыкулаў, кіраванне аддзелам Інстытута гісторыі НАН Беларусі (з 1983 г.), удзел у канферэнцыях, лекцыі для студэнтаў і г. д. Пад ягоным навуковым кіраўніцтвам толькі ў 1990-я гг. было абаронена шэсць дысертацый. Але галоўным было тое, што пры актыўным удзеле прафесара М. Біча гісторыя Беларусі, якая ў савецкія часы выконвала функцыю ідэалагічнага забеспячэння панавання камуністычнай Масквы, пачала станавіцца навукай, свабоднай ад палітычнага ціску.

На жаль, у апошнія гады жыцця ягоная навуковая дзейнасць і праца над падручнікам сталіся сапраўдным «полем бою». Пасля прэзідэнцкіх выбараў 1994 г. і рэферэндуму 1995 г. у Беларусі распачалося вяртанне савецкай ідэалогіі і гістарычнай палітыкі часоў Леаніда Брэжнева. У гэтай сітуацыі Міхась Біч не страціў твару і не далучыўся да папулярнай партыі «КВД» («Куды вецер дзьме»). Ён застаўся беларускім даследчыкам і актыўна змагаўся з прыхільнікамі прасавецкай або прарасейскай версій айчыннай гісторыі.

Ён, дарэчы, меў вопыт змагання. Нават у савецкі час не схіляўся перад партыйнымі ўладамі ў лёкайскім паклоне «Чего-с изволите?». Варта нагадаць, якія абвінавачанні выклікалі ўжо першыя ягоныя артыкулы ў сярэдзіне 1960-х гг. Малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР у публікацыях, прысвечаных Беларускай сацыялістычнай грамадзе (БСГ), «Нашай Долі» і «Нашай Ніве», паказаў навуковую беспадстаўнасць тых ідэалагічных клішэ («рэакцыйнасць», «буржуазны нацыяналізм», «здрада беларускаму народу» і г. д.), якія з часоў кароткага курса «Истории ВКП(б)» былі замацаваныя за беларускім Адраджэннем. Малады даследчык фактычна абараняў гонар самой гістарычнай навукі. Не меншае абурэнне «гісторыкаў ад ідэалогіі» выклікалі публікацыі, у якіх разглядалася месца і роля БУНДа ў рабочым руху Беларусі. Чуліся заявы, што М. Біч падрывае «марксистско-ленинское учение о гегемонии пролетариата». Але «падрыўнік» вытрымаў.

У 1970 г. ён паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю, якая паслужыла асновай ягонай першай манаграфіі. У 1984 г. была абароненая дактарская дысертацыя. У гэты час Міхась Біч ужо кіраваў аддзелам гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. У гэтым аддзеле пачыналіся навуковыя біяграфіі такіх вядомых навукоўцаў, як Станіслаў Рудовіч, Андрэй Кіштымаў, Марыяна Сакалова, Сяргей Токць ды інш. У 1989 г. быў абраны на пасаду намесніка дырэктара Інстытута гісторыі па навуковай працы.

Маё асабістае знаёмства з М. Бічом адбылося ў 1990 г., калі я стаў ягоным аспірантам. Памятаю заўвагі Міхася Восіпавіча на старонках маёй дысертацыі. Адным з самых папулярных было пытанне «навошта?» Кіраўнік патрабаваў навуковай дакладнасці, вучыў жорстка экзаменаваць кожны

гістарычны факт. Менавіта ў гэтым ён бачыў сапраўдны патрыятызм беларускага гісторыка. Пры гэтым цаніў самастойнасць мыслення, прызнаваў права маладога даследчыка на ўласную пазіцыю, калі яна была дастаткова абгрунтаванай. Даволі часта згаданыя «навошта?» прыбіраліся самім навуковым кіраўніком.

Міхась Восіпавіч быў добрым і сардэчным чалавекам, але выяўляў жорсткасць і настойлівасць, калі сустракаўся з несумленнасцю, са спробай схаваць чалавечую і навуковую пустэчу за дэмагогіяй і вярнуць гістарычную навуку ў становішча служкі ідэалогіі.

Праз 20 год пасля ягонага адыходу хочацца звярнуць увагу на выразны недахоп сярод прадстаўнікоў гуманітарных навук людзей, здольных адкрыта супрацьпаставіць сябе гістарычнай палітыцы дзяржавы, якая ўсё яшчэ корміцца аб'едкамі са стала савецкай ці «заходнярускай» ідэалогіі. Галоўнай задачай кіраўніцтва Інстытута гісторыі ў часы Аляксандра Кавалені (2004–2010) і Вячаслава Даніловіча стала яго ператварэнне з навуковай інстытуцыі ў ахоўніка дзяржаўнай ідэалогіі, які, зрэшты, часцяком займаецца толькі патураннем настроям палітычнага кіраўніцтва. Тут важна не памыліцца і ўгадаць гэты настрой. Сумна назіраць, як нават маленькія дзяржаўныя пасады «з'ядаюць» людзей і навукоўцаў, якія ахвотна далучаюцца да вышэйзгаданай партыі «КВД».

Памяць пра Міхася Біча – гэта памяць пра чалавека, для якога жыццёвым прыярытэтам была адданасць гістарычнай навуцы, любоў да беларускай зямлі і павага да працы калег-навукоўцаў.

* * *

Згадваючы Міхася Біча, рэдакцыя гадавіка вырашыла апублікаваць ягоны ўспамін-разважанне «Мой шлях у навуку» (1997), які ўпершыню быў змешчаны на старонках *Гістарычнага альманаха* ў 2002 г. (том 6, с. 18–22).

Для гэтага тэксту характэрная аўтарская шчырасць і пэўныя разважанні пра ўласны жыццёвы і навуковы шлях. Аўтар спадзяваўся: «...Рэсурс мой яшчэ не выпрацаваны, [...] яшчэ нешта ўдасца зрабіць дзеля адраджэння нашай Бацькаўшчыны».

ISSN 2424-5224

# МОЙ ШЛЯХ У НАВУКУ

***Міхась Біч,***
*доктар гіст. навук (Мінск)*

Сваё жыццё я прысвяціў вывучэнню Айчыннай гісторыі. Прафесію гісторыка выбраў у далёкім ужо 1953 г. Не раскайваюся ў гэтым, хоць не раз зайздросціў прадстаўнікам такіх навук, як матэматыка, фізіка, хімія, пазбаўленым дыктату з боку тых, хто трымае ўладу. Шкадую, што большая частка творчага жыцця прайшла ва ўмовах ідэалагічнага ўціску кампартыйнага рэжыму, які поўнасцю кантраляваў развіццё гістарычнай навукі, дыктаваў ацэнкі пэўных гістарычных падзей і фактаў, пільна ахоўваў манаполію сваёй ідэалогіі, вырашаў лёс гістарычных даследаванняў, а разам з тым і лёс аўтараў.

Нарадзіўся я ў вёсцы Мілявічы Мастоўскага раёна 27 мая 1937 г. у сялянскай малазямельнай сям'і. У 1950 г. скончыў Мілявіцкую сямігодку з пахвальным лістом, у 1953 г. – Дзярэчынскую сярэднюю школу Зэльвенскага раёна. На медаль «не выцягнуў» (перашкодзіла адна «лішняя» чацвёрка ў атэстаце). Паспяхова вытрымаў уступныя экзамены на гістарычны факультэт БДУ, які і скончыў у 1958 г. з дыпломам выдатніка.

У 1958–1959 гг. працаваў настаўнікам у Цёплаўскай сярэдняй школе Пастаўскага раёна былой Маладзечанскай (зараз Віцебскай) вобл., наступныя два гады – у Курылавіцкай сярэдняй школе Мастоўскага раёна. Даводзілася выкладаць не толькі гісторыю, але і нямецкую мову, геаграфію, рускую мову.

Восенню 1960 г. паступаў у аспірантуру Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР. Экзамены па спецыяльнасці

і замежнай мове вытрымаў на «выдатна», але «адхапіў» тройку па гісторыі КПСС (недакладна ахарактарызаваў адзін з апошніх артыкулаў У. І. Леніна). З-за гэтага ў аспірантуру не прайшоў. Але праз некалькі месяцаў загадчык сектара гісторыі Беларусі перыяду капіталізму К. І. Шабуня[1], уплывовы ў інстытуце чалавек, які ў складзе камісіі прымаў экзамен па спецыяльнасці і знаёміўся з маім рэфератам, напісаным па «яго» перыядзе, запрасіў мяне на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка ў свой сектар. Такім чынам, у ліпені 1961 г. я трапіў у акадэмічны Інстытут гісторыі, дзе працую і зараз.

Выбраў тэму «Грамадска-палітычны рух у Беларусі ў 1900–1917 гг.» Планаваў на працягу трох гадоў даследаваць палітыку царызму, утварэнне і дзейнасць у Беларусі арганізацыі расійскіх урадавых, ліберальных і рэвалюцыйных партый, беларускі, польскі і яўрэйскі нацыянальныя рухі. (Адзначу ў дужках, што намечаная на тры гады праграма даследаванняў далёка не завершана мною да сённяшняга дня.)

Сабраны за першыя 3–4 гады навуковых даследаванняў багаты фактычны матэрыял абвяргаў сцверджанні афіцыйнай беларускай гістарыяграфіі аб расстаноўцы палітычных сіл у перыяд барацьбы з царызмам, найперш – аб месцы і ролі так званых «дробнабуржуазных», народніцкіх і сацыял-дэмакратычных партый і арганізацый. Яны практычна разам з бальшавікамі змагаліся за звяржэнне самадзяржаўя, аднак і ў 60-я гады ацэньваліся паводле сталінскага кароткага курса «Истории ВКП(б)» як контррэвалюцыйныя, рэакцыйныя, антынародныя партыі.

У першых двух артыкулах, апублікаваных у 1966 г., я паказаў негрунтоўнасць гэтых ацэнак у дачыненні да беларускага нацыянальнага руху пачатку ХХ ст., канкрэтна – Беларускай сацыялістычнай грамады і яе газет «Наша доля» і «Наша Ніва». Артыкул пра «Нашу долю» быў апублікаваны ў часопісе «Полымя». У тым жа годзе я здаў у «Полымя» вялікі артыкул (каля 3 а. а.) «Беларускі нацыянальны рух і газета «Наша Ніва». Рэдакцыя рыхтавала яго да друку, але з'явіліся рашэнні чарговага Пленума ЦК КПБ па ідэалагічных пытаннях, і публікацыя стала немагчымай.

Такім чынам, на ўласным досведзе я пераканаўся, што навуковааб'ектыўнае даследаванне так званых непралетарскіх рухаў і партый у тых умовах не магло прабіцца на свет Божы і яго нельга было абараніць на ву-

[1] Канстанцін Іванавіч Шабуня (1912–1984) – беларускі гісторык, доктар гіст. навук, член-карэспандэнт АН БССР (1969). Даследаваў гісторыю сялянства і сельскай гаспадаркі ў XIX – пачатку XX ст. Аўтар больш чым 100 навуковых прац, у т. л. манаграфіі «Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг.» (Минск, 1962) (заўв. рэд.).

чоную ступень, апублікаваць. Таму для кандыдацкай дысертацыі я выбраў тэму з гісторыі сацыял-дэмакратычнага руху, які папярэднічаў узнікненню бальшавізму. Але тут узнікла праблема з яўрэйскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыяй, вядомай пад назвай БУНД. Па ўсіх першакрыніцах (дакументах і матэрыялах) выходзіла, што ён, БУНД, які ў канцы [18]90-х – пачатку [1]900-х гадоў фактычна быў адзіным кіраўніком рабочага руху ў гарадах і мястэчках Беларусі, прадстаўляў тут РСДРП.

Аднак, не зважаючы на факты, афіцыйная гістарыяграфія ацэньвала БУНД як дробнабуржуазную, нацыяналістычную арганізацыю, ворага бальшавізму і рабочага класа, выдумвала нейкія міфічныя не бундаўскія камітэты РСДРП і неверагодна заблытвала гісторыю сацыял-дэмакратычнага і рабочага руху ў Беларусі ў гэты ды й пазнейшы перыяд. Спасылаліся на тое, што яўрэйскі БУНД не мог кіраваць тут рабочым рухам, бо большасць рабочых складалі беларусы.

Давялося заняцца распрацоўкай пытання аб нацыянальным складзе наёмных работнікаў, што працавалі ў прамысловасці, будаўніцтве, гандлі, на ўсіх відах транспарту і г. д. (за выключэннем сельскай і лясной гаспадаркі) і канцэнтраваліся пераважна ў гарадах і мястэчках. Зрабіў адпаведныя статыстычныя падлікі на аснове матэрыялаў Усеагульнага перапісу насельніцтва 1897 г. паводле методыкі У. І. Леніна. У выніку атрымалася, што сярод пералічаных катэгорый работнікаў яўрэі складалі 60 %, а беларусы – толькі 17 %. У дысертацыі канстатавалася гегемонія БУНДа ў сацыял-дэмакратычным руху Беларусі ў 1898–1903 гг. Гэтая выснова выклікала сярод вучоных абвінавачванне: «Бич подрывает марксистско-ленинское учение о гегемонии пролетариата». Вядома, чым гэта «пахла» ў той час.

Але кандыдацкая дысертацыя была абароненая паспяхова (1970). У 1973 г. на яе аснове выдадзена кніжка-манаграфія «Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 гг.»

Каля 10 наступных гадоў я ў асноўным займаўся даследаваннем гісторыі рабочага руху ў Беларусі ў 1861–1907 гг. У сувязі з гэтай тэмай распрацаваў новую методыку статыстычнага аналізу і ўліку выступленняў рабочых па галоўных формах барацьбы (эканамічныя і палітычныя страйкі, дэманстрацыі, мітынгі, маніфестацыі і сходы, сутыкненні з паліцыяй і войскам), апрацаваў велізарную колькасць дакументальных матэрыялаў (крыніц) і вызначыў штогадовыя (па перыяду рэвалюцыі 1905–1907 гг. – штомесячныя) статыстычныя паказчыкі, якія характарызуюць якасную дынаміку рабочага руху ў азначаны перыяд.

Вынікі даследаванняў апублікаваў у манаграфіі «Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг.» (1983) і ў першым томе «Истории рабочего

класса Белорусской ССР» (1984). Манаграфію ў 1984 г. абараніў у якасці доктарскай дысертацыі.

У канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў напісаў 9 аб'ёмістых нарысаў для кнігі «Нарысы гісторыі Беларусі», частка І (Мінск, 1994), у якіх па-новаму асвятліў шэраг вузлавых пытанняў айчыннай гісторыі, у першую чаргу беларускага нацыянальнага руху ў другой палове XIX – пачатку XX ст. (да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. уключна).

У пачатку 1991 г. па прапанове Міністэрства адукацыі ўзначаліў групу навукоўцаў з мэтай распрацоўкі праекта новай канцэпцыі гістарычнай адукацыі ў сярэдняй школе Беларусі. Ён быў падрыхтаваны і здадзены ў міністэрства ў пачатку ліпеня і апублікаваны ў лістападзе таго ж года ў «Настаўніцкай газеце». У аснову канцэпцыі быў пакладзены нацыянальна-дзяржаўны падыход да асвятлення гісторыі, агульнапрыняты ва ўсіх цывілізаваных, суверэнных краінах.

На аснове выказаных у гэтай публікацыі прапаноў пачалася перабудова выкладання гісторыі не толькі ў сярэдніх, але і ў вышэйшых навучальных установах нашай краіны.

У 1992–1995 гг. удзельнічаў у распрацоўцы новых праграм і новай перыядызацыі сусветнай і айчыннай гісторыі ў дапаможніках для 5–11 класаў агульнаадукацыйнай школы, рэдагаваў праграмы па айчыннай гісторыі, выдадзеныя ў 1992–1995 гг.

Новыя дапаможнікі для 5–9 класаў ствараліся ў незвычайна сціслыя тэрміны (да 6 месяцаў), бо школа павінна была іх атрымаць да пачатку 1993–1994 вучэбнага года. Тым не менш задача, пастаўленая Міністэрствам адукацыі, была выкананая.

У ліку іншых у 1993 г. выйшаў і мой дапаможнік «Гісторыя Беларусі. Канец XVIII стагоддзя – 1917 год» для 8 класа. Годам раней быў выдадзены дапаможнік «Гісторыя Беларусі. XX стагоддзе» для 10–11-х класаў, для якога я напісаў прадмову і першыя чатыры раздзелы. Павінен адзначыць, што першы з названых дапаможнікаў арыентаваны больш на настаўнікаў, чым на вучняў. У мінулым годзе я кардынальна перапрацаваў яго ў метадычных і іншых адносінах (забяспечыў дакументальным матэрыялам, ілюстрацыямі, картамі, рознымі дыяграмамі). Ужо 9 месяцаў рукапіс праходзіць праз уведзеную ў канцы 1995 г. сістэму рэцэнзавання. Адну стадыю прайшоў, на другой (у Дзяржаўнай камісіі) затрымаўся. На канцэптуальныя змены я не пагаджуся і, шчыра кажучы, надзеі на яго выданне ў цяперашні час не маю.

Але вярнуся да іншых аспектаў свайго жыццяпісу. У 1983 г. я замяніў К. І. Шабуню на пасадзе загадчыка сектара гісторыі Беларусі перыяду капіта-

лізму (пазней гэты сектар быў пераўтвораны ў аддзел гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст.). З восені 1989 г. – намеснік дырэктара Інстытута па навуковай працы. Працягваю кіраваць і дзейнасцю аддзела (на грамадскіх асновах). Чытаю курс лекцый па гісторыі Беларусі другой паловы XIX ст. (1/4 стаўкі прафесара) на гістарычным факультэце Белдзяржпедуніверсітэта. Падрыхтаваў шэсць кандыдатаў гістарычных навук. З'яўляюся намеснікам старшыні Савета па абаронах доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый, які дзейнічае пры нашым інстытуце, і членам такога ж савета пры Белдзяржпедуніверсітэце. Каля двух гадоў узначальваю Экспертны савет Вышэйшага атэстацыйнага камітэта Рэспублікі Беларусь па гістарычных навуках і мастацтвазнаўстве.

Шмат гадоў супрацоўнічаю з выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя» як аўтар і кансультант. У выданнях БелЭн апублікаваў каля 200 артыкулаў. Да вясны 1996 г. уваходзіў у склад рэдакцыйнай калегіі «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі».

Усяго ў спісе апублікаваных мною навуковых і навукова-папулярных прац налічваецца каля 300 пазіцый, у тым ліку дзве манаграфіі, 29 раздзелаў у сямі калектыўных кнігах, тры вучэбныя дапаможнікі.

Спадзяюся, што рэсурс мой яшчэ не выпрацаваны, што яшчэ нешта ўдасца зрабіць дзеля адраджэння нашай Бацькаўшчыны.

7 красавіка 1997 г.

* * *

***По просьбе рэдакцыі ўспамінамі пра Міхася Восіпавіча Біча падзяліліся беларускі гісторык Захар Шыбека і польскі навуковец Ян Ежы Мілеўскі.***

ISSN 2424-5224

# ПРА МІХАСЯ БІЧА, ЯКІ ЗАЎСЁДЫ НЕШТА ЧЫТАЎ

***Захар Шыбека,***
*доктар гіст. навук (Тэль-Авіў)*

Я не любіў Міхася Восіпавіча Біча толькі за яго залежнасць ад цыгарэт. У астатнім ён быў для мяне, можа, самым блізкім з усіх супрацоўнікаў Інстытута гісторыі АН БССР, дзе я працаваў у 1974–1990 гадах. М. Біча было цяжка разгаварыць не толькі з-за яго скіраванасці ў свой унутраны свет, але і таму, што ён – няспынна, у любым месцы, стоячы, седзячы, едучы, але пастаянна – нешта чытаў. Нават у размовах з калегамі ён не выпускаў чытанку з рук, зрэдку ўстаўляючы скупыя словы. І толькі калі яго нешта кранала, вельмі тэмпераментна выказваў сваё меркаванне, суправаджаючы яго рухамі рук і характэрным для яго кіўком цела, нібыта ўсёй сваёй істотай хацеў падмацаваць уласную аргументацыю. Пра сябе гаварыў мала. Больш за ўсё расказваў пра прачытанае. Рэгулярна праглядаў беларускія літаратурныя часопісы, выпісваў беластоцкую «Ніву».

Яго юнацкі светапогляд фармаваўся ў час хрушчоўскай адлігі пад уплывам «шасцідзясятнікаў». Ды і сам ён у савецкі перыяд па сваіх перакананнях быў камуністам-«шасцідзясятнікам». Таму ў далейшым лёгка прайшоў такую эвалюцыю: з энтузіязмам успрыняў перабудову Гарбачова і з вялікай радасцю – суверэнітэт Беларусі.

Маё першае знаёмства з Міхасём Бічом адбылося ў канцы 1972 г. на пасяджэнні сектара, на якім зацвярджалася тэма маёй кандыдацкай дысертацыі. Тады ён прапанаваў, каб новы аспірант-завочнік даследаваў грамадска-палітычную пазіцыю беларускай газеты «Наша

Ніва». Міхаіл Восіпавіч ужо добра разумеў, наколькі гэта тэма важная для вывучэння гісторыі беларускага руху. Але загадчык аддзела – мой навуковы кіраўнік, прафесар і член-карэспандэнт АН БССР Канстанцін Іванавіч Шабуня – не пагадзіўся з такой прапановай, заявіўшы, што тэма не дысертабельная. Гэта азначала, што ва ўмовах тагачаснай бальшавіцкай цэнзуры абараніцца па «Нашай Ніве», якая лічылася буржуазнай і рэакцыйнай газетай, было немагчыма. Абарона кандыдацкай дысертацыі па запаветнай тэме Міхаіла Восіпавіча адбылася толькі ў 2005 г. Яе здзейсніў Андрэй Унучак, які зараз працуе ў аддзеле Інстытута гісторыі НАН Беларусі, які да яго, праўда пад іншай назвай, узначальваў М. Біч.

Усе мае навуковыя працы, напісаныя ў Інстытуце гісторыі БССР, прайшлі праз рукі Міхася Біча, праз яго рэцэнзаванне. Мой навуковы кіраўнік К. Шабуня не выпадкова даручаў гэта Міхаілу Восіпавічу, які быў вельмі ўедлівым рэцэнзентам: пакідаў пасля свайго чытання цалкам размаляваныя дробным почыркам, друкаваныя на ручной машынцы лісты рукапісаў. Строгае лагічнае мысленне дазваляла яму заўважыць любую недакладнасць, паўтор, алагізм, стылістычную недарэчнасць. Пры чытанні рукапісаў сваіх калег ён браў на сябе вялікую адказнасць: выступаў не толькі рэцэнзентам, але і навуковым рэдактарам. Дарэчы, сам пісаў вельмі пісьменна. У гады галоснасці яго навуковая крытыка набывала канцэптуальны сэнс, праўда, у межах рэвізіі марксізму, а пасля распаду СССР служыла сцвярджэнню ў беларускім грамадстве нацыянальнай канцэпцыі гісторыі.

На пасяджэннях сектара гісторыі капіталізму ў Беларусі, які ўзначальваў К. І. Шабуня, усе выступалі на рускай мове, але ў калідорах інстытута Біч са сваімі аднадумцамі М. Чарняўскім, М. Ткачовым, Л. Лычом, Л. Мірачыцкім, Я. Звяругам заўсёды гаварыў толькі па-беларуску. А калі пасля смерці К. Шабуні ў 1984 г. стаў загадчыкам сектара, то вёў яго пасяджэнні толькі на беларускай мове. І пастаянна пытаўся ў мяне, зрусіфікаванага былога студэнта БДУ і маладога мужа, які ўвайшоў у яўрэйскую сям'ю, чаму я не размаўляю на бацькоўскай мове.

М. Біч не паспеў рэалізаваць свой навуковы патэнцыял. Час забіралі калектыўныя манаграфіі, дзе існавалі правілы, якія заглушалі індывідуальнасць, грамадская і адміністрацыйная праца, навуковае кіраўніцтва аспірантамі. Памятаю, як неахвотна ён працаваў над доктарскай дысертацыяй пра рабочы рух у Беларусі ў 1861–1904 гг., як наша каляжанка Сусана Міхайлаўна Самбук насядала на яго, каб хутчэй абараняўся, бо абарона доктарскай ставіла М. Біча пераемнікам К. Шабуні. Доктарская праца атрымалася сумнай. У яе аснове – статыстыка рабочых выступленняў. Яму найбольш імпанавала палітычная тэ-

матыка, запоўненая інтрыгамі і нечаканымі паваротамі, а прыходзілася займацца сацыяльнай гісторыяй, бо звязаная з ёй тэма была дысертабельнай.

Мяркую, што ў асабістым архіве Міхася Біча засталося шмат матэрыялаў пра нелегальную дзейнасць палітычных партый у дасавецкай Беларусі. Пра гэта сведчаць і яго шматлікія энцыклапедычныя артыкулы. Я быў сведкам, як у гістарычным архіве Ленінграда М. Біч вельмі часта адкладваў у бок архіўныя справы губернскіх жандарскіх упраўленняў, прысвечаныя выступленням рабочых, і зачытваўся тымі справамі, у якіх ішла гаворка аб дзейнасці сяброў апазіцыйных царскаму ўраду партый. Перапісваць справы пра рабочыя выступленні даводзілася мне, паколькі я таксама быў камандзіраваны ў Ленінград у дапамогу М. Бічу.

Пазней, калі я надрукаваў навукова-папулярную кнігу пра Мінск, мне падалося, што Міхаіл Восіпавіч трошкі зайздросціць. Таму я думаю, што ён сумаваў аб навукова-папулярным жанры, меў усе здольнасці, каб праславіцца ў ім, але не меў магчымасці рабіць тое, што падабалася. І гэта – тыповы лёс савецкага гісторыка. Неяк я заўважыў Міхаілу Восіпавічу, што ў ім гіне беларускі пісьменнік, і ён не ўспрыняў маю заўвагу толькі як падхалімства. Шкада, што выяўленыя М. Бічом цікавыя факты, зробленыя высновы і назіранні засталіся рассыпанымі па перыядычных і энцыклапедычных выданнях. Варта было б іх сабраць у асобнае выданне і неабавязкова з нагоды юбілею.

Я не сумняваюся, што яго любімай уласнай кнігай быў «першанец» – «Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883–1903 гг.» (Мінск,1973). Кніга стала для гісторыкаў БССР сенсацыяй. Аўтар першым паказаў яўрэйскі ўклад у стварэнне РСДРП і яўрэйскі склад першых сацыялдэмакратычных арганізацый у Беларусі. І што дзіўна – кніга была надрукавана пасля Шасцідзённай пераможнай вайны Ізраіля над суседнімі арабскімі краінамі, саюзнікамі СССР (1967), і ўсплёску з гэтай нагоды антысемітызму. Хіба што савецкіх цэнзараў супакойвала тое, што аўтар паказаў, як паслядоўнікі Леніна адхілялі яўрэяў ад кіраўніцтва сацыял-дэмакратычнымі арганізацыямі і бралі яго ў свае рукі. Відаць, абароне кандыдацкай на гэтую тэму паспрыяў і аўтарытэтны сярод савецкіх гісторыкаў К. Шабуня, які сам, на маю думку, знаходзіўся пад некаторым уплывам поглядаў «шасцідзясятнікаў». Ва ўсякім разе, ён аднойчы напаўголасу заявіў мне, што бальшавіцкую рэвалюцыю ў Беларусі ажыццявілі рускія салдаты Заходняга фронту.

Праўда, у далейшым паспяховы малады вучоны М. Біч прыпыніў даследаванне абранай тэмы. Відаць, яму нямала дасталася ад партыйных крытыкаў, бо ён фактычна парушаў манаполію Інстытута партыі пры ЦК КПБ на вывучэнне гісторыі партыі бальшавікоў.

Другой сенсацыяй стала заява М. Біча пра яўрэйскі склад рабочага класа дасавецкай Беларусі. Пра гэта нібыта ўсе гісторыкі ведалі, але Міхась Восіпавіч упершыню ў сваім навуковым артыкуле «Нацыянальны склад прамысловага пралетарыяту Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст.» (Весці АН БССР. 1972. № 4) пераканаўча даказаў на аснове матэрыялаў Усерасійскага перапісу насельніцтва 1897 г., што сталыя наёмныя працаўнікі на беларускіх землях былі амаль цалкам яўрэямі. Тым самым М. Біч пацвердзіў сялянскі характар беларускай нацыі і непрыдатнасць для беларускай сялянскай масы ідэалогіі марксізму і дыктатуры пралетарыяту, пра што пісалі яшчэ ў 1920-х гадах беларускія гісторыкі (пазней так званыя «нацдэмы»). М. Біч сказаў тое, што Залман Абезгаўз, даследчык рабочага класа Беларусі, сказаць не адважыўся, але свайго малодшага калегу падтрымаў.

Упэўнены, што вялікі ўплыў на Міхася Біча зрабілі працы беларускіх навукоўцаў, якія бальшавікі хавалі ў спецсховішчах. Доступ да іх ён, безумоўна, меў у сувязі з вывучэннем гісторыі сацыял-дэмакратыі ў падцарскай Беларусі. Каб атрымаць такую магчымасць, трэба было прыкласці не мала намаганняў і мець бездакорную, з пункту гледжання прыўладных бальшавікоў, біяграфію. Сілу ўздзеяння забароненых прац я спазнаў на ўласным досведзе, калі атрымаў доступ да забароненых кніг. І зноў жа – дарогу ў спецсховішча адкрыў для мяне Міхась Восіпавіч. Настойліва рэкамендаваў і дапамагаў.

Усе калегі любілі і паважалі Біча. Не выпадкова яго абіралі кіраўніком партыйнай арганізацыі Інстытута гісторыі і намеснікам дырэктара гэтага інстытута. Выключэннем быў Вячаслаў Паўлавіч Панюціч, які прыйшоў у навуку з пасады школьнага інспектара. Паміж імі існавала поўная несумяшчальнасць. Яны былі прадстаўнікамі двух кірункаў у беларускай савецкай гістарыяграфіі. Вячаслаў Паўлавіч належаў да кансерватыўна-бальшавіцкага, а Міхась Восіпавіч – да нацыянал-камуністычнага. Непрыязнасць узмацнялася своеасаблівым суперніцтвам за лідарства ў навуцы і, відаць, за права ўзначаліць сектар гісторыі капіталізму ў Беларусі.

Іх аб'ядноўвала толькі вера ў сваю бязгрэшнасць. Усе заўвагі, зробленыя В. Панюцічу адносна яго навуковых тэкстаў, ён упокат адкідваў і доказваў сваю правату доўга і нудна. Тое ж, але больш лаканічна рабіў і Міхась Біч. Праўда, ён станавіўся бескампрамісным толькі тады, калі гаворка ішла пра яго новыя погляды і высновы, якія не ўкладваліся ў каноны савецкай гістарыяграфіі. Як загадчык сектара, ён чытаў усе тэксты сваіх падначаленых. І толькі В. Панюціч успрымаў іх у штыкі. Пасля крытычных заўваг М. Біча ў адрас В. Панюціча на пасяджэннях сектара складвалася напружаная атмасфера. Апаненты нерваваліся, чырванелі.

М. Біч адстойваў новыя погляды на гісторыю Беларусі, пазіраў у мой бок, чакаючы падтрымкі. Мае сімпатыі былі на баку Міхаіла Восіпавіча, але я маўчаў, як і ўсе астатнія, бо баяўся выклікаць гнеў з боку двух мэтраў. У якасці малодшага навуковага супрацоўніка я выконваў навукова-дапаможную працу як для В. Панюціча, так і для М. Біча. І мне было чаму ў іх павучыцца, што тычыцца засваення рамяства гісторыка. Трэба аддаць належнае апанентам: яны вялі спрэчкі ў межах навуковай дыскусіі і толькі аднойчы, як мне памятаецца, перайшлі на абвінавачванні асабістага характару.

Не магу сказаць з упэўненасцю, але атмасфера напружанасці ў сектары, відаць, падштурхнула мяне ў канцы 1990 г. да ўцёкаў да прафесара Адама Мальдзіса, які ствараў Скарынаўскі цэнтр. М. Біч потым крыўдзіўся, што я зрабіў гэта без парады з ім. Зараз можна толькі пашкадаваць, што я абышоўся бестактоўна, бо Міхась Восіпавіч вельмі шмат зрабіў для мяне і паспрыяў, каб я стаў нечага вартым у гістарычнай навуцы. Урэшце, мой беларускі нацыяналізм пачынаўся ад М. Біча.

І зараз, калі я спрабую адказаць сабе на пытанне, а хто ж быў настаўнікам М. Біча, хто аказаў на яго найбольшае ўздзеянне ў прафесійным плане, то не знаходжу адказу. Сектар К. Шабуні быў, бадай што, самым моцным калектывам гісторыкаў па сваім прафесійным узроўні ва ўсёй БССР. Там працавалі дактары навук Зіновій Капыскі, Сусана Самбук, Васіль Мялешка, Павел Казлоўскі, Афраім Карпачоў. Навуковая атмасфера, створаная ў сектары К. Шабунем (адказнасць, крытычнае рэцэнзаванне, высокія патрабаванні), безумоўна, спрыяла прафесійнаму росту Міхася Біча. Але ён хутка перарос сваіх старэйшых калег.

І цяпер з вышыні свайго ўзросту мой былы дабрадзей успрымаецца мной як навуковец-самавук, які ішоў сваім самабытным шляхам, пазнаваў сакрэты даследавання сваім розумам і пры гэтым не заўсёды знаходзіў разуменне і падтрымку калег. У атачэнні савецкіх гісторыкаў ён не мог знайсці аднадумцаў і роўных сабе прафесіяналаў. А камунікацыі з гісторыкамі замежжа нават пасля распаду Савецкага Саюза ён не змог ці не паспеў наладзіць. Што яму заставалася, як не чытаць?..

ISSN 2424-5224

# СУСТРЭЧЫ З МІХАСЁМ БІЧОМ

***Ян Ежы Мілеўскі,***
*др. (Беласток)*

З прафесарам Міхасём Бічом я пазнаёміўся падчас працы Польска-беларускай камісіі па праблемах падручнікаў гісторыі. Пасля распаду Савецкага Саюза паўстала неабходнасць стварэння падобных камісій з дзяржавамі, якія набылі суверэнітэт. Гэта было асабліва важна ў дачыненні да нашых суседзяў, з якімі мелі працяглую супольную гісторыю і якім многія гады навязвалася савецкая канцэпцыя мінулага.

Польска-беларуская камісія была арганізавана ў выніку дамовы пра супрацу паміж Міністэрствам нацыянальнай адукацыі Польшчы і яго адпаведнікам у Беларусі ў 1992 г. Першая сустрэча чальцоў камісіі адбылася ў Мінску ў 1993 г. Прафесар Біч узначальваў групу беларускіх экспертаў, сустаршынём Камісіі з польскага боку быў прафесар Ежы Клачоўскі.

Найбольш эмоцый выклікала найноўшая гісторыя, галоўным чынам падзеі міжваеннага перыяду і Другой сусветнай вайны. Прафесар Клачоўскі часам (як былы салдат Арміі Краёвай, які ў Варшаўскім паўстанні страціў руку) рэагаваў вельмі эмацыйна ў пытаннях, што датычылі Арміі Краёвай. Прафесар Біч, які прэзентаваў беларускую нацыянальна-дзяржаўную канцэпцыю гісторыі, імкнуўся даць высокую ацэнку ролі беларусаў. Але ягоная пазіцыя не была нацыяналістычнай.

Абодва бакі вучыліся ўзаемна. Палякі прыгадвалі, што Рэч Паспалітая была дзяржавай некалькіх народаў, у тым ліку беларусаў. І калі мы выкрэсліваем беларусаў з гісторыі

Рэчы Паспалітай, то не толькі фальсіфікуем мінулае, але яшчэ і штурхаем іх у бок Масквы. Прафесар Біч шмат разоў заклікаў, каб у польскіх падручніках адносна вядомых гістарычных постацей дадаваць, што яны нарадзіліся на беларускіх землях (напрыклад, Тадэвуш Касцюшка). Польскі бок настойваў на тым, каб прыбраць з беларускіх падручнікаў тэзіс пра «польскую акупацыю Заходняй Беларусі» ў міжваенны перыяд (аналагічна было ў выпадку Польска-літоўскай і Польска-ўкраінскай камісій).

У Беларусі ў той час быў відавочным энтузіязм пабудовы незалежнай дзяржавы. Гісторыкі спяшаліся з падрыхтоўкай новых падручнікаў гісторыі. Яны былі гатовыя перад 1993–1994 навучальным годам. У падручніках знікла савецкае бачанне гісторыі, знікла каланіяльная ацэнка мінулага з пункту гледзішча Масквы. Затое з'явілася ўзважаная характарыстыка некалькіх стагоддзяў супольнай гісторыі з палякамі, літоўцамі і ўкраінцамі ў Рэчы Паспалітай, гэтым прататыпе Еўрапейскай уніі. Вялікая заслуга ў гэтым належала прафесару Бічу.

З 1995 г. інтэнсіўнасць прац камісіі аслабла, а новыя падручнікі сталі аб'ектам крытыкі з боку дзяржавы. Алег Трусаў у інтэрв'ю для «Нівы» (25 мая 1997 г.) заявіў, што прэзідэнт не мае часу на барацьбу з гісторыкамі,



*Люблін. Сябры Польска-беларускай камісіі (1997).*
*Справа налева: прафесар Анджэй Лешак Шчэнсняк, д-р Ян Ежы Мілеўскі, канд. гіст. навук Павел Лойка, Наталля Ганушчанка, крайні злева – праф. Уладзімір Сідарцоў.*
*За сталом справа налева старшыні камісіі: праф. Міхась Біч, праф. Ежы Клачоўскі.*

бо змагаецца з тымі, хто выходзіць на вуліцы з пратэстам супраць саюзу з Расіяй, таму не атрымаецца павярнуць беларускую гістарыяграфію ў старое рэчышча. На жаль, ён памыліўся.

Апошняя сустрэча чальцоў Польска-беларускай камісіі па падручніках адбылася ў Любліне ў канцы лістапада – пачатку снежня 1997 г. Гэта была мая апошняя сустрэча з прафесарам Бічом. Якраз тады ён сказаў мне:

– Юры, мы маем нешта агульнае…

– А што, спадар прафесар? – запытаў я.

– Я нарадзіўся ў вёсцы Мілявічы, – адказаў Біч.

Магчыма, калі-небудзь у мяне атрымаецца наведаць гэтую вёску…

Пераклад з польскай мовы Аляксандра Смаленчука

ISSN 2424-5224

# ЮЛІУШ БАРДАХ (1914–2010)

# «ЗАСТАЮСЯ ВЕРНЫМ ПРАБЛЕМАТЫЦЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА...»



*Юліуш Бардах. 1970-я гг.*

**Summary**

Juliusz Bardach (1914–2010) is one of the most important researchers of law history of the Grand Duchy of Lithuania and the Polish Kingdom. His studies on ethnic relations in historical Lithuania and consciousness of Lithuanian Poles also deserve special attention. Professor Andrzej Zakrzewski from Warsaw narrates about his tutor. The publication also includes speeches of Juliusz Bardach on the occasion of receiving *doktor honoris causa* degree of Warsaw (1996) and Vilnius (1997) universities and the his last text dedicated to *krajowa* idea and its supporters (2008).

ISSN 2424-5224

# ЮЛІУШ БАРДАХ: ШЛЯХ У НАВУЦЫ

***Анджэй Закжэўскі,***
*др. габ. (Варшава)*

Траціну свайго доўгага жыцця Юліуш Бардах правёў на памежжы нацый і культур, і, магчыма, менавіта гэта сфармавала ягонае разуменне свету і навуковыя прыярытэты.

Ён нарадзіўся 3 лістапада 1914 г. у асіміляванай габрэйскай сям'і ў Адэсе. У 1922 г. сям'я перасялілася ў Польшчу, ва Уладзімір-Валынскі. «У той час я пачаў вывучаць польскую мову і пасля хатняй падрыхтоўкі ў 1926–1927 навучальным годзе здаў уступны экзамен у 2 клас дзяржаўнай гімназіі [...]. Зараз хачу вывучаць права і сацыяльныя навукі ў мясцовым універсітэце», – адзначыў ён у 1933 г. у аўтабіяграфіі, калі запісваўся на факультэт права і сацыяльных навук Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. Універсітэт ён выбраў якраз з прычыны цікавасці да гэтых «сацыяльных навук». Усё жыццё, як мне падаецца, яго больш вабілі сацыяльныя навукі, чым прававая дагматыка.

Універсітэт захоўваў традыцыі сваіх папярэднікаў: Віленскай акадэміі, Галоўнай школы Вялікага Княства Літоўскага і Імператарскага Віленскага ўніверсітэта. У гэтай атмасферы малады студэнт хутка далучыўся да працы семінара гісторыі ўстаноў, права і грамадства Вялікага Княства Літоўскага, якім кіраваў Стэфан Эрэнкройц. Менавіта яму Юліуш Бардах быў абавязаны сваім навуковым дэбютам: як студэнт II курса ён выступіў па праблеме *трацiны* ў секцыі гісторыі права VI Усеагульнага з'езда польскіх гісторыкаў (Вільня, 1935), палемізуючы з выступамі С. Эрэнкройца ды іншых славутасцяў тагачаснай гісторыі права.

З ініцыятывы Стэфана Эрэнкройца на семінары ён спачатку даследаваў феномен *людзей пахожых*. Аднак падчас выяўлення крыніц на гэтую тэму ў Галоўным архіве старажытных дакументаў (*Archiwum Główny Akt Dawnych*), у Літоўскай Метрыцы, малады гісторык зацікавіўся праблемай адопцыі, якая часта фігуравала ў дакументах. «Вырашыў, – пазней прызнаваўся даследчык, – што калі адопцыя адсутнічае ў Статуце Літоўскім, але прысутнічае ў Метрыцы, то хутчэй за ўсё яна з'яўляецца атрыбутам звычайнага права. Падзяліўся гэтай думкай з дацэнтам Я. Адамусам, які сцвердзіў, што найлепшым шляхам для яе разумення з'яўляецца аналіз крыніцаў, якія датычаць практыкі. Атрымаўшы ягоную падтрымку, папрасіў прафесара Эрэнкройца змяніць даследчую тэму, на што той даў згоду».

І гэта характэрны момант. Юліуш Бардах заўсёды падкрэсліваў, што ў навуцы істотную ролю адыгрывае «неадольная цікавасць у пазнанні новых праблем, фактаў і сувязяў паміж імі»[1]. У гэтым выпадку так і было: праблема выклікала цікавасць – пачаўся працэс больш глыбокага аналізу.

У справаздачы Аддзела старажытнага польскага і літоўскага права за 1936–1937 акадэмічны год Стэфан Эрэнкройц адзначыў: «У друку знаходзіцца праца студэнта III года навучання Юліуша Бардаха «Адопцыя ў літоўскім праве да канца XVI ст.», якая будзе апублікавана ў *Studium historii prawa litewskiego*»[2]. Гэтая праца выйшла ў 1938 г., атрымала высокую ацэнку і была прыхільна прынята найбольш выбітнымі даследчыкамі. Гэта быў перспектыўны пачатак. Аднак наступіў перапынак, абумоўлены вайной, а вяртанне ў навуку адбылося праз некалькі год і ўжо ў іншым універсітэце…

У навуковай творчасці Юліуша Бардаха можна вылучыць некалькі кірункаў, але асаблівае месца ў ёй – каля 25 % усёй творчасці – займала літуаністыка, якой было прысвечана больш за 120 публікацый. Менавіта з іх пачаўся ягоны навуковы шлях, і нават першыя студэнцкія артыкулы захавалі актуальнасць і былі двойчы апублікаваныя.

Навуковы дэбют падчас віленскага з'езда датычыў не толькі *трацiны*, але і праблемы рэцэпцыі інстытуцыі (1936). Эфектам вяртання да праблемы праз 30 год быў артыкул пра *трацiну* (1976). Прыватнага права таксама датычыла праца пра адопцыю (1938), падобна як – праз 20 год – даследаванне пра *нядзял* (1958). Да той жа сферы права належалі нарысы свецкага шлюбнага права «рускага» насельніцтва гістарычнай Літвы (1963) і ўзаемнай *даравізны* ў Літве (1965). На пачатку 60-х гг. XX ст. заўважная цікавасць даследчыка да

1 Przemówienie profesora Juliusza Bardacha // «Czasopismo Prawno-Historyczne». 1997, zeszyt 1–2, s. 304.

2 «Rocznik Prawniczy Wileński». IX. 1938, s. 346.

практычнай дзейнасці Літоўскай канцылярыі ў часы Зыгмунта I (1960). Такім яе аспектам, як чалабіцце і паклоны, ён прысвяціў наступнае даследаванне (1962). Да гэтага кірунку належыць таксама апісанне дзейнасці выведкі – рыскуноў (1967).

Праблемы пачаткаў судовага разбіральніцтва тлумачыць нарыс о *соку* і *сочeніі*[3] (1973). Суіснаванню хрысціянскіх канфесій былі прысвечаныя дзве публікацыі (1982, 1992), а становішчу жыдоў у радзівілаўскіх Біржах – адзін нарыс (1990). Юліуш Бардах таксама вывучаў эвалюцыю сацыяльных структур, аналізуючы гэты феномен ад эпохі ранняга Сярэднявечча – ад *смердаў* (1968) – праз гарады з Магдэбургскім правам (1980) аж да XIX стагоддзя, крытычна падыходзячы да радаводу Вайсэнгофаў (1991).

Даследаванні уніі Кароны і Вялікага Княства адпавядалі росту грамадскай зацікаўленасці, але не заўсёды на іх добра глядзела ўлада. У 1969 г. падчас X Усеагульнага з'езда польскіх гісторыкаў юбілейны рэферат Юліуша Бардаха, прысвечаны уніі, быў перанесены з пленарнага пасяджэння ў секцыю. Апублікаваны ў тым жа годзе, ён паклаў пачатак шматлікім даследаванням і рэцэнзіям.

Юліуш Бардах займаўся парламентарызмам Кароны, але не забываў і пра Літву. Ягоная праца пра літоўскія канвакацыі (1975), якія ў той час лічыліся рэліктам Літоўскага сейма, чвэрць стагоддзя былі адзінай працай, якая асвятляла гэты інстытут. Толькі праз 25 год увесь комплекс праблемы даследаваў Генрык Люлевіч. Аднак дзякуючы працам Ю. Бардаха (1991) распаўсюдзіўся погляд, выказаны раней Адольфам Шапокам, Ежы Міхальскім і Збігневам Шчонскам, пра захаванне адметнасці Літвы пасля прыняцця Канстытуцыі 3 мая – на моцы вядомых Узаемных заручын абодвух народаў (*Zaręczenia Wzajemnego Obojga Narodów*) ад 20 кастрычніка 1791 г.

Падмуркам права Вялікага Княства Літоўскага былі тры ягоныя Статуты – 1529, 1566 і 1588 гг. Яны прысутнічалі ў творчасці Юліуша Бардаха ад самага пачатку, але дачакаліся грунтоўнага даследавання ў сярэдзіне сямідзясятых гадоў (1974). Ягоныя далейшыя даследаванні закраналі новыя аспекты: зацвярджэнне III Статута (1978), яго ўплыў на Карону і краіны рэгіёна (1989, 1995, 1999), нарэшце, сувязь усіх трох Статутаў з рымскім правам (1995, 1999, 2000). Гэтую апошнюю праблему нядаўна значна паглыбіў Славамір Годка.

Юліуш Бардах ахвотна даследаваў пагранічча розных дысцыплін, у прыватнасці, з'яднаў гісторыю права і мовазнаўства. Ён паказаў генезіс перакладаў

---

3 *Сочeніе* – сведчанне на судзе. Сок – асоба, якая давала пацярпеламу інфармацыю пра віноўніка нанесенай шкоды (заўвага перакл.).

другой паловы XV ст. на «рускую мову» земскіх статутаў Казіміра Вялікага і Уладзіслава Ягайлы (1962, 1999). Таксама прааналізаваў прычыны друку ў Вялікім Княстве польскага перакладу *De Republica emendanda* Анджэя Фрыча Моджэўскага (1997).

Вывучэнне Вялікага Княства Літоўскага напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай паспрыяла з'яўленню ў навуковай творчасці Юліуша Бардаха чарговых тэмаў, датычных ужо перыяду падзелаў: нацыянальныя адносіны на яго землях, праблематыка нацыянальнай свядомасці палякаў Літвы і Беларусі ў XIX–XX стст. (1988, 1999), іх стаўленне да іншых народаў рэгіёна (1994), праекты кантанальнай арганізацыі Літвы (1986), а таксама погляды Баляслава Ліманоўскага на нацыянальнае пытанне (1974). У пэўны момант даследчыцкая цікавасць гісторыка пачала спалучацца з успамінамі ўласнай віленскай маладосці. Гэта заўважна не толькі ў нарысе пра Лешка Рааба (1963), віленскую арганізацыю ППС (1987) альбо ў ацэнках успамінаў Валяр'яна Мэйштовіча (1977), але таксама ў артыкулах пра польска-літоўскія навуковыя кантакты ў міжваенны час (1997) і звязаную з імі дзейнасць Уладзіслава Сэмковіча (1999).

Прыхільнасць да інтэрдысцыплінарнасці відавочная ў тэксце пра адносіны Чэслава Мілаша да спадчыны гістарычнай Літвы (1985, 1998), а таксама ў высновах пра карані літоўскай свядомасці ягонага сваяка Оскара Мілаша (1987).

У лістападзе 1986 г. падчас выступу, у якім ён падсумаваў 50 год сваёй навуковай працы, прафесар сцвердзіў: «Захоўваю вернасць праблематыцы Вялікага Княства па сённяшні дзень і рады, што двое маіх малодшых і, пэўна, апошніх вучняў спецыялізуюцца ў галіне дзяржаўнага ладу і права гістарычнай Літвы. Сярод польскіх гісторыкаў заўсёды павінны быць даследчыкі права, якое дзейнічала на ¾ тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Даследаванне фармавання літоўскага права на перакрыжаванні лацінскай і візантыйскай культур, захаду і ўсходу Еўропы з'яўляецца надзвычай цікавым, дае шмат падказак для разумення шляхоў рэцэпцыі і каштоўныя матэрыялы для параўнаўчых даследаванняў»[4].

Уласныя літуаністычныя даследаванні Юліуш Бардах пачаў з судовага права (*траціна, недзял,* шлюбнае права), каб дайсці да кіравання дзяржавай на пачатку XVI ст., а потым даследаваць сацыяльныя структуры і гарады. Гэта былі новыя тэмы, можа за выключэннем гарадоў. У 1960-я гг., калі ён ступіў на тэрыторыю, як здавалася, добра засвоеную не толькі польскай навукай, пачаліся даследаванні уніі Кароны і Вялікага Княства. Трохі пазней прафесар

[4] J. Bardach, *Patrząc wstecz,* «Polityka». 47 (1542), 22. XI. 1986, s. 14.

звярнуў увагу на віленскія канвакацыі і літоўскія Статуты. Розныя аспекты ў іх ён даследаваў чвэрць стагоддзя.

У 1980-я гг. Юліуша Бардаха зацікавіла «літоўскае XIX стагоддзе», дзе асаблівую цікавасць ён меў да фармавання сучасных нацый у рэгіёне. Пры гэтым прафесар пачаў выкарыстоўваць успаміны пра сваю віленскую маладосць з прэзентацыяй міжваеннай Вільні і некаторых аспектаў польска-літоўскіх адносінаў той эпохі. Трэба адзначыць, што ён пастаянна дапаўняў перавыданні сваіх прац. Двойчы выходзіў зборнік ягоных тэкстаў на беларускай мове, здаецца, падрыхтаваны аналагічны том па-літоўску.

Як ужо адзначаў, прафесар падкрэсліваў вялікую ролю захопленасці даследаваннямі ў атрыманні каштоўных вынікаў. У 1994 г. ён даў інтэрв'ю «Беларускаму гістарычнаму агляду», якое выйшла пад характэрнай назвай – «Зачараваны Вялікім Княствам»[5]. Можна зразумець, як – акрамя працавітасці, разумовых здольнасцяў і даследчыцкай інтуіцыі – дасягаліся вынікі, якія захоўваюць актуальнасць.

Што датычыць інтуіцыі, прыгадваю, як адзін вядомы беларускі гісторык успамінаў здзіўленне літоўскага калегі, выказанае некалькі гадоў таму: «Адкуль Бардах усё гэта ведае? Ён жа не можа зараз карыстацца нашымі архівамі, а ягонае меркаванне беспамылковае… »

Прафесар быў навукоўцам вялікага маштабу, але ніколі не даваў гэтага адчуць іншым, бо заставаўся добрым і зычлівым чалавекам. Шмат што разумеў дзякуючы не толькі сваім выбітным здольнасцям, але таксама вялікаму жыццёваму досведу. Ён усё ж такі пражыў XX стагоддзе. Вучні – і не толькі яны – заўсёды маглі разлічваць на ягоную дапамогу і парады не толькі ў вырашэнні навуковых праблем, але таксама і жыццёвых. Ён на здзіўленне добра арыентаваўся ў рэаліях жыцця маладых навукоўцаў. Усё гэта давала ім пэўнае пачуццё бяспекі. Уласным прыкладам, які ніколі не навязваўся, прывіваў ім прынцыпы жыцця ў навуцы. Адначасна быў чалавекам кампрамісу і свайго роду стабілізатарам сітуацыі ў інстытуце і аддзеле.

Вельмі ўдзячнымі яму былі не толькі вучні, але таксама аўтары рэцэнзаваных кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый. Ён быў здольны – таксама ў непасрэднай размове – да імгненнага сінтэзу з'яваў і іх асэнсавання з дапамогай кампаратывістыкі. Ахвотна і хутка ацэньваў дасланыя яму тэксты. Заўвагі фармуляваў настолькі тактоўна, што аўтар часта быў упэўнены, што самастойна прыйшоў да важных высноваў. Працы, прызначаныя для друку, вельмі старанна праглядаў і толькі «раіў» (часам даволі шматлікія) праўкі. Машынапісы былі перапоўненыя ягонымі заўвагамі алоўкам. Для аўтара сапраўдным

[5] *Зачараваны Вялікім Княствам,* «Беларускі гістарычны агляд». 1995, сш. 1, s. 41–48.



*Юліуш Бардах разам з выбітнымі даследчыкамі гісторыі права Казімірам Ажэхоўскім (злева) і Станіславам Градзіскім (справа). 1994 г.*

святам было атрымаць прымацаваную да тэксту картку: «Праўкі в[ельмі] дробныя алоўкам у тэксце. В[ельмі] добра. ЮБ». Здаралася, што толькі праз гады ўласных даследаванняў аўтар прыходзіў да высновы, што прафесар, выказваючы тыя або іншыя заўвагі, меў рацыю… Аналагічна падказваў тэмы даследаванняў, а навукоўцы былі ўпэўненыя, што цалкам самастойна выбралі прадмет навуковай зацікаўленасці.

З перспектывы мінулых 30 год трэба дадаць, што згаданыя ў лістападзе 1986 г. два вучні, насамрэч, не былі апошнімі, хто пісаў пад навуковай апекай Юліуша Бардаха, а літуаністыкай таксама пачалі займацца зацікаўленыя ім даследчыкі і па-за сценамі Варшаўскага ўніверсітэта. Прафесар пакінуў у Польшчы і за яе межамі групу даследчыкаў, захопленых гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага…

Пераклад з польскай мовы Аляксандра Смаленчука.

ISSN 2424-5224

# ПРАМОВА ЮЛІУША БАРДАХА НА ЎРАЧЫСТАСЦІ НАДАННЯ СТУПЕНІ *DOKTOR HONORIS CAUSA* ВАРШАЎСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА[1]. 19 ЛІСТАПАДА 1996 г.

Атрымаўшы ступень *doktor honoris causa* па ініцыятыве гістарычнага факультэта, хачу спачатку сардэчна падзякаваць карпарацыі гэтага факультэта, Сенату нашай *Almae Matris,* а таксама Радзе гісторыка-філасофскага факультэта і Сенату Ягелонскага ўніверсітэта, а таксама Навуковай радзе Інстытута гісторыі ПАН, якія падтрымалі гэтую ініцыятыву. Як гісторык права, адчуваў і адчуваю сваю прыналежнасць у аднолькавай ступені да навуковых супольнасцяў гісторыкаў і юрыстаў. Да абедзвюх я маю аднолькавую сімпатыю. Калі сёння будзе больш пра гістарычную праблематыку, то толькі таму, што гістарычнаму факультэту я ўдзячны за званне, якое цаню болей за ўсе іншыя ў маім папярэднім жыцці.

Цаню яшчэ і таму, што наданне ганаровага тытула гісторыка звязана з даўняй роляй, якую юрысты, паводле адукацыі, адыгрывалі ў польскай гістарыяграфіі. Падчас прадстаўлення маіх дасягненняў[2] прагучала некалькі выбітных прозвішчаў. Хачу таксама прыгадаць Уладзіслава Канапчыньскага (Władysław Konopczyński), аўтара *Liberum veto,* а таксама гісторыі Польшчы эпохі Новага часу, які, *nota bene,* збіраўся займацца даследаваннем канстытуцыйнага права. Юрыстам быў таксама мэтр варшаўскіх гісторыкаў Марцэлі Гандэльсман (Marceli Handelsman), які першыя дзве свае манаграфіі прысвяціў

---

1 Рукапіс захоўваецца ў архіве Ванды Суднік-Бардах (Варшава).

2 На ўрачыстым пасяджэнні навуковыя дасягненні Ю. Бардаха прадстаўляў гісторык прафесар Антоні Мончак (1928–2003).

гісторыі сярэднявечнага крымінальнага права. Прыгадаю таксама Аляксандра Краўсгара (Aleksander Kraushar), юрыста-практыка, а яшчэ і нястомнага даследчыка мінулага, сузаснавальніка адроджанага ў 1907 г. Варшаўскага навуковага таварыства, заснавальніка Варшаўскага таварыства аматараў гісторыі, старшынёй якога заставаўся на працягу 20 год. Можна прывесці шмат іншых прыкладаў, але і гэтых імёнаў хопіць для абгрунтавання сувязяў паміж гісторыяй *tout court*[3] і гісторыяй права. Мне здаецца, што сёння ёсць нагода, каб гэтую традыцыю прыгадаць і падкрэсліць.

З ранніх гадоў студэнцтва я палюбіў гісторыю права – дысцыпліну, якая стаіць на мяжы дзвюх навук: гісторыі і права. Мне падавалася – я і цяпер у гэтым перакананы, – што апрача палітычнай гісторыі, дапоўненай даследаваннямі сацыяльнай структуры і гаспадаркі, палітычны лад і сістэма права з'яўляюцца найбольш важнымі аб'ектамі гістарычнай навукі. У Польшчы, пазбаўленай на працягу ўсяго XIX і пачатку XX ст. уласнай дзяржаўнасці, зацікаўленасць гісторыяй дзяржаўнага ладу даўняй Рэчы Паспалітай была асабліва моцнай. Вядучыя гісторыкі права Освальд Бальцэр (Oswald Balzer) і Станіслаў Кутшэба (Stanisław Kutrzeba) занялі ў навуцы і грамадскай думцы важнае месца. Менавіта таму ў Польшчы раней, чым у іншых краінах гісторыка-прававыя дысцыпліны звязваліся з іншымі гістарычнымі дысцыплінамі, без чаго немагчыма стварыць інтэграваную гісторыю. Сувязі гісторыі з правам маюць даўнія карані. Але таксама ў XX ст. сусветнай славы тэарэтык права Леан Петражыцкі, прафесар, якім ганарыўся Пецярбургскі ўніверсітэт, а пасля 1918 г. прафесар нашага Варшаўскага ўніверсітэта, ацэньваў гісторыю права разам з пазітыўным правам як дзве апоры юрыдычных навук.

Азіраючыся назад і спрабуючы падвесці вынікі майго працяглага жыцця, заўважаю ў ім сюжэты, якія перакрыжоўваюцца. Я таксама падпадаў пад магутны ціск эпох (у множным ліку), у якія давялося жыць майму пакаленню, і хоць магу часам папракнуць сябе ў граху канфармізму, усё ж імкнуўся нейтралізаваць па меры магчымасці адмоўныя наступствы дзеянняў або бяздзеянняў, а да іх залічыць трэба яшчэ і маўчанне. Яшчэ рымляне казалі: *Qui tacent, clamant,* што значыла, што ў пэўных сітуацыях вымушанае маўчанне з'яўляецца такім жа красамоўным, як і гучны пратэст. Аднак тыя ж рымляне казалі: *Qui tacet consentire videtur* («Хто маўчыць, той згаджаецца»). І менавіта так гэта ўспрымалі тыя, хто быў пры ўладзе.

Дыяметральная супрацьлегласць гэтых максімаў не здзіўляе. У мінулую эпоху ў творах класікаў шукалі і знаходзілі фармулёўкі, якія потым служылі апраўданнем сумнеўных з пазіцыі артадаксальнай дактрыны разваг і пады-

3 У вузкім сэнсе (франц.).

ходаў. Такія былі часы, і трэба памятаць пра іх, каб усведамляць накінуты гарсэт, ад якога пазбываліся паступова і не без праблем. Сёння маладзейшае пакаленне, якое карыстаецца свабодай даследаванняў і публікацый, не можа сабе нават уявіць, які шлях прайшлі іх папярэднікі і старэйшыя калегі, каб дайсці да стану, пра які яны маглі толькі марыць, як пра амаль нерэальны ў іх жыцці ідэал.

Нягледзячы на знешнія чыннікі, якія асабліва паўплывалі на гуманітарныя дысцыпліны, якія трапілі пад ідэалагічны ціск, мы можам сёння з перспектывы часу канстатаваць той пазітыўны факт, што польская гуманістыка шляхам знешніх кампрамісаў здолела захаваць пераемнасць пазіцый і даследчых метадаў, а таксама групу знакамітых настаўнікаў, якія выхоўваюць маладых і служаць ім уласным прыкладам. У гістарычных навуках такім быў Тадэуш Мантойфель (Tadeusz Manteuffel), прафесар і прарэктар нашага ўніверсітэта. Спалучаючы нязменнасць поглядаў з разважлівасцю і ўменнем ставіць мэты, магчымыя для рэалізацыі ў існуючых умовах, ён здолеў у самыя цяжкія гады стварыць важны навуковы асяродак, якім сёння з'яўляецца Інстытут гісторыі ПАН, што носіць яго імя. Ён злучыў яго цеснай супрацай з Гістарычным інстытутам Варшаўскага ўніверсітэта і ўсімі значнымі асяродкамі гістарычнай навукі ў краіне.

Як у Гістарычным інстытуце Варшаўскага ўніверсітэта, так і ў Інстытуце гісторыі ПАН былі захаваныя нормы навуковай этыкі, адказнасці перад грамадствам, высокі ўзровень даследаванняў. Гэта стала магчымым дзякуючы такім асобам, як шматгадовы старшыня (з 1956 г.) Польскага гістарычнага таварыства (ПГТ) Станіслаў Гэрбст (Stanisław Herbst), стваральнік уласнай навуковай школы Марыян Малавіст (Marian Małowist), гісторык эпохі Асветніцтва і перыяду Напалеона Анджэй Загорскі (Andrzej Zahorski), калі назваць толькі некаторых сярод памерлых.

З цеплынёй успамінаю маё сціслае супрацоўніцтва як віцэ-старшыні ПГТ са Станіславам Гэрбстам, а таксама тыя восем год, калі ў Інстытуце гісторыі ПАН дзейнічаў добра прыняты Аддзел гісторыі дзяржавы і права, які з «ідэалагічных» прычын быў выгнаны з Інстытута юрыдычных навук ПАН. Пасля 1968 г. у Інстытуце гісторыі ПАН ацалела толькі блізкае мне *Czasopismo Prawno-Historyczne,* якое некалькі год пасля фінансавага крызісу ПАН выдавалася супольна з Інстытутам гісторыі і юрыдычным факультэтам Універсітэта Адама Міцкевіча ў Познані. Гэты часопіс з поспехам выконвае інтэгруючую функцыю ў асяроддзі гісторыкаў права і спрыяе таксама ўзмацненню сувязяў паміж імі і гісторыкамі *sensu strictiori*[4].

[4] У вузкім сэнсе (лац.).

Узаемаразуменне і прыязныя адносіны зрабілі магчымым стварэнне ў 1954 г. каманды, якая справілася з задачай распрацоўкі пяцітомнай абагульняючай гісторыі дзяржавы і права Польшчы. Хоць сёння яна ў нечым састарэла, але надалей выконвае сваю функцыю на службе навукі. І зноў прыгадаю імёны ўжо памерлых яе суаўтараў: Здзіслава Качмарчыка (Zdzisław Kaczmarczyk), Багуслава Лесьнадорскага (Bogusław Leśnodorski), Збігнева Здруйкоўскага (Zbigniew Zdrójkowski), Уладзіслава Сабацінькага (Władysław Sobociński), Яна Ванціцкага (Jan Wąsicki), Збігнева Станкевіча (Zbigniew Stankiewicz), Войцэха Марыя Бартля (Wojciech Maria Bartel) і, нарэшце, Канстанціна Гжыбоўскага (Konstanty Grzybowski), які ўзяўся падрыхтаваць том гісторыі дзяржаўнага права на землях Польшчы ад скасавання прыгону і да аднаўлення незалежнасці Польшчы ў 1918 г. Яго працу перарвала трагічная смерць, але кніга была настолькі блізкай да заканчэння, што намаганнямі калег яе ўдалося падрыхтаваць да друку.

Сярод калектыўных прац, якія з'ядналі гісторыкаў дзяржаўнага ладу з гісторыкамі, хачу прыгадаць даследаванні гісторыі польскага сойма, якія распачаліся напрыканцы 1950-х гг. Актыўнасцю вылучаецца вроцлаўска-апольская група, якая аб'яднала вучняў святой памяці Уладзіслава Чаплінькага (Władysław Czapliński), а таксама торунскі асяродак. З ягоным Нестарам Каралем Гурскім (Karol Górski) мяне звязвала цікавасць да праблемы генезісу парламентарызму, хоць мы і адрозніваліся поглядамі.

Даследаванні гісторыі парламентарызму працягваюцца ў фармаце агульнапольскай групы, выкарыстоўваючы грант Камітэта навуковых даследаванняў, а таксама магчымасці публікацыі, якія гарантуе нам Выдавецтва сойма. Мы не з'яўляемся манапалістамі ў гэтай важнай сферы, бо адначасна паспяхова дзейнічае кракаўскі асяродак, які апрача працы пра сойм аўтаномнай Галіцыі ўзяўся за выданне канстытуцый даўняга польскага сойма, якія заменяць ужо даўно састарэлую *Volumina Legum*.

Апрача дзяржаўнага ладу Польшчы Пястаў, генезісу польскага сойма, праблематыкі метадалогіі (асабліва параўнальнага падыходу і ролі інтэрпрэтацыі), працягваю даследаванні гісторыі дзяржаўнага ладу і права Вялікага Княства Літоўскага. Прызнаюся, што з імі звязана асаблівае пачуццё, ля вытокаў якога ляжыць незгасальны сантымент да «мілага горада» над Вяллёй. Ён зачараваў мяне, калі маладым студэнтам я прыехаў ва Універсітэт Стэфана Баторыя, і гэтая зачараванасць застаецца і праяўляецца таксама – а можа, перадусім – у даследчай працы. У такія моманты я прыгадваю Студыі гісторыі літоўскага права УСБ, дзе пад кіраўніцтвам Стэфана Эрэнкройца рабіў першыя крокі ў навуцы. Іх падтрымаў добразычлівымі парадамі Ян Адамус, грунтоўны даследчык прыват-

нага права і разбуральнік навуковых міфаў у гістарыяграфіі, а пасля вайны – арганізатар калектыву гісторыкаў права ў маладым універсітэце ў Лодзі.

Сярод польскіх гарадоў асабліва блізкі мне Кракаў. Не толькі таму, што гэта даўняя сталіца каралеўства, але і таму, што я там атрымаў ступень доктара на падставе даследавання, апублікаванага за 10 год да таго ў Вільні. Сяброўская дапамога аблягчыла мне кантакт з Адамам Ветулані (Adam Vetulani), прафесарам польскага права Ягелонскага ўніверсітэта, з якім мяне пазней звязала шматгадовая супраца.

Пасля Вільні Кракаў для мяне – другі горад, цэнтрам якога з'яўляецца ўніверсітэт. Гэта стварае непаўторную атмасферу, асабліва для тых, хто сваё жыццё звязаў з ім. У Варшаве такім месцам, якое мае свой непаўторны шарм, з'яўляецца ўніверсітэцкі комплекс гістарычных будынкаў на чале з Казіміраўскім палацам.

З Познанню мяне зблізіла даўняе супрацоўніцтва яшчэ з часоў, калі на пачатку [19]50-х гг. там сфармаваўся першы пасля вайны актыўны гістарычны асяродак пад кіраўніцтвам Зыгмунта Вайцяхоўскага (Zygmunt Wojciechowski). Пазней была шчыльная супраца з медыявістамі спачатку на глебе агульнай гісторыі Польшчы, потым «Слоўніка славянскіх старажытнасцяў». Хачу падкрэсліць блізкія сувязі з асяродкам познанскіх літуаністаў, а шырэй – даследчыкаў гісторыі Усходняй Еўропы, які быў створаны незабыўным Генрыкам Лаўмяньскім (Henryk Łowmiański), практычныя заняткі якога я наведваў яшчэ ў Вільні.

Нельга не згадаць Люблін, дзе два асяродкі – Універсітэт Марыі Кюры-Складоўскай і Каталіцкі Люблінскі ўніверсітэт, якія, даследуючы найперш праблематыку мінулага свайго рэгіёна, перайшлі пазней да маштабных параўнаўчых даследаванняў Усходне-Цэнтральнай Еўропы ва ўсёй яе складанасці, развіваючы ў сваю чаргу міждысцыплінарнасць. Гісторыя сацыяльных структур, сацыяльнай і палітычнай ідэалогіі народаў гэтага рэгіёна заўжды была прадметам маіх зацікаўленняў. У гэтым вытокі шчыльнай супрацы асабліва са створаным некалькі год таму Інстытутам Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Яна часта прыносіць натхняльнае задавальненне.

У нашым пасемінарыйным будынку на Кракаўскім прадмесці 26/28 на працягу 45 год я працую на сваім навуковым участку. Дакладней кажучы, працуем, бо з 1952 г. гісторыкі польскага права, усеагульнай гісторыі права і рымскага права па ўласнай ініцыятыве стварылі Інстытут гісторыі права ў рамках юрыдычнага факультэта. Мы гарманічна супрацоўнічаем, падтрымліваем адзін аднаго парадамі і дапамогай, а таксама крытыкуем. У мяне перад вачыма стаяць прафесары, якія адышлі і каму мы, іх калегі і вучні, столькім абавязаны:



*Юліуш Бардах з вядомымі даследчыкамі гістарычнай Літвы і Украіны Лешкам Заштаўтам (Варшава) і Даніэлем Бавуа (Парыж). 1998 г.*

Якуб Савіцкі (Jakub Sawicki), Караль Караны (Koral Koranyi), Багуслаў Лесьнадорскі і Міхал Шчанецкі (Michal Szczaniecki), які прыехаў з Познані, з якім мы шчыльна супрацоўнічалі, раманіст Генрык Купішэўскі (Henryk Kupiszewski). Кожны быў асобай нешараговай, кожны пакінуў след у навуцы і вучняў. Вучань – гэта прадаўжальнік, але таксама часам суровы крытык свайго настаўніка. А той у сваю чаргу шмат чаму можа ад вучняў навучыцца. Кажу гэта на падставе ўласнага досведу. Так развіваецца навука. Я быў навуковым кіраўніком адзінаццаці дактароў, шасцёра з якіх з'яўляюцца сёння прафесарамі ўніверсітэтаў. І смутак сціскаў сэрца, калі некалькі дзён таму мы развіталіся назаўжды з адным з іх – доктарам Станіславам Круkоўскім (Stanisław Krukowski).

Заўжды цаніў універсітэцкую дыдактыку, якая дапамагла мне авалодаць уменнем ясна фармуляваць думкі і рабіць празрыстай структуру публікацый. Я выказваюся часцей не ў манаграфіях, а ў невялікіх тэкстах, зыходзячы з прынцыпу, што трэба абмяжоўвацца тым, што хочацца сказаць ад сябе без шырокага выкладання ранейшых даследаванняў.

Усведамляю, што разнастайнасць навуковых тэмаў, якімі я займаўся, несла ў сабе рызыку. Аднак усё вырашала цікавасць да пазнання новых праблем, фактаў, сувязяў паміж імі, а таксама да знаёмства з людзьмі, якія займаюцца навукай. Якраз таму сярод маіх зацікаўленняў ёсць і біяграфістыка. Апраўданне сабе я знаходжу ў максіме, сфармуляванай вялікім бельгійскім гісторыкам Анры Пірэнам, які пісаў: «Гісторыя з'яўляецца адзінай, нягледзячы на прадмет гістарычнага даследавання», а гаворачы аб працаўніках на яе ніве, упэў-

нена сцвердзіў: «Не існуе гісторыка Старажытнасці, Сярэднявечча, Новай і Найноўшай гісторыі. Альбо чалавек з'яўляецца гісторыкам, альбо не». У гэтым сцверджанні, якое супярэчыць пашыранай спецыялізацыі, прыхаваная думка аб фундаментальным адзінстве гістарычнага працэсу, а таксама перакананне, што той, хто авалодаў методыкай гістарычнага даследавання, павінен умець, калі ёсць патрэба або жаданне, заняцца новай, нават далёкай ад ранейшых зацікаўленняў, тэматыкай. Я перакананы, што калі прызнаваць карысным севазварот у сельскай гаспадарцы, то таксама карысным ён будзе і ў навуцы.

Мяне радуе ўзмацненне супрацоўніцтва і ўзаемаразумення паміж гісторыкамі права і гісторыкамі *tout court* як у нашым універсітэце, так і ў агульнапольскім маштабе. Радуе таму, што не ва ўсіх краінах гэтыя адносіны складваюцца так добра. *Pro domo mea* я хацеў бы сцвердзіць, што як у найбліжэйшым атачэнні, а значыць, у рамках уласнага ўніверсітэта, заўсёды блізкага мне Гістарычнага інстытута Варшаўскага ўніверсітэта, а таксама ў карпарацыях і навуковых таварыствах, прыналежнасць да якіх я цаню, як, напрыклад, Польская Акадэмія навук і Варшаўскае навуковае таварыства, я сутыкаўся і сутыкаюся з добразычлівасцю, разуменнем, а калі прыходзіла патрэба, і з дапамогай. Таксама і ў цяжкія часы, калі прыгадаць 1968 г.[5], сяброўская падтрымка дазволіла мне без асаблівых узрушэнняў вытрымаць не толькі ліхаманку сакавіцкай эпідэміі, але і наступны каранцін. На адрас сваіх блізкіх і далёкіх сяброў і калег накіроўваю словы ўдзячнасці.

Час заканчваць. А калі была гаворка пра гісторыю, то дазвольце, спадарства, я яшчэ раз прыгадаю Тадэвуша Мантойфеля, які, згадваючы музу Кліа, выказаўся наступным чынам: «Гісторыя ніколі не бывае завершаным у часе працэсам. Яе сэнс ніколі нельга зразумець да канца, бо ён таксама залежыць ад перспектывы, ад будучыні. Гісторыя як «замкнёная» прастора – гэта міф. Жыццё таго, што «мінула», у пэўным сэнсе ўсё яшчэ перад намі».

Пераклад з польскай мовы Аляксандра Пагарэлага.

[5] Гаворка пра студэнцкія дэманстрацыі сакавіка 1968 г., якія прайшлі ў Варшаве ды іншых гарадах супраць камуністычных рэпрэсій (заўвага перакл.).

ISSN 2424-5224

# ВЯРТАННЕ ДА ВЫТОКАЎ[1]. ПРАМОВА ЮЛІУША БАРДАХА НА ЎРАЧЫСТАСЦІ НАДАННЯ СТУПЕНІ *DOKTOR HONORIS CAUSA* ВІЛЕНСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА. 21 КАСТРЫЧНІКА 1997 Г.

Высокашаноўны Рэктар, Найвыдатнейшы Сенат, Ваша Эксцэленцыя, Спадарыні і Спадары![1]

З вялікім хваляваннем я прыняў пачэсную ступень *doktor honoris causa* ўніверсітэта, які зараз, нават фармальна, магу называць сваім. Па сутнасці, ён быў такім заўжды ад моманту, калі 64 гады таму як студэнт факультэта права і сацыяльных навук я пераступіў парог віленскай *Alma Mater*, якой стаў для мне тады Універсітэт Стэфана Баторыя. Я адчуваў і надалей адчуваю *genius loci*, непаўторную атмасферу комплексу будынкаў, сканцэнтраваных вакол дзядзінца ксяндза Пятра Скаргі. Яны нагадваюць аб тым, што традыцыі Віленскага ўніверсітэта складаліся з заснаванай езуітамі прыблізна 420 год таму Віленскай акадэміі, якая ў эпоху Асветніцтва была пераўтворана ў Галоўную школу Вялікага Княства Літоўскага. На яе базе паўстаў універсітэт, заснаваны царом Аляксандрам I, але куратарам якога быў князь Адам Ежы Чартарыйскі. Наступным этапам быў Універсітэт Стэфана Баторыя міжваенных гадоў і, нарэшце, цяперашні літоўскі Віленскі ўніверсітэт. Літоўскімі былі па сутнасці ўсе гэтыя навучальныя ўстановы незалежна ад таго, ці выкладалі там на лацінскай, польскай ці літоўскай мовах. Яны заўжды былі моцна звязаны з краінай, у якой паўсталі і дзейнічалі, з яе навукай, з яе моладдзю, якой давалі і надалей даюць адукацыю.

1 Bardach J. Powrót do źródeł // «Czasopismo Prawno-Historyczne», 1998, t. L, zeszyt 1, s. 191–195.

Гэтую своеасаблівую сувязь моцна адчуваю, калі ўспамінаю прафесара Стэфана Эрэнкройца, які выкладаў адначасова два прадметы: гісторыю польскага права і асобна гісторыю літоўскага права. У створаных ім Студыях гісторыі літоўскага права, пра якія я меў магчымасць распавядаць тут тры гады таму на канферэнцыі, прысвечанай гісторыі Віленскага ўніверсітэта, я ўсвядоміў выключны характар палітычнай арганізацыі, якой было Вялікае Княства Літоўскае. Гэты твор літоўскага дзяржаўнага духу ўключаў землі Аўкштайціі, Жмудзі, але таксама Украіны, Беларусі і памежнага з Мазовіяй Падляшша. Вялікае Княства было звязана супольнай дынастыяй, а з 1569 г. – рэальнай уніяй з Польскім Каралеўствам, утвараючы Рэч Паспалітую абодвух народаў. А па сутнасці – трох, бо і русінаў, продкаў сучасных украінцаў і беларусаў. Творам літоўска-рускага палітычнага народа былі ў першую чаргу Статуты Вялікага Княства Літоўскага – выбітныя помнікі права і палітычнай культуры Вялікага Княства эпохі Рэнесансу.

Я здаўна палюбіў гісторыю дзяржаўнага ладу і права, дысцыпліну, якая стаіць на мяжы дзвюх навук. Я лічыў – і сёння ў гэтым перакананы, – што апрача гісторыі палітычных падзей і гаспадаркі важнай сферай гістарычных даследаванняў з'яўляюцца грамадскі і дзяржаўны лад, колішняя сістэма права. Без іх разумення не атрымаецца стварыць комплексную, інтэграваную гісторыю.

Знакаміты гісторык права Леан Петражыцкі, якім ганарыўся Пецярбургскі ўніверсітэт, пазней прафесар Варшаўскага ўніверсітэта, лічыў, што гісторыя дзяржавы і права, а таксама пазітыўнае права ўяўляюць сабой два апірышчы юрыдычных навук. У Літве юрыст і гісторык Міхал Ромэр, шматгадовы рэктар літоўскага Універсітэта ў Коўне, прытрымліваўся аналагічнага меркавання.

Для краін, якія, як Польшча і Літва, перажылі перыяды няволі, даследаванне іх дзяржавы і права ў мінулым было не толькі прадметам навукі, але таксама істотным элементам фармавання нацыянальнай свядомасці, якая поўнасцю рэалізуецца ў форме незалежнай дзяржавы. Усведамляюць гэта і літоўскія калегі. З захапленнем і павагай я бяру ў рукі том I Статута Вялікага Княства Літоўскага, выдадзены з піетэтам і прафесіяналізмам прафесарамі Эдвардасам Гудавічусам і Станіславасам Лазуткам. Радуюць новыя апублікаваныя тамы Літоўскай метрыкі, кніг Літоўскай вялікакняскай канцылярыі, а таксама крыніцы па гісторыі гарадоў Вялікага Княства. З зацікаўленасцю і карысцю я сачу за манаграфічнай серыяй віленскіх гісторыкаў, прысвечанай розным этапам і аспектам літоўскага нацыянальнага Адраджэння ўключна з выдадзеным нядаўна томам, прысвечаным асобе Міхала Ромэра.

Нарэшце, нельга не ўспомніць пра *Vilniaus Universiteto Istorija* (1994), выдадзены з клопатам пра аб'ектыўнае асвятленне мінулых гістарычных этапаў развіцця віленскай *Alma Mater.*

У выніку вяртання незалежнасці ў Літве сталі імкліва развівацца гістарычныя даследаванні, вынікі якіх мы належна ацэньваем дзякуючы больш блізкім кантактам і інстытуцыянальнаму супрацоўніцтву паміж польскімі і літоўскімі ўніверсітэтамі, а таксама Акадэміямі навук абедзвюх краін.

Год таму, калі пасля 45 гадоў працы ў Варшаўскім універсітэце я атрымліваў тытул *honoris causa*, я сказаў словы, якія хачу паўтарыць. А менавіта тое, што апрача дзяржаўнага ладу сярэднявечнай Польшчы, даследаванняў вытокаў польскага сойма і вывучэння метадалогіі «ў маёй даследчай лабараторыі заўсёды прысутнае вывучэнне гісторыі дзяржаўнага ладу і права Вялікага Княства Літоўскага. Не ўтойваю, што маю да яго асаблівае пачуццё, ля вытокаў якога ляжыць незгасальны сантымент да мілага горада над Вяллёй. Ён зачараваў мяне, калі маладым студэнтам я прыехаў ва Універсітэт Стэфана Баторыя, і гэтая зачараванасць надалей застаецца, праяўляючыся таксама – а можа, і перадусім – у даследаваннях».

Я ўсведамляю, што апрача даследчыцкага зацікаўлення з праблематыкай Вялікага Княства Літоўскага мяне лучыць і эмацыйная сувязь. Нядаўна я з задавальненнем знайшоў пацвярджэнне гэтаму ў выказванні выбітнага амерыканскага псіхолага, паводле меркавання якога навуковая праца з'яўляецца настолькі цяжкай, што без эмацыйнай матывацыі немагчыма дасягнуць у ёй поспеху.

Як ужо прыгадваў, апрача літуаністычнай праблематыкі займаюся таксама і іншымі праблемамі. Апраўданне для гэтага я знаходжу ў назіранні выбітнага бельгійскага гісторыка Анры Пірэна (Henri Pirenne), які пісаў: «Гісторыя – адзіная, нягледзячы на прадмет гістарычнага даследавання»; а гаворачы аб працаўніках на яе ніве, упэўнена сцвердзіў: «Не існуе гісторыка Старажытнасці, Сярэднявечча, Новай і Найноўшай гісторыі. Альбо чалавек з'яўляецца гісторыкам, альбо не». У гэтым сцверджанні, якое, здаецца, супярэчыць пашыранай сёння спецыялізацыі, прыхаваная думка аб фундаментальным адзінстве гістарычнай навукі. Я перакананы, што калі лічыць карысным севазварот у сельскай гаспадарцы, то таксама, на мой погляд, карысным ён бывае і ў навуцы. Аднак я заўжды вяртаўся і вяртаюся, згодна з французскім прыслоўем, да свайго першага кахання – гісторыі дзяржаўнага ладу і права гістарычнай Літвы.

Дазвольце мне, спадарства, прысвяціць гэтаму крыху ўвагі. Я ахвотна бяруся за тэмы зусім ці мала даследаваныя, якія патрабуюць звароту да ня-

выкарыстаных крыніц і прызначаюцца для невялікай групы зацікаўленых. Апрача гэтага, я займаўся і займаюся вузлавой для абодвух народаў праблематыкай, якой з'яўляецца гісторыя польска-літоўскай уніі. Я намагаўся прадставіць яе ў еўрапейскім кантэксце. Яна ж не была выключнай з'явай, як часам мяркуюць. Наадварот, уніі часцяком сустракаліся ў Еўропе на рубяжы Сярэднявечча і Новага часу. Дастаткова прыгадаць малодшую на некалькі гадоў ад Крэўскай уніі (1385) Кальмарскую унію (1397) паміж Даніяй, Швецыяй і Нарвегіяй. Паміж дзвюма апошнімі дзяржавамі унія пратрымалася аж да 1905 г. Міждзяржаўныя сувязі, а гэта адносіцца і да Габсбургскай манархіі, формы і маштабы якой складаліся шляхам дынастычных шлюбаў, здаўна адпавядалі патрэбам прывілеяваных станаў. Усе яны паміралі натуральнай смерцю, калі сучасныя нацыі, якія абапіраліся на шырокія народныя масы, у працэсе свайго фармавання патрабавалі дзяржаўнага суверэнітэту.

Я неаднаразова звяртаў увагу на тое, што польскія культурныя ўплывы, у т. л. пашырэнне польскай мовы і пісьменства ў асяроддзі арыстакратыі і літоўскай землеўласніцкай шляхты, не павінны былі суправаджацца іх дэнацыяналізацыяй. Наадварот, як сведчаць шматлікія крыніцы, «палітычны народ» Вялікага Княства захаваў жывую свядомасць сваёй адрознасці і бараніў дзяржаўнасць гістарычнай Літвы ў рамках унійнай Рэчы Паспалітай.

З нагоды 200-годдзя Канстытуцыі 3 мая 1791 г., якая ў польскай гістарыяграфіі лічыцца момантам трансфармацыі федэратыўнай Рэчы Паспалітай ва ўнітарную дзяржаву, я апублікаваў даследаванне пра тое, як праз некалькі месяцаў той жа сканфедэраваны Чатырохгадовы Сойм адзінагалосна ўхваліў па ініцыятыве літоўскай канфедэрацыі, маршалкам якой быў Казімір Нестар Сапега, акт пад назвай *Узаемная прысяга абодвух народаў*[2].

Як вынікае ўжо з назвы, гэты акт, які меў характар асноўнага заканадаўства, падкрэсліваў умоўны характар сувязі Кароны і Вялікага Княства. Больш за тое, пазіцыя Літвы як раўнапраўнага партнёра Кароны ў цэлым выразна была ў ім узмоцнена. Ужо пасля публікацыі гэтага тэксту я пазнаёміўся з даследаваннем выбітнага літоўскага гісторыка Альфонсаса Шапокі 1940 г., у якім ён прыйшоў да высновы, што *Узаемная прысяга абодвух народаў* была рэалізацыяй праграмы роўных правоў у рамках федэрацыі, да чаго імкнуліся ліцвіны пачынаючы з Люблінскай уніі. Я ўсвядоміў, зрэшты не ў першы раз, што перакананне, што ты робіш нейкую выснову першым, можа быць вынікам толькі таго, што ты не знаёмы з літаратурай. Разам з гэтым урокам сціпласці я адчуў сапраўднае задавальненне ад таго, што пацвердзілася слушнасць маіх развагаў і заключных высноваў.

[2] Гаворка ідзе пра «Zaręczenie Wzajemne Obojga Narodów» (заўвага перакл.).

Напрыканцы – дзве заўвагі пра бягучыя справы. Першая датычыць уплыву рымскага права на II і III Статуты Вялікага Княства Літоўскага. Вядома, што ў II Статуце 1566 г. шэраг норм і прававых інстытутаў грунтаваліся на палажэннях класічнага рымскага права. Асабліва яскрава гэта праяўляецца ў лацінскай версіі II Статута. Дагэтуль лічылася, што гэты Статут рэдагавалі на ўрадавай мове Вялікага Княства, якой, як вядома, была руская мова (старабеларуская). Аднак аказалася, як сведчыць яшчэ не апублікаваная карэспандэнцыя вармінскага кардынала Осія (Hozjusza), што камісія, якая рыхтавала II Статут, пад уплывам віленскага войта, доктара абодвух правоў Аўгустына Ратундуса-Мялескага пагадзілася, каб праект рэдагаваўся адначасова ў дзвюх версіях: лацінскай і рускай. Адпаведна тагачасным уяўленням, Ратундус быў перакананы ў рымскім паходжанні ліцвінаў і лічыў, што літоўскае права павінна быць напісана на лаціне. Увядзенне лаціны ў якасці другой урадавай мовы апрача рускай ён звязваў з надзеяй, што, як больш дасканалая, яна стане адзінай мовай кіравання, што было б для яго вяртаннем да мовы, *quae nativa et primigenia Lithuanorum fuit* (натуральнай і першаснай для ліцвінаў).

Аднак паны літоўскія, якія ў большасці былі прыхільнікамі Рэфармацыі, негатыўна ставіліся да лаціны, у якой бачылі інструмент каталіцкай экспансіі. Яны спрычыніліся да адмовы ад лацінскай версіі і прыняцця II Статута Вялікага Княства Літоўскага выключна на рускай мове як урадавай. Варта дадаць, што лацінскі тэкст Ратундус выкарыстаў праз 10 год, прадстаўляючы яго выбранаму ў каралі і вялікія князі Стэфану Баторыю як пераклад, зроблены ім для выкарыстання манархам, які не ведаў моваў краіны, але добра валодаў лацінай.

Нядаўна я закончыў даследаванне, прысвечанае польска-літоўскім навуковым сувязям у міжваенным дваццацігоддзі. Як вядома, у гэты перыяд, пасля заняцця Вільні генералам Жалігоўскім, афіцыйныя міждзяржаўныя кантакты былі разарваныя. Гэта таксама датычыла навукі. Аднак у навуковых асяродках абедзвюх краін існавала вялікая патрэба ва ўзаемных кантактах, і пры першых прыкметах паляпшэння адносінаў паміж Літвой і Польшчай у 1928 г. у Варшаву і Кракаў прыехаў вядомы навуковец і літоўскі дзеяч прафесар Міхал Біржышка, які ў сваю чаргу запрасіў у Коўна даследчыка і выдаўца крыніц па гісторыі Літвы прафесара Ягелонскага ўніверсітэта Уладзіслава Сэмковіча.

Вынікам візіту Сэмковіча, які разам з варшаўскім археолагам прафесарам Уладзімежам Антаневічам прыехаў у канцы 1929 г. у Коўна і наладзіў кантакты з літоўскім навуковым асяроддзем, стаў цыкл артыкулаў у друку, а таксама брашура Сэмковіча «Успаміны з Ковенскай Літвы» («Wspomnienia z

Litwy Kowieńskiej»), напісаная з сімпатыяй і пашанай да маладой рэспублікі і яе навукі. Планавалася інтэнсіфікаваць навуковы абмен і запрасіць Міхала Біржышку на кафедру літуаністыкі, якая павінна была паўстаць хутчэй за ўсё ў Кракаве. Між іншым, апекаваўся гэтым прыхільнік польска-літоўскага збліжэння начальнік Усходняга аддзела ў Міністэрстве замежных спраў Тадэуш Галуўка. На жаль, развіццё падзей пайшло ў супрацьлеглым кірунку. У абедзвюх краінах перамаглі нацыяналістычныя тэндэнцыі, хоць па абодва бакі супрацiў ім аказвалі як навуковыя асяродкі, так і частка «палітычнага класа». Гэтая складаная сітуацыя і звязаны з ёй клубок падзей, у якіх польскія і літоўскія навукоўцы, неаднаразова пераадольваючы ўласныя абмежаванні, дзейнічалі на карысць наладжвання кантактаў паміж падзеленымі тады народамі, вартыя быць згаданымі сёння, калі зніклі прычыны даўняй спрэчкі.

Чуйны да гісторыі польска-літоўскіх адносінаў Чэслаў Мілаш паставіў кропку над "і" ў кніжцы «У пошуках Айчыны» («Szukanie Ojczyzny») (1992), калі напісаў: «Вільня з'яўляецца сталіцай ізноў незалежнай Літвы, і я радуюся гэтаму, бо жадаю дабра гэтаму гораду. Ён заслугоўвае быць адной з самых знакамітых і найпрыгажэйшых еўрапейскіх сталіц». Мілаш прадказваў Вільні будучыню, якую забяспечыць «дзейсная моц духу гэтага горада ў творчых пачынаннях чалавечага розуму».

У гэтым ёсць выклік таксама і для навукі, перад якой разгортваюцца новыя перспектывы. Пра гэта казаў нядаўна на канферэнцыі прэзідэнтаў рэктар Роландас Павілёніс, прадстаўляючы нарыс праекта стварэння міжнароднага кансорцыума ўніверсітэтаў і надання яму імя Стэфана Баторыя. Ён быў фундатарам Акадэміі ў Вільні, як нагадвае шыльда, умураваная ў сцяну дзядзінца Пятра Скаргі ў прысутнасці польскай і венгерскай дэлегацый, што ўвекавечвае памяць пра *Rex Poloniae, magnus dux Lithuaniae, dux Transylvaniae.* Гэта прыгожае далучэнне да традыцыі міжнароднага супрацоўніцтва напярэдадні трэцяга тысячагоддзя.

Пераклад з польскай мовы Алеся Пагарэлага.



*Юліуш Бардах і Аляксандр Гейштар на дзядзінцы Віленскага ўніверсітэта. 1997 г.*

ISSN 2424-5224

# ПРА КРАЁЎЦАЎ, КРАЁВАСЦЬ І ЛАКАЛЬНЫ ПАТРЫЯТЫЗМ – НЕКАЛІ І СЁННЯ[1]

***Юліуш Бардах,***
*др. габ. (Варшава)*

***Summary***

In the early twentieth century, the heritage of the multi-national and multi-cultural society of the Grand Duchy of Lithuania gave rise to the socio-political phenomenon that is the movement of Krajowcy ("the Countrymen"). The sentiments of Krajowcy and similar to those were shared predominantly by members of the intellectual elites, the majority of whom at that time considered themselves Polish.

The Krajowcy idea appeared as a relic of the feudal political nation of old and simultaneously a stage in the formation of modern nations in the former Grand Duchy of Lithuania, above all in ethnically diverse territories.

The author looks at these issues through the prism of the relation between the past and the present, tracing attitudes

[1] Упершыню гэты артыкул быў апублікаваны ў выданні *Księga Wielkiego Księstwa Litewskiego. Ku europejskim tradycjom wspólnotowości. Wspólna publikacja naukowców i pisarzy z Białorusi, Litwy i Polski (2008). Koncepcja Andrzej Strumiłło. Sejny: Fundacja Pogranicze przy współpracy Ośrodka «Pogranicze – sztuk, kultur, narodów»,* s. 495–531. Тэкст быў апрацаваны і падрыхтаваны да друку Вандай Суднік-Бардах. У сувязі з невялікім накладам выдання і публіцыстычным характарам большасці тэкстаў артыкул Юліуша Бардаха не дайшоў да шырокага кола даследчыкаў гісторыі і традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. Перадрук робіцца з дазволу выдаўца з асяродка «Pogranicze», за што рэдакцыя Homo Historicus шчыра ўдзячная. Пераклад з польскай мовы М. Луцэвіч-Напалкавай і А. Смаленчука. Падрыхтоўка да друку Аляксандра Смаленчука (заўвага рэд.).

close to those maintained by Krajowcy among some of today's heirs to the tradition of the Grand Duchy.

A deep attachment to the memory of the Grand Duchy of Lithuania, founded on the tradition of its distinctness within the former Polish-Lithuanian Commonwealth of Two Nations, was a point of departure for the co-creators of the Krajowcy idea, which found its continuation also in the Second Polish Republic of 1918–1939. This feeling of attachment survived into the post-war period, fostered above all by émigré literature, whose authors were admittedly not all adherents to or epigones of the Krajowcy idea.

In Poland, these sentiments re-appeared with intensified force after the 1989 breakthrough, finding their expression in appeals to "the state of the Jagiellons" or "the Commonwealth of Two Nations" (including specifically the Grand Duchy of Lithuania) with its "historical traditions."

The fundamental structure of the Krajowcy idea ought to be treated as a shared added value in the history of the political culture of the Central-European nations inhabiting the lands which once comprised the Grand Duchy of Lithuania – and as one of the historical factors responsible for the distinctiveness of these nations from the West.

На глебе шматнацыянальнай і шматкультурнай супольнасці на землях былога Вялікага Княства Літоўскага вырас грамадска-палітычны феномен, вядомы пад назвай «краёўцы», а часам «тутэйшыя». Канчаткова ён сфармаваўся на пачатку XX ст. Пазіцыі краёўцаў і набліжаныя да іх сустракаліся часцей сярод інтэлектуальнай эліты, чым у сярэдніх пластах, сярод якіх пераважная большасць шляхты і інтэлігенцыі адназначна лічыла сябе палякамі.

Феномен краёвасці стаў прадметам даследавання многіх навукоўцаў у Беларусі, Літве[2] і Польшчы (аб іх далей). Ва ўсёй сваёй складанасці ён выходзіць за рамкі дадзенага тэксту.

[2] Гл., у прыватнасці, найноўшы агляд гісторыі Літвы XIX ст. літоўскіх навукоўцаў Э. Александравічуса і А. Кулакаўскаса, дзе аўтары сцвярджаюць, што ў літоўскай гісторыі «таксама прысутная плынь краёўцаў (падкрэслена ў арыг. – Ю. Б.) і традыцыі грамадзянскага народа Вялікага Княства Літоўскага» (Aleksandravičius E., Kulakauskas A. Od progu wieków: najnowsza historiografia Litwy XIX wieku // «Przegląd Wschodni», 2004, t. IX, z. 3, s. 536). Пар. таксама: Aleksandravičius E., Kulakauskas A. Pod władzą carów. Litwa w XIX wieku. Kraków, 2003, s. 52–53, 344–346. У беларускай літаратуры краёўцамі займаўся А. Смалянчук. Гл.: Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917. Гродна, 2001; ён жа: Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917. Выданне другое. Санкт-Пецярбург, 2004.

Пішучы раней аб гэтай з’яве, я засяроджваўся перадусім на ідэі краёвасці як кантынуацыі і адначасова трансфармацыі шматузроўневай нацыянальнай свядомасці (у яе колішнім дзяржаўна-этнічным варыянце). Краёвасць паўставала як своеасаблівы рэлікт даўняй феадальнай палітычнай нацыі[3] (у асяроддзі зямянскай шляхты і звязанай з ёй інтэлігенцыі), а з цягам часу – як этап у працэсе фармавання сучасных нацый праз плебейскія пласты альбо з іх удзелам на абшары былога Вялікага Княства Літоўскага. Гэты працэс быў абумоўлены магчымасцямі альтэрнатыўнага выбару перш за ўсё на нацыянальна-змешанай тэрыторыі[4]. І сёння я прытрымліваюся гэтага бачання, маючы, як выявілася, падтрымку ў аўтараў найноўшай навуковай літаратуры. У той жа час агляд найбольш важных пытанняў раблю праз прызму адносінаў мінулага і сучаснасці, знаходзячы нават на парозе XXI ст. у некаторых спадкаемцаў традыцый Вялікага Княства падыходы, блізкія краёўцам. Устойлівасць гэтых падыходаў вартая ўвагі.

Глыбокая прывязанасць да былога Вялікага Княства Літоўскага, замацаваная ў традыцыі адасобленасці гэтай дзяржавы ў рамках былой шматнацыянальнай і шматканфесійнай Рэчы Паспалітай абодвух народаў, стала пунктам адліку для стваральнікаў канцэпцыі краёвасці, якая развівалася і ў часы міжваеннай Польшчы. У той час у сферы свядомасці яна трывала, дзякуючы эміграцыйнай літаратуры, праўда, не толькі прыхільнікаў ідэі краёвасці і яе эпігонаў. У Польшчы яна пачала праяўляцца з падвоенай сілай пасля

---

*Заўвага рэд. Таксама варта згадаць іншыя кнігі гэтага аўтара: Краёвасць у беларускай гісторыі. Мінск, 2017; Раман Скірмунт (1868–1939): жыццяпіс грамадзяніна Краю. Мінск, 2018.*

3 Тут мы толькі пазначым дыскусію ў польскай навуцы вакол нацыянальных праблем, у т. л. праблемы палітычнай нацыі. Так, напр., Марэк Вальдэнберг падкрэсліў адрозненні ў разуменні гэтага тэрміна грамадскасцю Захаду і Цэнтральна-Усходняй Еўропы як у мінулым, так і сёння, адзначыўшы прыдатнасць самога паняцця (Waldenberg M. Narody zależne i mniejszości narodowe w Europie Środkowo-Wschodniej. Dzieje konfliktów i idei. Warszawa, 2000, s. 33–34). Іншы даследчык нацыянальных пытанняў Томаш Кіцвальтэр наогул адкінуў паняцце «палітычная нацыя», адзначыўшы, зрэшты абгрунтавана, што палітычная нацыя «не была [...] нацыяй у сучасным разуменні гэтага слова» (Kizwalter T. O nowoczesności narodu. Przypadek Polski, Warszawa, 1999, s. 84–85). Пар. таксама між іншым: Niendorf M. Das Großfürstentum Litauen. Studiem zum Nationsbildung in der Frühen Neuzeit (1569–1795). Wiesbaden, 2006.

4 Bardach J. Wieloszczeblowa świadomość narodowa na ziemiach litewsko-ruskich Rzeczypospolitej w XVII–XX wieku // Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu. Materiały z międzynarodowej konferencji naukowej w Instytucie Historii UAM w Poznaniu (11–12 maja 1998). Pod red. J. Jurkiewicza, Nr 29, Poznań, 1999, s. 11–34.

пералому 1989 г. Гэта адлюстравалася ў звароце да *дзяржавы Ягелонаў*, альбо *Рэчы Паспалітай абодвух народаў* (асабліва Вялікага Княства Літоўскага) ды яе *гістарычных традыцый*. Сімвалічнае дапаўненне міцкевічаўскага звароту: «Litwo! Ojczyzna moja!» («Літва! Бацькоўскі край!»), узмоцненага, хачу пры нагодзе падкрэсліць, у эпілогу бессмяротнага эпасу шматзначным воклічам: «O Matko Polsko!» («О Маці Польшча!»), што рэдка заўважаецца чытачамі[5]. Патрыятызм у культурнай сферы, сфармуляваны такім чынам, падаецца тоесным для ўсіх яго носьбітаў. Аднак на ідэйным і грамадска-палітычным узроўні ён увасабляўся (пра што яшчэ будзе гаворка) у розных праектах. Менавіта таму толькі частка прыхільнікаў акрэслівае яго як краёвы патрыятызм.

* * *

Між тым трэба коратка нагадаць дыскусію вакол генезісу самой назвы «краёўцы» ў польскай літаратуры. Калісьці я звязваў яе з адміністрацыйным паняццем «Паўночна-Заходні край», якое функцыянавала ў царскай Расіі, і тым самым адкідаў меркаванне аднаго з прадстаўнікоў гэтага ідэйнага напрамку Зыгмунта Юндзіла аб тым, што ў дадзеным выпадку вырашальную ролю адыграў вядомы ў той час пецярбургскі польскі штотыднёвік «Край». Палемізуючы са мной, гісторык права і палітычнай думкі кансерватараў Дарыуш Шпопэр (1999) падтрымаў апошні погляд[6], але трохі раней біёграф звязанага з краёўцамі Міхала Ромэра Ян Савіцкі катэгарычна абверг гэты тэзіс. Праўда, адначасова ён адзначыў, што, «верагодна, гэта адсылка не непасрэдна да назвы «Паўночна-Заходні край», а, хутчэй, да сіноніма слова «бацькаўшчына». Таксама гісторык звяртаўся да рамантычнай паэзіі, асабліва да тэкстаў Адама Міцкевіча, які ў сваёй творчасці шэсць разоў выкарыстаў слова «краёвец» у значэнні «аўтахтон»[7]. У 2004 г. гэты тэзіс палічыў слушным даследчык Збігнеў Соляк, згаджаючыся з тым, што «паходжанне тэрмінаў *краёвец – край* як сінонімаў папулярызаваных

---

5 На гэты факт слушна звярнуў увагу Анджэй Шварц (Szwarc A. Pod zaborami // A. Mączak, H. Samsonowicz, A. Szwarc, J. Tomaszewski (red.). Od plemion do Rzeczypospolitej. Naród, państwo, terytorium w dziejach Polski, Warszawa, 1996, s. 185).

6 Szpoper D. Sukcesorzy Wielkiego Księstwa. Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich na ziemiach litewsko-białoruskich w latach 1904–1939. Gdańsk, 1999, s. 51–52.

7 Sawicki J. Michał Römer wobec problemów narodowościowych ziem litewsko-białoruskich na początku XX wieku // J. Jurkiewicz (red.). Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…, s. 75.

рамантыкамі слоў *аўтахтон – бацькаўшчына* пераканаўча патлумачыў Ян Савіцкі»[8] (у вышэйзгаданым даследаванні – Ю. Б.).

У сваю чаргу, іншы погляд меў Ян Юркевіч, які ў карэспандэнцыі са мной адзначаў: «Мяне тлумачэнне Яна Савіцкага не пераконвае. Магчыма, на назву краёўцаў паўплывала як традыцыя рамантыкаў, так і афіцыйная назва «Паўночна-Заходні край»[9].

Прымаючы камплементарнасць падыходу за слушны паказальнік у пошуках генезісу гістарычных з'яваў, сёння я схіляюся да погляду Яна Юркевіча.

* * *

Адной з найбольш прадстаўнічых постацей руху краёўцаў, якая стаяла ля ягоных вытокаў, была Канстанцыя Скірмунт. У 1906 г. яна апублікавала артыкул *Наша тутэйшасць*, у якім раскрыла сутнасць краёвасці ў нацыянальным аспекце. Падкрэсліваючы, што тутэйшасці як «першапачатковага вызначэння патрыятычнага пачуцця недастаткова адукаванаму чалавеку», яна пісала, што шляхта былога Вялікага Княства Літоўскага «носіць у сабе тыя два ці тры нацыянальныя элементы, з якіх складаецца жыццё краёвага грамадства. Кожны з нас, калі ён не новапрыбылы чалавек, носіць у сабе ў няроўнай ступені штосьці ад літоўца і паляка ці русіна. У сувязі з гэтым усе тры назвы маюць на нашай зямлі права грамадзянства, а кожная асоба, па меры таго, якая ў ёй перамагае нацыянальная рыса альбо ўласная тоеснасць, уступае ў тую ці іншую групу, песцячы, калі прытрымліваецца цудоўнай традыцыі, патройнае краёвае братэрства. Гэта ідэал для нашае зямлі [ ... ]. Кожны з нас, селянін ці шляхціц, на зямлі Літвы і Беларусі мае права і гонар звацца літоўцам, палякам альбо беларусам»[10].

---

8 Solak Z. Między Polską a Litwą. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920. Kraków, 2004, s. 74 (заўвага 42).

9 Электронны ліст ад 18. 03. 2007, у якім яго аўтар згадаў вышэйапісаную дыскусію, за што хачу сардэчна падзякаваць прафесару Яну Юркевічу.

10 Цыт. па: Szpoper D. Sukcesorzy Wielkiego Księstwa ..., s. 56, 59. Аўтар палічыў «найбольш трапнай» пазнейшую дэфініцыю краёвасці, выказаную Канстанцыяй Скірмунт у 1913 г., у якой з характэрным для таго часу пафасам яна пісала: «Краёвая ідэя – гэта гармонія трох адвечных стыхій нашага краю: літоўскай (уключна з латвійскай), польскай і русінскай у іх адвечнай Бацькаўшчыне – Літве і Беларусі; гэта згода дадзеных стыхій у супольнай грамадзянскай працы дзеля агульнага дабра пры свабодным і самастойным культурным развіцці кожнай з іх. Гэтую ідэю, а ўласна кажучы, ідэал прадыктавалі нам стагоддзі. Яе карані сягаюць у глыбіню нашай калектыўнай існасці, прабіваюцца праз водгукі навальніц і паразаў, якія мы перажываем. Гэта пакуль яшчэ прыхаваная прага мас».

Пазней гэту з'яву ў трохі іншым аспекце адзначыў Томас Венцлава, пішучы, што ў Вільні на пачатку XX ст. з'явілася «нешматлікая, але энергічная група людзей, якая сцвярджала, што Вільня і жыхары Віленшчыны складаюць, у прынцыпе, адзіны народ, які гаворыць на трох мовах (нават на чатырох, калі дадаць ідыш). Гэтая група называлася краёўцамі [...]»[11].

Адносна папярэдняй фармулёўкі тут адразу бачна істотнае адрозненне. Канстанцыя Скірмунт прыпісвала «краёвасць-тутэйшасць» палякам, літоўцам (часам у спалучэнні з латышамі) і беларусам, не пашыраючы яе (на што ўжо звярнулі ўвагу іншыя даследчыкі) ні на расейцаў, ні на габрэяў. Хоць апошнія нават калісьці лічыліся «сваімі»[12]. Ад пачатку сваёй дзейнасці яна сутыкнулася з апазіцыяй, асабліва з боку літоўскіх нацыяналістаў[13]. Іх з'едлівыя ацэнкі, якія тычыліся нават «найбольш наближанай да праўды» Канстанцыі Скірмунт і яе ідэйнага кола[14], пацвярджалі, што ўжо тады, як і пазней, скла-

11 Venclova T. Wilno. Moment równowagi // «Zeszyty Literackie». Lato 2006, Nr 94, s. 66.

12 Romanowski A. Pozytywizm na Litwie. Polskie życie kulturalne na ziemiach litewsko-białorusko-inflanckich w latach 1864–1904. Kraków, 2003, s. 97–98, 293. Аўтар нагадаў тут пра яе біяграфію аўтарства Пятра Ласоўскага. Гл.: Łasowski P. Skirmuttówna Konstancja // Polski Słownik Biograficzny. T. 38. Warszawa-Kraków, 1997–1998.

13 Адным з іх быў вядомы тады публіцыст, сябра створанага ў 1907 г. Літоўскага навуковага таварыства Аляксандрас Дамбраўскас, альбо Адомас Якштас (Aleksandravičius E., Kulakauskas A. Pod władzą carów. Litwa w XIX wieku, s. 320–321). Зварот, апублікаваны Якштасам-Дамбраўскасам другі раз праз чатыры гады (1906) пад той жа назвай «Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie», прысвячаўся, у прыватнасці, ацэнцы руху краёўцаў. Прызнаючы «недарэчнай» сітуацыю, калі літовец падзяліў сваё сэрца паміж літоўскімі і польскімі ідэаламі, гэты аўтар пісаў: «На жаль, аднак, не атрымалася дасягнуць станоўчых вынікаў, паколькі гэтаму перашкаджала адвечная перадузятасць або эгаістычныя меркаванні. Гэта датычыць выключна аўтараў-палякаў, сярод якіх нават тыя, хто найбліжэй да праўды, напрыклад, спадарыня Ахенькоўская (маецца на ўвазе Алена, пазней Ахенькоўская-Ромэр – Ю. Б.) і *Футурус* (Канстанцыя Скірмунт – рэд.), якія робяць уражанне фокуснікаў, што ходзяць па канаце [...]. Яны хістаюцца то ў адзін, то ў другі бок, робяць крок наперад і адразу спрабуюць вярнуцца назад. Яны б хацелі зрабіць што-небудзь для літоўцаў, але ў той жа час ні на ёту не саступіць з занятых польскасцю пазіцый. Згубная ілюзія!» (Jakštas-Dambrauskas A. Kwestia litewska w piśmiennictwie polskim // M. Zaczyński, B. Kałęba (red.). W kręgu sporów polsko-litewskich na przełomie XIX i XX wieku. Wybór materiałów, t. 1. Kraków, 2004, s. 45–46). Сумненні ў аўтарстве А. Дамбраўскаса датычна першай версіі «Głosu...» выказаў Д. Шпопэр (Szpoper D. Sukcesorzy Wielkiego Księstwa, s. 85, заўвага 100).

14 Пар. таксама: A. Jakštas-Dambrauskas, Kwestia litewska w piśmiennictwie polskim (s. 149–158), дзе прыведзена палеміка з публікацыямі Ro...munta (Рамана Скірмунта). Пра рэплікі апошняга і Канстанцыі Скірмунт гл.: Szpoper, D. Sukcesorzy Wielkiego Księstwa, s. 85–88.

дана было разлічваць на адабрэнне такога падыходу і поглядаў з боку літоўцаў, якія ўсё мацней намагаліся прызнання іх нацыянальнай тоеснасці.

Але краёўцы, працягваючы сваю дзейнасць у адроджанай Польшчы, не хацелі саступаць. Адзін з іх, навуковец і кансерватыўны палітык Мар'ян Здзяхоўскі ў 1938 г. пісаў (гэтае вядомае даследчыкам выказванне варта тут прывесці): «Наш нацыянальна разнастайны край з'яўляецца часткай гістарычнай Літвы, і нас, людзей майго пакалення, выхоўвалі як літоўцаў, безумоўна, у тым значэнні, у якім быў літоўцам Міцкевіч, калі пісаў: «Літва! Бацькоўскі край!» У дзяцінстве разам з гісторыяй Польшчы мяне вучылі гісторыі Літвы, дзякуючы чаму я лічыў нацыянальнымі героямі не толькі тых, хто будаваў Польшчу, але і таго, хто спрабаваў адарваць Літву ад Польшчы, – вялікага князя Вітаўта [ ... ]. І калі б мяне сёння запыталі, кім я сябе адчуваю ў глыбіні душы, я б сказаў, што адчуваю сябе грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага, непарыўна звязанага уніяй з Польшчай. Калі я бачу, як тут, на Замкавай гары лунае штандар з Арлом, але без Пагоні, я перажываю гэта як асабістую крыўду»[15].

Адзін з эпігонаў гэтага напрамку ксёндз Валяр'ян Мэйштовіч (малюючы пры гэтым карціну ідэалізаванай супольнасці) пазней пісаў: «Мы ўсе былі літоўцамі ў палацах, дварах і хатах; і гэта нікому не перашкаджала быць палякам. Прыналежнасць да двух народаў, што стваралі адну Рэч Паспалітую, была агульнапрынятай»[16].

Гэтая спецыфічная прыналежнасць, асабліва ў апошнюю дэкаду, стала прадметам увагі даследчыкаў, якія пачалі паглыблены аналіз зменаў у літоўскім[17] і

---

[15] Zdziechowski, M. Dzieła wybrane, t. 1: Widmo przyszłości. Lozanna, 1983, s. 3. Навукоўцам добра вядомы аповед пра М. Здзяхоўскага ягонай універсітэцкай калегі Цэзарыі Бадуэн дэ Куртэнэ, якая прыгадвала, як прафесар Варшаўскага ўніверсітэта (раней, як і яна, прафесар Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні) шматразова падкрэсліваў уласнае пачуццё адметнасці, што ён «літвін і Пясты яго не хвалююць. У тыя часы маёй дынастыяй была дынастыя Ягелонаў. Я тутэйшы. Я грамадзянін Літвы. Мая, агульная з вамі, – ён звярнуўся да варшавян, – гісторыя пачалася толькі з Ягелонаў» (Baudouin de Courtenay C. Grupy etniczne na ziemiach Wielkiego Księstwa Litewskiego i trzy narody // «Alma Mater Vilnensis», t. II. Londyn, 1951, s. 380).

[16] Meysztowicz W. Poszło z dymem. Warszawa, 1989, s. 9.

[17] Сучасныя літоўскія гісторыкі пострэчпаспалітаўскай эпохі, разглядаючы праблему ў катэгорыях гістарычнай сацыялогіі, сцвердзілі: «Большасць літоўскай шляхты размаўляла па-польску і мела г. зв. двухузроўневую этнапалітычную свядомасць. Яны былі і палякамі, і літоўцамі. Быць палякам значыла захоўваць вернасць дзяржаўнай традыцыі колішняй хаўруснай дзяржавы і добраахвотна належаць да польскай шляхецкай макранацыі (тэрмін Гудавічуса) як метанацыянальнай супольнасці. Быццё літоўцам успрымалася як захаванне вернасці дзяржаўным традыцыям былога Вялікага Княства Літоўскага, а значыць, прыналежнасці да літоўскай шляхецкай па-

беларускім[18] грамадствах, а таксама ў асяродку польскіх зямянаў канца XIX – пачатку XX ст.[19] Прызнаючы вагу гэтых меркаванняў, варта падкрэсліць, што

літычнай нацыі. Зрэшты, магчымая іншая інтэрпрэтацыя гэтай двухузроўневай этнапалітычнай свядомасці: літоўскасць была тут свядомасцю мікранацыі, якая злілася з польскай палітычнай нацыяй і інтэгравалася з ёй у галіне культуры» (Aleksandravičius E., Kulakauskas A. Pod władzą carów…, s. 336). Пар. таксама: Aleksandravičius E., Kulakauskas A. Od progu wieków…, s. 534.

18 Польскія аўтары часта звярталіся да вядомай канцэпцыі Станіслава Асоўскага, які ўвёў падзел на «ідэалагічную Айчыну» (зямля маёй нацыі) і «прыватную» («звязаную з нараджэннем і станаўленнем асобы»), сфармуляваўшы таксама тэзіс пра ўзаемную інтэрферэнцыю абодвух паняццяў Айчыны (Ossowski S. Analiza socjologiczna pojęcia ojczyzny; ён жа, *Dzieła*, t. III. Warszawa, 1967¸ s. 210). Так, напрыклад, Рышард Радзік канстатаваў: «Шляхецкія эліты Беларусі [ … ], тыповае асяроддзе беларуска-польскага памежжа, [а менавіта] *gente Lithuani (Rutheni), natione Poloni*, былі людзьмі, якія паходзілі часцей за ўсё з беларускай грамадскасці, у тым ліку з баярства, і захоўвалі пачуццё лучнасці з мясцовым насельніцтвам, краем, яго гісторыяй і культурай. Іх малой Бацькаўшчынай было месца нараджэння ў Беларусі; сярэдняй ці рэгіянальнай – Вялікае Княства Літоўскае і тое, што пасля яго засталося; а вялікай ці ідэалагічнай Бацькаўшчынай – Рэч Паспалітая і ўспаміны пра яе. Пасля паразы паўстання 1863 г. гэтыя людзі ўсё мацней канфліктавалі з агрэсіўнай расійскасцю, шукалі падтрымкі ў польскасці як у рэальнай сіле». Пастурова ранейшае традыцыйнае вызначэнне «літвін» (беларус) замянялася прызнаннем: «я – паляк» (Radzik R. Świadomość społeczna mieszkańców Białorusi w XX stuleci // Mironowicz E., Tokć S., Radzik R. Zmiana struktury narodowościowej na pograniczu polsko-białoruskim w XX wieku. Białystok, 2005, s. 151–152). Падрабязней пра гэта гл.: Radzik R. Między zbiorowością etniczną a wspólnotą narodową. Białorusini na tle przemian narodowych w Europie Środkowo-Wschodniej XIX stulecia. Lublin, 2000, s. 108¬–109, 118–127. Гл. таксама: Radzik R. Kim są Białorusini? Toruń, 2002, s. 41–43. Пар. таксама: Szybieka Z. Historia Białorusi 1795–2000. Lublin, 2002.

19 Даследчык польскага зямянства Шымон Рудніцкі (у кантэксце вышэй працытаванага аповеду Ц. Бадуэн дэ Куртэнэ пра М. Здзяхоўскага, гл. заўвагу 14) лічыў, што гэта было «пачуццё двухнацыянальнай прыналежнасці» (Rudnicki S. Ziemiaństwo polskie w XX wieku. Warszawa, 1996, s. 40). Такім чынам, ён звярнуўся да канцэпцыі вядомага польскага навукоўца Яна Бадуэн дэ Куртэнэ пра «падвоеную» нацыянальнасць, якая таксама фігуравала як «сімбіятычная» нацыянальнасць (Sawicki J. Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń, 1998, s. 135–148). У сваю чаргу Раман Юркоўскі, звяртаючы ўвагу на двухузроўневую нацыянальную свядомасць польскага зямянства і абапіраючыся на канцэпцыю С. Асоўскага, прыйшоў да высновы, што «для [польскіх] зямян ні Вялікае Княства, ні тым больш Рэч Паспалітая не была Айчынай у ідэалагічным сэнсе». І, адзначаючы розныя ўзроўні іх нацыянальнай свядомасці, сцвярджаў, што «ў Літве і Беларусі сярод зямянства не адбывалася такой інтэрферэнцыі гэтых паняццяў, паколькі для іх найвышэйшым паняццем быў Край або Вялікае Княства Літоўскае, трактаванае як супольная Айчына многіх народаў. Гэта нараджала краёвую свядомасць» (Jurkowski

навуковую дыскусію вакол гэтай праблемы неабходна працягваць[20]. Да самой праблемы я яшчэ вярнуся ў гэтым тэксце.

Падкрэслю яшчэ раз, што для большасці краёўцаў, якія спасылаліся на традыцыі Вялікага Княства Літоўскага, прызнавалі ў сваім патрыятызме першынство краёвых сувязяў у параўнанні з нацыянальна-этнічнымі і абвяшчалі салідарнасць краёвага насельніцтва незалежна ад мовы і веравызнання, было характэрна супрацьстаянне, як пісаў Мар'ян Здзяхоўскі, «звар'яцелай нацыяналістычнай юрлівасці і жарсці»[21]. Гэта яшчэ адна важная рыса той ідэйнай сферы, уласцівай краёўцам[22] ды іншым прадстаўнікам дэмакратычнага асяроддзя.

Адноснае, бо не пазбаўленае адрозненняў, ідэйнае адзінства краёўцаў у вузкапалітычных і грамадскіх пытаннях парушалася розніцай поглядаў і пазіцый, якая з часам толькі паглыблялася. У навуцы можна знайсці розныя інтэрпрэтацыі гэтай праблемы. Пра адну з іх нагадала Барбара Стачэўска, кракаўская даследчыца палітычнай думкі Леана Васілеўскага, вядомага дзяржаўнага дзеяча міжваеннай Польшчы і прызнанага знаўцы нацыянальных адносінаў. Васілеўскі канстатаваў існаванне некалькіх плыняў у лагеры краёўцаў, з чым пагадзілася і згаданая аўтарка[23].

---

R. Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich 1864–1904. Warszawa, 2001, s. 95–96). Такім чынам, агульны тэарэтычна-сацыялагічны падмурак не заўсёды абумоўліваў тыя ж самыя высновы даследчыкаў.

20 Аўтар дадзенага тэксту абяцае вярнуцца да гэтай праблематыкі ў больш грунтоўным артыкуле, які зараз рыхтуецца.

21 І дадаваў, што яны з'яўляюцца не чым іншым, як «адступленнем разумовай і духоўнай культуры свету». Гэтаму «вяртанню да дзікасці» ён супрацьпастаўляў талерантнасць, абгрунтаваную гістарычнымі традыцыямі Рэчы Паспалітай (Zdziechowski M. Dzieła wybrane, t. 1, s. 1 і далей).

22 Раман Юркоўскі, грунтуючыся на вышэйзгаданым выказванні М. Здзяхоўскага, пісаў: «Гэтая тутэйшасць у зямянскім выданні была выключнай справай, характэрнай толькі для Крэсаў і абумоўленай тым, што палітычны рэгіён, у гэтым выпадку Вялікае Княства Літоўскае, захоўваў пераемнасць гістарычнай традыцыі. У гэтым кантэксце краёвасць была ідэалагічным феноменам, непараўнальным з рэгіяналізмам, паколькі аніводны рэгіяналізм не меў ідэалагічнага вымярэння. Менавіта гэта вяло да канфлікту краёвай ідэі з усімі нацыяналізмамі, у генезісе якіх ужо хавалася ідэалогія» (Jurkowski, R. Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich…, s. 96–97).

23 Б. Стачэўска высветліла, што Л. Васілеўскі інтэрпрэтаваў краёвасць шырэй, адносячы да гэтага напрамку «некалькі палітычных арыентацый, ідэйнай платформай якіх было ўспрыманне Літвы як агульнай краіны розных нацыянальнасцей». Адна з чатырох арыентацый (Л. Васілеўскі бачыў тут асобна нават віленскіх сацыялістаў), якая ацэньвалася ім як арыентацыя з мінімальным уплывам, сабраная вакол Краёвай партыі Літвы і Беларусі (1907) і яе органа «Gazety Wileńskiej», абвяшчала сваім га-

У сваю чаргу Дарыуш Шпопэр адзначыў існаванне ў гісторыі прадмета двух асноўных падыходаў. Адзін ён акрэсліў як дыхатамічны, які вылучае ў функцыянаванні краёвай канцэпцыі дзве розныя версіі: дэмакратычную і кансерватыўную, – і другі, больш блізкі яму, які бачыць адзінства двух згаданых асяродкаў. Пры «часовых адрозненнях падыходаў» да канкрэтных палітычных праблем, як сцвярджаў даследчык, «нязменнымі заставаліся асноўныя моманты краёвай канцэпцыі, што прадугледжвалі роўнасць народаў, якія пражываюць на літоўскіх і беларускіх землях (падкрэслена мною – Ю. Б.), і патрэбу іх шырокай супрацы»[24].

Фактычныя абмежаванні сфармуляваных такім чынам супольных ідэйных прынцыпаў краёўцаў ужо адзначаліся вышэй. Ад пачатку руху «часовыя адрозненні» мелі ўсё ж больш глыбокую і трывалую падставу[25]. Пацвярджае гэта перыяд міжваеннай Польшчы. Дастаткова яшчэ раз нагадаць у след за Дарыушам Шпопэрам Мар'яна Здзяхоўскага, які ў 1923 г. сцвярджаў, што «перамога дэмакратычных лозунгаў – гэта перамога таго, што ў прамысловай галіне акрэсліваецца словам *халтура*»[26]. У той жа час краёўцы-дэмакраты менавіта ў гэтых лозунгах, першым з якіх быў прынцып роўнасці, бачылі аснову сваіх палітычных праектаў. Гэта сведчыць на карысць тэзіса, што ў краёвым руху вылучаліся дзве спрэчныя, хоць не ўзаемавыключальныя плыні: традыцыйна-кансерватыўная і дэмакратычная[27].

---

лоўным праграмным пастулатам, пісала аўтарка кнігі, «прызнанне права ўсіх нацый краю на роўных удзельнічаць ва ўсіх сферах палітычнага і грамадзянскага жыцця, а таксама свабодна развіваць нацыянальную культуру». Б. Стачэўска, абапіраючыся на мае і Р. Юркоўскага працы пра краёвасць і краёўцаў (будуць указаныя ніжэй), выказала меркаванне, што «такое разуменне краёвасці пашырылася ў гістарыяграфіі» (Stoczewska B. Litwa, Białoruś i Ukraina w myśli politycznej Leona Wasilewskiego, s. 81). *Заўвага рэд.: «Gazeta Wileńska», насамрэч, была органам краёўцаў-дэмакратаў і выходзіла ў 1906 г. Органам Краёвай партыі Літвы і Беларусі была газета «Głos Polski».*

24 Szpoper D. Sukcesorzy Wielkiego Księstwa…, s. 49–50. Да першага падыходу аўтар аднёс працы Яна Юркевіча і Яна Савіцкага (тамсама, s. 49, заўвага 1), у другім аказаўся Зыгмунт Юндзіл з яго «лонданскімі» ўспамінамі (тамсама, s. 50, заўвага 3). Слядамі апошняга выразна пайшоў Раман Юркоўскі (Jurkowski, R. Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich…, заўвага 21).

25 Гэта даказваў сам Д. Шпопэр, сцвярджаючы, што «[краёўцы-дэмакраты] з'яўляліся праціўнікамі згодніцкай палітыкі, адкідалі лаяльнасць, а таксама, што надзвычай важна, не прымалі догмат кансерватараў пра тоеснасць польскасці ў Літве і Беларусі з зямянствам (падкрэслена Ю. Б.) (Szpoper D. Sukcesorzy Wielkiego Księstwa…, s. 50).

26 Цытата па: D. Szpoper. Sukcesorzy Wielkiego Księstwa…, s. 188.

27 Падрабязна аб гэтым пісаў Я. Юркевіч. Гл.: Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu; гл. таксама: Bardach J., Krajowcy, federaliści, inkorporacjoniści //

Першая з іх спалучала догмат польскасці зямянства з патэрналісцкімі адносінамі да літоўскіх або беларускіх сялян з прыняццем іх мовы і народнай культуры[28]. Выразнікамі гэтых ідэй поруч са Здзяхоўскім былі, у прыватнасці, Раман Скірмунт (Казімір Акуліч назваў яго «палякам і беларусам у адной асобе»[29]), а таксама заможны памешчык і кансерватар-манархіст Эдвард Вайніловіч, які спрыяў эмансіпацыі беларусаў[30]. У 1927 г. славуты «віленскі зубр» Станіслаў Цат Мацкевіч назваў яго «апошнім беларускім баярынам»[31].

Краёўцы традыцыяналісцка-кансерватыўнай арыентацыі прымалі нацыянальныя патрабаванні літоўцаў і беларусаў з умовай, што тыя прызнаюць вядучую ролю краёвай шляхты на ўзор колішняй Рэчы Паспалітай. Цытаваны ўжо ксёндз Валяр'ян Мэйштовіч у вядомых успамінах, пішучы пра палітычныя мэты кансерватараў яшчэ з царскіх часоў, прызнаваўся: «[…] А недзе далёка, за даляглядам, – незалежнасць Рэчы Паспалітай абодвух народаў»[32]. Яны марылі пра адраджэнне дзяржавы ў яе нязменнай грамадскай і палітычнай форме.

Падобным чынам было і ў Беларусі. Пацвердзіў гэта іншы прыхільнік традыцыяналісцкай краёвай плыні Міхал Паўлікоўскі, юрыст па адукацыі і даваенны шматгадовы кіраўнік Аддзела бяспекі Ваяводскай управы ў Вільні (1924–1938), а пасля Другой сусветнай вайны – пісьменнік у эміграцыі[33]. У

O dawnej i niedawnej Litwie, s. 260–279. Гэта была мая рэцэнзія на працу Я. Юркевіча *Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905–1922* (Poznań, 1983). Аб значнай палітычнай дыферэнцыяцыі зямян на паўночна-ўсходніх землях былой Рэчы Паспалітай у кантэксце маёй палемікі з Я. Юркевічам пісаў таксама Ш. Рудніцкі (Rudnicki S. Ziemiaństwo polskie w XX wieku, s. 92, заўвага 100).

28 Падкрэсліваючы ўніверсальнасць краёвай ідэі, Р. Юркоўскі заўважыў, што яна «паглыбляла ідэалізаваную гамагеннасць сацыяльнай структуры, відавочную ў традыцыйнай сістэме вертыкальных сувязяў, узмоцненых патэрналізмам» (Jurkowski R. Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich…, s. 97).

29 Як звярнуў увагу Д. Шпопэр, калі Р. Скірмунт у 1917 г. узначаліў Беларускі нацыянальны камітэт, той самы Акуліч палічыў гэта «апошнім актам польска-беларускага сімбіёзу» (D. Szpoper. Sukcesorzy Wielkiego Księstwa…, s. 141).

30 Вайніловіч пісаў: «Польскія шавіністы з-за маёй сімпатыі да беларусаў нават абвінавачвалі мяне, што я не паляк, а беларус» (Woyniłłowicz, E. Wspomnienia 1847–1928, cz. 1. Wilno, s. 210–211).

31 Цытата па: D. Szpoper. Sukcesorzy Wielkiego Księstwa…, s. 156.

32 Mejsztowicz W. Poszło z dymem…, s. 12. Гл. таксама: Szpoper D., Bielecki A. Aleksander Meysztowicz: portret polityczny konserwatysty. Gdańsk, 2001, s. 32.

33 Zadencka M. W poszukiwaniu utraconej ojczyzny. Obraz Litwy i Białorusi w twórczości wybranych polskich pisarzy emigracyjnych. Florian Czarnyszewicz, Michał Kryspin Pawlikowski, Maria Czapska, Czesław Miłosz, Józef Mackiewicz. Uppsala, s. 86, а таксама заўвага 73.

нарысе *Мінщчына*, ствараючы ідэалізаваны вобраз мінулага, ён пісаў: «Памешчыцкі двор, як правіла, быў прыхільны беларушчыне. З мужыком размаўлялі па-беларуску. Правільная і свабодная гаворка па-беларуску была нібыта своеасаблівым стылем»[34].

Сучасны гісторык дадаў, што ў канцы XIX – пачатку XX ст. на землях былога Вялікага Княства Літоўскага «зрэдку, калі памешчык не ведаў мясцовых моваў, то іншы бок разумеў польскую мову»[35]. Тым самым ён паказаў маштаб стыхійнай паланізацыі ніжэйшых пластоў насельніцтва, якая адбылася ўжо тады. Пазней справы пайшлі па-іншаму. Якраз таму Паўлікоўскі востра крытыкаваў вядомую яму з асабістых назіранняў палітыку паланізацыі, што вялася пад уплывам «нацдэмаўскай заразы [...] пры дапамозе прызначаных ваяводаў і іншых кіраўнікоў установаў»[36].

Варта вярнуцца да пытання адносінаў да нацыяналізму. Тут неабходна заўважыць, што гэта быў час, калі, як заўважыў даследчык гісторыі польскіх кансерватараў, краёвая канцэпцыя, якая «на пачатку XX ст. была адным з элементаў палітычнай праграмы кансерватараў», у 1920-я гг. «стала для тагачаснага пакалення кансерватараў ужо гісторыяй»[37].

Дэмакратычнае крыло краёўцаў спалучала польскую культурную тоеснасць з прызнаннем права на самастойнае палітычнае існаванне літоўцаў і беларусаў. Пад сцягам краёвасці, якая яднала ўсіх жыхароў гістарычнай Літвы, гэтае асяроддзе на чале з Людвікам Абрамовічам да пэўнага часу, са згаданым Міхалам Ромэрам і Тадэвушам С. Урублеўскім у міжваеннай Польшчы выказвалася ў абарону абодвух вышэйназваных народаў.

Зрэшты, літоўскія даследчыкі сцвярджаюць, што «час і наступствы Другой сусветнай вайны былі наймацнейшым ударам па краёвай плыні. [...] Краёўцы, як нашчадкі літоўскай шляхты, ужо ў другой чвэрці XX ст. лічыліся грамадскім і культурным анахранізмам. Лозунг федэралізму быў непрымальным ні для польскіх нацыяналістаў, ні для дзеячаў незалежнай Літвы»[38].

---

34 Pamiętnik Wileński. Londyn, 1972, s. 301. Гл. таксама, у прыватнасці: Tak było. Niedemokratyczne wspomnienia Eustachego Sapiehy. Warszawa, 1999.

35 Jurkowski R. Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich..., s. 80 (заўвага 155).

36 Pamiętnik Wileński, s. 301. Раней Паўлікоўскі крытыкаваў Рыжскую дамову, як адзначала М. Задэнцка, бо бачыў у ёй парушэнне шляхецкага адзінства, здраду шляхты з-за Дзвіны і Беразіны і, адпаведна, краёвай ідэі, адхіляў аргументы нацыяналістаў, пытаючыся: «Ці не было іншага шляху суіснавання з беларусамі, акрамя інкарпарацыі і паланізацыі?» (Zadencka M. W poszukiwaniu utraconej ojczyzny..., s. 85, 92).

37 D. Szpoper. Sukcesorzy Wielkiego Księstwa Litewskiego..., s. 156.

38 Aleksandravičius E., Kulakauskas A. Pod władzą carów. Litwa w XIX wieku, s. 52. Цэзары Жалэндоўскі звяртаў увагу на немагчымасць дыялогу паміж палякамі і літоўцамі, на

Згаджаючыся з тэзісам наконт анахранізму краёўцаў, крыніца якога ў іх ідэалізме, звернем увагу на згаданы федэралізм. Яшчэ падчас Першай сусветнай вайны ў Вільні распачалася, як пісаў Анджэй Пукшта, «адна з найважнейшых ініцыятыў перыяду нямецкай акупацыі»[39]. Яна патрабуе ўвагі з прычыны доўгатэрміновых наступстваў для краёўцаў. Гаворка ідзе пра апублікаваны 19 снежня 1915 г. на чатырох мовах – польскай, літоўскай, беларускай ды ідыш – Універсал Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага, падпісаны безыменнай Часовай Радай Канфедэрацыі ВКЛ[40]. У тэксце дакумента адсутнічала згадка аб сувязі Літвы і Кароны[41].

Канфедэрацыя пацвердзіла свае намеры ў наступным акце, выдадзеным у лютым 1916 г.[42], адначасова апісваючы ў ім тэрыторыю будучай літоўска-бе-

кульмінацыю варожых настрояў паміж імі, на перанясенне цэнтра цяжару спрэчак з гістарычна-культурных на тэрытарыяльныя (Żołędowski C. Białorusini i Litwini w Polsce, Polacy na Białorusi i Litwie. Uwarunkowania współczesnych stosunków między większością i mniejszościami narodowymi. Warszawa, 2003, s. 107). Пар. таксама рэц. гэтай працы: M. Jabłonowski // «Przegląd Wschodni», 2005/2006, tom. IX, z. 3, s. 740.

39 Pukszto A. Między społecznością a partykularyzmem. Wielonarodowościowe społeczeństwo Wilna w latach 1915–1920. Toruń, 2006, s. 22.

40 Усяго некалькі гадоў таму высветлена аўтарства Універсала, што таксама пацвярджае сувязі Канфедэрацыі з масонскімі і «краёвымі» коламі Вільні. Я не ведаў аўтараў, калі раней пісаў пра Універсал, адносячы яго да напрамку, прадстаўленага Міхалам Ромэрам (Bardach J. Krajowcy, federaliści, inkorporacjoniści…, s. 266–267). Толькі літоўскі гісторык Чэслававас Лаўрынавічус (як прыгадаў Рымантас Мікніс у 1996 г., а потым у цытаванай вышэй працы А. Пукшто) высветліў, што яго аўтарамі былі: паляк і сябра ППС Аляксандр Заштаўт, літоўцы – Аўгусцінас Янулайціс, Юргіс Шаўлюс і Ёнас Вілейшыс, беларусы – Дамінік Сямашка, Вацлаў Ластоўскі, Антон і Іван Луцкевічы, габрэі – Шымон Розэнбаўм і Цэмах Шабад (Pukszto A. Między społecznością a partykularyzmem…, s. 23–24, заўвага 19). *Заўвага рэд: таксама варта адзначыць працы Зеновіуша Панарскага. Гл.: Ponarski Z. Konfederacja Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1916 // «Białoruskie Zeszyty Historyczne», 1998, Nr 10.*

41 На гэта звярнуў увагу ўжо ў 1916 г. Вацлаў Студніцкі (Pukszto A. Między społecznością a partykularyzmem…, s. 23). Ва Універсале мы чытаем, што сябры арганізацыі як прадстаўнікі чатырох згаданых народаў стварылі Канфедэрацыю, «імкнучыся агульнымі сіламі, каб літоўскія і беларускія землі, што калісьці ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага […], у новых гістарычных умовах сталі неразрыўным цэлым на падмурку самастойнасці Літвы і Беларусі ў выглядзе дзяржаўнай адзінкі з гарантыяй паўнаты правоў усім нацыянальнасцям, якія пражываюць на гэтай тэрыторыі». І звярталіся яны да «ўсіх існуючых арганізацый і ўсіх грамадзян краю», незалежна ад іх негатыўнага досведу і здарэнняў, з заклікам далучацца да Канфедэрацыі (тамсама, с. 211. Тэкст Універсала).

42 Аб гэтым другім дакуменце раней ужо згадваў Генрык Віснэр (Wisner H. Wojna nie wojna. Szkice z przeszłości polsko-litewskiej. Warszawa, 1978), што А. Пукшто, на жаль, абмінуў.

ларускай «самастойнай дзяржаўнай адзінкі з соймам у Вільні»[43]. Менавіта ў той час у асяроддзі краёўцаў-дэмакратаў замест ранейшага лозунга аўтаноміі «Паўночна-Заходняга края» з'явілася ідэя незалежнасці гістарычнай Літвы, а значыць, стварэння незалежнай Літоўска-Беларускай дзяржавы. Гэтая дзяржава павінна была мець Канстытуцыю, прынятую «заканадаўчым соймам», абраным шляхам «агульнага, роўнага, прамога і тайнага галасавання», які павінен быў акрэсліць лад гэтай дзяржавы[44].

Таксама толькі яна павінна была вызначыць верагодную форму юрыдычнага ці палітычнага хаўрусу з Польшчай (федэрацыя, канфедэрацыя). Аднак апошняя ўмова нават не для ўсіх краёўцаў-дэмакратаў была абавязковай. Як я заўважыў яшчэ некалькі гадоў таму, менавіта тады «ў асяроддзі віленскіх дэмакратаў пачалі фармавацца адрозненні паміж паслядоўнымі, можна сказаць, артадаксальнымі краёўцамі і федэралістамі, што выступалі за захаванне сувязі з Польшчай, якая спачатку адраджалася ў збройным чыне і палітыцы, а потым – як дзяржава»[45].

Гэты падзел будзе захоўвацца таксама ў адроджанай Польшчы і адновіцца таксама ў дыскусіі пасля Другой сусветнай вайны. Асабліва красамоўнай постаццю быў адзін з даваенных краёўцаў-дэмакратаў[46] Юзаф Мацкевіч. Сярод пасляваенных эміграцыйных пісьменнікаў, звязаных з гістарычнай Літвой, ён лічыўся «найбольш пасвараным з агульнапрынятымі ісцінамі»[47]. «Разбуральнік міфаў і

[43] Pukszto A. Między społecznością a partykularyzmem…, s. 23. Аўтар падкрэсліў, што абодва акты былі выдадзены ў адсутнасць віленскіх краёвых дзеячаў Вітальда Абрамовіча (насамрэч, гаворка павінна ісці пра Людвіка Абрамовіча – заўвага рэд.) і Міхала Ромэра, «найбольш прыхільных ідэі адраджэння Вялікага Княства Літоўскага». Як высветліў А. Пукшто, М. Ромэр раней уступіў у польскія легіёны, а Л. Абрамовіч засяродзіўся на дзейнасці ў Лізе польскай дзяржаўнасці (тамсама, s. 24).

[44] Pukszto A. Między społecznością a partykularyzmem…, s. 212 (тэкст ліста).

[45] Bardach J. Krajowcy, federaliści, inkorporacjoniści…, s. 265.

[46] Zadencka M. W poszukiwaniu utraconej ojczyzny…, s. 156–161. Ю. Мацкевіч яшчэ да вайны, як сцвярджае аўтарка, даказаў ідэйную сувязь з краёўцамі-дэмакратамі ў сваім вядомым *Buncie rojstów* (1938) і пацвердзіў гэта як выдавец «Gazety Codziennej» у занятай літоўцамі Вільні (1939–1940). Ён сам пазней бачыў у гэтым выданні, як лічыць аўтарка, «апошнюю спробу» ажыццяўлення краёвай ідэі (тамсама, s. 57). Іншы даследчык, Ежы Ярузэльскі, пісаў: «Я думаю, што да сапраўдных, але вельмі своеасаблівых краёўцаў належаў да сваёй смерці ў 1985 годзе брат Станіслава Юзаф Мацкевіч» (Jaruzelski J. Stanisław Cat-Mackiewicz (1896–1966). Wilno-Londyn-Warszawa. Warszawa, 1994, s. 121).

[47] Zadencka M. W poszukiwaniu utraconej ojczyzny…, s. 23. Пар. таксама з прыведзенай тут працай Ніны Тэйлар (Taylor N. Józef Mackiewicz w dwu kontekstach: kresowiec i emigrant polityczny // M. Zybura (red.). Nad twórczością Józefa Mackiewicza, Warszawa, 1990, s. 13.

стэрэатыпаў», як гістарычных, так і літаратурных, у асноўным міцкевічаўскага паходжання[48], ён быў крытыкаваны носьбітамі гэтай традыцыі. Непрыхаваная антыпатыя ў адносінах да Мацкевіча (пытанне яго стаўлення да Германіі падчас вайны мы не закранаем) была выклікана ягонай крытыкай федэральнай канцэпцыі, што праявілася, як высветліла М. Задэнцка, у падкрэсліванні «адрозненняў паміж ідэяй краёвасці і ягелонскай ідэяй, іх гістарычным ажыццяўленнем ці стратэгіямі». Абедзве гэтыя ідэі атаясамляліся (памылкова, як ужо адзначалася, і на што звярнула ўвагу цытаваная аўтарка) у сувязі з іх пазітыўным стаўленнем да «маладых народаў Вялікага Княства»[49].

У сваю чаргу, іншую эвалюцыю прайшоў кансерватар і манархіст, родны брат Юзафа Станіслаў Цат-Мацкевіч, вядомы рэдактар віленскага *Słowa* – часопіса, які папулярызаваў у міжваеннай Польшчы «імперскую і прадзяржаўную ідэалогію»[50]. Цат-Мацкевіч, як пісаў ягоны біёграф, прапанаваў «нібыта прамежкавы варыянт паміж ідэямі анексіі і федэрацыі [...], камуфляваў сваю гарачую непрыязь да літоўскіх і польскіх нацыяналістаў. Пры гэтым, наколькі атрымлівалася, пазбягаў ідэй краёўцаў»[51]. Яшчэ раней, усведамляючы справу *contre coeur*, як падкрэсліў той жа біёграф, ён назваў «ягелонскую ідэю [...] марай»[52].

Пры гэтым Цат-Мацкевіч меў блізкую краёўцам свядомасць. Менавіта таму, калі ён памёр у Польшчы ў 1966 г., у развітальнай прамове на яго магіле іншы польскі пісьменнік Павел Ясяніца (Леан Лех Бейнар) мог упэўнена заявіць: «Польскі пісьменнік [...] і штосьці большае. Ён сам сябе акрэсліў словамі: «Я нарадзіўся палякам, літоўскім шляхціцам, і любові да Вільні ніхто з майго сэрца не вырве». Гэта быў маральны спадкаемца Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай абодвух народаў, першай у гісторыі краіны шматлікіх народаў»[53].

---

48 Zadencka M. W poszukiwaniu utraconej ojczyzny..., s. 168–169. Падобным чынам выглядала справа з яго адносна пазітыўным стаўленнем да расійскасці (ужо не да Расіі або тым больш не да Савецкага Саюза) (тамсама, s. 71).

49 Ю. Мацкевіч пісаў пра федэратыўную канцэпцыю, што яна была «занадта фасадная ў сваіх лозунгах братэрства ўсіх народаў Вялікага Княства і малаэфектыўная» (Цытата па: Zadencka M. W poszukiwaniu utraconej ojczyzny..., s. 163). Гл. таксама: D. Szpoper. Sukcesorzy Wielkiego Księstwa..., s. 217 і далей.

50 Szpoper D. Sukcesorzy Wielkiego Księstwa..., s. 156.

51 Jaruzelski J. Stanisław Cat-Mackiewicz (1896–1966)..., s. 121.

52 Тамсама.

53 Далей прамоўца заявіў: «Сапраўдныя спадкаемцы гэтай традыцыі ўстойлівыя ў непрыняцці ксенафобіі, варожасці ў адносінах да народаў, з якімі нам па волі лёсу даводзіцца быць суседзямі па мяжы або па кантыненце. Вялікае Княства Літоўскае і

Ім быў і сам Павел Ясяніца. Найноўшае таму пацвярджэнне – успамін ягонай дачкі Эве Бейнар-Чачот, якая ў апублікаванай у 2006 г. кніжцы прыгадвала: «На падараваным мне 16 кастрычніка 1963 г. экзэмпляры *Польшчы Ягелонаў* тата напісаў: «Эва! Ніколі не забывай, што ты з Вільні і што твой прашчур падпісваў акт Гарадзельскай уніі з літоўскага боку»[54].

Абодва выказванні Ясяніцы, здаецца, заслугоўваюць увагі, у тым ліку з-за прыхаванага ў іх адметнага гістарычнага акцэнту. У першым меркаванні згадка пра Рэч Паспалітую абодвух народаў прымусіла прыгадаць Люблінскую унію, а ў другім відавочную перавагу атрымала ранейшая унія. Тут адразу ж прыходзіць у галаву асацыяцыя з пастулатам Баляслава Ліманоўскага (1915) пра заключэнне новай уніі на ўзор Гарадзельскай. Некалькі гадоў таму, каментуючы гэты факт, я напісаў, што спасылка на апошнюю, якая мела форму «нашмат больш свабоднага хаўруса, чым Люблінская ўнія, хутчэй за ўсё, была невыпадковай. У сувязі з развіццём нацыянальных рухаў у Літве і Беларусі яна адлюстравала тэндэнцыю, каб форма хаўрусу не абмяжоўвала суверэннасць гэтых народаў і не супярэчыла памкненням часткі дэмакратычных літоўскіх колаў падтрымаць хаўрус з Польшчай, адноўленай як краіна ў яе этнаграфічных межах»[55].

Пра гэтую розніцу варта памятаць таксама пры аналізе поглядаў ды меркаванняў краёўцаў.

Пакінем пытанні палітычнай эвалюцыі і розніцы поглядаў сярод краёўцаў, прымаючы за трывалую і істотную адметнасць іх пазіцыі краёвы патрыятызм, а таксама своеасаблівую нацыянальную свядомасць і антынацыяналізм. Падобныя каштоўнасці нават на пачатку XXI ст. набліжалі да краёўцаў некаторых прадстаўнікоў інтэлігенцыі, якія не належалі да гэтай ідэйнай плыні. Тут можна прывесці шмат прыкладаў, але спынімся на найбольш значных.

Немагчыма не згадаць стваральніка і рэдактара парыжскай *Культуры* Ежы Гедройца, народжанага ў Беларусі нашчадка старажытнага княжацкага літоўскага роду, паланізаванага ўжо ў XVI ст. Ежы Гедройц, як падкрэсліў даследчык ягонай эпісталярнай творчасці, «любіў згадваць, што яго нацыянальная тоеснасць вытканая са шматлікіх матываў, што ён сам – нашчадак некалькіх культур. Гэта гарманічна спалучалася з яго палітычнымі поглядамі, бо лёс Польшчы ён бачыў у непарыўнай сувязі з лёсам народаў Усходняй Еўропы»[56].

Рэч Паспалітая абодвух народаў не існуюць у палітыцы, іх няма на мапе. Яны жывуць у іншым вымярэнні – у польскай літаратуры» (Beynar-Czeczott E. Mój ojciec. Paweł Jasienica. Warszawa, 2006, s. 119).

[54] Beynar-Czeczott E. Mój ojciec. Paweł Jasienica, s. 19.

[55] Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie; s. 118.

[56] Kowalczuk A. Od Bukaresztu do Lafitów. Jerzego Giedroycia Rzeczpospolita epistolarna. Sejny, 2006, s. 199. Канцэпцыю развівалі на старонках *Kultury,* рэдакцыя якой ужо

Аднак ягоны літоўскі радавод займаў у гэтай шматузроўневай, калі так можна сказаць, свядомасці адметнае месца. Ужо пасля смерці рэдактара яго далёкі сваяк Міхал Гедройц[57] адзначыў: «У яго былі літоўскі карані, і ён цалкам гэта ўсведамляў [...]. Насамрэч, лічыў сябе паланізаваным літоўцам, літоўцам [у разуменні *Gente Lituanus natione Polonus*]. Так ён казаў мне перад смерцю»[58].

Ягонае прыняцце вядомай формулы абгрунтоўваў і, як здаецца, узмацняў факт непрыняцця Ежы Гедройцам польскага ордэна Белага арла, хоць літоўскі ордэн Гедыміна ён прыняў. Аднак ён успрымаў гэтую формулу ва ўніверсальных катэгорыях[59]. Фактычна гэта азначала пэўнае, у лепшым выпадку ідэйнае (бо ўжо не палітычнае), супадзенне з пазіцыямі некаторых краёўцаў і блізкіх ім дэмакратычных колаў. Гэты факт можа ўспрымацца і як адпаведны згаданаму калісьці Цэзарыяй Бадуэн дэ Куртэнэ выказванню прафесара Універсітэта Стэфана Баторыя (сёння мы ведаем, што, хутчэй за ўсё, гэта быў Віктар Сукенніцкі), якое датуецца прыблізна 1930 г. Гэты прафесар казаў: «Я літоўскі паляк. Беларускія і літоўскія сяляне мне больш блізкія, чым сяляне з-пад Варшавы ці Кракава. Я маю дзяржаўную свядомасць, што звязвае мяне з Польшчай, падобную да той, якую, напрыклад, баскійскі люд мае ў дачыненні да Францыі. Іх *nationalité française* адпавядае маёй *nationalite polonaise*»[60].

ў 1953 г. акрэсліла ўласнае бачанне праблемы «ўсходніх земляў»: «Польшча можа вярнуць і захаваць незалежнасць толькі ў межах усёй Еўропы, аб'яднанай на федэратыўных пачатках. Мы ўпэўненыя, што права ўдзелу ў будучым еўрапейскім федэратыўным саюзе маюць не толькі тыя народы, якія мелі незалежныя дзяржавы ў 1939 г., але таксама ўкраінцы і беларусы» (Nota redakcji: Nieporozumienie czy tani patriotyzm? // Wizja Polski na łamach Kultury 1947-1956, do druku przygotował, wstępem, przypisami i indeksem opatrzyła Grażyna Pomian. Lublin, 1999, s. 216). Пар. таксама: Giedroyć J. Autobiografia na cztery ręce, oprac. i posłowiem opatrzył K. Pomian. Warszawa, 1994.

57 Daniłowicz R. Jakiś Giedroyć z Paryża // «Polityka», 2007, Nr 4, s. 80–82. Як там адзначана: М. Гедройц – сын даваеннага сенатара, забітага НКУС у 1941 г., высланы ў Сібір, вязень савецкіх лагераў, салдат Андэрса, а пасля вайны – эмігрант, які пражывае ў Вялікабрытаніі, па адукацыі інжынер, але з часам стаў гісторыкам, працуе ў Оксфардзе, даследчык гісторыі Усходняй Еўропы, асабліва пачаткаў літоўскай дзяржаўнасці.

58 М. Гедройц далей патлумачыў: «Я яго разумеў, бо ўся наша сям'я і я сам перажывалі падобныя дылемы. Мой бацька будаваў міжваенную Польшчу і прысвяціў гэтаму жыццё, але яго родны брат пасяліўся ў Коўне і падтрымаў незалежную Літву» (Цытата па: Daniłowicz R. Jakiś Giedroyć z Paryża ..., s. 82).

59 Пар. заўвага 80.

60 Baudouin de Courtenay C. Grupy etniczne na ziemiach Wielkiego Księstwa Litewskiego i trzy narody // «Alma Mater Vilnensis», t. II. Londyn, 1951, s. 380. Пра прозвішча аўтарка прамаўчала, але, як пісаў Р. Юркоўскі (Ziemiaństwo polskie 1864–1904,

Аналагічны падыход быў характэрны і для Чэслава Мілаша, у свядомасці якога Вялікае Княства Літоўскае, як вядома, займала асаблівае месца[61]. Ён пісаў: «У маёй сям'і быў культ адметнасці накшталт шатландскай, валійскай або брэтонскай. Вялікае Княства Літоўскае было «лепшым», Польшча была «горшаю», бо што б яна рабіла без нас, без нашых каралёў, нашых паэтаў і палітыкаў!»[62] Ствараючы гэткі вобраз, ён, аднак, ставіўся да яго крытычна[63].

Дзве апошнія цытаты, добра вядомыя згаданым мной даследчыкам, дазваляюць яшчэ раз падкрэсліць працяглае існаванне свядомасці, уласцівай шматлікім жыхарам Паўночна-Заходняга края ў часы царскай імперыі[64], а з канца XIX і пачатку XX ст. – асабліва краёўцам.

Прывабнасць блізкіх ім пазіцый, як сведчыць красамоўны прыклад, павінен быў даказаць таксама паляк без зямянскага і без «крэсавага» радаводу. Ім быў Папа Рымскі Ян Павел II, які, паводле даследчыка ягонай творчасці, быў «вялікім прыхільнікам ягелонскай традыцыі Рэчы Паспалітай абодвух наро-

---

s. 95, заўв. 194), гісторык Лешак Заштаўт (аўтар, між іншым, такой важнай пазіцыі ў гістарыяграфіі, як кніга «Kresy 1832–1864. Szkolnictwo na ziemiach litewskich i ruskich dawnej Rzeczypospolitej», Warszawa, 1997) прыпісвае іх Сукенніцкаму. Крыніцай, магчыма, з'яўляецца сямейная традыцыя, бо цётка Л. Заштаўта была жонкай Сукенніцкага (Заўвага рэд.: паводле Яна Юркевіча, гэтыя словы, хутчэй, належалі прафесару М. Здзяхоўскаму. Я. Юркевіч у лісце да рэдактара А. Смаленчука ад 18 мая 2016 г. сцвярджаў: «У Сукенніцкага няма такіх «шляхецкіх» інтанацый. Ён паходзіў з Коўна, яго маці былі фельчарам у ковенскім шпіталі і з цяжкасцю выхоўвала дваіх дзяцей. Апрача таго, ён ніколі не быў фармальным прафесарам УСБ («толькі дацэнтам»). Галоўнай перашкодай для атрымання тытула былі ягоныя погляды, якія кансерватыўнаму асяродку здаваліся занадта «левымі»).

61 Гл., у прыватнасці: Zadencka M. W poszukiwaniu utraconej ojczyzny…, s. 123. Аўтарка вылучае сярод эміграцыйных пісьменнікаў Ч. Мілаша і Ю. Мацкевіча. Таксама гл.: Bardach J. Litewskie dziedzictwo Czesława Miłosza // ён жа. W obiektywie nauki i lustrze pamięci (o uczonych, pisarzach i politykach XIX i XX wieku). Warszawa, 2004, s. 93–194; ён жа. Świadek minionej epoki – Czesław Miłosz a Litwa historyczna // ён жа. O dawnej i niedawnej Litwie, s. 380–398.

62 Miłosz Cz. Rodzinna Europa. Kraków, 2001, s. 111.

63 Ён казаў пра сябе: «Упарты, недаверлівы, сквапны, асцярожны – сапраўдны літовец» (цытата па: Miłosz o Miłoszu // Duży Format – Gazeta Wyborcza – Gazeta Reporterów, nr 32 z 18 sierpnia 2004, спец. выданне, s. 6), каб у іншым месцы заўважыць: «Мог бы назваць сябе літоўцам, але які я літовец, калі пішу па-польску» (тамсама, s. 9). Вяртаючыся з эміграцыі, прызнаваўся: «Адзінае суцяшэнне, што я не вяртаюся ў Вільню. Гэта было б у сто разоў больш складана. Мая сувязь з Польшчай – гэта перадусім сувязь мовы, а не ўспаміны дзяцінства, школьных ці ўніверсітэцкіх гадоў» (тамсама, s. 10).

64 Гл. заўвагі 17–19.

даў» як у сваёй ранняй паэзіі, так і ў апошнім творы «Памяць і тоеснасць» (*Pamięć i tożsamość*)[65].

Асабліва красамоўным быў побыт Папы Рымскага ў Вільні ў 1993 г. з ягоным небясспрэчным для мясцовых палякаў зваротам «да літоўцаў польскага паходжання». Гаворачы гэта, як тлумачыў даследчык, Ян Павел II звяртаўся «да міцкевічаўскага разумення гэтага паняцця, працягваў традыцыі краёўцаў, выкарыстоўваў формулу грамадзянскай свядомасці. На жаль, традыцыя, да якой ён звярнуўся, не была пачутая ў Вільні, бо ўжо не было асобаў, якія б прытрымліваліся такой версіі польска-літоўскай супольнасці. Ян Павел II выкарыстаў анахранічную формулу, чужую для яго польскіх і літоўскіх слухачоў»[66].

Праўда, яна ўсё яшчэ гучыць у свядомасці палякаў малодшых пакаленняў, якія атрымлівалі адукацыю ўжо пасля Другой сусветнай вайны. Гэта даказалі ў студзені 1991 г. маладыя польскія паэты. У сувязі з крывавай інтэрвенцыяй савецкіх войскаў у Літве трое з іх, жыхары аддеглых ад Літвы гарадоў Тадэвуш Кіёнка з Катавіцаў, Цэзары Міцкевіч з Вроцлава і Чэслаў Сэнюх з Варшавы, незалежна адзін ад аднаго, выказалі салідарнасць з літоўскім народам, ізноў адкрылі ёмістасць Міцкевічавага звароту да Літвы. Першы з іх пачынаў свой верш словамі, падобнымі на пачатак літоўскага гімна (*«Lietuva, Tėvynė mūsų»* – «Літва, Айчына наша…»): *«Lietuva, Tėvynė mano»* («Літва, мая Айчына – кроў твая святая», і завяршаў: «Літва з каменным тварам і смяротнай ранай/ <u>Супольная Айчына</u>» (падкрэсліванне маё – Ю. Б.) – *«Lietuva, Tėvynė mano…»*[67]. Спачуванне перасягнула дзяржаўныя межы, набываючы глыбокі гуманістычны сэнс. Але яно перасягнула

---

[65] Павел Стаховяк у цікавым дадатковым матэрыяле прыгадаў варты ўвагі фрагмент цытаванай працы Папы Рымскага: «Польскасць эпохі Ягелонаў дазволіла стварыць Рэч Паспалітую многіх народаў, многіх культур, многіх рэлігій. Усе палякі насілі ў сабе гэтую рэлігійную і нацыянальную разнастайнасць. […] Такім чынам, польскасць – гэта найперш шырыня і плюралізм, а не вузкасць і закрытасць. Аднак здаецца, што ў нашыя часы гэтае ягелонскае вымярэнне перастала быць нечым натуральным» (Ян Павел II, 2005, s. 92. Цытата па: Stachowiak P. Litwa z nauczaniu Jana Pawła II // M. Kosman (red.). Kultura polityczna w Polsce, t. VI, cz. 2: Litwa w polskiej tradycji i kulturze politycznej. Poznań, 2008, s. 196).

[66] Тамсама, s. 196–197. Папа Рымскі казаў у сталіцы Літвы: «Я ніколі ў жыцці не быў у Вільні. Я тут упершыню. У той жа час можна сказаць, што ўсё сваё жыццё, прынамсі ад моманту ягонага ўсведамлення, я заўсёды быў у Вільні. Я быў у Вільні думкамі і сэрцам. Можна сказаць, быў усёй маёй існасцю, прынамсі ў нейкім адметным яе вымярэнні. І гэта засталося са мною і ў Рыме, можа, нават узмацнілася».

[67] Цытата па: Podgórski W. Litwa – Polska XIX i XX wieku – inspiracje literackie, kulturalne, oświatowe: wybór esejów. Warszawa, 1994, s. 158–161.

таксама межы ўласна польскага патрыятызму аўтара, яднаючы яго, няхай сімвалічна, з колішнімі краёўцамі.

Выразнае адчуванне сувязі з былым Вялікім Княствам Літоўскім у палякаў, выхаваных пасля Другой сусветнай вайны, можна сустрэць і па-за літаратурнымі коламі. Праўда, часцей за ўсё гэта тлумачыцца «літоўскім» радаводам. Прафесійны гісторык культуры і даследчык ідэі, юрыст па адукацыі Ян Прушыньскі ў рэцэнзіі (2006) кнігі іншага даследчыка пісаў: «Названыя *заходнія губерні Расійскай імперыі* застануцца маёй роднай зямлёй, блізкай мне насуперак палітычным пераменам, што цалкам адпавядае гістарычнай свядомасці і шматлікім (сямейным – Ю. Б.) аповедам [...]. Я ўсведамляю, што гэтыя землі – гэта [...] не нейкія там *Крэсы*, ускраіна, шматок, *Ultima Thule* польскасці, а свет шматлікіх пакаленняў палякаў, якія пазначылі сваю прысутнасць у культуры, літаратуры і мастацтве [...]»[68]. Інтэлектуальная адлегласць аўтара не здолела схаваць трываласць яго «краёвага» патрыятызму.

Яшчэ больш выразны прыклад паказаў у лістападзе 2006 года цяперашні спікер сейма Польшчы Браніслаў Камароўскі, народжаны ў 1952 г. у Шлёнску, нашчадак зямянскай сям'і, што стагоддзі таму пасялілася ў Ковенскай Літве. У размове з вядомай журналісткай Тэрэсай Тараньскай (якая таксама прыгадвае свой «крэсавы»[69] радавод) Камароўскі згадаў свайго бацьку (памерлага ўжо ў сучаснай Польшчы): «Тата лічыў, што ён – літовец, я – літовец, мы ўсе з Літвы – адначасова палякі і літоўцы, бо *Літва – бацькоўскі край*. Там, казаў ён, жывуць вашыя браты. А літоўцы-нацыяналісты былі яго ворагамі,

---

68 Pruszyński J. (рэц. працы Szpoper D. Pomiędzy caratem a snem o Rzeczypospolitej, Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich w guberniach zachodnich Cesarstwa Rosyjskiego w latach 1855–1862. Gdańsk, 2003 // «Przegląd Wschodni», t. IX, z. 3. Warszawa, 2006, s. 237).

69 Аўтар гэтых разважанняў усведамляе ўмоўнасць паняцця «крэсы», якое ўжываецца ў навуцы як пэўнае інтэлектуальнае спрашчэнне. Яго варта браць у двукоссі таксама як ягоны сінонім «усходнія землі Рэчы Паспалітай», ужываючы пры гэтым прыметнік «былыя» або «колішнія», каб падкрэсліць крытычнае стаўленне да пэўнага «прысваення» гэтых тэрыторый сацыяльнай памяццю, звязанага з відавочным і крытыкаваным даследчыкамі палонацэнтрызмам (гл. між іншым: Bujnicki T. Litwa między Wielkim Księstwem a kresami. Powieści historyczne Kraszewskiego na tle dziewiętnastowiecznych wyobrażeń o litewskiej przeszłości // M. Kosman (red.). Kultura polityczna w Polsce, t. VI, cz. 1: Litwa w polskiej tradycji i kulturze politycznej. Poznań, 2008). Гэтыя паняцці, рэанімаваныя ў польскай сацыяльнай свядомасці, чужыя і нават варожыя народам, якія насяляюць згаданыя абшары, адначасна de facto супярэчаць традыцыям (іншая справа, наколькі гістарычна адэкватным) шматнацыянальнай і шматкультурнай Рэчы Паспалітай абодвух народаў, а ў ёй – традыцыям Вялікага Княства Літоўскага.

якія намагаліся перакрэсліць Рэч Паспалітую розных народаў, ідэю Вялікага Княства Літоўскага і прыбраць з палітычнай думкі паняцце Цэнтральнай і Усходняй Еўропы як супольнасці братэрскіх народаў».

Калі дадаць раней падкрэслены сынам антысаветызм бацькі, які дапускаў у марах магчымасць «вярнуць нашу любімую Вільню» нават «на танку», але пры гэтым выразна супрацьстаяў «антылітоўскасці»[70], то гэтую пазіцыю можна назваць блізкай традыцыяналісцкаму патрыятызму краёўцаў. Ад гэтай традыцыі Браніслаў Камароўскі адмовіўся не да канца, хоць, як ён успамінаў, пасля наведвання роднай старонкі ў Літве напрыканцы 1980-х гг. ён дакараў бацьку за выхаванне ў «хворым міфе»[71].

Аднак гэты міф, сфармаваны, як вядома, у польскай мастацкай і мемуарнай літаратуры, працягвае жыць як у эміграцыі, так і ў Польшчы. Як адзначалася вышэй, абедзве гэтыя літаратуры не былі пазбаўленыя дастаткова сур'ёзных разыходжанняў, што ў навуцы і ў публіцыстыцы абярнулася дыскусіяй вакол праблемы іх адзінства[72]. Не спыняючыся на гэтым, неабходна падкрэсліць, што абедзве літаратуры грунтаваліся на адной і той жа традыцыі былой Рэчы Паспалітай, іх спалучала апісанне свету ў падобных уяўных катэгорыях, а значыць, у супольных міфах ці стэрэатыпах, архаічных сімвалах, але таксама пачуццях, перажываннях і эмоцыях.

Іх вяртанне ў грамадскую памяць тлумачыла вельмі ўдалае пераўтварэнне літаратуразнаўцам Станіславам Ульяшам назвы «літоўскага Краю» ў «Вялікае Княства Літаратурнае»[73]. Даследчыцу Ніну Тэйлар (Тэрлецкую) гэта падштурхнула да канстатацыі, што ў эміграцыйнай літаратуры фактычна вялася гаворка пра напісанне «адной Вялікай кнігі»[74] на тэму былога Вялікага Княства Літоўскага, то бок «*locus amoenus* польскай літаратуры»[75]. Свой унёсак у гэтую справу зрабілі і краёўцы.

---

70 Torańska T. Rozmowy o dobrych uczuciach. Warszawa, 2007, s. 215.

71 Ён пераканаўча растлумачыў: «Адна справа – захаванне традыцыі, а цалкам іншая – функцыянаванне ў міфах, нават найбольш захапляльных. Дзіця павінна жыць у рэальным свеце, і ўспаміны павінны быць уласнымі, не чужымі» (Torańska T. Rozmowy o dobrych uczuciach, s. 216–217).

72 Zadencka M. W poszukiwaniu utraconej ojczyzny…, s. 15.

73 На гэта звярнуў увагу Тадэвуш Буйніцкі (Bujnicki T. Litwa między Wielkim Księstwem a kresami…, s. 86), які прыгадаў працу С. Ульяша (Uliasz S. Kategoria biografii symbolicznych a problemy syntezy literatury pogranicza kultur // Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego. Lublin, 2005).

74 На гэта звярнула ўвагу М. Задэнцка. Гл.: Zadencka M. W poszukiwaniu utraconej ojczyzny..., s. 27–28.

75 Bujnicki T. Litwa między Wielkim Księstwem a kresami..., s. 86.

Безумоўна, абгрунтаванай можна лічыць крытыку ідэалізацыі мінулага, сфармуляваную не толькі літаратуразнаўцамі, але таксама шматлікімі гісторыкамі, у тым ліку і тымі, якія абапіраліся на сацыялогію[76]. І адна з асноўных крыніц гэтай ідэалізацыі і міфатворчасці бачная ў парадыгме рамантычна-сімвалічнай культуры. Дамінуючы ўжо дзвесце гадоў, як сцвярджае Марыя Яньён у *Размове напрыканцы тысячагоддзя*, яна «вельмі цесна звязаная з існуючым тыпам грамадскіх паводзінаў і ў той жа час – з дзейнасцю ў рамках міфа»[77]. Але таксама, яшчэ раз спаслаўшыся на даследчыцу, мы павінны памятаць, што «ўяўнае жыццё [...] з'яўляецца такім жа важным, як рэальнае»[78]. Падкрэсліваючы неабходнасць даследавання абедзвюх сфер[79], трэба згадзіцца з Лешкам Калакоўскім, які трохі ў іншым кантэксце сцвярджаў: «Не трэба даказваць, што нацыянальнай свядомасці патрэбна гістарычная памяць. З улікам гэтага не істотна, што ў гэтай памяці з'яўляецца праўдай, паўпраўдай, а што – звычайнай легендай»[80].

Абодва дыягназы пацвярджаюцца сучаснымі грамадскімі паводзінамі і ідэйна-палітычнымі інтэрпрэтацыямі. Менавіта гэтыя «фантазіі» ў

---

76 Гл. між іншым: Beauvois D. Trójkąt ukraiński. Szlachta, carat i lud na Wołyniu, Podolu i Kijowszczyźnie. 1793–1914. Lublin, 2005, s. 17, 49–50, дзе аўтар трапна, што варта падкрэсліць, крытыкаваў частую ідэалізацыю мінулага Рэчы Паспалітай, пашырэнне звязаных з ёй міфаў у гістарычных працах і літаратурных вобразах, асабліва тых, што выйшлі з друку пасля 1989 г.

77 Janion M. Do Europy tak, ale razem z naszymi umarłymi. Warszawa, 2000, s. 246.

78 Тамсама, s. 71.

79 Пар., у прыватнасці: Barszczewska-Krupa A. (red.) Historia, mity, interpretację. Łódź, 1996. Тут варта прыгадаць, што «на абшары традыцыйнай гістарыяграфіі ўзаемаадносіны паміж гісторыяй і міфам уяўляліся надзвычай проста. Гісторыя трактавалася як інфармацыя пра гістарычныя падзеі, якая грунтавалася на праўдзе, яе лічылі антытэзай міфа, які трактаваўся як неадпаведнае праўдзе паведамленне пра падзеі мінулага» (Barszczewska-Krupa A., Grabski A. Słowo wstępne // тамсама, s. 3).

80 І дадаваў: «Справа толькі ў тым, што аніводны народ не можа існаваць, не ўсведамляючы, што ягонае сённяшняе жыццё ёсць працягам мінулага» (Kołakowski L. Moje słuszne poglądy na wszystko. Kraków, 2000, s. 162). У сваёй класічнай працы ён жа сцвярджаў: «Пачуццё кантынуацыі традыцыі можа, але не павінна спрыяць міфічнай свядомасці. У трываласці міфаў і ў інерцыі кансерватызму заўсёды ёсць пэўная рацыя, якую важна выявіць. Каштоўнасці перадаюцца толькі праз сацыяльную спадчыну, а г. зн. дзякуючы аўтарытэту традыцыі. Атрыманне ў спадчыну міфаў з'яўляецца атрыманнем каштоўнасцяў, якія гэты міф перадае» (Kołakowski L. Obecność mitu. Warszawa, b. d., s. 21–22). Варта таксама прывесці заўвагу Анджэя Валіцкага, які пісаў: «Я не веру ў пазбаўленне ад міфаў, але ведаю (падкрэслена аўтарам), што не ўсё роўна, якім міфам мы падпарадкоўваемся. P.S. Ці не тое ж самае пісаў пазней Калакоўскі ў сваёй *Obecności mitu*?» (Walicki A. Zniewolony umysł po latach. Warszawa, 1993, s. 42).

значнай ступені напаўнялі і напаўняюць жыццём польскі «ваяўнічы» нацыяналізм у пэўных колах[81]. У недалёкім мінулым асабліва красамоўным прыкладам сталі абставіны, якія спадарожнічалі важным падзеям у жыцці Чэслава Мілаша напярэдадні і пасля ягонага вяртання ў Польшчу[82]. А асабліва – абставінам яго пахавання. Скандал вакол хаўтур паэта з надзвычайнай сілай пацвердзіў трываласць даваенных поглядаў і пазіцый, якія аднавіліся з дапамогай, паводле вядомага вызначэння самога Чэслава Мілаша, *anima naturaliter endeciana*[83]. Падобна, што змаганне краёўцаў і блізкіх ім дэмакратаў супраць нацыяналізму адгукнулася рэхам мінулага.

Але цяжка спрачацца і з тым, што «фантазіі», «паўпраўда» і «легенды» часам сур'ёзна праяўляліся таксама ў поглядах і дзеяннях краёўцаў.

---

81 Гл., у прыватнасці: Sobczak J. Traktat między Rzeczpospolitą Polską a Republiką Litewską o przyjaznych stosunkach i dobrosąsiedzkiej współpracy // Kultura polityczna w Polsce, t. VI, cz. 2: Litwa w polskiej tradycji i kulturze politycznej, s. 240; Tokarska-Bakir J. Śrubka w polskiej wyobraźni // «Gazeta wyborcza», 2007, 17/18 marca 2007, s. 20–21. Таксама: апошнім часам адбываюцца дыскусіі ў сродках масавай інфармацыі і падчас публічных сустрэч на тэму кнігі Яна Т. Grossa Strach. Antysemityzm w Polsce tuż po wojnie. Historia moralnej zapaści. Kraków, 2008. Пар. таксама: Chodakiewicz J. Po zagładzie. Stosunki polsko-żydowskie 1944–1947. Warszawa, 2008.

82 У лісце да Ежы Гедройца ад 15 студзеня 1981 г. Ч. Мілаш у сувязі з атмасферай, якая панавала вакол яго пасля атрымання Нобелеўскай прэміі і перад атрыманнем ступені *doktor honoris causa* Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта, пісаў перасцерагальна «пра вялікую і прынцыповую змену, якая адбываецца ў Польшчы і заключаецца ў тым, што Польшча становіцца тым, чым заўсёды была па сваёй сутнасці, а менавіта: адным вялікім нацыянальным арганізмам, у каторым Народ знаходзіцца на алтары, з Божай Маці ў якасці дапаможнага боства, якое служыць Народу. Вось так і атрымаўся трыумф Дмоўскага». Адначасова ён падкрэсліў: «Я сапраўды не падыходжу на ролю натхняльніка польскага нацыяналізму». Ежы Гедройц, адказваючы паэту 27 студзеня таго ж года, раіў, каб Мілаш апублікаваў артыкул у часопісе *Kultura*. Ён прасіў, каб паэт удакладніў сваю пазіцыю, што, «лічачы сябе польскім паэтам, адчуваючы з гэтага гонар, Ты ніколі не замыкаўся ў вузканацыянальнай праблематыцы, што Твая творчасць, зацікаўленні і г. д. маюць універсальны характар [ ... ], што Твае карані, аднак, у Літве і Беларусі, што Сваю польскасць Ты ўспрымаеш у сэнсе колішняй Рэчы Паспалітай, а не нацыяналістычна» (Гл.: Co Giedroyć radził Miłoszowi // «Gazeta Wyborcza». 2005, 14 września, s. 19).

83 У размове з Томасам Венцлавам ён казаў: «Літоўцы ў 1918–1939 гг. не любілі ўсяго таго, што ў Польшчы было мне блізкае: краёўцаў, федэратыўных мараў, рэгіяналізму, масонаў, лібералаў, якія некалі пайшлі за Пілсудскім. Здаецца, яны лічылі лепшым *anima naturaliter endeciana*, бо тады, прынамсі, выразней бачна ворага» (Miłosz Cz., Venclova T. Dialog o Wilnie // «Kultura». 1979, Nr 1-2, s. 13). Гл. таксама: Aleksandravičius E., Kulakauskas A. Pod władzą carów..., s. 92; Bardach J. O świadomości narodowej Polaków na Litwie i Białorusi w XIX i XX wieku; ён жа: O dawnej i niedawnej Litwie, s. 238.

Яны ж і надалей у рэальным грамадскім жыцці выклікаюць зацікаўленне, прыводзячы нават да спробаў адраджэння кансерватыўнай думкі нашчадкаў Вялікага Княства Літоўскага, спалучаных са згадваннем іх дзейнасці[84]. Ад паспешлівай ацэнкі і адмаўлення ад іх нас павінна засцерагчы глыбокая думка Ежы Шацкага: «Гледзячы на кансерватызм праз прызму аўтарытарнага правага руху XX ст., мы часта схільныя забываць, у якой вялікай ступені ён быў абаронцам вольнасці і плюралізму, а таксама апалогіяй малых груп, у якіх найбольш яскрава праяўляецца грамадская прырода чалавека»[85].

У гэтым кантэксце ў краёвым патрыятызме і некаторых яго ідэйных інтэрпрэтацыях мы можам заўважыць больш глыбокі сэнс[86]. Маю на ўвазе захаванне і перадачу пэўных каштоўнасцей у якасці спадчыны. Але з агаворкай – следам за Лешкам Калакоўскім, – што гэтыя каштоўнасці з'яўляюцца толькі ўказальнікамі і не павінны ўспрымацца як інфармацыя аб рэальных грамадскіх ці псіхалагічных фактах[87]. Перадусім гаворка ідзе пра ідэю салідарнасці і супрацы паміж народамі і талерантнасці паміж веравызнаннямі. А таксама пра пагрозу гэтай пазіцыі з боку іншага патрыятызму, ад якога яшчэ ў 1864 г. засцерагаў іншы вялікі польскі паэт Каміль Цыпрыян Норвід, калі пісаў: «Хто патрыятызм заменіць на выключна-

84 Пішучы пра спробу адраджэння кансерватыўнай думкі і руху, які ў яго версіі абапіраўся на колішнюю традыцыйную плынь краёўцаў, даследчык заўважыў, што, «можа, толькі ў інтэлектуальным асяроддзі, больш дыскусійным, чым асяроддзе тых, хто займаецца палітычнай практыкай, знайшлося б сёння месца для рэнесансу думак Станіслава Цата-Мацкевіча і Мар'яна Здзяхоўскага для згадкі аб дзейнасці кансерватараў-краёўцаў, спадчыннікаў Вялікага Княства Літоўскага» (Szpoper D. Spadkobiercy WKL…, s. 321 і далей). Пар. таксама: Janion M. Do Europy tak…; s. 57 і далей (у кантэксце працы М. Здзяхоўскага: Zdziachowski M. Pesymizm, romantyzm i podstawy chrześcjaństwa).

85 Так пісаў пра Е. Шацкага Ян Станіслаў Вайцяхоўскі (Wojciechowski J. Kręgi tożsamości czyli artysta jako polityk // T. Kostyrko, T. Zgółka (red.). Kultura wobec kręgów tożsamości. Materiały konferencji przedkongresowej. Poznań 19–21 października 2000 r. Poznań-Wrocław, s. 107).

86 Трапна пісаў таксама даследчык пазітывізму ў Літве ў 2003 г.: «XX стагоддзе стала, як мы добра ведаем, стагоддзем нацыяналізму і таталітарызму. Тым больш важнае значэнне мае сёння, на парозе чарговага стагоддзя (і тысячагоддзя), памяць пра апошнія гады той рамантычна-пазітывісцкай супольнасці, з яе радаводам яшчэ да падзелаў Рэчы Паспалітай […]. І ў нас ёсць шанс зразумець, што на працягу апошніх ста гадоў здарылася з нашай уласнай супольнасцю – апошнімі рэшткамі *Commonwealth* да падзелаў» (Romanowski A. Pozytywizm na Litwie…, s. 454).

87 Kołakowski L. Obecność mitu, s. 45.

сць [ ... ], той абавязкова ператворыць Бацькаўшчыну ў секту і скончыць фанатызмам»[88].

Гэты апошні, часам набываючы аблічча (варта згадаць заўвагі і характарыстыку Барбары Скаргі) «гераічнага патрыятызму», супрацьстаяў і супрацьстаіць прыгожаму і натуральнаму «настальгічнаму» патрыятызму[89]. «Настальгічны» патрыятызм, на думку даследчыцы, быў характэрны для эмігрантаў, у тым ліку для некаторых стваральнікаў і спадкаемцаў ідэі краёвасці. У часткі з іх, асабліва прадстаўнікоў дэмакратычнай плыні таксама і на Бацькаўшчыне, ён не выключаў і «трэцяга» тыпу, вылучанага Скаргай, – суседскага патрыятызму[90]. У гэтай сістэме каардынат можна лічыць краёвы патрыятызм прататыпам, блізкім самой Барбары Скарзе, якая ўласным радаводам і досведам звязаная з даваеннай Віленшчынай[91].

Прыведзеныя рэфлексіі варта закончыць прапановай трактаваць краёвасць з яе фундаментальным ідэйным падмуркам пераважна ў версіі краёўцаў-дэмакратаў і блізкіх да іх колаў у якасці агульнай прыбытковай вартасці ў гісторыі палітычнай культуры народаў, якія засяляюць землі былога Вялікага Княства Літоўскага і частку Цэнтральна-Усходняй Еўропы[92].

У якасці вартага асаблівай увагі аднаго з гістарычных чыннікаў, якія фармуюць адметнасць гэтых народаў у параўнанні з Захадам, трэба назваць іх

88 Так пісаў Каміль Цыпрыян Норвід у лісце да Уладзіслава Замойскага (цытата па: Romanowski J. Wybór wrażeń. Lublin, 2006, s. 30).

89 Паводле аўтаркі, гэты патрыятызм вызначаўся праз замілаванне да вядомых месцаў і краявідаў, натуральным чынам звязаных з пэўным сацыяльным ладам і парадкам, замацаваным, праўда, згодна з тэндэнцыяй людской памяці, да ідэалізацыі (Skarga B. Obywatel Polski, Obywatel Europy // «Gazeta Wyborcza». 2007, 20/21 października, s. 20–21).

90 Ягонай асновай з'яўляецца, на думку аўтаркі, салідарнасць і супрацоўніцтва суседзяў, у тым ліку этнічна ці рэлігійна розных, у лакальных рамках (дома, мясцовасці, рэгіёна і г. д.), але таксама і ў дзяржаўным маштабе. Таксама трэба дадаць суседскае ўзаемадзеянне на міжнародным узроўні, рэгуляванае сацыяльнымі нормамі, прысутнымі не толькі ў дзейсным заканадаўстве (тамсама).

91 Б. Скарга не так даўно ўспаміналa: «Я таксама пераношу сваю антыэндэцкасць на сённяшнія часы. Асяроддзе, у якое я ўваходзіла, было не толькі левым, але і кансерватыўным, але гэта быў кансерватызм вялікай Польшчы Ягелонаў, Польшчы, адкрытай для чужых, для Еўропы, для розных рэлігій і нацый, Польшчы, што шанавала зямянскія традыцыі, да якіх належала пашырэнне на вёсцы культуры вядзення гаспадаркі і не толькі» («Innego końcu świata nie będzie». Z Barbarą Skargą rozm. Katarzyna Janowska i Piotr Mucharski. Kraków, 2007, s. 86).

92 Трапна заклікаў Януш Тазбір спыніць «падкрэсліванне нашай нацыянальнай мартыралогіі, каб яе месца заняла дэманстрацыя польскага ўнёску ў агульнаеўрапейскую і агульначалавечую культуру» (Tazbir J. Tradycję polskiej emigracji // Polacy na Kremlu i inne historie. Warszawa, 2005, s. 331).

своеасаблівую, выкарыстоўваючы моднае сёння паняцце, «перыферыйнасць». Яна відавочная і ў Еўрапейскай уніі, якая развіваецца з удзелам некаторых з названых народаў. Застаецца актуальным заклік Гедройца і Гамбровіча, адрасаваны да палякаў: «Зрабіце з гэтай перыферыйнасці, з гэтай слабасці – сілу, бо дзякуючы сваёй перыферыйнасці вы можаце сказаць Еўропе тое, чаго Еўропа без вас не ведае»[93].

2008

[93] Заклік прагучаў напрыканцы цікавай дыскусіі на тэму *Po co nam te narody?* («Gazeta Wyborcza – Swiąteczna». 2008, 16–17 lutego, s. 13).

© HOMO HISTORICUS 2019
ISSN 2424-5224

# АНТАНІНА АБРЭМБСКАЯ-ЯБЛОНЬСКАЯ (1901–1994)[1]

***Эльжбета Смулкова,***
*др. габ. (Варшава)*

## *Summary*

An extensive record of the eminent Polish Slavic scholar's academic career, from her time as a student in Warsaw and Cracow, her war-time service and exile after the Warsaw Uprising, her academically and organizationally very active period after World War II, to her passing. Another important element of this biography is the way it shows A. Obrębska-Jablońska's relation with many leading figures in Polish academic and cultural life, manifested in her large preserved correspondence, which is of great importance for not just the history of Slavic Studies.

З прафесарам Антанінай Абрэмбскай-Яблоньскай я пазнаёмілася ў 1956 г., калі была студэнткай прафесара Галіны Турскай на факультэце паланістыкі Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні. Прафесар Яблоньская ў той час шукала супрацоўнікаў для даследавання беларускіх гаворак у паўночна-ўсходняй Польшчы, а я займалася палявымі даследаваннямі для магістарскай працы на тэму рэгіянальнага польскага словазмянення пад уплывам беларускіх гаворак Беласточчыны. Я ўжо наслухалася гэтых гаворак і

[1] Польскамоўная версія артыкула была апублікаваная ў выданнях: Smułkowa Elżbieta, *Moje pogranicza w historii, języku i wspomnieniach,* Warszawa: Instytut Slawistyki PAN, 2016, s. 271–290; Portrety uczonych. Profesorowie Uniwersytetu Warszawskiego po 1945, t. 2; L-R, red. Waldemar Baraniewski. Warszywa, 2016, s. 368–383. Друкуецца з дазволу аўтара артыкула.



*Прафесар Антаніна Абрэмбская-Яблоньская.*

з радасцю прыступіла да арганізаваных даследаванняў. У выніку праз год гэта скончылася маім пераездам у Варшаву на кафедру беларускай філалогіі, створанай праф. Абрэмбскай-Яблоньскай у Варшаўскім універсітэце. Так пачаліся гады супрацоўніцтва, якое паступова ператварылася ў сяброўства да апошняй хвіліны жыцця спадарыні прафесара.

Антаніна Абрэмбская нарадзілася 12 студзеня 1901 г. у Пшчэлнай на Падоллі ў маёнтку Патоцкіх, адміністратарам якога быў яе бацька Антоні. Ён паходзіў з даўняга мазавецкага роду дробных шляхціцаў Абрэмбскіх, якія пасяліліся ў гміне Няхлонін Млаўскага павета. 15-гадовым хлопцам (нарадзіўся ў 1848 г.) Антоні ўдзельнічаў у Студзеньскім паўстанні 1863 г. Быў сувязным і атрымаў раненне. Маці, Марыя з Галайскіх Абрэмбская нарадзілася ў Прылуцы Кіеўскай губ. У яе шматдзетнай сям'і адукацыю атрымлівалі толькі хлопцы. Сваю настаўніцкую адукацыю яна атрымала ўжо пасля смерці мужа, калі скончыла семінарыю для дашкольных выхавальніц, а дакладней «Курсы для вясковых выхавальніц», якія праводзіліся пад эгідай Таварыства дашкольнага выхавання ў Влохах, паблізу Варшавы. Гэтая школа была арганізавана ў 1903 г. у Прушкаве Ядвігай Дзюбінскай і Марыяй Вярыга-Радзівілоўнай. Пазней яе размясцілі ў пасяленні «Марыядвінак», названага ад імёнаў заснавальніц.

«Марыядвінак» насамрэч быў тайнай педагагічнай пляцоўкай, дзе ішло навучанне старэйшых дзяцей, моладзі і дарослых. Тут працавала выдатная група настаўнікаў, сярод іх – Стэфанія Сэмпалоўская і Ірэна Касмоўская. Па-

сля гэтай школы Марыя Абрэмбская працавала настаўніцай і была на дзяржаўнай службе.

На Падоллі, але ўжо ў іншых мясцовасцях, нарадзіліся сястра Антаніны Абрэмбскай – Марыя, пазней Шцібярова (1904–1995), вядомая мастачка і прафесар Акадэміі мастацтва ў Лодзі, а таксама брат Юзаф (1905–1967), этнасацыёлаг з шырокім колам зацікаўленасцяў, у прыватнасці, даследчык Заходняга Палесся. У раннім дзяцінстве Антаніна Абрэмбская жыла некалькі гадоў (імаверна, у 1905–1908) у маёнтку Плянта пад Слонімам. Яна магла ўжо ў той час чуць беларускія гаворкі, даследаванню якіх прысвяціла ў будучыні шмат творчых намаганняў. Разам з беларускімі гаворкамі яна штодня ад няні брата Юзафа чула адну з украінскіх гаворак.

Дзеці рана страцілі бацьку. Пасля невялікага побыту ў брата ў Бердычаўскім павеце маці пераехала з дзецьмі ў Кіеў. Тут у 1908 г. Антаніна Абрэмбская распачала вучобу ў польскай пачатковай школе і працягнула яе ўжо ў 1911 г. у Варшаве, дзе наведвала вядомую школу Ядвігі Кавальчыкуўны. У 1919–1921 гг. Антаніна Абрэмбская вучылася на філасофскім факультэце Варшаўскага ўніверсітэта. Матэрыялы яе студэнцкай тэчкі з архіва ўніверсітэта сведчаць, што яна была прынята на вучобу 16 кастрычніка 1919 г. і запісалася



*Сям'я Абрэмбскіх. Злева направа: Юзаф, Антаніна, маці – Марыя Абрэмбская з Галайскіх, Марыя Абрэмбская-Шцібярова.*

на лекцыі да выкладчыкаў Клэйнера, Катарбінскага, Петражыцкага, Уейскага, Шобэра, Апэла ды іншых.

Варта адзначыць, што ва ўніверсітэцкіх дакументах Антаніны Абрэмбскай ёсць інфармацыя, што, запісваючыся на зімовы семестр 1920–1921 г. на філасофскі факультэт, яна прадставіла «пасведчанне ад вайсковых і санітарных уладаў аб выкананні ваеннай і санітарнай дапамогі». У аўтабіяграфіі, прадстаўленай у Ягелонскі ўніверсітэт, паведаміла, што ў 1920 г. падчас вучобы мела «перапынак, звязаны з нападам бальшавікоў і мабілізацыяй студэнтаў на грамадскія працы»[2].

З 1922 г. вывучэнне мовазнаўства яна паглыбляла ў Ягелонскім універсітэце, галоўным чынам пад кіраўніцтвам праф. Казіміра Ніча. Тамсама ў 1925 г. атрымала ступень доктара філасофіі[3] на падставе працы *Гісторыя мужчынскага роду ў польскай мове (Historia rodzaju męskoosobowego w języku polskim)* і стала асістэнткай на славянскім факультэце (Studium Słowiańskie) Ягелонскага ўніверсітэта. У 1934 г. абараніла доктарскую дысертацыю *Даследаванні славянскіх прыслоўяў. Польскае* dopiero *і роднасныя ўтварэнні (Studia nad słowiańskimi przysłówkami. Polskie* dopiero *i formacje pokrewne).*

Яшчэ перад абаронай дысертацыі Абрэмбская стажыравалася на славістыцы ў Югаславіі (у 1932–1933 гг.). Падчас стажыроўкі ўдзельнічала ў летнім моўным курсе ў Францыі. Варта падкрэсліць, што ў той час жанчына са ступенню доктара была вялікай рэдкасцю. Першая жанчына атрымала доктарскую ступень у Ягелонскім універсітэце ў 1920 г. Да 1939 г. такіх было 15, у тым ліку Антаніна Абрэмбская як адна з дзвюх славістак[4]. Казімір Ніч высока ацэньваў сваю асістэнтку. У артыкуле, які ён напісаў пасля смерці Мечыслава Малецкага (1944), ёсць, напрыклад, такія словы: «На гэтым семінары Малецкі адразу выйшаў на першы план побач з Антанінай Абрэмбскай (потым Яблоньскай), Саламонам Яшынскім (які пад псеўданімам «Юстын» загінуў у Іспаніі як «чырвоны» добраахвотнік), ксяндзом Казімірам Галэмбеўскім. Гэта быў пачатак неўзабаве вялікай групы, арыентаванай на навуку ўжо на студэнцкай лаўцы»[5].

---

2 «У той час працавала ў вайсковым офісе Будаўніча-кватэрнага кіраўніцтва Цэнтральнай управы Міністэрства вайсковых спраў у Варшаве» (Архіў Ягелонскага ўніверсітэта, асабістыя справы А. Абрэмбскай).

3 Гэта была доктарская ступень старога тыпу, якая замяняла магістарскую працу.

4 Perkowska Lidia, *Kariery naukowe kobiet na Uniwersytecie Jagiellońskim w latach 1904-1939, w: Kobieta i kultura. Zbiór studiów,* red. Anna Żarnowska, Andrzej Szwarc, Warszawa: Wydawnictwo DiG, 1996, s. 150–152.

5 Nitsch Kazimierz, *Ze wspomnień językoznawcy,* Kraków: PWN, 1960, s. 325.

Анэля Грушэцка-Ніч у манаграфіі, прысвечанай мужу, назвала Антаніну Абрэмбскую-Яблоньскую яго найлепшай вучаніцай[6]. Паміж настаўнікам і вучаніцай завязалася сардэчнае сяброўства, якое працягвалася ўсё жыццё і ахоплівала дзве сям'і – Нічаў і Яблоньскіх. Пра гэта сведчыць карэспандэнцыя, якая захавалася ў фондзе Казіміра Ніча ў Архіве ПАН і ПАВ у Кракаве.

16 студзеня 1933 г. Антаніна Абрэмбская выйшла замуж за доктара Вітольда Яблоньскага, тагачаснага старшага асістэнта Інстытута ўсходазнаўства Варшаўскага ўніверсітэта (пазнейшага выбітнага сінолага гэтага ўніверсітэта). Гэта прадвызначыла яе вяртанне ў Варшаву, дзе яна выконвала абавязкі асістэнткі на кафедры індаеўрапейскага мовазнаўства Варшаўскага ўніверсітэта да канца 1936 г.

У 1937–1939 гг. даследчыца разам з мужам стажыравалася ў Англіі, Кітаі і Злучаных Штатах Амерыкі. Пасля вяртання ў Варшаву ў 1938 г. выкладала ў Варшаўскім універсітэце курс славянскага мовазнаўства ў індаеўрапейскім кантэксце. У персанальнай справе Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай захавалася працоўная дамова ад 6 снежня 1938 г., «заключаная паміж рэктарам, прафесарам, доктарам Уладзімірам Антоневічам, як працадаўцам, і доктарам Антанінай Яблоньскай, якая з 1 студзеня 1939 г. абязуецца праводзіць 2 гадз. лекцый у ІІ і ІІІ трыместрах». Паведамленні ў асабістых анкетах пра працу ў 1935–1936 гг. у Варшаўскім універсітэце на пасадах асістэнта і дацэнта славянскай філалогіі таксама пацвярджаюцца асабістай дэкларацыяй Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай.

Пра ваенны час у жыцці прафесара Яблоньскай з аўтабіяграфіі, напісанай у часы Польскай Народнай Рэспублікі, даведаемся вельмі мала: «У гады вайны, ад восені 1939 г. да пачатку Варшаўскага паўстання, зарабляла лекцыямі і была служачай гарадскога статыстычнага ўпраўлення на вул. Мядовай, 23, дзе знайшлі працу шэсць прафесараў вышэйшых навучальных устаноў Варшавы і Познані. Перыяд эвакуацыі пасля паўстання ў Варшаве правяла ў Ловіцкім і ў Гузаве пад Жырардавам (у апошнім як настаўніца сярэдняй школы)»[7].

---

6 Gruszecka-Nitschowa Aniela, *Całe życie nad przyrodą mowy polskiej. Kazimierz Nitsch i jego prace,* Kraków: Wydawnictwo literackie, 1977, s. 259.

7 Smułkowa Elżbieta, *Antonina Obrębska-Jabłońska (1901–1994),* «Studia z filologii polskiej i Słowiańskiej» 1996, 33, s. 22. Аўтабіяграфія праф. Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай была напісана ў 1976 г. і апублікавана ў «Studiach z Filologii Polskiej i Słowiańskiej» у 1996 г. у межах вышэйзгаданага некралога.

Не памятаю, каб яна калі-небудзь размаўляла са мною пра той час. Гэта былі вельмі важныя і асабістыя перажыванні, якія не месціліся ў рамках навуковых кантактаў паміж настаўніцай і вучаніцай.

Існуюць дзве пісьмовыя крыніцы, якія дазваляюць пашырыць гэтую лаканічную інфармацыю: лісты з ваеннага часу Абрэмбскай-Яблоньскай да Казіміра Ніча і яго жонкі Анэлі Грушэцкай-Ніч[8] і артыкул Стэфана Навакоўскага «II wojna światowa i jej społeczno-kulturowe odbicie w społeczności socjologicznej»[9].

Успаміны Стэфана Навакоўскага праліваюць святло на гэтую частку багатага жыццяпісу прафесара Абрэмбскай-Яблоньскай. Антаніна і Вітольд Яблоньскія жылі ў час акупацыі на другім паверсе дома з садам на вуліцы Урсыноўскай, 58 у варшаўскім Макатове. Першы паверх займала сям'я брата Антаніны – Юзафа Абрэмбскага. Стэфан Навакоўскі жыў у Абрэмбскіх да Варшаўскага паўстання. Ён апісаў гэты дом як адзін з варшаўскіх цэнтраў руху супраціву. Тут адбываліся палітычныя дэбаты сацыёлагаў і прадстаўнікоў іншых навуковых дысцыплін, месцілася падпольнае выдавецтва, апрацоўвалася інфармацыя для лонданскага ўрада з выкарыстаннем украінскай і беларускай прэсы (трапляецца назва беларускай газеты «Раніца»), якая сюды рэгулярна дастаўлялася.

Тут знайшоў прытулак і падтрымку Казімір Банах, які арганізаваў рух супраціву на Валыні. У гэтым доме аналізавалася інфармацыя пра сітуацыю на тэрыторыях па-за Бугам, абмяркоўваліся праблемы нацыянальных меншасцяў, тут слухалі заходнія радыёстанцыі і дзяліліся навінамі. Таксама знаходзілі прытулак уцекачы, напрыклад, нейкі час жыў адзін з вайсковых камандзіраў (інфармацыя з архіва Абрэмбскіх у ЗША), нараджаліся планы стварэння кааператыва «Społem», між іншым з удзелам бацькі пазнейшага міністра замежных спраў Адама Рапацкага. Пад прыкрыццём кааператыва збіраліся рэчы для Арміі Краёвай. Таксама праводзіліся акцыі па ратаванні жыдоў. Паводле Аляксандра Херца: «Юзаф быў заўсёды вельмі стрыманы ў размове пра сваю адданасць Польшчы. Асабліва не любіў размаўляць пра сваю дзейнасць падчас вайны. Толькі зараз (пасля яго смерці) магу сказаць, што ён вельмі актыўна дапамагаў жыдам. Немалая колькасць жыдоў выжыла дзякуючы Юзафу, які хаваў іх і дапамагаў рознымі спосабамі»[10].

---

8 Archiwum PAN i PAU w Krakowie, sygn. K. III. 51.

9 Nowakowski Stefan, *Sylwetki polskich socjologów,* Warszawa: Instytut Filozofii i Socjologii PAN, 1992.

10 Цытата паводле: Nottingham Elisabeth K., *Jozeph Obrębski 1905–1967,* «The American Sociologist», 1968, Nr 3 (August), s. 257.

Гэты дом быў месцам двух рэгулярных семінараў падпольнага ўніверсітэта. Можа быць, якраз гэтая інфармацыя крылася пад словамі «зарабляла лекцыямі» ў аўтабіяграфіі прафесара Абрэмбскай-Яблоньскай. Складана сабе ўявіць, каб так моцна з'яднаная сям'я, як Антаніна і Юзаф Абрэмбскія, што жылі ў цяжкія ваенныя гады пад адным дахам, не дапамагалі адно аднаму. І калі нават з прычыны канспірацыі нейкая інфармацыя заставалася закрытай, яны напэўна супрацоўнічалі.

У лісце да прафесара Казіміра Ніча ад 19 верасня 1942 г. знаходзім пацвярджэнне яе ўдзелу: «[ ... ] разам з усёй Варшавай перажывалі вялікае нервовае напружанне, амаль да апошніх межаў вычарпання. Навіны, якія даходзяць да нас, непасрэдныя кантакты з людзьмі, што сутыкнуліся з бядой перасяленняў і перамяшчэнняў па розных прычынах (высяленне, налёты), і абавязак актыўнага ўдзел ва ўсім гэтым забіралі ўсе нашы сілы».

Уражвае самаробная (надпісы чорным алоўкам *Postkarte* і *Absender* імітуюць арыгінал) паштоўка, напісаная адразу пасля сыходу з Варшавы: «30. IX. 44 Шаноўнае Спадарства – пішу з пошты ў Прушкаве, каб данесці, што ўсе пяцёра з Маці і Юзямі здаровыя і цэлыя і, шукаючы далейшага *locum*, знаходзімся часова тут. Напішу больш, калі ўсталююцца нашы лёсы і адрас на найбліжэйшыя пару месяцаў. Пакінулі дом, калі ён яшчэ стаяў, але і так, няма сумнення, не будзе куды вяртацца. Цяжка пачынаць жыццё, не маючы нічога. Але ў поўнай меры мы гэта адчуем праз месяц-паўтара. У прафесарскім коле вялікія страты. Сёння Вітольд збіраецца да Антона[?] за іншымі навінамі. Да пабачэння А. А.-Я.».

Пад датай 27 кастрычніка 1944 г. знаходзіцца такая інфармацыя: «Пасля чатырохтыднёвага бежанства (тыдзень у інфекцыйным шпіталі, 10 дзён у Гузаве, тыдзень у Мілануўку, тры дні праездам у Гузаве) завярнулі нарэшце ў Ловіцкі да Яцковіц да брата [Вітольда] Юркі, бо ўсе іншыя спробы знайсці прытулак на гэтую зіму аказаліся няўдалымі з прычыны фізічнага стану Маці».

Але надоўга ў Яцковіцах сям'я не затрымалася. Дом быў перапоўнены прыезджымі. Застаўся толькі праф. Вітольд Яблоньскі. Антаніна разам з маці пасяліліся ў суседняй вёсцы, у сялянскай хаце з іншымі членамі сям'і. Канчаткова сям'я Яблоньскіх пасялілася ў Гузаве пад Жырардавам, дзе знаходзіліся яшчэ пэўны час пасля заканчэння вайны.

Да гэтага часу адносіцца цікавая інфармацыя пра вяртанне імі значнай часткі як прыватнага кнігазбору, так і ўніверсітэцкай бібліятэкі. Вялікая заслуга ў гэтым прафесара Вітольда Яблоньскага: «Мае і Вітольда кнігі, забяспечаныя падчас Новага года ў Нацыянальнай бібліятэцы і вывезеныя ад-

туль немцамі ў Прушкаў, былі ўдала прывезеныя на працягу сакавіка разам з іншымі кнігазборамі ва ўніверсітэцкую бібліятэку. Не ведаю яшчэ, ці яны вельмі знішчаныя і раскамплектаваныя, але ў любым выпадку большасць кніг ацалела. Вітольд увесь час быў вельмі актыўны ў гэтай прушкаўскай акцыі, а паколькі ад святаў не маю ад яго ніякіх звестак, думаю, што поспехам закончылася і ягоная экспедыцыя за польскімі кнігамі ў Гербіц пад Франкфуртам. З якім вынікам вернецца, цяжка сказаць. Гэта зойме некалькі тыдняў. У цяперашні час я знаходжуся ўсё яшчэ ў Гузаве, дзе працую ў гімназіі. Гэта будзе працягвацца з кароткімі наведваннямі Варшавы да ліпеня» (Гузаў, 21 красавіка 1945 г.).

Варта дадаць, што наведванне Варшавы з прычыны адсутнасці даезду з вёскі да Жырардова ці наадварот патрабавала 11-кіламетровай пешай «прагулкі». З далейшай перапіскі вынікае, што праф. Вітольду Яблоньскаму і тэатразнаўцу праф. Багдану Кажэнеўскаму ўдалося вярнуць з Германіі два вагоны вывезеных польскіх кніг.

У дадзенай перапісцы праф. Антаніна Абрэмбская-Яблоньская шмат месца прысвяціла клопатам пра маці, пішучы гэта слова заўсёды з вялікай літары. Варта, хоць коратка, звярнуць увагу на тую моцную сувязь, якая злучала брата і сястру Абрэмбскіх паміж сабою і з маці.

Бацька пакінуў іх сіротамі ў 1908 г. Тоня была старэйшай і дапамагала маці ў выхаванні дзяцей. Гэта мацярынскае стаўленне да малодшых дзяцей засталося ў яе на ўсё жыццё. Шмат разоў я была сведкай яе заклапочанасці справамі брата і праблемамі сястры Марыі Абрэмбскай-Шчібяровай. Маці – настаўніцу – страцілі ў 1957 г. Юзаф памёр у Нью-Ёрку ў 1967 г. Антаніна перажыла яго на 27 гадоў. Біёграф і выдавец этнасацыялагічных прац Ю. Абрэмбскага Ганна Энгелькінг пісала: «Усе гэтыя гады з цярпеннем і сардэчнасцю займалася яго справамі. [ ... ] З матэрыялаў, якія пакінула прафесар, і са зместу архіва Юзафа Абрэмбскага ў Амхерст у Злучаных Штатах[11] вынікае, што аніводная напісаная пасля смерці польская праца пра яго не паўстала без яе ўдзелу. Размовы пра брата праводзілі з ёй Стэфан Навакоўскі, Вітольд Армон, Марыя Кутшэба-Пойнарова. Яна перапісвалася з этнографам з Торуня праф. Марыяй Знамяроўскай-Пруфяровай, сацыёлагам з Познані праф. Зыгмунтам Дульчэўскім»[12].

[11] Obrebski Collection, w: Special Collection and Archives, W.E.B. Du Bois Library, Massachusetts USA.

[12] Engelking Anna, Siostra i brat. *Wspólne zainteresowania Antoniny i Józefa Obrębskich, w: Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami. Studia, poświęcone Antoninie Obrębskiej-*

Прапускаю ў гэтай цытаце бібліяграфічныя спасылкі на працы Юзафа Абрэмбскага, якія аўтарка артыкула дадала пры кожным з вышэйпералічаных прозвішчаў. Варта дадаць, што заангажаванасць і эфектыўнасць распаўсюду навуковай спадчыны брата, рана памерлага ў эміграцыі, вынікала не толькі з-за сваяцкай блізкасці. Сястра і брат мелі агульныя інтарэсы ў навуковых даследаваннях, сфарміраваныя ў славяназнаўчым асяродку ў Кракаве. Абрэмбская ў 1925–1934 гг. была асістэнткай Ніча на славянскім факультэце (Studium Slowiańskie) Ягелонскага ўніверсітэта, на якім знаходзілася кафедра мовазнаўства, гісторыі мастацтва і этнаграфіі славян. Юзаф Абрэмбскі вывучаў у гэты час этнаграфію славян у Казіміра Машынскага і дадаткова славянскую філалогію ў Казіміра Ніча. Гэтае навучанне пазней паспрыяла наватарскім этнасацыялагічным даследаванням Юзафа Абрэмбскага на Палессі, а таксама вывучэнню гісторыі мовы і беларускіх дыялектаў ягонай сястрой.

Сувязь з сястрой знайшла сваё больш шырокае вымярэнне дзякуючы шлюбу Марыі Абрэмбскай з прадстаўніком таго ж славяназнаўчага асяродка – выбітным славістам Здзіславам Шчіберам, шматгадовым прафесарам Варшаўскага ўніверсітэта і калегам Антаніны, з якім яна супрацоўнічала ў розных навуковых установах, арганізаваных універсітэтам і Польскай Акадэміяй навук.

Пасля вайны, вясной 1945 г. Абрэмбская-Яблоньская вярнулася ў Варшаўскі ўніверсітэт, але не надоўга, таму што ўжо ў канцы года разам з мужам накіравалася ў дыпламатычную місію ў Кітай.

Гэтыя лаканічныя факты біяграфіі зноў можна ілюстраваць вельмі цікавымі і маляўнічымі апісаннямі сітуацыі і людзей, якія ёсць у лістах да праф. Ніча. Напрыклад, цытую першае ўражанне ад Масквы ў 1946 г., дзе Яблоньскія перад ад’ездам у Кітай павінны былі затрымацца па невядомых для мяне прычынах на два месяцы: «Горад цікавы і сумны. Вялізныя плошчы, шырокія як плошчы вуліцы, манументальныя дзяржаўныя «здания» і шэры натоўп. Прыгожыя тэатры, выдатныя гатэлі, размах амаль амерыканскі (Вітольд зусім не знайшоў Масквы 1930 г.) і безаблічнасць, ананімнасць чалавечага жыцця. [...] Акрамя гэтага, цэлы горад, нягледзячы на дваццаціградусны мароз, есць марозіва нават на вуліцы. Гэта адзіны прадукт побач з запалкамі і цыгарэтамі, які часам дрэйфуе ў вулічным гандлі. Нават газету немагчыма знайсці».

З часоў маскоўскага побыту ёсць яшчэ некалькі лістоў, апошні ад 22 лютага 1946 г. Ён сведчыць пра цікавыя кантакты з мясцовымі навукоўцамі і апісвае

*Jabłońskiej w stulecie urodzin,* red. Elżbieta Smułkowa, Anna Engelking, Warszawa: Wydział Polonistyki UW, 2001, s. 23–24.

поўную ўражанняў паездку Яблоньскіх у Ленінград. Антаніна Абрэмбская-Яблоньская ўдзельнічала ў мовазнаўчых навуковых пасяджэннях у Акадэміі навук СССР. Яна высока ацэньвала пачутыя даклады і дыскусіі. Гэтыя лісты напоўненыя канкрэтнай інфармацыяй пра праблемы і людзей і, безумоўна, вартыя публікацыі.

Пасля вяртання з Кітая з 1 верасня 1947 г. Антаніна Абрэмбская-Яблоньская працавала дацэнтам на кафедры славяназнаўства Варшаўскага ўніверсітэта. Варта працытаваць змест тагачаснай навуковай клятвы, невядомай ужо маладым пакаленням навукоўцаў, якая была прамоўлена з гэтай нагоды для рэктара прафесара Францішка Чубальскага і дэкана гуманітарнага факультэта праф. Багдана Наўрачынскага: «Клянуся, што на даверанай мне пасадзе дацэнта на поўную стаўку акадэмічнай школы буду садзейнічаць усімі сіламі замацаванню свабоды і моцы Польскай Рэспублікі, якой я заўсёды буду верна служыць, аднолькава ставіцца да ўсіх грамадзян краіны, буду старанна ахоўваць правы, выконваць заўзята і добрасумленна абавязкі маёй пасады, захоўваць службовыя таямніцы»[13].

На гэтай пасадзе дацэнт Абрэмбская-Яблоньская актыўна займалася навуковай, педагагічнай і арганізацыйнай дзейнасцю. Яна была адным з арганізатараў аддзялення расеязнаўства ў Варшаўскім універсітэце і ў 1950–1952 гг. выконвала абавязкі кіраўніка Секцыі расеязнаўства Інстытута славяназнаўства. Адначасова ў 1953–1957 гг. кіравала секцыямі беларускай і ўкраінскай філалогіі ў Польска-савецкім інстытуце ў Варшаве (вул. Фоксаль, 10), а пасля яго рэарганізацыі кіравала Лабараторыяй беларускай філалогіі Аддзялення славяназнаўства (Zakładu Słowianoznawstwa) ПАН, у якой рэалізавала два вельмі розныя працаёмкія праекты: *Атлас усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны*[14] *(Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny)* і выданне навуковых фальклорных матэрыялаў Міхала Федароўскага (1853–1923) *Люд беларускі*[15] *(Lud Białoruski)*. Трэба падкрэсліць, што яна асабіста ўдзельнічала ва ўсіх этапах даследчых працаў абодвух праектаў.

13 У архіве Варшаўскага ўніверсітэта захаваўся тэкст клятвы, падпісаны А. Абрэмбскай-Яблоньскай 14 студзеня 1948 г.

14 Першы том *Атласа* быў выдадзены пад рэдакцыяй Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай, Станіслава Глінкі і Януша Сяткоўскага ў 1980 г. у *Ossolineum*. Наступныя тамы выходзілі ў пазнейшыя гады ўжо без удзелу іх ініцыятара, аўтара канцэпцыі і арганізатара збору палявых матэрыялаў. Гэты шматгадовы дзесяцітомны твор быў канчаткова завершаны ў 2012 г. выданнем чацвёртага тома [AGWB 1980–2012].

15 Тамы 1–3 *Люду беларускага* выйшлі ў Кракаве ў 1897–1903 гг., том 4 быў выдадзены ў Варшаве ў 1935 г. Збор песняў, які застаўся ў архіве М. Федароўскага, быў навукова апрацаваны і выдадзены як чарговыя тамы *Люду беларускага* пад назв. *Песні (Pieśni)* пад



*Падчас палявых даследаванняў (Ляўкова, 1957). А. Абрэмбская-Яблоньская стаіць за рэспандэнткай, аповед запісвае Э. Смулкова (справа), за ёй праф. Мікалай Бірыла з Мінска.*

У 1956 г. Міністэрства вышэйшай адукацыі і навукі прыняло рашэнне пра арганізацыю Аддзялення беларусістыкі ў Варшаўскім універсітэце. Кіраўніцтва наваствoранай кафедры беларускай філалогіі, а фактычна яе арганізацыя і распрацоўка праграмы навучання было даручана А. Абрэмбскай-Яблоньскай[16], якая рашэннем урада атрымала ступень экстраардынарнага прафесара. Званне ардынарнага прафесара яна атрымала 13 снежня 1962 г., а пасаду займала са студзеня 1963 г.

Арганізацыя новага вучэбна-даследчага аддзялення пры адсутнасці адпаведна адукаваных кадраў патрабавала вялікай вынаходлівасці і высілкаў. У першыя гады вучобы нам дапамагалі выкладчыкі з Беларусі, вядомыя лінг-

рэдакцыяй Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай (том 5 у 1958 г., том 6 – у 1960 г. і том 7: *Дадатак да тамоў V–VI (Suplement do tomu V i VI)*). Падчас апрацоўкі Дадатка аказалася, што шмат праектных запісаў не маюць сваіх адпаведнікаў у друкаваным зборы. У сувязі з гэтым быў даследаваны ўвесь архіў М. Федароўскага. Так паўстаў том 8: *Inedita* у апрацоўцы Марыі Чурак, пад рэдакцыяй Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай (1981).

[16] Ліст ад 7 жніўня 1956 г., якім Антаніна Абрэмбская-Яблоньская прызначалася арганізатарам кафедры, быў падпісаны міністрам Ст. Жалкеўскім, а кіраўніцтва кафедрай было даручана ёй загадам рэктара ад 1 лютага 1957 г. (Гл.: Архіў Варшаўскага ўніверсітэта).

вісты Мікалай Бірыла і Аркадзь Жураўскі, гісторыкі літаратуры В. Тарасаў і М. Лазарук. Пад наглядам прафесара Абрэмбскай-Яблоньскай і пры іх дапамозе выраслі пазнейшыя прафесары Эльжбета Смулкова і Аляксандр Баршчэўскі. Практычнае навучанне беларускай мове праводзіла выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Менску, польская грамадзянка Лідзія Базылюк.

Агляд тэмаў магістарскіх працаў першых выпускнікоў кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта паказвае іх вялікую разнастайнасць і адначасова навуковую вартасць. Гэта былі лінгвістычныя даследаванні, якія грунтаваліся на палявым матэрыяле беларускіх гаворак усходняй Беласточчыны (анамастыка, лексіка, словаўтваральная будова, разнастайнасць флексій), на апрацоўцы моўных рысаў беларускага фальклору, сабранага ў архіве Міхала Федароўскага, а таксама ўключалі працы з аналізам мовы і польскіх уплываў у помніках старажытнай беларускай літаратуры.

Гісторыка-літаратуразнаўчыя магістарскія працы тычыліся розных аспектаў творчасці пісьменнікаў XIX і XX стагоддзяў, а таксама беларускага фальклору ўсходняй Беласточчыны. Гэтыя працы пісаліся пад кіраўніцтвам доктара Баршчэўскага, а пакуль ён не атрымаў належных паўнамоцтваў, іх курыравала праф. Яблоньская. Ведаючы яе вялікую сумленнасць і адказнасць, магу меркаваць, што яе асабісты ўнёсак у канцэпцыю і канчатковую форму гэтых прац быў значны.

Прывабнасцю варшаўскага аддзялення беларусістыкі стала ініцыяваная ёй дыялекталагічная практыка на тэрыторыі ўсходнеславянскіх гаворак усходняй Беласточчыны і рэгулярныя штогадовыя выезды на месячную студэнцкую краязнаўчую практыку па абмене, арганізаваную ў супрацоўніцтве з Беларускім дзяржаўным універсітэтам у Менску. Спачатку прафесар асабіста ўдзельнічала ў гэтых выездах, адкрываючы маладым супрацоўнікам і студэнтам сакрэты правядзення палявой працы з мясцовымі жыхарамі і перадаючы асабістыя навуковыя кантакты ў Беларусі, што давала добрыя вынікі ў далейшай працы.

Кафедра беларускай філалогіі на чале з праф. Яблоньскай супрацоўнічала з Аддзяленнем славяназнаўства ПАН у выпрацоўцы канцэпцыі і зборы матэрыялаў для *Атласа ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны.* Таксама яна мела тры сумесныя навуковыя праграмы, не лічачы індывідуальнай творчасці кіраўніка і супрацоўнікаў. Ужо ў 1962 г. быў выдадзены ў *Wiedzy Powszechnej* «Практычны польска-беларускі слоўнік» (*Podręczny słownik polsko-białoruski*) пад рэдакцыяй А. Абрэмбскай-Яблоньскай і М. Бірылы. Поўны беларуска-по-

льскі слоўнік, падрыхтаваны ўжо пасля смерці яго ініцыятаркі, быў выдадзены ў 2012 г. кафедрай беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта пад рэдакцыяй Тэрэсы Хыляк-Шрэдэр, Ядвігі Глушкоўскай-Бабіцкай, Тэрэсы Ясінскай-Сохы. Вялікім калектыўным праектам стаў таксама збор і апрацоўка мясцовых назваў паўночна-ўсходняй Польшчы па замове Камісіі па вызначэнні назваў мясцовасцяў і фізіяграфічных аб'ектаў пры канцылярыі Рады міністраў[17].

Апошнім важным для гісторыі развіцця беларускай літаратурнай мовы калектыўным навуковым праектам, выкананым з вялікім асабістым унёскам праф. Яблоньскай, была падрыхтоўка да друку беларускага перакладу *Пана Тадэвуша* Адама Міцкевіча, які быў зроблены беларусам, дэпутатам польскага Сейма і кіраўніком партыі «Беларуская сялянска-работніцкая Грамада» Браніславам Тарашкевічам у 1927–1928 гг. (турма ў Вронках) і 1931–1932 гг. (турма ў Гродне). Радыкальныя погляды перакладчыка на лёс беларускай меншасці ў міжваеннай Польшчы прывялі яго ў Камуністычную партыю Заходняй Беларусі, а вынікі грамадска-палітычнай дзейнасці – да судовых прыгавораў і турмаў. Трагедыю гэтага беларускага інтэлектуала, між іншым, аўтара першай граматыкі беларускай мовы для школ (1918), паглыбляе і той факт, што, абменены на іншага вязня[18] ў СССР, ён быў расстраляны ў Маскве 29 лістапада 1938 г.

Вышэйназваная апошняя пазіцыя ў навуковай біяграфіі прафесара Абрэмбскай-Яблоньскай вырасла да кранальнага сімвала, што ў той час мы не ўсведамлялі, старанна звяраючы версэты перакладу з арыгіналам. 80-гадовая славістка схілілася над беларускім рукапісам перакладу аднаго з самых вялікіх твораў польскай паэзіі, народжанага ў атмасферы польскага і беларускага краявіду; нібыта апошняе пацвярджэнне яе вернасці ўласнаму выбару існавання на памежжы культур. Гэтае пасланне набірае яшчэ большае значэнне, калі ўлічым ступень страты зроку даследчыцы (праца са спецыяльна сканструяванай лінзай для чытання), а таксама акалічнасці жыцця і смерці аўтара перакладу.

Сімвалічна, што стваральніца і арганізатар вялікіх калектыўных даследчых праектаў прафесар Яблоньская не пагарджала займацца надзённым назіраннем за падрабязнымі моўнымі зменамі і імкнулася іх сістэматычна інтэрпрэтаваць. У значнай ступені гэта вынікала з супольнага рэдагавання разам з праф. Казімірам

---

[17] Сабраны ў той час матэрыял быў апрацаваны і выдадзены вучнямі прафесара Абрэмбскай-Яблоньскай пад маёй рэдакцыяй як *Słownik nazw terenowych północno-wschodniej Polski,* t. I: *A–N,* t. II: *O–Z* (1992), t. III: *Indeks nazw gwarowych do» Słownika nazw terenowych północno-wschodniej Polski»* (1992–1995).

[18] Гэтым вязнем быў дзеяч беларускага руху, літаратар і драматург Францішак Аляховіч (заўвага перакл.).

Нічам паланістычнага перыядычнага выдання *„Język Polski»,* якое займалася між іншым моўнымі кансультацыямі. Гэтыя працы, важныя для культуры мовы і будучых даследаванняў развіцця польскай мовы, раскіданыя па розных мовазнаўчых часопісах, былі выдадзены ў яшчэ зацверджаным ёю *Wyborze pism* (*Выбар прац*) пад назвай *Śladami żywego języka* (*Па слядах жывой мовы*[19]). У ім таксама знаходзіцца бібліяграфія прац Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай.

Пішучы пра навуковую, дыдактычную і арганізацыйную працу прафесара Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай, абавязкова трэба дадаць хаця б агульную характарыстыку яе асобы і той добрай атмасферы, у якой нам дадзена было працаваць. Прафесар Абрэмбская-Яблоньская была чалавекам незвычайнай сціпласці, вельмі патрабавальным да сябе. Ніколі не чула, каб яна пра кагосьці дрэнна казала. Калі была патрэбная крытыка пэўнай асобы або канкрэтнага ўчынку ці меркавання, то яна гэта рабіла ў кантэксце пазітыўных рысаў гэтага чалавека. Яна крытыкавала ўчынак ці выраз, а не асобу. Што тычылася навуковых прац студэнтаў, кожная крытычная заўвага заўсёды суправаджалася асабістай дапамогай і парадамі. Як бачна, «жыццё вучыць памяркоўнасці». Але так было не заўсёды, пра што сведчаць рэзкія меркаванні пра людзей у карэспандэнцыі Тоні Абрэмбскай маладых гадоў.

Актыўны ўдзел у польскім і міжнародным навуковым жыцці (Кангрэсы славістаў, канферэнцыі і сімпозіумы) спалучаўся з клопатам, каб вучні і калегі дзейнічалі падобна ёй і не замыкаліся ў выбраных спецыялізацыях. Між іншым якраз адсюль паходзіць мой ранні інтэрдысцыплінарны падыход да першапачаткова вузка дыялекталагічных даследаванняў на моўным польска-беларуска-літоўскім памежжы.

А. Абрэмбская-Яблоньская была для нас узорам арганізацыйнай актыўнасці ў грамадскай дзейнасці, якая выхоўвае і развівае людзей, прыносіць вялікую навуковую карысць. Лепшым прыкладам гэтага віду дзейнасці Абрэмбскай-Яблоньскай можа паслужыць яе стыль кіравання ў 1969–1977 гг. Мовазнаўчай камісіяй Беластоцкага навуковага таварыства (БНТ), дзейным сябрам якога яна была з 1963 г., а ганаровым – з 1972 г. Мовазнаўчая камісія, якую раней узначальваў кіраўнік Шведскай яцвяжскай экспедыцыі прафесар Кнут-Олаф Фальк, стала месцам знаёмства, прэзентацыі навуковых дасягненняў і супрацоўніцтва даследчыкаў паўночна-ўсходняй Польшчы, што паходзілі з розных навуковых асяродкаў Польшчы і замежжа.

[19] Obrębska-Jabłońska Antonina, *Śladami żywego języka. Wybór pism.* Pod red. Elżbiety Smułkowej, Warszawa: Wydawnictwo UW, 1993.

Памятаю, напрыклад, з якой зацікаўленасцю і задавальненнем мы параўноўвалі пасля адной з беластоцкіх канферэнцый нашы праекты мовазнаўчых карт Атласа ўсходняй Беласточчыны з зонамі розных кірункаў перасялення на гэтай тэрыторыі, якія прадставіў кракаўскі гісторык Ежы Вішнеўскі. Істотна пашыраліся нашыя даследчыцкія гарызонты падчас навуковых выездаў у паўночна-ўсходнюю Польшчу, падрыхтаваных прадстаўнікамі розных гуманітарных і сацыяльных навук, у тым ліку і намі – мовазнаўцамі. Найбольш цікавымі і шырокімі былі навуковыя кантакты падчас сустрэчы сяброў Камісіі па даследаванні балта-славянскіх стасункаў пры Міжнародным камітэце славістаў, якая была арганізаваная Мовазнаўчай камісіяй БНТ у 1973 г. у Белавежы[20].

Рашэннем урада Антаніна Абрэмбская-Яблоньская была адзначаная Афіцэрскім крыжом ордэна Адраджэння Польшчы і медалём 10-годдзя Народнай Польшчы, а таксама адзнакай Тысячагоддзя Польшчы. Ведаючы адносіны, якія панавалі ў Польшчы да перамен у часы «Салідарнасці», трэба падкрэсліць, што дзейнасць прафесара Абрэмбскай-Яблоньскай і яе афіцыйнае прызнанне ў выглядзе ўзнагарод адбывалася без прыналежнасці да партыі.

З рэтраспектыўнага агляду дасягненняў прафесара Абрэмбскай-Яблоньскай паўстае вобраз цэлага інстытута. Да навуковых і арганізацыйных дасягненняў, якія вышэй былі толькі пазначаныя, трэба дадаць шматгадовае выкананне абавязкаў сурэдактара ў часопісе «Slavia Orientalis», з 1966 г. – рэдактара «Studiow z Filologii Polskiej i Słowiańskiej», актыўную працу ў рэдакцыйным камітэце «Acta Baltico-Slavica», а таксама ў навуковых радах і таварыствах (Таварыства аматараў польскай мовы, Польскае мовазнаўчае таварыства, Польскае арыентальнае таварыства, БНТ, Варшаўскае навуковае таварыства). Таксама прыгадаю яе сяброўства з 1952 г. у Камітэтах мовазнаўства і славяназнаўства Першага аддзела ПАН, дзе перыядамі яна выконвала функцыі навуковага сакратара. Таксама была сябрам групы экспертаў славянскай філалогіі пры Галоўнай радзе вышэйшага навучання. Да яе абавязкаў, напрыклад, належала падрыхтоўка выдавецкага плану на 1950 г. і падрыхтоўка аналагічнага перспектыўнага плану на некалькі гадоў. Прафесар была дэлегатам міністра вышэйшага навучання ў Камітэце славяназнаўства ПАН, рэцэнзавала кандыдацкія і доктарскія працы, выказвала сваё меркаванне аб прапановах прафесараў.

---

[20] Smułkowa Ełżbieta, Jaskanis Jan, *Sprawozdanie z Międzynarodowego Sympozjum Bałtosłowiańskiego,* «Biuletyń BTN», 1973, Nr 1.

Нічога дзіўнага, што пры такой шматбаковай нагрузцы часта была вельмі стомленая. 19 сакавіка 1952 г. у лісце да Казіміра Ніча яна адзначала: «У чацвер выязджаю з Вітольдам у Няборув на 5 дзён. Мы так моцна стомленыя, што ўжо нават не спім. На гэтым тыдні на працягу 2–3 начэй нават не кладліся. Удзень нас займаюць канцылярска-адміністрацыйныя працы. Уначы робяцца «лекцыі» – усё стаіць на мяжы «бітвы і самазабойства» на алтары ахвярапрынашэння… Невядома, паводле якога тэстаменту».

Нам, супрацоўнікам і вучням, яна заўсёды паказвала мужны твар. Усе свае абавязкі выконвала з максімальнай самаадданасцю і разважлівасцю. У адносінах да людзей заўсёды была вельмі добразычлівай. Гэта асабліва тычылася студэнтаў, замежных і польскіх стажораў, якія прыязджалі на кафедру беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, якой яна кіравала. Захаваліся шчырыя лісты ад стажораў з падзякамі за яе зацікаўленасць і клапатлівую навуковую апеку[21]. Гэтая добразычлівасць дазваляла Яблоньскай змякчаць пэўную напружанасць, якая прысутнічала паміж мовазнаўчымі асяродкамі Варшавы і Кракава на фоне розніцы ў метадалагічных падыходах да даследаванняў дыялектаў у Ніча і Дарашэўскага[22].

Антаніна Абрэмбская-Яблоньская – сумленны і добры чалавек, гуманітарый з вельмі шырокімі гарызонтамі і веданнем розных культур – належыць да кола выбітных прафесараў Варшаўскага ўніверсітэта. У гэтым універсітэце паўсталі

[21] Напрыклад, фрагмент ліста маладога стажора з Беларусі Янкі Саламевіча, прыведзены ў артыкуле: Smułkowa Elżbieta, *Profesor Antonina Obrębska-Jabłońska – człowiek pogranicza kultur, w: Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami. Studia, poświęcone Antoninie Obrębskiej-Jabłońskiej w stulecie urodzin,* red. Elżbieta Smułkowa, Anna Engelking, Warszawa: Wydział Polonistyki UW, 2001, s. 21.

[22] У сувязі з гэтым варта прыгадаць ліст Абрэмбскай-Яблоньскай да Ніча, напісаны пасля з'езда Польскага мовазнаўчага таварыства ў Кракаве ў 1949 г., у якім яна абвінавачвала кракаўскі асяродак, што той не надаў належнай пашаны праф. Вітольду Дарашэўскаму і яго вучням: «А што датычыць папроку, што яны трымаліся асобна на з'ездзе ў Кракаве, то маю ўласнае суджэнне. Не яны трымаліся асобна, а Кракаў, і я з Кракавам. Гэта няправільна, што не знайшла для іх часу. Цяжка ўявіць, каб яны падчас таварыскіх кантактаў навязвалі кракавянам тое, да чаго тыя не мелі схільнасці. Думаю, што немалую ролю тут адыграла галіцыйская скнарлівасць і наогул нізкі ўзровень «таварыскасці» кракавян, а таксама кепская арганізацыя і сумніўная шчырасць ініцыятыў. […] У гэтым выпадку лічу, што было б лепш знайсці паразуменне з Курыловічам ці Лерам адносна таго, кім хто зоймецца, і справа была б вырашаная. Адсутнасць згоды (акрамя спадара прафесара, кожны з кракавян пайшоў на ўласны абедзік)… Можна было пайсці ў рэстаран з кожнай групай гасцей, каб кожны плаціў за сябе, але не трэба выказваць абвінавачванні накшталт таго, што «кракаўскі калектыў быў на ўзроўні, а варшаўскі не быў», што адбываецца пастаянна».

яе асноўныя навуковыя творы, тут яна адзначылася як арганізатар і кіраўнік некалькіх кірункаў славістыкі, выхоўвала вучняў і пераемнікаў.

Таксама вялікае значэнне для яе мелі гады вучобы ў Ягелонскім універсітэце. Там, акрамя атрыманых навуковых ступеняў (кандыдацкая і доктарская працы), быў распачаты яшчэ адзін вызначальны і да гэтага часу невядомы шырокаму колу славістаў твор яе жыцця, што злучаў кракаўскі і варшаўскі перыяды. Гаворка пра яе навуковую карэспандэнцыю з настаўнікам Казімірам Нічам (памёр у 1958 г.) і ягонай жонкай Анэляй Грушэцкай-Ніч, якая ўяўляе сабой надзвычай каштоўны дадатак да гісторыі польскай славістыкі[23].

Пераклад з польскай мовы
Таццяны Казак і Аляксандра Смаленчука.

## *Дадатак ад рэдакцыі*

Ніжэй публікуем ліст А. Абрэмбскай-Яблоньскай да Аляксандры Бергман, які сведчыць пра шырыню беларускай праблематыкі, якая цікавіла даследчыцу[24].

### ***16 ліпеня 1972 г., Варшава. Ліст Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай да Аляксандры Бергман.***

В[арша]ва
16. VII. 72

Шаноўная Пані,

думала, што атрымаецца сустрэцца з Пані, каб у размове ўсё вытлумачыць, але хварэю на грып, а гэта звычайна надоўга мяне выкідае з жыцця.

Яшчэ раз дзякую за апошнія дадзеныя, што тычацца П. Т. [«Пана Тадэвуша»]. Калі Пані будзе ці ў Радашковічах, ці ў Маскве, то, можа, атрыма-

23 Гл.: *Materiały do dziejow polskiego językoznawstwa.* III. Korespondencja Kazimierza Nitscha i Antoniny Obrębskiej-Jabłońskiej. 1925–1958. Cześć 1. 1925–1945. Opracowanie Mirosław Skarzyński, Elżbieta Smułkowa; część 2. 1946–1958. Opracowanie Mirosław Skarzyński, Elżbieta Smułkowa. Kraków, 2018.

24 Аляксандра Бергман (1906–2005) – даследчыца камуністычнай плыні беларускага руху ў міжваеннай Польшчы, а таксама жыцця і дзейнасці габрэйскіх літаратараў гэтага перыяду. Аўтарка першай біяграфічнай кнігі пра Браніслава Тарашкевіча: *Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu* (Warszawa, 1977). Рэдакцыя выказвае ўдзячнасць сп. Яўгеніі Шымчук за магчымасць публікацыі гэтага ліста.

ецца больш даведацца пра заўвагі Б. Тар[ашкевіча] да перакладзенага тэкста «Пана Тад.» [«Пана Тадэвуша»]. Часам гэта гістарычныя каментары, часам [заўвагі], датычныя тых рэаліяў жыцця засценкаў дробнай шляхты, якія, на яго погляд, былі незразумелыя для беларускага чытача. Гаворка б ішла пра ўдакладненне часу напісання гэтых каментароў. Ці адбылося гэта падчас перакладу, ці можа ў перыяд побыту ў Маскве, неўзабаве пасля ягонага ўладкавання ў Саюзе? Варта таксама было б даведацца, якім выданнем П. Т. [«Пана Тадэвуша»] карыстаўся перакладчык. Можа, ужо ў гэтым выданні знаходзіліся заўвагі? А некаторыя належалі Міцкевічу? Ці ёсць якія згадкі асабістай бібліятэкі Б. Т. [Браніслава Тарашкевіча] – можа, у Радашковічах? Ці маглі б там быць дапаможныя крыніцы для ягонай працы над перакладам.

Справа пропуску тлумачальных заўвагаў да перакладу адной кнігі (V сш.) П. Т. [«Пана Тадэвуша»] у альманаху «Białowieża». Я прадставіла ім копію тэксту гэтай кнігі, якую машыністка ў Беластоку перапісала з шматлікімі памылкамі. Адна з асістэнтак каф[едры] белар[ускай] філ[алогіі] рабіла карэктуру і займалася ўніфікацыяй напісання. Але на гэтым наш удзел скончыўся. За ўсё адказваў д-р Баршчэўскі. Але паэты, шаноўная Пані, не маюць паняцця не толькі пра навуковыя, філалагічныя, але нават пра гістарычныя дакументы. Чаму так лаканічна выглядае публікацыя песні V П. Т. [«Пана Тадэвуша»]? Таксама маглі быць іншыя прычыны. Магчыма, рэдакцыя хацела заплаціць за публікацыю гэтага тэксту Ніне Аляксандраўне, калі б наведала Беласточчыну. Так ім было б зручней. Павінна яшчэ дадаць, што белар[ускія] асяродкі Беласточчыны перажывалі цяжкія хвіліны, была няўпэўненасць, падазрэнне, што іх дыскрымінуюць, і зараз з боку прадстаўнікоў (адпаведнай ступені) нашых уладаў робяцца крокі, накіраваныя на змену гэтых настрояў. Вельмі верагодна, што поруч з гэтым у асяроддзі беларусаў функцыянуюць таксама пэўныя пазіцыі, характэрныя для трох апошніх гадоў, але з часам – моцна на гэта спадзяюся – яны зраўняюцца.

Справа кнігазбору Ром. Зямкевіча (ці Зянкевіча?). Гэта справа цёмная і непрыемная. Галоўным чынам, у сувязі з асобай уладальніка кнігазбору. Не валодаю аніякімі дакументальнымі доказамі, але мне трохі пра яго распавядалі. У прасторы прыватных і публічных бібліятэк ён быў вядомы як выкрадальнік кніг. Яму афіцыйна забаранілі наведванне бібліятэк Варшавы. У момант выбуху вайны ў 1939 г. Р. З. [Рамуальд Зямкевіч] вырашыў адпомсціць дыр[эктару] БВУ [Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта] д-ру Леваку, які не пускаў яго ў БВУ, і данёс на яго ў гестапа. На Шуха[25] дапыталі абодвух. Афіцэр СС спытаў Лявака, ці зразумелыя для яго матывы даносу. Левак адказаў, што змагаўся з

[25] Гестапа Варшавы знаходзілася на алеі Шуха (заўв. рэд.).

Р. З. [Р. Зямкевічам] як з вядомым выкрадальнікам кніг. За фальшывы данос, прычынай якога была асабістая помста, немцы выслалі Р. З. [Р. Зямкевіча] у Асвенцім. Гэта ведаю ад праф. Юл. Кжыжаноўскага, якому дырэктар Левак распавёў пра гэтую справу.

Ад Ал. Баршч[эўскага] чула пра іншае. Толькі не ведаю, ці адпавядае гэта як часу, так і тагачаснай геаграфіі беларускіх земляў. У Мінску, у карэспандэнцыі Я. Купалы ўтрымліваліся шкадаванні пра страту яго вялікага і каштоўнага кнігазбору, які Я. Купала, калі пакідаў Мінск (у 1941 г. ці ў іншы час?) перадаў для захавання пэўнаму знаёмаму. Ніколі больш гэтых скрыняў ён не ўбачыў. Іх след загінуў. Між інш[ым] там быў в[ельмі] каштоўны асобнік Літоўскага Статуту і шмат іншых «белых крукаў», рарытэтных выданняў.

Відаць, жонка ці хтосьці іншы з сям'і Р. З. [Рамуальда Зямкевіча] з Варшавы збіраліся перадаць кнігазбор мужа ў Кракаў. Магчыма, збіраліся яго прадаць (можа, гэта было ўжо пасля смерці Р. З. [Рамуальда Зямкевіча] у Асвенціме?). Я не ведаю, чым усё скончылася, бо потым ужо не чула пра нейкага ўпаўнаважанага распараджацца кнігазборам, а зацікаўленыя асобы карысталіся ім адпаведна сваім жаданням (і фінансавым сродкам?). Так, праф. Кжыжаноўскі стаў уладальнікам пэўных твораў з гэтага кнігазбору, набываючы іншыя творы для дзяржаўных бібліятэк, як, напрыклад, асобнік Літоўскага Статута. Праф. Кжыжаноўскі паказваў мне пару томікаў рукапіснай копіі паэзіі Ал[яксандра] Рыпіньскага з XIX ст., якія прывёз з Кракава, калі пераехаў у Варшаву (тэкст на польскай м[ове]).

Іншая версія: магчыма, было два Р. З. [Рамуальды Зямкевічы], адзін з іх, той, горшы, выдаў сябе за асобу лепшага, выкарыстоўваючы яго імя. Усё гэта незразумелае і няпэўнае.

На гэтым заканчваю. Жадаю Пані добрых навуковых вынікаў у гістарычных пошуках у СССР і выказваю сваю пашану і павагу.

А. Абрэмбская-Яблоньская

Пераклад з польскай мовы
Таццяны Казак і Аляксандра Смаленчука.

ISSN 2424-5224

# ПАМІЖ ВЫПАДКОВАСЦЮ І НАКАНАВАНАСЦЮ, ЦІ МОЙ ШЛЯХ НА СУСТРЭЧУ З ГІСТОРЫЯЙ

***Алег Яноўскі,***
*канд. гіст. навук (Мінск)*

***Summary***

The author, a Professor of History of the Belarusian State University, which has been associated with his alma mater for 50 years, is presenting his life path in historical science and historical education. On the background of memories of the childhood and youth of the boy who was raised in a countryside and the fate of his loved ones, examples of indirect involvement in the important events of the past of Belarus are shown (collectivization, the Great Patriotic War, restoring the economy and life of Belarusians, de-Stalinization etc). Analyzing his school and early university years, the author concludes that it is the environment of his upbringing and the people around him that formed his views and made him a historian – even against his personal aspirations in childhood to become a doctor or geologist. The realities of life were more decisive than romantic dreams of a young man who was learning about himself through the pursuit of self-realization.

Зварот напісаць пра сябе пад шыльдай «аўтабіяграфія навукоўца» і здзівіў, і ўзрадаваў. Здзівіў, таму што прыйшлося ўпершыню сутыкнуцца з такім падыходам калег да напаўнення «Гадавіка антрапалагічнай гісторыі» – тэкстамі з відавочным суб'ектыўным ухілам. Больш за тое, з ухілам у бок прадстаўлення аўтарам самога сябе, а не нейкіх высокіх навуковых штудый у рэчышчы папулярных цяпер біяграфікі і прасапаграфіі. Для беларускіх гісторыкаў

падобная магчымасць з’явілася, мабыць, упершыню. А вось узрадаваў, бо пражытыя біялагічныя гады і гады ў навуцы і вышэйшай адукацыі ўжо не аднойчы падштурхоўвалі да асэнсавання свайго жыццёвага і інтэлектуальнага багажу на паперы, а не проста ў думках, наспех. Для іх фіксацыі па прыкладзе многіх іншых, хто меў смеласць паспрабаваць захаваць некаторыя асаблівасці свайго «эга» на скрыжалях гісторыі. Тым больш што сам гісторык, а таму добра разумееш каштоўнасць тэкстаў асабістага паходжання як крыніц для больш-менш аб'ектыўнага спазнання часу мінулага ў «пракруставым ложку» часу сучаснага.

Дык вось, а чаму б самому не даць нашчадкам магчымасць скарыстацца тваім успрыманнем 1960-х – пачатку 2000-х гадоў? Такія намеры, мабыць, становяцца характэрнымі для пэўнага ўзросту. Між тым яны заўсёды абрываліся, калі трэба было перайсці да справы – сесці і спалоніць у цянёты друкаваных слоў і камп’ютарных файлаў гэтыя вёрткія «скакуны» ўспамінаў-думак. І пастарацца знайсці логіку падачы свайго жыццяпісу, а не засяродзіцца толькі на найбольш памятных і прыемна-выгодных фактах. У выкладчыка вышэйшай школы з амаль што 50-гадовым стажам кантактаў са студэнцкай моладдзю, якому не аднойчы даводзілася ў лекцыйныя тэмы ці кансультацыйныя парады ўстаўляць прыклады са свайго жыцця, такая «асабістая фактура» накапілася на ўзроўні падкоркавага мыслення і нават пэўным чынам размеркавалася храналагічна і тэматычна. Вось бы набрацца пэўнай нахабнасці ды напісаць не толькі пра сябе, а распасцерці на паперы сябе, свой унутраны свет, сваё бачанне жыцця і прафесіі. Дзеля гэтага патрэбны час і адпаведны фармат – паўнавартасныя мемуары, а не скарочаныя запісы ў фармаце *Curriculum vitae.* Зрабіць «апісанне свайго жыцця» з тэмамі і падтэмамі аповеду, са зваротам да свайго разумення-асэнсавання вечных дылем: «гісторык і аб'ектыўнасць», «гісторык і адказнасць», «гісторык і яго чытач», «гісторык і ўлада» і многіх іншых.

У дадзеным выпадку паспрабую, калі гэта каму-небудзь будзе цікавым, спачатку выказацца аб сабе, толькі спасылаючыся на час сталення, на час ліхаманкавага выбару шляху ў прафесію. І выказацца пад крыху метафарычным пазначэннем – «а ці так …?» А ці так праходзіць жыццё, як хацелася ў маленстве яго збудаваць? А ці так разумееш сваю справу, як яна таго патрабуе ад цябе? А ці так усё зроблена ў прафесіі, як магло і павінна было быць? А ці так склаліся адносіны з калегамі, як імкнуўся?

Працяг такіх рытарычных пытанняў у размовах са сваім унутраным «я» дастаткова доўгі. І не аднойчы ловіш сябе на думцы, што «а ці так?» становіцца з часам усё больш і больш важным пытаннем. Жыццё імкліва імчыць да

апошняга прыпынку, а так хочацца зрабіць тое, да чаго раней «не даходзілі рукі». Зрабіць, каб мець станоўчыя адказы на гэтае дакучлівае шматбаковае пытанне. Толькі вось як? Мітусня ў дзеяннях і тамленне духу – пэўны характар штодзённасці і будзённасці жыцця, працы, узаемаадносінаў. Гэта звыкла. Разарваць вярыгі слова-ўстаноўкі «патрэбна» амаль немагчыма, бо «савецкае выхаванне» штурхае туды, куды можна было б і не лезці. Таму прыходзіцца ў гэтым слове знаходзіць варыяцыі. Патрэбна каму? Табе? Ці працэсу працы, інерцыйнасці прафесійных абавязкаў? Як правіла, перамагае адказ на другое пытанне.

Так што скарыстаюся магчымасцю і паспрабую для пачатку выказацца не столькі аб пражытым у навуцы гісторыі, колькі пра свой рух да гэтай цяжкай і такой салодкай прафесіі выкладчыка і навукоўца.

Не перастаю здзіўляцца, што стаў гісторыкам! З дзяцінства і ў часы юнацтва не было аніякай павагі да гісторыі. Не было, нягледзячы на тое, што бацькі асэнсавана далі «гістарычнае» імя – Алег, згадаўшы праз сына сваё цьмянае веданне пра летапіснага старажытнарускага князя. Маці Ніна Антонаўна, настаўніца рускай мовы і літаратуры беларускамоўнай вясковай школы, што месцілася роўна за 8 кіламетраў як ад старажытнага Заслаўя, так і ад добра вядомага ў беларускай гісторыі мястэчка Радашковічы, была ініцыятарам такой анамастычнай навацыі. Праз некалькі месяцаў яе прыклад натхніў калегу па школе. У майго будучага першага настаўніка Пятра Аляксандравіча Шлойды нарадзіўся сын Алег, з якім я правучыўся ў адным класе дзесяць гадоў. Доўгі час мы так і заставаліся на абсягах дванаццаці вёсак калгаса імя Леніна толькі двума хлапчукамі з такім імем.

Але імя ні да чаго гістарычнага мяне не падштурхоўвала. Гісторыя ў школе ўспрымалася як забава ў параўнанні з «сур'ёзнымі» прадметамі – любімымі геаметрыяй і хіміяй, а тым больш «першым інтэлектуальна-пазнавальным каханнем» – біялогіяй і асабліва яе раздзелам «Анатомія і фізіялогія чалавека» (любоў узмацнела пасля перамогі на раённай школьнай алімпіядзе па біялогіі). Так, алгебру ды геаметрыю выкладаў аўтарытэтны для ўсіх вучняў Віктар Міхайлавіч Сай. Нават зусім нявдатныя да матэматыкі мусілі намагацца, каб хоць неяк адпавядаць таленту нашага настаўніка (дарэчы, не так даўно ўдалося знайсці ў шматтыражцы БДУ «За сталінскія кадры» за 1949 год артыкул аб «выдатніку вучобы і актывісту Віктару Саю» родам з вёскі Ліпяні, што каля купалаўскай Вязынкі. Гэта быў наш настаўнік!).

Схільнасць да спасціжэння моваў перадалася ад маці. З імі не было праблем, але ж вывучыць як след нямецкую мову не давялося, бо яе хто толькі нам не выкладаў у Радашковіцкай беларускамоўнай васьмігодцы: настаўнік фіз-

культуры Аляксандр Мікалаевіч Трыч, дырэктар школы Міхаіл Аляксеевіч Мілановіч, географ – інвалід-ветэран вайны Уладзімір Сямёнавіч Рыжэвіч. Увогуле, настаўнікі тагачаснай сельскай школы – гэта «педагогі-шматстаночнікі», бо маглі выкладаць любыя прадметы. А 1–4 класы ўвогуле займаліся разам пад кіраўніцтвам Пятра Аляксандравіча, якога зрэдку падмяняла Кацярына Давыдаўна. Гэта мае першыя настаўнікі, якія навучылі з нуля грамаце і прывілі любоў да пазнання ведаў.




*Падчас канферэнцыі з нагоды 200-годдзя вайны 1812 г. (2012).*

Радыкальна сітуацыя не змянілася потым і ў заслаўскай рускамоўнай дзесяцігодцы. Па вялікім рахунку, неяк да «варожай мовы» ў мяне і маіх сяброў існавала пэўная насцярожанасць. Вось толькі і нямецкую мову, і некаторыя іншыя нелюбімыя прадметы даводзілася спасцігаць з напругай па прычыне свайго стану выдатніка. Так што перад паступленнем у БДУ веды нямецкай мовы былі на ўзроўні завучвання без усялякага разумення розных тэкстаў – тыпу «Die traktoren schon berait». Добра, што ва ўніверсітэце пашчасціла спазнаць асалоду мілагучнасці мовы іспанскай праз яе выдатных выкладчыкаў. Але гэта асобная размова...

Між тым нейкім натуральным чынам у вясковых падлеткаў 1950-х –пачатку 60-х гадоў на ўзроўні не ведаў, а неасэнсаваных успрыняццяў фіксаваліся старонкі нядаўняй гісторыі краіны, свайго роднага кута, сям'і. Перамога без усялякай помпы і гвалту адзначалася ўсім наваколлем. Спачатку на мітынгу каля брацкай магілы, дзе былі пахаваны пасля выгнання фашыстаў некалькі соцень загінулых у нашых мясцінах падчас аперацыі «Баграціён» салдат, партызан, тутэйшых жыхароў. Потым дзеці не адганяліся ад «настольніц-самабранак», якія дарослыя расцілалі на траве, амаль што побач са сціплым мураваным помнікам. Ішлі гаворкі, успаміны, ліліся слёзы, гаварыліся простыя, але вельмі ўзнёслыя словы...

Дакрананне да той вайны немалы час адбывалася і іншым чынам: усе прыгоркі, ляскі з такімі мілымі сэрцу тутэйшымі назвамі (Агацін лес, Вожык, Сайкоўшчына, Сакаўнікі, Сцяцковая гара, Лесік) былі літаральна нашпігаваныя патронамі, мінамі і нават снарадамі. І дзеці ўключалі ў свае гульні «ў вайну» раскопкі-пошукі гэтых смяротных «цацак». Не абыходзілася без балючых наступстваў такіх гульняў... Так, было вядома, што малодшы брат бацькі Адольф – з такім звычайным для нашых мясцін імем, якое, аднак, стала страшэнным увасабленнем той вайны, – атрымаў смяротныя раны, падарваўшыся на такой «цаццы». А сусед, значна старэйшы хлапчук з сям'і Шпакоўскіх, страціў руку таксама ад знойдзенай міны.

Пра вайну нагадвала і месца нашай хаты, якую прымак-бацька пабудаваў раўнюсенька на развалінах савецкай пагранзаставы 1920–1930-х гг. Тут у 1941–1944 гг. месцілася за калючым дротам нямецкая камендатура і пасля яе засталіся «бункеры» – так мы, дзеці, называлі вялізныя ямы, якія былі падвальнымі рэшткамі нямецкіх пабудоў. Скруткі калючага дроту, як дзіўныя сюррэалістычныя валуны, усе гады высіліся за плотам нашай сядзібы і былі



*Мой родны кут, мае самыя родныя: бацькі, бабулі, сястра (1965).*

для мяне ўвасабленнем захопнікаў-нелюдзяў. Што да чаго, добра ўсведамлялася, бо гісторыя вайны гучала з вуснаў тых, хто ваяваў. Яе наступствы, зразумела, ужо ў спрошчаных малюнках, пастаянна суправаджалі маленства.

Так што навейшая гісторыя не чыталася, гісторыяй была прасякнута штодзённасць жыцця. Тым больш што бацька Антон Юльянавіч (часцей ён пісаўся Ульянавічам, пэўна, для сугучнасці з прозвішчам бальшавіцкага правадыра), які меў за плячыма толькі школьныя ўніверсітэты, прайшоў ад званка да званка – 1939–1946 гг. – шляхамі вайны. У руінах Сталінграда ён быў прыняты ў партыю, хаця, па сутнасці, быў сынам «ворага народа» – старэйшым сынам рэпрэсаванага каваля аднаго з першых на Міншчыне калгасаў «Юны камунар» Заслаўскага раёна.

Майго непісьменнага дзеда Юльяна Антонавіча карныя органы арыштавалі 18 сакавіка 1933 г., адарваўшы ад жонкі Алены Усцінаўны – маёй мілай бабулі – і пяцёх малалетніх дзяцей. Адарвалі, прыдумалі за тыдзень хлуслівае абвінавачванне, зафіксавалі яго ў некалькіх непісьменных радках. Аб ім мне праз амаль 70 гадоў удалося даведацца пры азнаямленні з дзедаўскай «Справай № 3044» у архіве КДБ – «Яновский Юльян А. в к-се участ. в весеннем севе... занімался вредітельством па рамонту інвентара што зацягнула пасеўкампанію на цэлы месяц». І ужо 25 сакавіка ён быў кінуты на рыццё канала Масква – Волга. Дзед – «каналаармеец» Дзімітраўлага – па сялянскай звычцы рваў жылы, каб перавыканаць страшэнныя нормы і датэрмінова вызваліцца, вырасціць дзяцей. І згінуў бясследна ў багне чарговай будоўлі «новага жыцця». Аб гэтым стала вядома пасля вяртання дадому малодшага брата Юльяна – Пратаса, які таксама быў арыштаваны і разам са старэйшым братам рыў канал, але выжыў. Здаецца, з нагоды такога «канальнага» лёсу мужа ўдава-бабуля да самай смерці ў 90-та з добрым гакам гадоў прынцыпова курыла. І курыла толькі «Беламорканал»...

І бабуля, і бацька замоўчвалі ад сыноў гэтыя «гістарычныя старонкі» сямейнай біяграфіі. Пра дзеда Юльяна – як бы і не было яго. Як бы не прайшоўся молах сталінізму па жыцці сям'і Яноўскіх. Толькі праз шмат гадоў удалося дабрацца да таямніц той «справы», калі ў архіве КДБ гартаў яе два тоўстыя тамы. І ў каторы раз, цяпер праз дзедаўскі лёс, яшчэ больш пранікся абсалютнай агідай да прынцыпаў і метадаў «пабудовы светлай будучыні» для людзей праз пераціранне гэтых жа людзей у труху.

Але значна раней, яшчэ ў дзесяцігадовым узросце, незнарок, мне прыйшлося стаць зацятым і выключна жорсткім антысталіністам. Гэты эпізод свайго дзяцінства цяпер успрымаецца як анекдот. Між тым усё было выключна так, як буду згадваць некаторыя абставіны маёй «барацьбы з наступствамі сталінізму».

Бацька выхоўваў двух сыноў па-сялянску – праз працу і свой прыклад адносін да яе. Старэйшаму брату ўдалося вырвацца з колазвароту вясковай штодзённасці, бо пасля сямігодкі паступіў у мінскі палітэхнікум і перастаў быць даступным для ўключэння ў сістэмнае хатняе гаспадаранне. Цяжар хатніх спраў, завіхання вакол свіней ды каровы для мяне, малодшага, павялічыўся. Акрамя таго, бацька для выхавання самастойнасці і адказнасці надумаў «паставіць сына на аклад» – узнікла магчымасць даглядаць сельсавецкага каня па мянушцы *Хлопчык*. І за догляд (рэгулярны выпас каня, чыстка хлява, дзе ён утрымліваўся, пры неабходнасці дык і запрэгчы каня ў сані ці вазок, правесці дробны рамонт збруі і інш.) штомесяц налічвалася зарплата аж у пяць рублёў! Да гэтага часу адчуваю асалоду ад тых цукерак-падушачак, якія купляліся на «свае грошы»!

Конюхам я стаў у дзесяцігадовым узросце – восенню 1961 г. Мой падапечны *Хлопчык* быў, як тады здавалася, велізарным канём, пад пузам якога я спакойна праходзіў. Але паладзіць з ім было вельмі проста з-за абсалютна лагоднага і пакорлівага нораву. Пасябравалі мы хутка. Пакуль была паша, пакуль квітнелі восеньскія травы, прыходзілася раз за разам надзяваць жалезныя путы на яго магутныя ногі і адпускаць на выпас на найбліжэйшых лужках на ўсю ноч. А раніцай, калі была патрэба ў старшыні сельсавета, прыводзіць *Хлопчыка* ў двор «цэнтра савецкай улады» на вёсцы, чысціць яго ад грывы да хваста, запрагаць, а потым бегчы ў школу. Будынак сельсавета, звычайны вясковы домік, знаходзіўся каля чыгуначнага вакзала станцыі Радашковічы на адзін бок, а праз рэйкі, на другім баку ад чыгункі Мінск – Маладзечна, на пагорку стаяла мая школа. Так што бегаць тудысюды не было праблем.

Так надышоў халодны прызімак – канец кастрычніка. Снег быў тады ранні. Прыйшлося майго каня на зімоўку ставіць у хлеў, які ўяўляў сабой асобны будынак пры сельсавеце. Штодзень накідваў яму сена, раз-пораз падсыпаў зерне (не авёс, яго проста не назапасілі, а ячмень, які вельмі дрэнна ўспрымаўся конскім страўнікам). Прыходзілася пастаянна абнаўляць падсцілку, каб конь утрымліваўся ў чысціні, якая б адпавядала не толькі сялянскай павазе да жывёл. Галоўнае: «персанальны транспарт» старшыні сельскага савета павінен быў быць бездакорным! Усе гэтыя ісціны мне былі даведзены на спецінструктажы.

Вось тут, у кругаверці такіх турбот, і прыйшлося стаць актыўным праваднікам антысталінізму ў асобна ўзятай беларускай вёсцы! Толькі значна пазней я ўсвядоміў, што да чаго. 30 кастрычніка 1961 г. на апошнім пасяджэнні XXII з'езда КПСС было вырашана вынесці цела Сталіна з маўзалея і такім

чынам як бы канчаткова пакончыць са сталінізмам. Гэтае рашэнне не столькі надало адвагі мясцовым кіраўнікам, але вымусіла зрабіць нейкія крокі ў дэманстрацыі выканання рашэння з'езда. І ў нашым калгасе (раней да вайны «Чырвоны пагранічнік», потым пасля вайны – калгас імя Сталіна і нарэшце – імя Леніна) і ў нашай вёсцы два старшыні (калгаса і сельсавета) таксама павінны былі штосьці прадэманстраваць.



*«Змагар» з творчай спадчынай Іосіфа Сталіна (1961).*

Неяк раніцай старшыня сельсавета пазваў мяне ў свой вельмі спартанскі кабінет, які ўвесь быў застаўлены кніжнымі паліцамі (ён адначасова выконваў функцыю вясковай бібліятэкі). Пазваў і паказаў на гэтыя кнігі: «Бачыш, вунь стаяць рады цёмна-рудых кніг? Ты іх усе зграбі ў кошыкі і вынесі ў хлеў – так як саломы няшмат, то будзеш кніжкамі падсцілаць *Хлопчыка.* Толькі абавязкова кожны раз разрывай кніжкі на лісткі і імі замест саломы засцілай падлогу хлява. Але глядзі, не бяры падобныя тамы вунь з тых паліц! Яны хоць таксама цёмна-рудыя, але гэтыя кнігі пісаў сам Ленін! Зразумеў?»

Ну як тут не зразумець! Нават было цікава такім чынам улагодзіць каня – яму павінна спадабацца такая прасціна. Гэтыя кнігі я цягаў паўдня, адразу прачытаўшы імя аўтара – СТАЛІН! А што за ён, чаму такія цудоўныя тамы патрэбна было знішчыць – такое пытанне ў дзіцячую галаву не прыходзіла. Чаму патрэбна было гэтыя кнігі пусціць «каню пад хвост», уцяміць у свае дзесяць з паловай гадоў я проста не мог. І не намагаўся.

Спачатку было ў ахвотку разрываць на шматкі першыя кнігі. Але ўжо пасля трэцяй стаміўся: вокладкі не паддаваліся, лісты былі жорсткія і перашытыя суровымі ніткамі. Дзіцячы розум падказаў выхад: «А навошта рабіць дурную справу? Я проста разгортваю кнігу пасярэдзіне і так кожнай буду высцілаць хлеў. Атрымаецца шматслойная і роўная падсцілка». Так і стаў рабіць кожны раз, калі конь грунтоўна завальваў маю працу адходамі свайго страўніка. Тамоў хапала, бо з бібліятэкі я вынес, мабыць, пяць ці шэсць «поўных сабранняў» адрынутага правадыра. Чаго-чаго, а іх набралася ў бібліятэцы значна

больш, чым мастацкай літаратуры. Было іх так шмат, можа, з-за таго, што на фасадзе будынка станцыі Радашковічы, каля якога размяшчаўся сельсавет, доўгі час вісеў велізарны партрэт Сталіна ў абрамленні з кветак і нейкіх іншых «прыгажосцяў». Таму, можна меркаваць, тут і мясцовыя ўлады, і кіраўніцтва чыгуначнай магістралі на працягу доўгіх гадоў песцілі сталінізм і выхоўвалі павагу сялян і чыгуначнікаў да яго. Тым больш што станцыя ў 1921–1939 г. была пагранічнай, і вобраз Сталіна першым павінен быў сустракаць таго, хто перасякаў мяжу, едучы з-пад Маладзечна, з захаду.

Але грукнулі 1956 і 1961 гады. Для мяне, зразумела, тады мог грымнуць толькі гром з нябёсаў ці бацькаў покрык за дапушчаныя агрэхі. А тут прыйшлося ўключыцца ў выкананне партыйных рашэнняў... Калі ўсё ж тамы закончыліся, у ход пайшлі рэшткі саломы, розная труха (год быў не ўраджайным, таму прыходзілася эканоміць тое, што магло пайсці на корм каню). Трэба заўважыць, што зімой *Хлопчык* запрагаўся не часта. Ён больш стаяў у хляве. Стаяў, ляжаў, утоптваў і ўтоптваў мае падсцілкі. Ды так старанна ўтоптваў усёй сваёй амаль паўтоннай вагой, што да першай вясенняй траўкі ў хляве ўтварылася ледзьве не метровай вышыні гнойна-папярова-саламяная коўдра. Конь на ёй падняўся амаль да столі. З вялікімі намаганнямі яго ўдавалася выводзіць праз забітыя гноем дзверы на двор. І вось тут «Сталін» нанёс мне зваротны ўдар! Я яго думкі ды прадпісанні ў гной пакідаў, а ён мне амаль што жылы дзіцячыя не надарваў. Адбылося гэта проста: старшыня загадаў за дадатковы рубель да маёй штомесячнай пяцёркі вычысціць хлеў ад гною і вывезці яго на поле (яно было побач з будынкам сельсавета).

Што такое вываз гною па вясне, ведаюць усе вяскоўцы – адна з самых цяжкіх прац, аздобленая «амбрэ», да якога прывыкаеш з дзяцінства. Тое, што малалетка мог зрабіць гэтую працу, ні ў кога не выклікала сумнення. Мабыць, гадоў з сямі-васьмі прыйшлося зведаць функцыянальныя магчымасці вясковай «тэхнікі» – віл, рыдлёўкі, грабель, а крыху пазней – плуга і касы. Падрыхтаваць глебу для пасадкі бульбы ды гародніны і дома, і ў бабулі Каці – гэтая справа была агульнасямейная. Напружаная, але радасная талака. Ды і ў школе на зборы спелых струкоў кармавога лубіну вучні з трэцяга-пятага класаў, як тыя жукі, з вёдрамі на кволых сагнутых руках з раніцы да вечара па восені поўзалі на калгасных палетках. З шостага класа – на бульбу: дзяўчынкі яе выбіралі-капалі з разараных коньмі барознаў, а хлапчукі на конях адвозілі да буртоў скрыні з сабранай бульбай. Гэтыя вялізныя скрыні-грабы трэба было выкуліць асаблівым чынам: з дапамогай рэзкага павароту каня падважваць, а потым «упірацца рогам», каб бульба высыпалася ў бурт. Не лягчэй было гэтую скрыню зноў наставіць на калёсы.

Так што фізічная загартоўка ўжо ў дзесяць гадоў была яшчэ тая. Але справіцца з заданнем у хляве ні ў якое параўнанне не ішло з ранейшымі вясковымі практыкаваннямі. Конскі гной так утаптаўся ў сталінскія тамы, так насыціў паперу, што ўтварылася адзінае непарушнае аніякім чынам іх яднанне ў выглядзе суцэльнага слою без усялякіх бачных праслоек (магчымая метафара для пазначэння мэты марксізму-ленінізму са сталінізмам разам!). Вілы проста ўтыкаліся ў тоўстыя вокладкі, і вырваць нават адзін экзэмпляр было немагчыма. І так, і сяк, і гэтак стараўся зладзіць з раптам узніклай праблемай. «Сталін» трымаў абарону па ўсім перыметры хлява! Як бы ні было брыдка, але прыйшлося рукамі разграбаць гной, адну за адной выкідваць гэтыя праклятыя кніжкі на вуліцу.

За абяцаны рубель аплаты новы этап маёй антысталінскай барацьбы працягваўся некалькі дзён. І я перамог! На двары высілася куча брудных кніжак (і па колеры тыпаграфскім, і ад грунтоўных «унёскаў» майго *Хлопчыка*). Запрогшы каня, з вялікай палёгкай я вазоў восем такога вось гною вывез на поле, дзе павінна была быць пасаджана сельсавецкая бульба. Але ж што рабіць з цалюсенькім «Сталіным»? Добра, што мая эпапея нейкім чынам прайшла не заўважанай нікім. Галоўнае – старшынёй сельсавета. Пасля нядоўгіх разважанняў было прынята адзінае магчымае рашэнне – спаліць кнігі, а попел змяшаць з гноем, з перапрэлай падсцілкай. Каб вогнішча асабліва не палыхала, прыйшлося кідаць у яго кнігу за кнігай. Падмочаныя і брудныя тамы гарэлі дрэнна, чадзілі. Добра, што і гэты мой учынак асабліва нікога не ўзрушыў, не занепакоіў. І «Сталіна» не стала. Увесь пайшоў на ўгнаенне. Перамога была за мной!

Сёння гэта ўспамінаецца з усмешкай. Але і вымушае задумацца: мабыць, быў нейкі провід, што правёў мяне і праз такія падзеі асабістага жыцця, якія з гадамі асэнсоўваюцца ў кантэксце гісторыі краіны. І якія, мабыць, былі адной з кропель той плыні, што вынесла мяне ў акіян спасціжэння таямніц мінуўшчыны. Вынесла і захапіла на ўсё жыццё.

Калі далей спрабаваць прасочваць свой «шлях на сустрэчу з гісторыяй», то можна згадаць і іншыя абставіны, падзеі, якія ў свой час зусім не ўспрымаліся з пункту гледжання будучай прафесійнай дзейнасці. Уся фактаграфія майго дзяцінства і юнацтва – гэта кола сям'і, дзвюх школ, роднай вёскі Крычкі, дзе нарадзіўся і якая зафіксавана ў пашпартных дадзеных, відовішчы яе ваколіц. Хаця, трэба сказаць, з маіх шасці гадоў, калі бацькі пабудавалі сваю хату за кіламетр ад хаты бабулі ў Крычках, мы сталі не вяскоўцамі, а жыхарамі адмысловага селішча, якое ўзнікла ў пасляваенныя гады каля чыгуначнай станцыі Радашковічы. Так што мы – малалеткі са станцыі – лічылі сябе белай

косткай у параўнанні з дзецьмі з вёсак Крычкі ці Пятрышкі, якія літаральна прымыкалі да станцыі.

Другі дзед, па лініі маці, Антон Францавіч Куракевіч, быў ціхім і непрыкметным, бо з сям'ёй знаходзіўся пад акупацыяй і таму яму было лепей маўчаць, калі за сталом, які рэгулярна гасцінна накрывала бабуля Кацярына Іванаўна (яе дзявочае прозвішча Боўбель, як згадвалі ў сям'і, быццам бы паходзіла ад часоў руху праз нашыя мясціны Вялікай арміі Напалеона) для сваіх трох зяцёў-франтавікоў. Заўсёды пад чарку-другую бабулінай самагонкі разгортваліся гаворкі аб тым ці гэтым. На такія сямейныя застоллі збіраліся і мы, малыя. Але гэта былі не проста нейкія пасядзелкі на шырокіх лавах за моцнай, грунтоўна выструганай стальніцай (мэбля была дзецішчам майстэрства дзеда). Гэтакім чынам адзначалі не толькі ўсе савецкія святы, але і Вялікдзень, Радаўніцу, радзей – Раство Хрыстова. Не меней важна было адзначыць вываз гною з хлява, пасадку бульбы на сядзібе дзеда з бабай, яе дакопкі, касьбу выдзеленых калгасам сотак, каб было чым карміць зімой карову. Зразумела, былі і іншыя сямейныя форс-мажорныя талокі: калі патрэбна было агульнымі намаганнямі тром зяцям перакрыць страху цешчынай хаты, падмацаваць плот, назапасіць дроў. Прыходзілася пастаянна быць на падхваце, дапамагаць у меру сіл і здольнасцяў.

Гэткія заняткі былі ў ахвоту. А вось асабліва надакучлівай і, як здавалася, бясконцай па днях і гадах была радоўка – з гадоў васьмі і да пачатку студэнцтва з ранняй вясны і да позняй восені дзесьці разоў 20 за сезон за бабулю адбываў чаргу па выпасе вясковых кароў. Пасвіў разам са «штатным» старэнькім пастухом па мянушцы *Паночку*, які запомніўся сваім тварам, падобным на печаны яблык з-за процьмы дробных маршчын, і пастаяннай прымаўкай, калі садзіўся за гаспадарскія сталы снедаць (ён па чарзе жыў у дамах уладальнікаў кароў, бо быў непрытульны): «Каб мала рабіць ды салодка есці». Запомніўся і сваім дробненькім галаском, якім распавядаў мне – малому – пра жыццё пры панскай Польшчы.

А калі мець на ўвазе, што была карова і ў бацькоў, якую я быў абавязаны даглядаць (карміць, паіць, адпасваць і нават не аднойчы даіць), то гэтая сялянская штодзённасць добра зафіксавалася надалей як тэматычная частка асабістага ўключэння ў этнаграфію вясковага побыту. У ёй (адпасцы і этнаграфіі ў цэлым) былі свае прыемныя акалічнасці, а не толькі нудлівасць ад неабходнасці рэгулярна здраджваць свайму любімаму занятку па вечарах – гульні ў футбол з хлапцамі то з адной, то з другой, а не раз і трэцяй навакольных вёсках.

Да гэтага часу на вуснах смак бабуліных праснакоў, калі іх спачатку нюхаў, потым каштаваў і адразу амаль цалкам з'ядаў, ледзьве-ледзьве дастаўшы з на-

пакаванай торбы. А потым ужо грунтоўна садзіўся на пагорак, наразаў шмат сала з чорным хлебам, выпечаным бабуляй у рускай печы. І запіваў такую «несумяшчальную» страву малаком – ранішнім сырадоем – з вялізнай бутэлькі. А навокал пад такі апетыт стракацелі розныя жучкі-матылькі, шчабяталі на прылеску птахі ў розныя галасы, славячы сонца, якое набірала моц пасля ранняга чэрвеньскага ўзыходу над небасхілам. Такое яднанне з прыродай для малога пастуха было нядоўгім – пакуль палеглыя каровы адрыгвалі назбіраную доўгімі языкамі траву ды ў нейкай нірване з філасофскімі поглядамі пераджоўвалі яе. Потым жа да вечара была бегатня вакол статку, каб каровы не зрабілі патраву калгасным палеткам. А калі яны пачыналі гіляваць, то тут быў самы капец. Адказнасць за сытную пашу і за зберажэнне гаспадарскіх кароў, як «попел Клааса», пастаянна стукала ў сэрца і розум.

Ну як тады магло думацца пра тое, што ўсё далейшае сталае жыццё будзе звязана з гісторыяй як навукай і прадметам універсітэцкіх педагагічных намаганняў? Тая ж вусная гісторыя, нават на добрым падпітку бацькі і дзядзькаў-франтавікоў, была вельмі стрыманай на факты, якія б маглі ў мяне абудзіць прагу да спазнання ўсёй велічы мінулага. Толькі потым, ужо падчас перабудовы і «новага мыслення», бацька стаў уводзіць сыноў, сталых узростам і ведамі, у таямніцы нязведаных старонак бітвы за Крым, сталінградскай эпапеі, пераможнага маршу савецкіх салдат па Румыніі, Венгрыі, Чэхаславакіі. І даваў не кніжныя характарыстыкі Мехлісу, Жукаву, Паўлюсу, з якімі яму прыйшлося нос да носу сустракацца ў ваенна-палявых умовах. Расказваў пра тое, што такое «вызываю агонь на сябе», як інтуітыўна адмовіўся ад гібельнай перспектывы ратавання ў Аджымушкайскіх каменаломнях (пра гэты жудасны эпізод той вайны я прачытаў праз доўгія гады, рыхтуючы лекцыйны курс), а моцна паранены ў галаву і руку змог выплыць да апошняга выратавальнага катара. Як бачыў кроў і безнадзейнасць 41-га і як разам з аднапалчанамі-артылерыстамі 9 мая 45-га пад Прагай расстраляў усе снарады ў неба. Для ўжо сталага гісторыка і журналіста гэтыя расповеды былі адмысловым цверазільнікам ад звыклых пафасных падач той вайны праз кнігі, падручнікі, савецкія СМІ. Тым больш што раптоўнае новае прачытанне вайны зыходзіла ад максімальна аўтарытэтнага чалавека – бацькі, які столькі гадоў быў стрыманым, умеў абыходзіць ісціну, каб не нашкодзіць сям'і і асабліва кар'ерам дзяцей.

Але ж працягну свой аналіз таго, чаму, нягледзячы на абсалютнае ігнараванне гісторыі як прадмета ў школе і як магчымага кірунку вывучэння ў ВНУ (а туды мне было наканавана паступаць, бо ў школе цягнуў на медаль), усе ж такі стаў гісторыкам і тысячы разоў намагаўся пераканаць сябе, што гэта маё. Пераконваў, бо ў сэрцы заўсёды шчаміла, што не стаў калі не «новым

Паўлавым», то хаця б добрым хірургам раённай бальніцы. Шчаміла і не спыняецца гэтае шчамленне... І гэты аналіз сваіх намераў, учынкаў, нейкага вызначэння зверху разгортвання лёсу дае адзіную выснову – стаў гісторыкам, бо не мог ім не стаць!

Ну як было абысці сваім розумам і сваімі адчуваннямі тую ж вайну, якая так жудасна адбілася на лёсе бацькоў, але і злучыла іх, каб нарадзіць цябе і брата з сястрой? Як было праігнараваць і не дазнацца аб абставінах лёсу дзеда Юльяна? Як было абысці тое, што было звязана з таямніцай роднага дома, які бацькі ўзвялі на месцы пагранічнай заставы, дзе ў гады вайны фашыстамі быў створаны невялікі канцэнтрацыйны лагер для палонных савецкіх салдат? А тым больш спазнаць унікальнасць родных мясцін, якія неверагодным чынам у рэвалюцыйнай віхуры былі пераўтвораны ў беларуска-польскае памежжа, а потым з 1939 г. яшчэ доўгі час заставаліся памежжам паміж беларусамі рознай ментальнасці і ўспрымання свету і ўлад.

Дзяцінства прайшло ў перакананні, што суседнія вёскі Крыніцы, Туркаўшчына, Гаішча, якія былі за адзін-тры кіламетры на захад, населены «пшэкамі», і з іх хлапчукамі мы павінны адстойваць свае, савецкія прынцыпы. Для пачатку – не садзіцца з імі за адну школьную парту. Не асабліва ўспрымалася сваёй і вёска Вязынка – радзіма славутага Янкі Купалы, – хаця яна знаходзілася ўсяго за два кіламетры ад «маёй» станцыі Радашковічы, а дзяўчынкі-аднакласніцы адтуль былі, мабыць, найпрыгажэйшымі ў школе. А вось вёскі на ўсход (Шчокі, Кісялі, Ермакі, Шчарбіны і інш.) – гэта «нашы», там жывуць «саветы». І мы ўсе – сябрукі. Хаця лупцавалі адзін аднаго рэгулярна, не звяртаючы ўвагу на «палітычную чысціню» нараджэння на беларускім усходзе, а не на захадзе, бо мелася зашмат іншых прынцыпаў, больш важных для дзіцячага розуму, якія неабходна было адстойваць у гульнях, на занятках, у размовах.

Гісторыя ў школе давалася лёгка, можна казаць, яна была на задворках інтэлектуальных намаганняў. Добрая зрокавая памяць спрыяла таму, што параграф можна было прачытаць па дыяганалі непасрэдна ў класе і выйсці адказваць да дошкі, агучваючы толькі што прачытанае. А выйшаў з класа – усе факты, імёны, лічбы, даты зляталі ў космас небыцця. Таму сістэмных ведаў не было, а былі начыткі патрэбных старонак тады, калі неабходна было падмацаваць папярэднюю пяцёрку чарговай. Праўда, заўсёды вісеў над галавой «меч» – аўтарытэт гісторыка васьмігодкі, якім быў – сам! – дырэктар Міхаіл Аляксеевіч Мілановіч. Гэты «меч» вастрыўся і тым, што нельга было ганьбіць сямейны гонар: маці – настаўніца, а бацька – франтавік і не апошні чалавек у калгасе. Прыходзілася старацца.

Вось толькі ўрокі гісторыі ні ў якім разе не маглі супернічаць з прадметамі, што патрабавалі сістэмных ведаў і карпатлівай разумовай працы. Гісторыя ж паходзіла на літаратуру, на нейкае вельмі творчае агучванне прачытанага, калі выдатную адзнаку можна было атрымаць проста за ўменне прагаварыць без супынку хвілін пяць, а то і дзесяць (і гэта тады, калі першыя словы пачаў прамаўляць, як казалі бацькі, толькі пасля трох гадоў!). Асабліва такія прыёмы добра сталі праходзіць пасля пераходу з васьмігодкі ў дзесяцігодку – два гады новага этапу вучобы ператварыліся ў рэгулярныя туры на першай беларускай электрычцы з станцыі Радашковічы на станцыю з дзіўнай назвай «Беларусь», гэта значыць у мястэчка Заслаўе. Туры ў кампаніі сваіх сябрукоў і сябровак па васьмігодцы, якія таксама адважыліся пасля беларускамоўнай школы спасцігаць веды ў школе рускамоўнай.

Пералом у мазгах быў яшчэ той! Тэрміналагічныя «бомбы», якія літаральна разрывалі нашы раней засвоеныя веды, супакоіліся толькі дзесьці праз паўгода вучобы. А калі дадаць наяўнасць для нас дзіўных спачатку паралельных класаў, у якіх былі размежаваныя аднавяскоўцы, а тым больш першапачатковыя пагардлівыя адносіны да нас з боку заслаўскіх «местачковых» аднакласнікаў, то адаптацыя праходзіла не без нерваў і не без думак – «а навошта мне гэта ўсё патрэбна?!».

Але хутка прыйшло супакаенне. Галоўнае – прыйшло разуменне таго, што гэта новы жыццёвы ўзровень, які ты павінен асіліць. Настаўніцкі калектыў стаў родным. Усе мае настаўнікі назаўсёды застануцца ў памяці. А наша класная Серафіма Сяргееўна была ну зусім, класнай матэматыцай і прывіла любоў да мазгавых штурмаў там, дзе, здавалася, не было аніякай магчымасці рашыць задачу ці разблытаць тэарэму. Зусім іншай па характары, жаночым стане і педагагічных прыёмах была хіміца Надзея Пятроўна. Але і хімія, як алгебра з стэрэаметрыяй, дзякуючы таленту гэтых педагогаў на два гады сталі доўгачаканымі і неверагодна захапляльнымі ўрокамі пазнання. Любоў да рускай ды беларускай літаратур высвятліла новымі фарбамі Марыя Цімафееўна, працягнуўшы лінію педагагічнага майстэрства маёй маці і беларусісткі з Радашковіцкай школы Надзеі Сямёнаўны.

Гістарыца Фрыда Аронаўна Кляёнская ўмела заахвоціць твае намаганні і разагнаць ляноту цёплым словам, публічнай пахвалой. Хаця на яе ўроках мы з сябруком з першага класа Мішам Кулаковічам ці гулялі пад партай у футбол з паралонавым мячом-шарыкам, ці на парце з удумлівым выглядам на сваіх сшытках па гісторыі літаральна ганялі балду – была такая ў нас, шкаляроў, гульня з філалагічным ухілам. А калі прыходзіла праверка з райана, то абодвух настаўніца кідала на амбразуру, бо ведала аб нашых здольнасцях салодкага-



*Выдатнікі 9 «Б» класа Заслаўскай сярэдняй школы № 2 (1967).*

лоса распавядаць перад дамамі-кантралёркамі аб далёкім і блізкім гістарычным мінулым. Вось толькі спешная начытка падручніка (часцей правяраючых цікавіў узровень ведаў па гісторыі СССР) давала вынік на дні праверкі. Потым веды вельмі хутка некуды знікалі ці «заціраліся» ведамі «сапраўдных», «сур'ёзных» навук, сярод якіх для мяне па-ранейшаму несумненна аўтарытэтнай была біялогія з акцэнтам на фізіялогію.

Чаму так? Цяжка адказаць. Мабыць, вясковае жыццё, што праходзіла ў абсалютна натуральным атачэнні жывёльнага свету, штодзённасці турбот аб забеспячэнні дабрабыту праз сваю працу на падвор'і, прадыктавала, што патрэбна імкнуцца стаць на грунт, на якім можна засноўваць дарослае жыццё, які дае перспектыву дабрабыту. У гэтым жыцці засмучэнні ішлі побач з радасцямі, турботы няўхільна змяняліся расслабленнем цела і душы. Але пры ўсім тым першаснай павінна быць праца, твая праца... Таму, верагодна, падспудна цягнула да спазнання не душы, а цела.

Як альтэрнатыва біяфакам ці медфакам ужо бліжэй да атрымання «аттестата зрелости» стаў вабіць геафак БДУ, бо даведаўся аб існаванні там падрыхтоўкі геолагаў. Сама геаграфія ў школьныя гады каціравалася яшчэ ніжэй, чым гісторыя. А вось геалогія – гэта ж рамантыка, гэта корпанне ў «кладоўках прыроды», якія ты павінен і зможаш знайсці і тым ашчасліваць чалавецтва. Тым больш сярод камянёў, якія прыходзілася штораз скідваць

з калгасных палёў, калі вучнямі васьмігодкі выкопвалі бульбу, аднойчы папаўся камень з галаву памерам, які ўвесь складаўся з белых марскіх ракавінак. Адразу абудзілася фантазія: «Дык тут, дзе ты цяпер жывеш, было старажытнае мора-акіян! Тут пад зямлёй безліч усяго каштоўнага – нафта, вугаль і нават золата!» Ну як было не звярнуць увагу на ўніверсітэцкі геафак! Але гэтыя намеры адразу як адсеклі бацькі: «Будзеш усё жыццё нелюдзем таежным, без сям'і, збэсцішся і станеш алкашом. Толькі праз нашыя трупы!»

Прыйшлося скарыцца. І скіраваць свае планы на ўніверсітэцкі біяфак. Але прагляд экзаменаў, якія патрэбна было здаваць пры паступленні, увёў у кагнітыўны дысананс, прасцей – збянтэжыў. Галоўным для школьнага медаліста тут пазначалася батаніка! Гэта тая батаніка, якую прайшоў у пятым класе і забыўся!? Гэта пра тычынкі ды песцікі!? Не, такое не для мяне. І было прынята канчатковае рашэнне: арыентавацца толькі і толькі на сталічны медыцынскі інстытут. Сямейная нарада выказалася не толькі станоўча, але і была ў захапленні.

З медалём у кішэні і кіпай неабходных дакументаў выпускнік Заслаўскай сярэдняй школы рушыў у сталіцу БССР. На двары толькі распачынаўся ліпень 1968 года. Нават і цяпер здзіўляюся: нарадзіўся не так і далёка ад Мінска, з сям'і сельскай «гаспадарча-адукацыйнай» інтэлігенцыі, два гады правучыўся ў старажытным Заслаўі, а за свае 16 гадоў жыцця ў Мінску быў толькі два разы! Першы раз, калі дапамагаў бабулі Каці адвезці на Юбілейны базар на продаж дзясятак слоікаў смятаны ды сырадою «з-пад кароўкі», кіло пяць хатніх сыроў ды некалькі скруткаў духмянай і такой спакуслівай для вечна галоднага падлетка свіной каўбасы. Адвёз, пастаяў побач з бабуляй, якая круцілася ўюном каля пакупнікоў-мінчукоў, атрымаў кулёк сваіх цукерак-падушачак ды зноў апынуўся на сваім куце. Другі раз я ўжо ездзіў сам. Дакладней, быў вымушаны паехаць адзін, бо мяне дэлегавалі камсамольцы маёй васьмігодкі на нейкую сходку школьнага актыву, арганізаваную райкамам ЛКСМБ. А райкам Мінскага раёна знаходзіўся не на раёне, а ў сталіцы! На вуліцы Куйбышава (цяпер у гэтым будынку месціцца амбасада Венесуэлы).

Маршрут ад Мінскага чыгуначнага вакзала да райкама мне асабіста вычарціў дырэктар школы Міхаіл Аляксеевіч. Як прайсці праз вуліцу Ленінградскую на плошчу Леніна, а потым на праспект Леніна. Як, не зварочваючы нікуды, дайсці да цырка і звярнуць налева і па вуліцы Янкі Купалы дакрочыць да вуліцы Куйбышава. Ну, а потым па яе правым баку з кіламетр шыбаць да райкама. Гэты маршрут і сёння перад вачыма. Паехаць жа на нейкім гарадскім транспарце было падобна да касмічнай адысеі, аб гэтым і ду-

мак не было. Намаляваны маршрут я прайшоў беспамылкова і нават уклаўся ў той час, які мне прыблізна назваў дырэктар.

Карціць расказаць пра тое здзіўленне, якое прыйшлося перажыць на тым сходзе. Але гэта будзе залішне ў ачэрчаным кантэксце ўспамінаў. Скажу толькі, што пасля сходу і кулуарна-кабінетных суразмоўяў загарэлага да чарнаты і моцнага мускулатурай сялянскага хлапца, да якіх прымусілі нейкія дзяўчаты – «члены райкама», – для мяне камсамол стаў увасабленнем калі не блуду, то разбэшчанасці і паказухі. Адтуль да вакзала я не ішоў, а бег... А потым заўсёды як мог цураўся трапіць у лік камсамольскіх актывістаў.

Так што паездка ў Мінск для здачы дакументаў у прыёмную камісію мядінстытута была трэцяй. І самай адказнай. Ад яе вынікаў залежаў далейшы жыццёвы шлях, бо па-тагачаснаму выбар прафесіі азначаў пражыванне ўсіх наканаваных гадоў у нейкім адзіным, тады, у малыя гады, абраным рэчышчы. А не так, як у наш бурлівы час павучаюць з усіх бакоў (ды і сам гэта робіш): чалавек павінен кожныя 7–9 гадоў радыкальна мяняць сферу сваёй дзейнасці. Мяняць, каб, маўляў, адбыцца як асоба, пражыць паўнавартасна свой час. Можна пагаджацца, і не зусім. Так, цяжка ўявіць, што той жа медык радыкальны зменіць прафесію, і яму, і ўсім ад гэтага будзе цудоўна. Прафесійнасць – гэта не гульня з жыццём у разнастайнасць адчуванняў, прыгод, самарэалізацыі. Гэта цяжкая праца на многія-многія гады. А плённыя вынікі такой працы і ёсць асалода жыцця. Так і тады падавалася, у гэтым і сёння асабіста перакананы.

Паездка прайшла без прыгод. Прыгоды пачаліся адразу на Мінскім вакзале. Ад нерваў і адказнасці самастойна зрабіць такі крок, без дапамогі бацькоў, доўгі час не мог патрапіць на вуліцу Ленінградскую, якой ішоў тры гады таму па дырэктарскім плане. За гэтыя гады план сцёрся ў памяці, а аднавіць яго хаця б з дапамогай бацькі Антона было сорамна: «Як гэта я буду прасіць тое, у чым сам у сілах разабрацца ў свае аж 16 гадоў з гакам!» Спытаць у сустрэчных – за межамі юнацкіх рысаў характару (самай прыкрай справай на працягу ўсіх дзіцячых гадоў было па даручэнні бацькоў пайсці да суседзяў ці аднавяскоўцаў, павітацца, спытаць ці папрасіць тое ці іншае, падзякаваць і заверыць іх ва ўдзячнасці бацькоў).

Таму на пошук вуліцы, на якой, як казала маці (а яна скончыла да вайны Мінскае педвучылішча, а пасля вайны – педінстытут), стаяў медінстытут, працягваўся каля гадзіны, бо адразу пайшоў на процілеглы канец Прывакзальнай плошчы. Знайсці вуліцу ўдалося, знайшоў на ёй і будынак з адпаведнай шыльдай. Але ўсе дзверы таго будынка былі зачынены – стаяў ліпень, заняткі закончыліся, быў час адпачынку. Потым былі знойдзены і іншыя інстытуцкія будынкі, аб чым сведчылі шыльды з надпісам «Минский государственный ме-

дицинский институт». Вось толькі ў іх аніяк не знаходзілася прыёмная камісія. Можа, яна і была, але мой язык ні тое што да Кіева, да яе не мог прывесці. Сцяўшы зубы, я некалькі разоў ababeг вакол будынкаў, прагна чакаючы, што хто-небудзь пазаве мяне і пазбавіць ад панікі і адчування таго сораму, які абрынецца па прыездзе дадому. Ніхто не зваў, нідзе нішто не сведчыла аб наяўнасці прыёмнай камісіі.

Калі набліжаўся апагей маёй роспачы, раптам вочы спыніліся на невялічкай шыльдзе, якая дагэтуль мне не траплялася. На чорным шкле белымі літарамі былі прапісаны «пазыўныя» жаданага інстытута. Было напісана яшчэ штосьці, але чытаць далей не было часу. Наперад, у амаль што адчыненыя дзверы! Не засмуціла нават тое, што лесвіца не падымалася, як звычайна, уверх, а спускалася на прыступак дзесяць уніз, у нейкі падвал. Спачатку нават не засмуціла, што ў пакоі, які адразу быў за дзвярыма, было цемнавата, вітаў незвычайны салодка-непрыемны пах. Да таго ж мае акуляры, якія я стаў насіць з паўгода таму, ад вільготнай цеплыні запацелі. Мацаючы адной рукой прастору, а другой праціраючы акуляры, я рушыў наперад! І тут жа адрынуў назад, бо левай рукой, якой мацаў, ухапіў нешта халоднае, слізкае і надзвычай агіднае! Адразу ўсё праяснела – пакой стаў светлым, акуляры чыстымі, а розум ясным: я апынуўся ў трупярні! На жалезных сталах радамі ляжалі мерцвякі з біркамі на нагах. А я стаяў адзін сярод іх, сціскаючы дрыжачымі рукамі скураную папачку са сваімі анкетай, атэстатам і заявай для паступлення ў інстытут. Інстытут, які праз шэсць гадоў павінен быў мяне накіраваць сюды ці ў падобнае месца. Месца, дзе будзе ўсё: хваробы, стогны, раны, кроў, слёзы, смерць...

Ніколі я так хутка і спрытна не пераадольваў дыстанцыю ў метраў трыццаць – па трупярні і па прыступках лесвіцы літаральна ляцеў. І тут спасціг апошні, кантрольны, стрэл па маім намеры стаць медыкам. Пакуль я блукаў сярод нябожчыкаў, да трупярні пад'ехала старэнькая палутарка з чатырма адчыненымі бартамі. З яе на нейкай падсцілцы два дужыя хлапцы ў брудных, калісьці белых халатах сцягвалі крывавае цела грузнай старой жанчыны. І пацягнулі перада мной. А я стаў ні жывы ні мёртвы, хаця галава стала зусім яснай, прасветленай літаральна за тыя імгненні, якія лёс адпусціў мне на фінішы вандроўкі ў пошуках сваёй будучыні ў галіне медыцыны.

Юнацкі розум выдаў два «файлы». Першы – настойлівыя ўгаворы заслаўскай гістарыцы Фрыды Аронаўны пайсці на гістфак БДУ. Паводле яе меркавання, я вельмі здольны да гісторыі, да расповедаў. Тады гэта абсалютна не ўспрымалася сур'ёзна, і я адмахваўся ад такіх парад, расцэньваючы іх як спробу зламаць мае ружовыя мары. Тым больш што настаўніца неяк прывяла ў клас аднаго са сваіх былых вучняў, які стаў студэнтам гістфака

ўніверсітэта. І гэты дзяцюк (а як яшчэ было ўспрымаць шкалярам студэнта аж 4-га курса) стаў падрабязна расказваць пра смак студэнцтва. Што гэта за смак – яго прыкладаў у галаве не засталося. Застаўся толькі адзіны сюжэт, ад якога жаданне вучыцца на гістфаку было пахавана як бы назаўсёды. Гэта тое, што на гістфаку БДУ ўсе выкладчыкі – амаль найлепшыя сябры студэнтаў, але ёсць прафесар «Сіняя Барада», які адзін трушчыць і губіць кожнага, хто патрапіць яму на «зуб». Нават запомнілася дзіўнае імя гэтага прафесара – Лаўрэн. Ды яшчэ больш дзіўнае прозвішча – Абэцэдарскі.

Трэба заўважыць, што сумясціць гэтага чалавека з аўтарам школьнага падручніка па гісторыі БССР не было магчымасці па прычыне абсалютна павярхоўнага вывучэння гэтай гісторыі (у параўнанні з гісторыяй СССР і ўсеагульнай гісторыяй). Ды калі яшчэ вучні звярталі ўвагу на імёны аўтараў гэтых фармалізаваных і надакучлівых кніжак?! Ні тады, ні цяпер.

Другі ж «файл» быў зусім свежы. Як толькі пачаліся мае пошукі прыёмнай камісіі медінстытута, праз мае акуляры міжволі кінуўся ў вочы велізарны транспарант, распасцёрты паміж высачэнным дрэвамі, якія раслі за жалезнай агароджай. На беларускай мове шматкаляровымі літарамі было напісана: «Дарагі абітурыент! Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт сардэчна вітае цябе і запрашае на вучобу!» Вось тут і ўзнікла дылема: скарыцца лёсу і пайсці напрасткі ў прыёмную камісію БДУ? Ці праявіць упартасць і працягваць пошукі шляхоў у медінстытут?

Паміж Сцылай і Харыбдай ліхаманкава быў адшуканы як бы выратавальны ерык. Успомнілася, што даведнік для абітурыентаў, які быў дасканальна вывучаны раней, на гістфаку БДУ пазначаў існаванне аддзялення філасофіі. Тады гэтая інфармацыя не ўзрушыла. Цяпер жа: «Ну, дык гэта ж самае тое! Гэта ж табе не прымітыўная гісторыя з яе «Сіняй Барадой». Тым больш Фрыда Аронаўна напірала на мае здольнасці пагаварыць. А філосафы, як падумалася, гэта гаваруны аб усім і не аб чым. Дык чаму б не стаць філосафам?! Буду працаваць галавой і языком, а не тварыць рукамі. Што тут зробіш, калі такая вось гісторыя з табой адбылася».

І ўраз я апынуўся сярод абітурыенцкага і бацькоўскага лямату, якім быў перапоўнены першы паверх цяперашняга корпуса геафака БДУ. Сталы, шафы, паперы, маладыя дзяўчаты, апранутыя па-летняму. Адны прымаюць у соцень рознага ўзросту абітурыентаў дакументы. Другія чагосьці бегаюць туды-сюды. І не бачна ніякіх сур'ёзных прафесараў, існаванне якіх у ВНУ замест звыклых школьных настаўнікаў так палохала. Знайшоў тры сталы, якія займалі дзяўчаты з гістфака. Кожны быў пазначаны просценькімі шыльдамі: «гісторыя», «філасофія», «палітэканомія». Адстаяў немалую чаргу да

«філасофіі». Запоўніў прапанаваную анкету, аддаў свае паперкі. Зусім асмялеўшы, пашчабятаў з прыемнай дзяўчынай, якая ўсё гэта сабрала ў адмысловую папачку, завязала на ёй вузельчык і сказала чакаць выкліку на экзамен па гісторыі СССР. Нават параіла, па якіх падручніках лепей рыхтавацца.

Калі прыехаў дадому і сказаў бацькам, куды ж гэта я падаўся вучыцца, то сцэна з «Рэвізора» прайгравала з разгромным лікам па фізіянамічным паказе! Калі ж твары маці і бацькі набылі звычайны стан, увесь дом ахапіла эйфарыя – сын будзе філосафам! Такая навіна маланкава прамчалася па вёсцы, нараджаючы і павагу, і зайздрасць. Я ж засеў і залёг на цэлы месяц за падручнікі па гісторыі СССР. Бацька па падказцы «знаўцаў» дзесьці дастаў і прынёс самы-самы выдатны падручнік – амаль што панацэю ад усіх экзаменацыйных падкавырак і нечаканасцяў. Ім, як казалі, быў дапаможнік пад рэдакцыяй на той час для мяне невядомага нейкага Дацюка, прызначаны для слухачоў Вышэйшых партыйных школ. Канешне, перад такім аўтарытэтным прачытаннем і на той час пужлівай савецкай і крыху дасавецкай гісторыі ніхто не мог паперці. Так разумелі ўсе мае дарадчыкі. Мне ж прыходзілася моршчыць лоб і ўнікаць ў нетры марксісцкага прачытання гісторыі як бы СССР, але адначасова і старажытнарускай гісторыі, гісторыі Маскоўшчыны, Расійскай імперыі. Праўда, гэтай дасавецкай гісторыі двухтомнік надаваў вельмі павярхоўную ўвагу. Што ледзьве не адгукнулася мне на экзамене.

Як медаліст, я рыхтаваўся толькі да гэтага экзамену. Неабходнасць весці падрыхтоўку (на ўсялякі выпадак) да здачы ўсіх чатырох экзаменаў нават не браў да галавы: ды я проста сфатаграфую тэксты гэтых двух тамоў у сваіх мазгах!

Ужо заканчваліся апошнія дні ліпеня, а выкліку з БДУ ўсё не было. Надышла раніца 31-га ліпеня. Заўтра павінен быў па раскладзе адбыцца першы экзамен для ўсіх медалістаў. Што рабіць? Бацькі як бы не турбуюцца і нават засвет прымусілі ўзяць серп і на агародзе спляжыць дзялянку ячменю. Але маці, пакуль я жаў, стала збіраць мяне ў Мінск, каб на месцы высветліць сітуацыю. І тут паштальёнка, толькі-толькі адчыніўшы браму, гучным голасам апавясціла: асабіста на імя Яноўскага Алега Антонавіча з БДУ дасланы вялікі канверт. Ну, нарэшце, выклік! Ад нечаканасці я нават добра разануў сярпом па сваім пальцы. Але як толькі трапятліва раскрыў канверт і ўчытаўся ў першыя радкі, то літаральна падкасіліся ногі. Прыёмная камісія прасіла ў Алега Антонавіча прабачэння за тое, што памылкова прыняла ад яго дакументы на аддзяленне філасофіі. Памылкова, бо паступаць на гэтае «ідэалагічнае» аддзяленне маглі толькі члены партыі ці асобы з працоўным стажам, пасля армейскай службы і абавязкова з накіраваннем ад райкамаў КПСС. Шчабя-

танне з дзяўчынай-прыёмшчыцай не засталося без наступстваў! Ну якім я мог быць «партыйным гадаванцам» у свае 16!

Што рабіць? Пісьмо мела параду: паколькі і на аддзяленні «гісторыя» медалісты здаюць падобны экзамен па гісторыі СССР, то пры жаданні можна перакінуць дакументы. Але для гэтага патрэбна асабістае рашэнне. І яго неабходна прыняць да 31 ліпеня – ліст ішоў з Мінска каля тыдня. Значыць, каб заўтра паехаць на экзамен, сёння я павінен імчацца ў БДУ! Іншых варыянтаў не было.

Ужо праз гадзіны тры я быў каля тых жа сталоў прыёмнай камісіі гістфака. Добра, што рэгулярна бегала электрычка Маладзечна – Мінск, якая амаль 15 гадоў была для мяне нейкім «універсітэтам на колах» (штодзённыя паездкі на вучобу ў школе і БДУ, на працу лабарантам і выкладчыкам, пакуль не пабудаваў сваю кааператыўную аднапакаёўку, зарабіўшы грошы на шабашках). Адна дзяўчына скасавала маю справу, а другая завяла на мяне справу ўжо як абітурыента, які выказаў жаданне стаць гісторыкам. Мне ж у гэта было цяжка паверыць – я выказаў жаданне?..

Назаўтра, пасля пераездаў туды-сюды і ночы з надакучыўшым да чорцікаў «Дацюком», быў зноў ва ўніверсітэце. Да свайго гонару, сам знайшоў у віхлявых калідорах Галоўнага корпуса і корпуса фізфака неабходную аўдыторыю. Моўчкі стаў у чаргу, каб пайсці за ці то жаданай, ці не вельмі пяцёркай і стаць студэнтам-гісторыкам. Побач дрыжэлі хлопцы і дзяўчаты, такія як я – учарашнія шкаляры і зусім «дзяды». На экзамене, і аб гэтым цудоўна ўспамінаць, здавалі свае веды тыя, хто праз месяц стане тваімі на ўсё жыццё аднакашнікамі і калегамі па прафесіі з шэрагаў нашай слаўнай другой групы 1968 года паступлення і 1973 года заканчэння вучобы.

Без праблем падрыхтаваўшы адказ па другім пытанні білета аб калектывізацыі, увайшоў у ступар, разглядаючы і так і сяк фармулёўку «Дворцовые перевороты в России». «Мой Дацюк» не скіраваў на засваенне гэтай тэмы. Ды і ў іншых падручніках я не асабліва адшукваў даўніну, бо маё «марксісцкае» выхаванне і гістарычная адукацыя, набытыя ў дзвюх школах, арыентавалі на тое, што сапраўдная гісторыя пачынаецца толькі з 1917 года. А тут гэтыя перавароты! «Дапамога нябёсаў» выступіла ў вобразе хлапца, які пайшоў адказваць перада мной. Ён сядзеў побач на лаўцы і нахабна гартаў нейкую брашуру. Я здзіўляўся, чаму экзаменатары не выганяюць яго за бессаромнае спісванне. Гэтая брашура засталася ляжаць на парце і была адгорнута якраз на той старонцы, дзе тлустымі літарамі было прапісана пытанне майго білета! А дробнымі – тэзы, якія павінны быць раскрыты падчас адказу. Аказалася, што гэтая брашура –

зборнік праграм уступных экзаменаў. І яе ўсім абітурыентам рэкамендавалі на кансультацыях (аб іх правядзенні я нават не ведаў) карыстацца ў час падрыхтоўкі і на саміх экзаменах. Хапіла некалькі хвілін, каб сабраць пазлы некалі і абы-дзе прачытанай інфармацыі пра часы Кацярыны, Ганны ды Лізаветы ў выглядзе адказу. Сабраць і пайсці адказваць.

А ў гэты час заканчваў адказваць той самы «нахабны хлапец». Яго адказ, не ведаю як экзаменатараў – двух сур'ёзных мужчын, – але мяне запалохаў! На ўсю аўдыторыю, дзе разам са мной сядзелі яшчэ тры абітурыенты, як з кулямёта на чыстай беларускай мове агучваліся невядомыя мне падрабязнасці даўняй і сучаснай гісторыі СССР. І калі экзаменатары сталі махаць рукамі і гучна каментаваць адказ, як прыклад для нас, небарак, то стала ўсведамляцца, што набліжаецца прыкры фініш усіх маіх намаганняў. Дасягнуць гэтай дасведчанасці я ніякім чынам не мог. А мне патрэбна было ісці на «эшафот» і скарыцца лёсу. Я проста не мог уцяміць, што ў Беларускім дзяржаўным універсітэце (!) я магу гаварыць па-беларуску! Толькі на рускай мове павінен, бо гэта ж вяршыня ўсіх адукацыйна-навуковых інстытуцый! Як гэта тут могуць карыстацца беларускай мовай, мовай вёскі?! А тут такі прыклад, які падаў невядомы мне хлапец, яўна мой равеснік і выпускнік вясковай школы.

Як прайшоў экзамен – цяжка згадаць. У галаве не засталося нічога дакладнага. Здаецца, адказваў паслядоўна і складна. Былі дадатковыя пытанні, былі пастаянныя дрыжыкі ў каленях, і «мурашкі» па спіне бегалі, але вердыкт экзаменатараў як стрэл у дзясятку. Гэта значыць, на паперцы экзаменацыйнага ліста была прастаўлена жаданая пяцёрка, замацаваная двума подпісамі – дацэнтаў Уладзіміра Нічыпаравіча Сідарцова і Аляксандра Пятровіча Ігнаценкі. Гэтыя імёны, як імя таго хлапца, майго сябрука па групе, па лабаранцтве пасля заканчэння факультэта, па далейшай выкладчыцкай працы на гістфаку, працы да дзён сённяшніх – Уладзіміра Аркадзьевіча Сосны – сталі вядомыя толькі з часу вучобы.

Тады ж усё адбывалася быццам у тумане. Нават да гэтага часу перад вачыма стаяць абсалютна неверагодныя малюнкі, якія ўзбуджаны да абсалюту розум тады зафіксаваў, абапіраючыся не на рэальнасць, а на тыя фантазіі і ўяўленні, што ўзнікалі ад самога факта: «Я павінен паступіць у самы-самы выдатны ўніверсітэт! Павінен! Я гэта зраблю!» Таму і будынкі, калідоры, аўдыторыі ўніверсітэта падаваліся вяршыняй прыгажосці і нават шыку. Вось чаму, па сутнасці, шэрыя і прагматычныя рэчы тады зафіксаваліся на ўсё жыццё ў выглядзе ці то разасланых паўсюдна шматкаляровых дываноў, адмысловых люстраў, якія зіхацяць пад столямі ўсімі фарбамі, нейкай натхняльнай аўрай, якая вітала паўсюдна.

Між тым з 1 верасня пачалася будзённасць новага вітка вучобы. Дакладней, пачалася на месяц не вучоба, а студэнцкая бульба. Усе без выключэння першакурснікі гістфака, без усялякіх стогнаў наконт «непрацаздольнасці» па стане здароўя, малалецтва ці сямейных абставін былі пагружаны на калгасныя бартавыя грузавікі, якія шчыльнымі радамі размясціліся на плошчы імя Леніна паміж Галоўным корпусам БДУ і Домам урада БССР. Сёння гэтую карціну нават цяжка ўцяміць. Уся плошча ўпрытык была застаўлена бруднымі (адмыць «працаўнікоў палёў» не было аніякай магчымасці), пашарпанымі, разнамаснымі машынамі. Іх кузавы не мелі лавак, але пад завязку былі набітыя духмянай залатой саломай.

Пасля «скарастрэльнага» мітынгу, дзе хтосьці штосьці спрабаваў агучыць, па ціхім закліку нейкага непрыкметнага дзядзькі (толькі потым уцямілася, што гэта быў сам (!) дэкан Пётр Захаравіч Савачкін) нас павялі рассаджваць па машынах.

Я нейкі час не мог зразумець, куды мне ў гэтым факультэцкім натоўпе ісці, бо не прыйшоў у канцы жніўня на агульны сход паступіўшых на факультэт (і не ведаў пра яго, і патрэбна было дапамагаць бацькам і бабулі са жнівом). Але нехта падказаў (зноў жа потым высветлілася, што гэта быў малады намеснік дэкана Уладзімір Антонавіч), што я належу цяпер да другой групы першага курса. Яна ж шыбае вунь да той машыны, якая павінна адвезці ў вёску Скнаравічы, што не так далёка ад Мінска. Гэтая навіна ўзрушыла: дык то адна з вёсак на радзіме бацькі! А там блізка хутар Абрыцкая Слабада, дзе жыве бабуля Алена! Ну, стала лягчэй.

З гэтымі думкамі падышоў да ўказанай машыны і бачу, што яна ўжо запоўнена хлапцамі і дзяўчатамі. Каб паказаць сваю спрытнасць футбаліста, амаль узляцеў праз задні борт у кузаў. І ледзь не апрытомнеў: сярод дзясяткаў твараў на мяне глядзела сваімі блакітнымі вачыма цуд-дзяўчынка! Ніколі такога дзявочага вобразу не сустракаў, хаця ў Заслаўскай школе мой спартыўны воблік ды выдатніцкія характарыстыкі прыцягвалі зашмат дзяўчат. Але ніхто з іх не ўзрушваў юнацкія фантазіі. А тут літаральна сустрэўся з анёлам у спадніцы (дакладней, у спартыўным трыко, якое аблягала абсалютна гарманічныя формы дзяўчыны).

Так перспектыва вучобы на гісторыка стала яшчэ больш прываблівай. Калі вучыцца прыйдзецца з гэтай дзяўчынай, то можна і паспрабаваць зразумець смак справы гісторыка, да якой і пасля атрымання студэнцкага білета аніяк душа не магла прыкіпець.

Як пакажа час, той месяц, што прайшоў на бульбе ў Скнаравічах, стане для нас, першакурснікаў, значна больш важным, чым для партыйцаў ней-

кія там «аб'яднальныя з'езды», аб якіх потым два гады нам будзе распавядаць грамавым голасам у курсе «Гісторыя КПСС» Аляксей Мітрафанавіч Малашка. Больш важным таму, што адбудзецца з'яднанне характараў, намераў, сумненняў, здольнасцей, жыццёвага вопыту кожнага з амаль што 30 хлапцоў і дзяўчат у нейкі адзіны арганізм. Усе будуць ісці сваім шляхам па вучобе, па працы, па жыцці. Але адзінства ў разуменні важкасці абранай прафесіі, працаздольнасць і натхнёнасць у ёй будуць фарміравацца на працягу пяці гадоў навучання на гістфаку БДУ не толькі дзякуючы нашым выдатным настаўнікам, але і таму, што вось так, нейкім дзіўным чынам у адной групе сыдуцца аднадумцы. Для ўсіх нас, студэнтаў другой акадэмічнай групы гістфака 1968–1973 гадоў навучання, перспектывы прафесійнай дзейнасці стануць усё больш і больш арыентавацца на навуку, на дасягненне самых высокіх яе вяршынь.

Таму прыемна цяпер сведчыць, што ты вучыўся разам з «Фядосам» – прафесарам, доктарам навук, загадчыкам кафедры, выдатным знаўцам усёй старажытнай і сярэднявечнай гісторыі Віктарам Анатольевічам Фядосікам. Што з ім падымаў сотні тон жалеза ў спартыўнай зале штангістаў БДУ і адстойваў гонар універсітэта на многіх спаборніцтвах, а потым доўгі час раніцой разам гойсалі вакол Камсамольскага возера і з задавальненнем абодва «маржаваліся» ў палонках з ледзяной вадой. Штодзённа спасцігаў азы і глыбіні гісторыі і прападаў у спартыўных залах з «Лёхам» – доктарам навук, прафесарам, загадчыкам аддзела ваеннай гісторыі НАН Беларусі Аляксеем Міхайлавічам Літвіным. А побач заўсёды з намі, школярамі, быў і шчыры сябра, і «дзядзька Татоша» – будучы кандыдат навук, дырэктар школ і загадчык райана, дырэктар Інстытута ўдасканальвання настаўнікаў Анатоль Іванавіч Гіро. Яшчэ апякунскую ролю над «маладымі» з групы адыгрываў наш групавы стараста «Нікадзімыч» – Міхаіл Нікадзімавіч Мурашка, які пасля абароны кандыдацкай дысертацыі паставіць амаль што рэкорд у сферы беларускай вышэйшай адукацыі, займаючы пасаду дэкана завочнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны на працягу амаль 30 гадоў. Да кагорты «вайскоўцаў» групы (хто перад паступленнем адслужыў у арміі) адносіўся і Георгій Фёдаравіч Шапавал, наш баявіты «Жора», які стане адным з увасабленняў шматграннасці гісторыка (першым у Беларусі распрацуе гісторыю турызму), прапрацаваўшы ад званка да званка на шматпрофільнай кафедры Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта.

А як не згадаць імёны аднакашнікаў па навучальнай групе, якія ў нашай агульнай *alma mater* прайшлі пасля атрымання дыплома гісторыка ўсе пу-

цявіны ў навуцы, сталі ўвасабленнем працягу педагагічнай варты гістфакаўцаў БДУ. Акрамя В. А. Фядосіка, гэта дацэнт кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў Уладзімір Аркадзьевіч Сосна (той самы гаваркі беларускамоўны хлапец). Для нас ён – прыклад адданасці беларушчыне. Наш Валодзя быў і застаецца тым маяком, на які мы імкнёмся кіравацца, прабіраючыся праз завалы розуму і спакусы прыстасаванства да сапраўднай Беларусі. Паліталагічныя таямніцы спасцігла наша выдатніца Люда – цяперашні дацэнт кафедры паліталогіі БДУ Людміла Уладзіміраўна Старавойтава.

На жаль, ужо даўно памёр мой сябрук і дарадца наконт таго, як адбудоўваць побыт маладога савецкага спецыяліста ва ўмовах 1970-х гадоў, «Цімох» – Мікалай Міронавіч Цімахоўцаў. Разам з ім мы прайшлі лабаранцкі шлях, калі на працягу 1973–1977 гадоў з нуля зрабілі музей гісторыі БДУ і за гэтыя заслугі былі «ўзнагароджаны» выкладчыцкімі пасадамі на кафедры гісторыі СССР. Ён – мой калега па гэтай кафедры, сусед па кааператыўным доме, суразмоўца часоў напісання намі кандыдацкіх дысертацый і шчыры суразмоўца пры абмеркаваннях палітыкі партыі і ўрада. З ім і другім нашым сябрам, «Раманычам» (Іванам Раманавічам Русаковым, які доўгі час узначальваў студгарадок Тэхналагічнага ўніверсітэта), была засвоена геаграфія амаль што ўсяго Савецкага Саюза, калі больш за дзесяць разоў студэнтамі, а потым лабарантамі і маладымі дацэнтамі ездзілі «на севера» і «па сібірах» па доўгі рубель на пабудову кватэр, на стварэнне прымальнага побыту маладых сем'яў. А галоўнае, каб быць цалкам самастойным, незалежным ад бацькоў у матэрыяльным плане.

Канешне, як не згадаць імя маёй жонкі і «анёла-захавальніка» Валюшачкі – найбольш вядомага не толькі ў Беларусі спецыяліста па канфесіянальнай гісторыі і ўвогуле шматбаковага па інтарэсах і навуковых здабытках даследчыка, загадчыка вызначальнага аддзелу (метады і гістарыяграфія заўсёды для навукоўца першасныя рэчы) Інстытута гісторыі НАН Беларусі Валянціны Васільеўны Аксёнавай (не, канешне, Яноўскай!). Шлях ад таго «саламянага грузавіка» да шлюбу быў доўгім і выкручастым. Але што наканавана – тое абавязкова збудзецца! Асабліва калі наканавана каханнем!

Зразумела, не ўсім маім сябрам і таварышам па групе і курсе ўдалося стаць навукоўцамі. Але ўсе сталі гісторыкамі! Нават прапрацаваўшы дзясяткі гадоў на самых розных пасадах. Так, наш выключны выдатнік (праўда, разам з Віктарам Фядосікам) «Саня» – Аркадзь Рыгоравіч Пазняк – будзе ў 1970–1980-я гады працаваць інтэлектуальным дарадчыкам сакратароў ЦК ЛКСМБ і ЦК ВЛКСМ, а потым доўгі час у Маскве сваімі выключнымі здольнасцямі суправаджаць дзейнасць кіраўніцтва Гандлёва-прамысловай палаты Расіі.

Мой сябар па пяці гадах навучання і пераездаў туды-сюды ў электрычцы Маладзечна – Мінск Валерый Фёдаравіч Мельнікаў стане палкоўнікам, хаця меў талент даследчыка. Ён нават фіксаваў гісторыю нашых пяці студэнцкіх гадоў, ствараючы своеасаблівыя малюнкі-коміксы, якія нам дазвалялі па-іншаму бачыць і гісторыю, і сябе. З удзячнасцю да яго і яго памяці (не так даўно Валерый заўчасна памёр) узгадваю два эпізоды нашага сумеснага шляху. Па-першае, ён пазнаёміў мяне з Міколам Ермаловічам, сваім настаўнікам па маладзечанскай школе. І нашы бясконцыя паездкі ў апошняй вячэрняй электрычцы з «Ленінкі» дадому ператвараліся ў шчырыя размовы. Зразумела, выключна распавядаў пра свае знаходкі ў бібліятэцы наш старэйшы суразмоўца. А мы сядзелі і слухалі, раз-пораз устаўляючы свае заўвагі, сэнс якіх зыходзіў ад «школы Абэцэдарскага». Менавіта так – праз гэтую школу нам прыйшлося прайсці, бо ў экстрэмальнай сітуацыі абодва студэнты адважыліся (каб выжыць пад ціскам «Сіняй Барады», як нам падавалася) папрасіцца на кафедру гісторыі БССР, якую ўзначальваў Лаўрэнцій Сямёнавіч. І пачаць пісаць пад яго кіраўніцтвам курсавыя, а потым дыпломную работы. І гэтае «па-другое» моцна нас аб'яднала. Адзін перад адным мы імкнуліся як мага глыбей спасцігнуць абраныя тэмы, дзяліліся сваімі знаходкамі.

Хацелася б узгадаць і многіх іншых сваіх аднакашнікаў, з якімі не парываюцца сувязі да гэтага часу. Але патрэбны другі фармат аповеду, не ў кантэксце назвы дадзенага.

Пасля такога доўгага ўступу патрэбна было б згадаць уласнае жыццё ў навуцы, на што складальнікі гадавіка і пабуджалі. Але міжволі захапілі ўспаміны пра пройдзены шлях да таго пэўнага рэпернага пункта, пасля якога і стала насычацца падзеямі і думкамі не проста твая біяграфія, а менавіта біяграфія навукоўца-гісторыка. Усё ж «прэпараванне данавуковага перыяду», як падаецца, для мяне натуральным чынам падводзіць да магчымасці заняцца працягам гэтага «хірургічнага» метаду пры расповедзе аб наступных «рэперах» навуковага сталення. А сталенне прайшло доўгі шлях. Яно працягваецца штодня і цяпер.

Можа, у іншы раз будзе магчымасць распавядаць аб пражытых пяці гадах у якасці студэнта-гісторыка са спецыялізацыяй па кафедры гісторыі БССР пад кіраўніцтвам «Сіняй Барады» – згаданага вышэй Абэцэдарскага (на ўсё жыццё захаваюцца ў памяці трагічна-анекдатычныя абставіны, як апынуўся разам з Валерам Мельнікавым на яго кафедры, як мы сталі выхаванцамі яго «школы»). Як і аб натхнёных штодзённых пошуках у «Ленінцы» крыніц па гісторыі разгортвання Лівонскай вайны на тэрыторыі Беларусі і аб друкаванні на чацвёртым курсе ў шостым томе БелСЭ вялікага артыкула аб гэтым

(вось толькі па прапанаваным тэксце жорстка прайшліся рэдактары, каб маё прачытанне тых 25 гадоў XVI стагоддзя адпавядала маскоўскай энцыклапедычнай матрыцы). Карціць расказаць і аб тых пакутах, якія прыйшлося перажыць спецыялісту-навічку ў галіне вайсковай гісторыі сярэдніх вякоў, калі жорстка была пастаўлена задача напісаць «для Масквы» тэкст аб «векавой баявой садружнасці рускіх і беларусаў» у часы той жа Лівонскай вайны і войнаў XVII стагоддзя.

Зусім іншая навуковая сцежка раптоўна пралягла, калі нечакана адбылося далучэнне студэнта-пяцікурсніка да збору інфармацыі па гісторыі БДУ, што дазволіла ўжо пасля атрымання дыплома стаць лабарантам кафедры гісторыі СССР, але для выканання спецзадання рэктарата – стварыць першы ў Беларусі музей гісторыі ВНУ. Першы музей гісторыі alma mater. Тут находзяць успаміны аб зноў жа штодзённай працы ў архівах і бібліятэках Беларусі і Расіі па зборы фактуры для гэтага музея і адначасовым працягу высвятлення абставін супрацьстаяння ВКЛ і Расійскага царства ў XVI ст. Аб тым, як потым у якасці ўзнагароды за годна створаны музей быў пераведзены на пасаду выкладчыка кафедры гісторыі СССР і як раптам прыйшлося «мяняць быка на індыка» – кінуць беларускае Сярэднявечча і пісаць завочна дысертацыю па гісторыі савецкага беларускага студэнцтва 1970-х гадоў. А тым часам прыйшлі дацэнцтва і прафесарства, авалоданне лектарскім майстэрствам на кафедры гісторыі СССР дасавецкага перыяду, рэалізацыя ідэі стварэння на яе аснове ў 1998 г. кафедры гісторыі Расіі, але з выкладаннем вялікага і складанага курса гісторыя Расіі і Украіны.

Свой адбітак у памяці пакінулі «камяні» на навуковым шляху, якія так і не прыйшлося пераадолець у форс-мажорных абставінах – імкненне спачатку напісаць, а потым дапісаць тэксты доктарскіх дысертацый. Так, менавіта дысертацый, бо тройчы браўся за зусім розныя тэмы: то за працяг разгляду абставін ваеннай гісторыі Беларусі XVI–XVII стагоддзяў, то тры гады працаваў у маскоўскім ЦГАДА і бібліятэках над высвятленнем «інкарпарацыі ВКЛ у склад Расійскай імперыі» і насаджэння расійскай адміністрацыі, то спрабаваў звесці пад шыльдай доктарскай свае напрацоўкі па гісторыі станаўлення ў Савецкай Беларусі найвышэйшых інтэлектуальных сфер – універсітэцкай і акадэмічнай.

Па-за навуковым шляхам пралягае ланцуг універсітэцка-адміністрацыйных пасад, на які нанізаны пасады намесніка дэкана роднага факультэта, а потым яго дэкана (што цешыць, упершыню ў гісторыі БДУ абранага калектывам факультэта з ліку трох канкурэнтаў, а не назначанага зверху), пасад прарэктара па вучэбнай рабоце і першага прарэктара, а таксама яшчэ і загадчыка кафедры

гісторыі Расіі. Пасады зводзілі на абочыну навукі, прымушалі наступаць на «горла сваёй песні». Між тым нават у іх цісках не было нічога больш цікавага і значнага, як адшукаць новыя звесткі, прасачыць сувязі і разрывы ў фактах і аднойчы крыкнуць самому сабе: «Эўрыка!»

На сёння, ужо апошнія гадоў гэтак 15, паступова (падумаўшы, гэта было наканавана ранейшымі штудыямі) схіліўся да спазнання лёсаў папярэднікаў: навукоўцаў і выкладчыкаў. І штодзень прасочваю гэтыя лёсы ў падзеях і працэсах палітычных, грамадскіх, культурных. Прасочваю і пражываю разам са сваімі героямі дзясяткі жыццёвых і прафесійных сітуацый. Пастаянна ловіш сябе на думцы, а як бы ты сам дзейнічаў у тых абставінах, у якіх праходзілі свой творчы шлях гісторыкі Уладзімір Іванавіч Пічэта, Дзмітрый Аляксеевіч Жарынаў, Аляксандр Антонавіч Савіч, Васіль Карпавіч Шчарбакоў, Аляксей Пятровіч П'янкоў, Мікалай Міхайлавіч Нікольскі, Фёдар Макар'евіч Нячай, Леў Міхайлавіч Шнеерсон, Аляксей Ісаевіч Сідарэнка, Пётр Захаравіч Савачкін, Лаўрэнцій Сямёнавіч Абэцэдарскі і іншыя. Аб іх лёсах, здаецца, напісаў неблагія артыкулы-нарысы, бо ўкладваў у тэксты не толькі малавядомую інфармацыю, але сваю душу, сваю ўдзячнасць. Як і аб жыцці беларускага юрыста-наркама і пракурора Маісея Абрамавіча Сегаля, проста прафесараў – фізіка Мікалая Мікалаевіча Андрэева, хіміка Барыса Маісеевіча Беркенгейма, юрыста Мікалая Мікалаевіча Краўчанкі; аднаго з забітых у «чорным кастрычніку» 1937 года рэктараў БДУ Аляксея Пятровіча Кучынскага ды іншых.

Можна лічыць, што падобны крэн у навуковых перавагах адбыўся пасля напісання ў пачатку 2000-х дзвюх кніжак – даследавання аб унёсках універсітэцкіх рэктараў у развіццё вышэйшай адукацыі і навукі ў Беларусі і даведніка аб універсітэцкай прафесуры. Таму і разуменне эфектыўнасці выкарыстання прасапаграфічнага метаду ў спалучэнні са сваімі кагнітыўнымі здольнасцямі і перакананнем, што найбольш важкае ў гісторыі ёсць чалавек, асоба – гэта сышлося ў адзіны малюнак і сэнс навуковай працы толькі на сёмым дзясятку гадоў жыцця.

Тым не менш натуральна нарастае жаданне нарэшце закончыць сумесны з жонкай Валюшай (прабачце, Валянцінай Васільеўнай!) «інтэлектуальны праект» – менавіта звесці пад адной вокладкай процьму назапашанай за доўгія гады інфармацыі ды крыніц і дапісаць кнігу аб гісторыі стварэння гісторыі БССР. Даўно прыдумана метафарычная і, як здаецца, трапная назва гэтага даследавання (пакуль што ўтрымаюся ад яе прадстаўлення, каб не сурочыць ідэю). Без згадвання асоб са свету гісторыкаў і палітыкаў тут не абысціся. Не абысціся і без расповеду аб светлых і цёмных старонках беларускай гісторыі і гісторыі як навукі...

Часцяком здзіўляешся, седзячы за сваім шыкоўным «гістарычным сталом» (паводле легенды, у 1945 годзе прывезеным у якасці ваеннага трафея з дачы Гебельса), што падараваў перад смерцю настаўнік, навуковы кіраўнік, калега і старэйшы сябар, франтавік-палкоўнік Анатоль Іосіфавіч Кажушкоў: як гэта так адбылося – вясковы хлапец, без імкнення і без жадання, стаў гісторыкам. Здзіўляешся і не можаш уявіць сябе іншым...

2018

ISSN 2424-5224

# «МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА». № 6 (1862). РУКАПІС НЕАПУБЛІКАВАНАЙ ГАЗЕТЫ[1]

*Падрыхтоўка да друку Аляксандра Смаленчука*

***Summary***

This is the first publication of the 6th *Mužyckaja Praŭda* draft edition which was discovered in Vilnius in 1989. The text invoked an uprising against the "Moscow Tsar." It considered peasants and petty bourgeoisie to be the main force and urged not to trust landlords. This draft, however, was not published during the insurrection.

The current publication has a big significance to the research of the uprising of 1863–1864, and the personality of its leader in Belarus and Lithuania – Kanstancin Kalinoŭski (1838–1864).

У 1989 г. у Вільні ў касцёле Св. Францыска Асізскага (Бернардзінскі касцёл) была выяўлена патаемная ніша, у якой знаходзіліся дакументы, датычныя паўстання 1863 г. Яны трапілі ў фонд Літоўскага нацыянальнага музея (Lietuvos Nacionalinis Muziejus). Сярод іншых дакументаў у гэтай калекцыі аказаўся рукапіс № 6 «Мужыцкай праўды». Таксама на асобнай картцы было па-польску напісана: *Oryginał Mużyckiej Prawdy. Nr 6.*

Выданне газеты звязана з дзейнасцю аднаго з кіраўнікоў паўстання ў Беларусі і Літве Вікенція Канстанціна (Кастуся) Каліноўскага (1838–1864), постаць якога за-

[1] Упершыню фотакопіі гэтых дакументаў былі апублікаваныя ў выданні «1863–1864 metų sukilimas Lietuvoje» (Vilnius: Lietuvos Nacionalinis Muziejus, 2013, p. 103–105).

ймае асаблівае месца ў беларускай гістарычнай памяці. Вобраз Кастуся Каліноўскага даўно перакрочыў межы ўласна гістарыяграфіі. Як трапна заўважыў вядомы публіцыст і літаратар Сяргей Дубавец, Каліноўскі стаў беларускім нацыянальным героем нумар 1. У 2006 г. падчас масавых пратэстаў супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у краіне вобраз Кастуся Каліноўскага ператварыўся ў сімвал барацьбы за дэмакратычную і свабодную Беларусь. Менавіта гэта было прычынай чарговай спробы сучасных прыхільнікаў «заходнерусізму» выкрасліць Каліноўскага з беларускай гісторыі як «безусловного поляка» і «экстремиста»[2]. Месца Каліноўскага ў беларускім нацыянальным пантэоне павінен быў заняць «талантливый администратор» губернатар Мураўёў, больш вядомы сучаснікам як «вешальнік». Гэтая спроба аказалася няўдалай, але не была апошняй.

Сёння зноў чуюцца галасы ідэолагаў і гісторыкаў, якія глядзяць на беларускую мінуўшчыну і постаць Кастуся Каліноўскага з пазіцый жыхароў «Заходняга краю Расеі». Іх актыўнасць не ў апошнюю чаргу справакаваная знаходкамі парэшткаў паўстанцаў 1863 г. на гары Гедыміна ў Вільні і ідэнтыфікацыяй (на 95%) асобы апошняга кіраўніка паўстання ў Беларусі і Літве.

У гэтай сітуацыі вялікае значэнне мае працяг даследаванняў гісторыі паўстання 1863–1864 гг. у Беларусі і Літве, а таксама постаці Кастуся Каліноўскага. Якраз таму з дазволу кіраўніцтва Літоўскага нацыянальнага музея на старонках гадавіка публікуем тэкст і выяву рукапісу № 6 «Мужыцкай праўды»[3], які так і застаўся рукапісам. Вядомы нам апублікаваны № 6 датычыў гвалтоўнай ліквідацыі грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі (1839) і заклікаў чытачоў вяртацца да «праўдзівай веры дзядоў і прадзедаў»[4].

А вось галоўнай тэмай неапублікаванага нумара была барацьба супраць «маскоўскага Цара», што забраў «нашую справядлівую вольнасць» з дапамогай «гыцляў» з «вялікіх паноў», якія сталі на шлях дзяржаўнай здрады. Гаворачы пра набліжэнне паўстання супраць «маскалёў», газета заклікала

[2] Гл., напр., Трещенок Я. История Беларуси. Часть 1. Досоветский период. Могилев, 2003, с. 128–134. Ягоныя тэзісы сёння агучвае І. Марзалюк. І невыпадкова, бо заходнерусізм прэтэндуе на ролю галоўнага канцэптуальнага стрыжня афіцыйнай ідэалогіі Рэспублікі Беларусь.

[3] Упершыню паспрабаваў апублікаваць тэкст гэтага дакумента Васіль Герасімчык у кнізе «Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда» (Гродна, 2018, с. 212–213). Аднак тэкст быў апублікаваны беларускай кірыліцай з шматлікімі тэкставымі недакладнасцямі, сучаснай пунктуацыяй і без належных каментароў і тлумачэнняў.

[4] Гл., напр.: Каліноўскі К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / Уклад., прадм., пасясл., каментары Г. Кісялёва. Мінск, 1999, с. 35–37.

не перадаваць уладу «панам», бо галоўнымі змагарамі за «вольнасць» з'яўляюцца «маладзёж», «местэчковыя» і «мужыкі».

Таксама трэба адзначыць спробу аўтара (ці аўтараў) растлумачыць чытачам, што яны жывуць на «літоўскай зямлі» і з'яўляюцца «літоўцамі». Гэта яшчэ адно сведчанне таго, як цяжка нараджалася ў XIX ст. уласна беларуская ідэя, што, дарэчы, зусім не змяншае заслугаў Кастуся Каліноўскага ў гэтым працэсе.

Даследчыкам варта падумаць пра адсутнасць традыцыйнага подпісу «Яська-гаспадар з-пад Вільні», а таксама пра тое, што найбольш частым зваротам да чытачоў быў нехарактэрны для іншых нумароў «Мужыцкай праўды» зварот «Дзяцючкі» як памяншальнае ад вядомага нам «Дзяцюкі»[5]. Застаюцца загадкай прычыны таго, чаму гэты нумар не быў апублікаваны.

Аўтарства Літоўскага правінцыйнага камітэта пацвярджаецца пячаткай з выявай поціску рук і словамі: «ODWAGA» і «ROZWAGA», а таксама вядомай манаграмай[6]. Дата складання «арыгіналу» (12 кастрычніка 1862 г.) прымушае пераглядзець вядомую нам храналогію выданняў нумароў «Мужыцкай праўды». Так, славуты знаўца Каліноўскага Г. Кісялёў лічыў, што № 4 газеты выйшаў «каля кастрычніка 1862 г.», № 5 – «каля лістапада 1862 г.», а № 6 – «каля снежня 1862 г.»[7] Гэтае датаванне з'яўляецца агульнапрынятым, але, відавочна, што яно патрабуе перагляду.

Тэкст публікуецца лацінкай з захаваннем аўтарскай пунктуацыі, а таксама пазначэннем правак у тэксце. Змешчаныя выявы дакумента ствараюць магчымасць для больш грунтоўнага знаёмства з тэкстам.

Публікацыю на старонках гадавіка прашу разглядаць як запрашэнне беларускіх гісторыкаў да даследавання…

Аляксандр Смалянчук

---

5 Слова «дзяцючок» сустракаецца ў *Слоўніку мовы Нашай Нівы.* 1906–1915. Том 1. А-Д (Навуковы рэд. тома В. П. Лемцюгова. Мінск, 2003, с. 575).

6 Выявы пячаткі і манаграмы можна ўбачыць у згаданым зборніку Г. Кісялёва «Каліноўскі К. За нашую вольнасць» (ілюстр. перад стар. 226).

7 Каліноўскі К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы, с. 296–297.

*Nr 6 Mużyckaja Prauda*[8]

*Wy Dziaciuki peunie nie wiedajecie chto wy takije, jak nazywajeć sia heta ziemla, na jakoj naszyje baćki żyli, na jakoj my żywiemo i naszyje dzietki życi buduć, szto z jeju czaupło sia z daunich let, jakim heto sposobom maskal pad siabie zaharnuù i dla choho to jon nas da hetaje pary jeszcze trymaje. Kab każen z was nie byu jak bydła, szto niczoho nie znaje, a wiedau usio toje, szto czeławiek wolny wiedać pawinien, – ja piszu heto piśmo – wy Dziaciuczki adno z uwahaju mienie pasłuchajcie.*

*Ziemla nasza z wiekou wiecznych nazywajeć sia litouskaja, a my to nazywajem sia Litoucy. Kaliś to i naszyje baćki mieli swaih karaliou, szto adwahu ich na wajnie, a sprawiedliwość u sudzie na ceły świet znali. Dla toho to Palaki szto to żywuć kala Warszawy naszaho Karala wybrali i swaim Karalom. Z hetaje pary Dziaciuczki my prasiahnuli na wiek wiekou życi z Palakami, razom na wajnu chadzici, mieci adzin rąd, adnu wieru, i jak szeroka ziemla nasza, adnu wolność dla usich.*

*No nie dumajcie, kab usie hetaho hacieli, było i mież nami szmat, a najbolsz z wielikaho pańskaho rodu, szto im wolność takaja wielmi kałoła u oczy; dla taho to jeny szukali tolko sposobu jak skrucici wolność, i samim adno z jeje karystawać. No prociu hramady nie mahli niczoho zrabici. I byłoby dobre u naszom kraju. No na naszeje bezhałowje u susiedztwie z nami żyu maskouski Car. U jeho Dziaciuczki z rodu nie było nijakoj wolności, nichto nawet nie byu życia peuny. Dla toho to Car maskouski wielmi zbajau sia, kab narod jeho uhledzieuszy naszu wolność, nie stau buntowaci sią i nie wyhnau Carou swoich za usie hołowy. Paczau jon dla toho z nami wajawaci, no nijak nie moh nas abdużaci, i jakojeby jon nie prysyłau wojsko, my zausiudy jeho wyhaniali.*

*Tahdy Car maskouski nie mohuczy nas wajnoju padbici wydumau druhi sposób, – ~~paczau~~ staù jon z hyclami, szto adno czyhali na naszu wolność szachrawaci, i jeny jemu zdradaju Polszcz addali, a Car za toje zapisauszy nas u skazki i u pańszczynu pozwolił każnomu abdziraci i sam stau hłumici.*

*Dumau Car, szto nichto jemu nie piereszkodzić usich ciemiężyć. No nie tak Boh sudziù. U 31 roku maładzioż da i miesteczkowyje, lepsz znajuczy jakaja to niesprawiedliwość na świeci, jak adni drihich ciemiężać, a usiemu hetamu najbolsz winien Maskal, zhawaryuszy sia, da i zbuntowali sia. Kiepsko byłoby uże z Maskalom, kab usienki narod paczau byu buntowaci, no za toje u nas, Dziaciuczki, mużyk dauno uże mieuby swoj kusok ziamli i byłoby szczaście i byłaby sprawiedliwaja wolność. No nie tak zrabiło sia jak hacieli tyja, szto dabro dumali. Mużyki nie wiedali za szto zbuntowali sia miestaczkowyja, da i maładzioż i dla taho nie pajszli da paustania, a ~~Pany~~ hycli z ~~pańskah~~ wielikaho pańskaho rodu zachapiuszy rąd u swaje ruki nie*

8 LNM_GRD – 47939-465_R-15886, A, B, C.

*dumali a wolności dla cełaho narodu, a jakby samim adno z jaje karystawać, - dla toho Dziaciuczki, Boh, szto sudzić sprawiedliwie, skazau nas usich: mużykou za toje, szto jeny niczoha nie wiedali (znali), maładzioż i miesteczkowych za toje, szto jeny addali rąd u pańskije ruki, a Panou za toje, szto jeny nie pa sprawiedliwości zrabici chacieli, – i Maskal, szto adno żywie naszoju kryudaju, znou nas zaproh usich u niawolu, a lepszym Panom zabrau ich majątki, i kali katory nie uciok da Prancuza, to jeszcze zahnau jeho u Sybir.*

*Napisau ja heto piśmo dla toho, kab usie wiedali jak rabici treba i skul dabra spadziewaci sia. Adzywaju sia ja da Was miesteczkowyja i maładioż i prasici Was budu, kali zbuntujecie sia to nie addawajcie u ruki panou nijakoho rądu, - my adno Wam budziem wieryci, a to dla toho, szto adno wy sami hatowy życie swaje addaci za naszu wolność.*

*Dziaciuczki, bratcy maje mużyckaho rodu, słyszyć sia uże toj czas, kali my nawieki rastaniemy sia z maskouskim ~~rądom~~ zdzierstwom, a wolność sprawiedliwaja budzie nahradaju za naszu pracu, za naszu krou, szto praljeć sia wyhaniajucza maskouskuju szarańczu!*

*Prowincyonalny Litewski Komitet*
*pozwala drukować z warunkiem*
*niezmiany i zwrotu oryginału*

*Wilno d. 12 paździer. 1862.*

№ 6 Mużyckaja Prauda

Wy Dziacinki peunie niewiedajecie chto wy
takije, jak nazywajeć sia heta ziemla na
jakoj naszyje baćki żyli, na jakoj my żywiemo
i naszyje dzietki życi buduć, – szto z jeju zdaw-
nało sia z daunich let, jakim heto sposobom ma-
skal pad siebie zaharnuu i dla czoho to jon nas
da hetaje pary jeszcze trymaje. Kab każen z was
nie byu jak bydla, szto niczoho nie znaje, a wiedau
usio toje szto czełowiek wolny wiedać pawinien,
– ja piszu heto pismo – wy Dziacinuszki adno z
uwahaju mienie pasłuchajcie.

Ziemla nasza z wiekou wiecznych nazywajeć
sia litouskaja, a my to nazywajem sia Litouny.
Kalis to i naszyje baćki mieli swaich karalou,
szto adwahu ich na wajnie, a sprawiedliwości u
sudzie na cały świet znali. Dla toho to Palaki
szto to żywuć kała Warszawy naszaho Karala wy-
brali i swaim Karalom, – z hetaje pary Dziacinuszki
my pryzwyczajili na wiek wiekou życi s Palakami
razom na wajnu chadzici, mieci adzin rad, adnu
wieru, i jak szyroka ziemla nasza, adnu wolność
dla usich. –

No nie dumajcie kab usie hetaho chacieli, było
i mież nami szmat, a najbolsz z wielikaho (panskaho rodu,
szto im wolności takaja wielmi nałoła u oczy;
dla toho to jony szukali tolko sposobu jak skru-
cici wolność, i samim adno z jeje karystawać. No
prociu hramady niemahli niczoho zrabici. –
I byłoby dobre u naszom kraju. No ria naszeje
bezhałowje u susiedztwie z nami żyu maskou-
ski Car. U jeho Dziacinuszki z rodu nie było ni-
jakoj wolności, wiele to naiwet nie byu życia peuny.
Dla toho to Car maskouski wielmi zbajau sia,
kab narod jeho uhledzieuszy naszu wolność, nie
stau buntować sia i nie wyhnau Carou swoich

za usie hołowy. Pacziaŭ jon dła toho z nami wajawaci, no nijak nie moh nas abduraci, i jakoje by jon nie prysyłaŭ wojsko, my zausiudy jeho wyhaniali.

Tahdy Car maskoŭski nie smohuczy nas wajnoju padbici wydumaŭ druhi sposob, – (staŭ) jon z hyclami, szto adno czyhali na naszu wolnoś szachrawaci, i jeny jemu zdradaju Polszcz addali, a Car za toje zapisaŭszy nas u skazki i u pańszczyznu pazwoliŭ kažnomu (abdziraci) i sam staŭ hłumici. –

Dumaŭ Car szto nichto jemu nie pieraszkodzić usich ciemiażyci. No nie tak Boh sudziŭ. W 31 roku maładzioż da i miasteczkowyje, lepiej znajuczy jakaja to niesprawiedliwoś na świeci, jak adni druhich ciemiažać, a usiamu hetamu najbolsz winien Maskal, zhawaryŭszy sia, da i zbuntowali sia. – Kiepsko była by uże z Maskalomi kab usienki narod paczaŭ (byŭ) buntowaci, no za toje u nas, Dziaciuczki, mužyk (smiertnyja) dliwaja wolnoś. No (nie tak zrabiło sia jak chacieli tyje szto dabro dumali.) Mužyki nie wiedali za szto zbuntowali sia miasteczkowyje, da i maładzioż i dla toho nie paszli da paŭstania, a (hycli z wielikaho pańskaho rodu) zachapiŭszy rząd w swaje ruki nie dumali a wolności dla cełaho narodu, a jakby samim adno z jeje karystawać, – dla toho Dziaciuczki, Boh, szto sudzić sprawiedliwie, skaraŭ nas usich: mužykoŭ za toje szto jeny niczoho nie (wiedali), maładzioż i miasteczkowych za toje szto jeny addali rząd w pańskije ruki, a Panoŭ za toje szto jeny nie pa sprawiedliwości zrabici chacieli, – i Maskal szto adno żywie naszoju kryŭdaju, znoŭ nas zaproh usich w niawolu, a (lepszym) Panom zabraŭ ich majątki i kali katory nie uciok da Francuza, to jeszcze u Sybir jeho zahnaŭ.

Napisaŭ ja heto piśmo dla toho, kab usie wiedali jak rabici treba (i skul dabra spadziewaci sia). Adzywaju sia ja da Was miasteczkowyje i maładzioż i prasiu Was budu, kali zbuntuje-


cie sia to nie addawajcie u ruki panou nijakoho
rzadu, — my adno Wam budziem wieryci, a to dla
~~tea~~ toho, szto adno sami hatowy życie swaje
addaci za naszu wolność. —
Dziacinuszki bratcy maje muzyckaho rodu,
słyszycie ~~nias~~ uże toj czas, kali my na wieki
rastaniemsia z maskouskim zdzierstwom, a
wolność sprawiedliwaja budzie nahradaju
za naszu pracu, za naszu krou, szto pra-
lijecsia wyzwalajuczy maskouskuju sza-
rańczu! —

Prowincyonalny Litewski Komitet
pozwala drukować z warunkiem
niezmiany i zwrotu oryginału. —
Wilno d. 12 Października 1862.

ISSN 2424-5224

# «ДАВЯЛОСЯ ШМАТ І ШМАТ ПРАЦАВАЦЬ...» З УСПАМІНАЎ БЕЛАРУСКАГА АКАДЭМІКА СТАСІСА МАТУЛАЙЦІСА (1866–1956)

*Падрыхтоўка да друку Валдаса Селяніса (Вільня)*

## *Summary*

This publication of sources is the fragment "In the Academy of Sciences in Belarus" of memoirs written by Lithuanian physician, historian and politician Stasys Matulaitis (1866–1956). The manuscript reveals the conditions of scientific work in Soviet science institutions during 1927–1937 until the Soviet authorities ordered a war against "nationalist elements." The first blow hit Belorussian historians whose interpretations contradicted not only the Soviet Marxism-Leninism "methodology," but also the concepts of Lithuanian historians. In his memoirs, S. Matulaitis described the way the prestigious title of academician in the Soviet science system was awarded to many uneducated personalities from the Communist Party bureaucratic apparatus, and their rogue activities. The fragment of the memoirs – partly handwritten, partly typescripted – has not been published yet because of its objectivity and heavy criticism of the Soviet style of administration. Four editions of these memoirs are preserved at the Library of Vilnius University.

У 2016 г. споўнілася 150 год з дня нараджэння гісторыка, дзеяча літоўскага нацыянальнага руху, сацыял-дэмакрата і камуніста-нонканфарміста Стасіса Матулайціса (Stasys Matulaitis) (1866–1956). Прафесійны лекар[1] і гісторык-аматар С. Матулайціс у 1923–1925 гг. працаваў настаўнікам у Марыямпальскай гімназіі. У 1925 г. ён быў арыштаваны пасля таго, як літоўскія спецслужбы выявілі групу гімназістаў, што мелі выбуховыя матэрыялы. Матулайціс выйшаў на свабоду пад грашовы заклад і здолеў перабрацца ў СССР.

З 1927 г. Матулайціс жыў і працаваў у Менску, быў сябрам ВКП(б)[2]. У 1927 г. узначаліў Літоўскі сектар Інбелкульта, а ў 1935 г. быў прызначаны дырэктарам Інстытута нацыянальных меншасцяў Беларускай акадэміі навук[3]. Падчас Вялікага тэрору ў 1937 г. быў арыштаваны і высланы ў Казахстан. У Вільню вярнуўся ўжо пасля вайны.

Даследчык Вітаўтас Сцяпонас падчас працы над бібліяграфіяй С. Матулайціса атрымаў ад яго спіс неапублікаваных прац. Таксама гісторык прыгадаў, што рукапісы гэтых прац былі знішчаны супрацоўнікамі НКУС падчас ягонага арышту і зняволення ў Менску ў 1937–1939 гг. С. Матулайціс меў на ўвазе даследаванні, прысвечаныя купцам і гандлярам Літвы (*Lietuvos pirklyba*), нарыс гісторыі Літвы ад Люблінскай уніі да расейскай анексіі ў канцы XVIII ст. (*Lietuvos istorija nuo Liublino unijos iki prisijungimo prie Rusijos*), а таксама II том гісторыі паўстання 1863 г. Апошні тэкст існаваў у дзвюх версіях: машынапіс на літоўскай мове (*1863 m. Lietuvoje I. Sukilimai*) і рукапіс на рускай мове (*1863 г. в Литве. II. Восстание*).

С. Матулайціс распавёў і пра тое, што ягоная кніга пра літоўскае нацыянальнае адраджэнне (*Lietuvių tautinio pasiliuosavimo judėjimas ir jo klasinė esmė,* 1935 m.) была надрукавана, але распаўсюд улады забаранілі[4].

«Гісторыю літоўскага народа» (*Lietuvių tautos istorija*) С. Матулайціс быў гатовы апублікаваць яшчэ ў 1913 г., аднак перашкодзілі пэўныя праблемы і вайна. Пасля пэўнай дапрацоўкі, абумоўленай імкненнем аўтара, каб на першы план гістарычнага развіцця «выходзілі рэальныя ўмовы жыцця, а не намаганні асобных людзей»[5], кніга была апублікаваная спачатку ў Варонежы

[1] У 1891 г. ён закончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта (заўвага рэд.).
[2] Mažiulis A. Stasys Matulaitis. Lietuvių enciklopedija. T. 18. Boston, 1959, p. 522.
[3] Лінднер Р. Гісторыкі і ўлада. Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст. Мінск, 2003, с. 195, 214.
[4] Steponaitis V. Stasys Matulaitis lietuvių literatūroje. Нацыянальная бібліятэка Літвы. Аддзел рукапісаў. Ф. 25, спр. 206, арк. 8.
[5] Matulaitis St. Lietuvių tautos istorija. Kaunas, Vilnius, 1923, p. 2.



*Стасіс Матулайціс.*

(*Lietuvių tautos istorija.* Voronežas: Kultūros ir švietimo sekc., 1918), а потым ў Коўне (*Lietuvių tautos istorija.* Kaunas: «Švyturio» b-vė, 1923).

Кніга ўтрымлівала наступныя сюжэты: старажытная Еўропа, літоўцы да прыняцця хрысціянства, з'яўленне крыжакоў, прыняцце каталіцызму і унія з Польшчай, эпоха Вітаўта, ад Вітаўта да Люблінскай уніі, ад Люблінскай уніі да адмены прыгону. Апошняя частка была прысвечаная нацыянальнаму адраджэнню літоўскага народа[6]. Вялікая ўвага надавалася сацыяльна-эканамічным адносінам, аўтар часта цытаваў працы Карла Маркса. Трэба адзначыць, што ў перыяд праўлення ў Літве хрысціянскіх дэмакратаў (1922–1926) гэтая кніга, якая выкарыстоўвалася як падручнік, стала аб'ектам крытыкі, вастрыня якой была накіравана супраць атэістычнай пазіцыі аўтара[7].

У сваёй галоўнай працы, прысвечанай сацыяльна-эканамічнаму становішчу Літвы напярэдадні паўстання 1863 г. (*1863 m. Lietuvoje I. Socialinis-ekonominis Lietuvos stovis prieš sukilimą,* 1933 m.), Стасіс Матулайціс прааналізаваў становішча розных сацыяльных груп, у т. л. шляхты, гараджан, дзяржаўных

---

6 Ibidem, p. 258.

7 Gieda A. Istoriografija ir visuomenė: istorika, istoriko profesijos ir istorinės kultūros aspektai Lietuvoje 1904–1940 m. Daktaro disertacija. Vilnius, 2013, p. 354.

і прыватнаўласніцкіх сялян, вясковага пралетарыяту, духавенства, асоб «свабодных прафесій», паказаў працэс пранікнення ў вёску капіталістычных адносін і абвастрэнне «класавай барацьбы». За гэтае даследаванне ён атрымаў ступень доктара гістарычных навук. Аднак кнігу крытычна ацанілі ў Маскве і абвінавацілі аўтара ў «нацыянальным шавінізме». Ён быў высланы ў Казахстан. Амністыя адбылася толькі пасля Другой сусветнай вайны, і гісторык вярнуўся ў Вільню[8].

Аўтацэнзураваныя ўспаміны С. Матулайціса выйшлі з купюрамі толькі ў 1957 г. (*Atsiminimai ir kiti kūriniai.* Vilnius, 1957). У прадмове выдаўцы адзначылі, што заслугі С. Матулайціса былі высока ацэненыя савецкім урадам. Сапраўды, ён быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга і, як адзначалася, сваімі даследаваннямі зрабіў значны ўнёсак у «рэвалюцыйную барацьбу літоўскага рабочага класа», а таксама ў «скарбніцу літоўскай мовы і культуры».

Гісторык пачаў пісаць мемуары яшчэ ў 1920 г. у Лукішскай турме, наступная спроба мела месца ў 1939 г. З гэтага часу Матулайціс працаваў над імі з перапынкамі да канца жыцця. Аўтар закончыў мемуары падзеямі 1925 г., калі ён выправіўся ў Маскву[9]. Аднак захаваны рукапіс даволі моцна адрозніваецца ад апублікаваных успамінаў. Першым гэта заўважыў Гінтарас Мітрулявічус. Менавіта ён найбольш грунтоўна вывучаў і аналізаваў мемуары чалавека, якога з поўным правам можна назваць «жывой гістарычнай хрэстаматыяй». Г. Мітрулявічус у сваім вялікім артыкуле некалькі старонак таксама прысвяціў працы С. Матулайціса ў Беларускай акадэміі навук[10].

У першым выданні ўспамінаў (*Atsiminimai. Poezija prozoje.* Vilnius, 1952) у раздзеле «У Беларускай акадэміі навук» гісторык пісаў пра ўмовы навуковай працы ў акадэмічных структурах Беларусі і пра пачатак кампаніі барацьбы з «нацыяналістычнымі элементамі». Апошняе датычыла беларускіх гісторыкаў, інтэрпрэтацыі якіх часта ўступалі ў канфлікт не толькі з палажэннямі савецкай марксісцка-ленінскай гістарычнай навукі, але таксама з поглядамі літоўскіх даследчыкаў. Пры гэтым аўтар у сваіх ацэнках і характарыстыках не выходзіў за межы дамінуючага камуністычнага дыскурсу.

8 Mažiulis A. Stasys Matulaitis. Lietuvių enciklopedija. T. 18. Boston, 1959, p. 522.

9 Matulaitis S. Atsiminimai ir kiti kūriniai. Vilnius, 1957, p. 202.

10 Mitrulevičius G. «Pilviškių daktaro» gyvenimo zigzagai: Stasio Matulaičio «Atsiminimų» rašymo istorija, keletas fragmentiškų ir apibendrintų žvilgsnių į jo gyvenimą. // Suvalkija. 2013, Nr 1 (46), p. 31–37; «Pilviškių daktaro» gyvenimo zigzagai: Stasys Matulaitis ir jo patirtys po 1925 metų – istorikas, politinis emigrantas, tremtinys, aktyvus komunistas ir antikomunistas. II dalis // Suvalkija. 2012, Nr 2 (45), p. 15–17.

С. Матулайціс распавёў пра парадак прысваення акадэмічных званняў у БелАН, які часта нагадваў пэўны фарс, а таксама пра адносіны паміж сапраўднымі навукоўцамі і «акадэмікамі». Прапанаваны фрагмент успамінаў, як адзначыў ва ўводзінах сам Матулайціс, перапісваўся тры разы[11]. Упершыню ён апісаў гэты перыяд свайго жыцця і дзейнасці ў 1920 г. у Лукішскай турме ў Вільні, куды быў кінуты «польскай акупацыйнай уладай», у другі раз – у Казахстане, у пас. Качырай Паўладарскага раёна, і ў трэці раз – калі яму споўнілася 86 год (1952).

Рукапіс цяжка чытаць, у ім шмат правак і перакрэсліванняў. Да таго ж яго даводзілася хаваць у зямлі, і вільгаць сапсавала тэкст. Як прызнаваўся сам Матулайціс, ён імкнуўся аб'ектыўна апісаць рэчаіснасць і ідэалы чалавека, які змагаўся за «сапраўдную свабоду». Калісьці гісторык далучыўся да камуністаў і быў з імі, пакуль не пераканаўся, што іх ідэалы свабоды насамрэч ператварыліся ў жорсткую тыранію.

У аддзеле рукапісаў бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта захоўваюцца чатыры рэдакцыі мемуараў, з якіх толькі апошняя ўяўляе сабою машынапіс, і менавіта гэтая частка і была падрыхтаваная да друку. Дадзены фрагмент успамінаў С. Матулайціса прысвечаны навуковай працы ў Беларускай акадэміі навук. Гэта ўнікальная крыніца дазваляе паглядзець на працэс саветызацыі беларускай гуманістыкі вачыма яе ўдзельніка.

Большасць каментароў да фрагмента ўспамінаў падрыхтаваныя рэдакцыяй. Каментары В. Селяніса пазначаныя.

## *У Беларускай акадэміі навук*[12]

У перыяд маёй працы лекарам у Ленінградзе мне прапанавалі ўзначаліць у сталіцы Беларускай Рэспублікі, у Менску, як у той час казалі, кафедру гісторыі Літвы і яе дачыненняў з Беларуссю. Наогул, паняцце «кафедра» звязана са студэнтамі і працэсам навучання, але ў маёй сітуацыі гаворка ішла пра навуковыя даследаванні мінулага Літвы. Паколькі мяне здаўна вабіла гісторыя і я быў ужо аўтарам «Гісторыі Літвы», а таксама працаваў настаўнікам гісторыі ў Марыямпальскай гімназіі, то пагадзіўся. Тым больш што мая праца ў Ленінградзе была даволі цяжкай. У якасці галоўнага лекара я павінен быў клапаціцца пра забеспячэнне сваёй разгалінаванай установы

[11] Matulaitis S. Poema prozoje. Mano gyvenimo atsiminimai. 1952. 164 lap. Antrosios memuarų dalies redakcija. Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. Ф. 91, спр. 318, арк. 375–389.

[12] Ibidem.

ўсім неабходным. [ … ] У яе складзе было 6 асобных падраздзяленняў: амбулаторыя, два лекары, аддзяленне хатняй дапамогі, вялікі радзільны дом, дзіцячы садок і малочная[13]. Гэта была вельмі цяжкая праца, бо як галоўны лекар я павінен быў забяспечыць усіх ежай, інструментамі, бялізнай і мэбляй. А зрабіць гэта было надзвычай складана, бо ні інструментаў, ні бялізны, ні мэблі ў продажы не было альбо было вельмі мала. У савецкіх установах быў (і застаецца!) прынцып: «Хоць з-пад зямлі выкапай, але каб усё было». Таму я пагадзіўся ехаць у Менск без усялякіх сумневаў.

Ужо на пачатку працы ў Менску я зразумеў, што мае гістарычныя веды недастатковыя, як і валоданне марксісцкім метадам аналізу гістарычных падзей. Давялося шмат і шмат працаваць, каб не толькі дагнаць тых, хто ішоў наперадзе, але і абысці іх.

У Менску працавалі прафесар Пічэта[14], аўтар шматлікіх прац па гісторыі Літвы і Беларусі, і прафесар Ясінскі[15], член-карэспандэнт Чэхаславацкай акадэміі навук. Таксама трэба назваць Дружчыца[16], які не меў такога высокага ўзроўню, але таксама быў прафесарам. Некалькі год мне давялося інтэнсіўна працаваць.

Грунтоўнае знаёмства з архівамі і гістарыяграфіяй нарадзіла ідэю напісаць гісторыю Літвы на аснове марксісцкага гістарычнага матэрыялізму. Аднак я не быў гатовы адразу распачаць гэтае даследаванне і вырашыў напісаць пра

---

13 Matulaitis S. Poema Prozoje. T. 1. 1–6 sąs. Antroji redakcija. Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. Ф. 91, спр. 317, арк. 2–3.

14 Уладзімір Пічэта (1878–1947), гісторык, стваральнік «беларускай гістарычнай школы». Акадэмік Беларускай акадэмі навук (1928), акадэмік АН СССР (1946). У 1910–1911 гг., а таксама з 1939 г. выкладаў у Маскоўскім універсітэце. У 1921–1929 гг. быў рэктарам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, прафесар. Асноўныя працы: *Аграрная реформа Сигизмунда Августа в Литовско-русском государстве* (1917), *История народного хозяйства в России в XIX–XX вв.* (1922), *История Белоруссии. Часть I* (1924), *Белоруссия и Литва в XV–XVI вв.* (1961). У. Пічэта ўключаў у беларускі этнаграфічны арэал таксама Віленскі край.

15 Антон Ясінскі (1864–1933), гісторык, прафесар (1896), акадэмік Чэшскай акадэміі навук, славеснасці і мастацтваў (1907), акадэмік Беларускай акадэміі навук (1928). У 1929–1933 гг. працаваў у Інстытуце гісторыі БелАН.

16 Васіль Дружчыц (1886–1937), гісторык, з 1933 г. супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, прафесар Літаратурнага інстытута ў Маскве. Даследаваў гісторыю Беларусі эпохі феадалізму, магдэбургскае права, кнігадрук. У студзені 1937 г. быў арыштаваны органамі НКУС, у снежні таго года асуджаны да расстрэлу і расстраляны ў Менску. Рэабілітаваны ў 1958 г. (гл.: Возвращенные имена. Сотрудники АН Беларуси пострадавшие в период сталинских репрессий. Под редакцией А. С. Махнача. Минск, 1992, с. 46).

розныя эпохі гісторыі Літвы Новага часу. Спачатку засяродзіўся на гісторыі Рэфармацыі, аднак высветліў, што не хапае гістарычных крыніц. Давялося адмовіцца ад гэтай тэмы і звярнуцца да гісторыі Найноўшага часу, а менавіта гісторыі паўстання 1863 г. у Літве. Гэтая тэма здавалася лягчэйшай, да таго ж у архівах Ленінграда і часткова Масквы было шмат дакументальных крыніц. Спачатку варта было звярнуць увагу на эканамічныя перадумовы, якія падштурхоўвалі жыхароў Літвы да падтрымкі або ўдзелу ў паўстанні.

Вынікам амаль двухгадовай працы з гістарычнай літаратурай і архіўнымі крыніцамі стала выданне першага тома даследавання эканамічнага становішча Літвы напярэдадні паўстання. Кніга выйшла ў друкарні Расейскай акадэміі навук[17], бо ў Менску не знайшлося лацінскіх літар.

Перш чым працягваць гаворку пра сваю далейшую дзейнасць, варта апісаць пераўтварэнне Інстытута беларускай культуры ў Беларускую акадэмію навук, ахарактарызаваць яе супрацоўнікаў і даследаванні ў розных галінах навукі.

Мая праца ў Інбелкульце распачалася ўвосень 1927 г. У 1928 г. цэнтральныя ўлады загадалі ператварыць Інстытут у Беларускую акадэмію навук. Былі складзеныя спісы асобаў, якія ў першую чаргу павінны былі атрымаць званне акадэмікаў. Паколькі ў інстытуце былі толькі два чальцы камуністычнай партыі – я і дырэктар Інстытута Ігнатоўскі[18], – то, зразумела, што мы, як прадстаўнікі партыі, увайшлі ў гэты спіс. Таксама ў спісе былі Пічэта, Ясінскі, беларускі мовазнаўца Чарнушэвіч[19] і Ластоўскі[20].

---

17 Аўтар мае на ўвазе Акадэмію навук СССР.

18 Усевалад Ігнатоўскі (1881–1931), гісторык, акадэмік БелАН (1928). У 1921–1926 гг. – народны камісар асветы БССР, прафесар БДУ, намеснік рэктара, у 1929–1931 гг. – прэзідэнт АН БССР. У 1931 г. выключаны з УКП(б) за «нацыяналістычныя памылкі». У лютым 1931 г. пасля допыту ў АДПУ скончыў жыццё самагубствам. Асноўныя працы: *Кароткі нарыс гісторыі Беларусі* (выд. 1919–1927, 1991), *Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецьця* (1926), *1863 на Беларусі* (1930).

19 Дзмітры Чарнушэвіч (1882–1938), дзяржаўны дзеяч, мовазнаўца. У 1924 г. – народны камісар унутраных справаў БССР. На пачатку 1930-х – намеснік дырэктара Інстытута літаратуры, мастацтва і мовы АН БССР. Арыштаваны органамі НКУС у чэрвені 1938 г., расстраляны ў тым жа месяцы. Рэабілітаваны ў 1958 г.

20 Вацлаў Ластоўскі (1894–1938), гісторык, палітык, мовазнаўца. У 1909–1915 гг. – сакратар рэдакцыі газеты «Наша Ніва». Між іншым сцвярджаў, што тэрмін «Русь» быў прынесены нармандскімі заваёўнікамі і ў X ст. стаў назвай абшару, дзе жылі пераважна праваслаўныя славяне. У XIII–XIV стст. немцы называлі «Белай Руссю» Масковію (Маскоўскае княства). Адпаведна, сучасная назва «Беларусь» павінна быць замененая на назву «Крывія», бо менавіта крывічы як самабытны народ былі продкамі беларусаў. (Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мінск, 1997, с. 372–386). У 1926 г. у савецкім пасольстве ў Коўне прадстаўляў канцэпцыю, паводле якой сучасныя літоўцы

Апошні трапіў у акадэмікі толькі таму, што з'яўляўся радыкальным беларускім нацыяналістам. Некаторы час ён жыў у Літве і кіраваў выданнем беларускага нацыянал-шавіністычнага часопіса «Крывіч». Паводле Ластоўскага, паколькі сучасныя беларусы з'яўляюцца нашчадкамі старажытных крывічоў, то і краіна павінна быць «Крывіяй». Гэты шавіністычны настрой цалкам адпавядаў пазіцыі тагачасных кіраўнікоў савецкай улады ў Беларусі (старшынём Савета народных камісараў быў Галадзед, а старшынёй Вярхоўнага савета Беларусі – Чарвякоў), і тым больш адпавядаў настроям такіх супрацоўнікаў Інстытута, як Ігнатоўскі, Чарнушэвіч ды інш. Мы ўсе прынамсі мелі вышэйшую адукацыю, а Ластоўскі трапіў у лік акадэмікаў наогул без адукацыі.

Спіс акадэмікаў быў складзены кіраўнікамі савецкай улады ў Беларусі і зацверджаны ў Маскве. Такім чынам і я стаў акадэмікам. Цяпер даводзілася працаваць яшчэ больш руплівa, каб быць годным гэтага высокага звання. І я працаваў, прыгадваючы старую французскую прыказку *Noblesse oblige* – г. зн., імя абавязвае, прымушае паводзіць сябе пэўным чынам.

Пачалася рэарганізацыя і пашырэнне дзейнасці новай інстытуцыі – Беларускай акадэміі навук. Першым крокам стаў пераезд у іншы будынак. Павялічылася колькасць аддзяленняў, якія ў акадэміі называліся інстытутамі. Так, быў арганізаваны Інстытут гісторыі, дырэктарам якога застаўся прэзідэнт акадэміі Ігнатоўскі. Дырэктарам Інстытута мовы і літаратуры стаў Чарнушэвіч[21]. Былі арганізаваны інстытуты геалогіі, біялогіі, хіміі, фізіка-матэматычны, даследаванняў глебы ды інш. Яны паўставалі па меры забеспячэння іх навуковымі кадрамі.

Нацыянальныя меншасці таксама мелі свае аддзяленні – інстытуты. У палякаў быў Інстытут польскай культуры, у габрэяў – Інстытут габрэйскай культуры, а культуру літоўцаў і латышоў (пазней быў адкрыты) прадстаўляў адзін Шкільтэр[22], і ў гэтым выпадку захавалася такая ж кафедра. Праз некалькі гадоў, калі ў выніку асігнавання дадатковых сродкаў у мяне з'явіўся яшчэ адзін супрацоўнік Скарджус[23], кафедру ўжо назвалі Літоўскім інстытутам.

з'яўляюцца нашчадкамі гістарычных жамойтаў. У 1930 г. быў арыштаваны АДПУ па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Высланы ў Саратаў. У 1937 г. арыштаваны другі раз як «польскі шпіён». Расстраляны ў 1938 г. у Саратаве. Рэабілітаваны ў 1988 г.

21 Насамрэч, Д. Чарнушэвіч быў намеснікам дырэктара.

22 Карл Шкільтэр (1891–1970), гісторык, працаваў у латышскім сектары БелАН, дырэктар Дзяржаўнай бібліятэкі БССР ім. Леніна. Арыштаваны ў 1937 г. і асуджаны на 7 год зняволення. У 1956–1964 гг. – ст. навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР (гл.: Возвращенные имена..., с. 112).

23 Вінцас Скарджус (Вікенці Скардзіс) (1897–1967), гісторык, паэт і публіцыст. З 1930 г. – супрацоўнік літоўскага сектара, Інстытута нацыянальных меншасцяў.

Потым да яго далучылі латышскае аддзяленне, і я як дырэктар ужо ўзначаліў Літоўска-латышскі інстытут. Усё гэта адбывалася ў 1930 г., калі нацыянальныя меншасці былі аточаныя ўвагай, іх падтрымлівалі, імі цікавіліся.

А вось Польскаму інстытуту, які меў два аддзяленні – гісторыі, а таксама мовы і літаратуры, – чамусьці не шчасціла. Інстытут доўгі час не меў дырэктара. Віткоўскага[24] арыштавалі і, здаецца, абвінавацілі ў беларускім шавінізме, альбо, як тады называлі, «нацыянал-дэмакратызме», і выслалі ў Сібір, у Марыінскі лагер, дзе ён і адбываў прызначаны тэрмін. Пасля яго дырэктарам быў Домбаль[25], прысланы з Масквы з загадам абраць яго акадэмікам, што мы і зрабілі. Ён таксама быў прызначаны віцэ-прэзідэнтам акадэміі. Гэта быў весялун, цікаўны да жаночага полу, які зусім не клапаціўся пра лёс Польскага інстытута, колькасць супрацоўнікаў якога змяншалася. Затое пісаў даносы на прэзідэнта Ігнатоўскага і Жылуновіча[26] [...], сцвярджаў, што яны ворагі савецкай улады і ніякія не камуністы. У выніку яны былі выгнаныя з партыі і звольненыя.

Гэта быў толькі пачатак антыбеларускіх рэпрэсій. Ігнатоўскі, Жылуновіч, Ластоўскі, Чарнушэвіч ды інш. былі не толькі арыштаваныя, але і дэпартаваныя на ўсход Расеі. Новага прэзідэнта, маладога хлопца Горына[27], прыслалі з Масквы. Нам, Радзе акадэмікаў, было даручана выбраць яго акадэмікам і

---

Даследаваў гісторыю літоўцаў у Беларусі. Арыштаваны ў снежні 1937 г. Высланы ў Казахстан. Рэабілітаваны ў 1957 г. У 1958 г. пражываў у Кустанайскай вобл. Казахстана. Звестак пра далейшы лёс няма.

24 Іван Віткоўскі (1888–1937), гісторык, прафесар, у 1932–1933 гг. – дырэктар Інстытута польскай пралетарскай культуры БелАН. Арыштаваны ў 1933 г. Асуджаны на 3 гады лагера. У 1937 г. паўторна арыштаваны органамі НКУС. Расстраляны ў снежні 1937 г. Рэабілітаваны ў 1959 г. (гл.: Возвращенные имена…, с. 27).

25 Томаш Домбаль (1890–1938), эканаміст, прафесар (1932), акадэмік (1933), віцэ-прэзідэнт АН БССР (1935), дырэктар Інстытута эканомікі. Арыштаваны органамі НКУС у снежні 1936 г. Асуджаны і расстраляны як «польскі шпіён». Рэабілітаваны ў 1956 г. (гл.: Возвращенные имена…, с. 43–44).

26 Зміцер Жылуновіч (1887–1937), пісьменнік, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, акадэмік БелАН (1928). Узначальваў Дзяржаўнае выдавецтва БССР, быў намеснікам народнага камісара асветы. У 1934–1936 гг. – супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР. Арыштаваны органамі НКУС у лістападзе 1936 г. Памёр у красавіку 1937 г. у шпіталі ў Магілёве. Рэабілітаваны ў 1987 г. (Гл.: Возвращенные имена…, с. 50–51).

27 Павел Горын (Каляда) (1900–1938), гісторык, дзяржаўны дзеяч, акадэмік (1931), прафесар (1932). У 1931–1936 гг. – прэзідэнт АН БССР і дырэктар Інстытута гісторыі. Арыштаваны ў жніўні 1936 г., расстраляны ў красавіку 1937 г. Рэабілітаваны ў 1955 г. (гл.: Возвращенные имена…, с. 36).

прэзідэнтам, што мы і зрабілі. Сакратаром застаўся навуковы супрацоўнік Бялуга[28]. На гэты раз акадэмік, але таксама чалец партыі.

Пачалося знішчэнне г. зв. «беларускага нацыянал-дэмакратызму», які арыентаваўся на польскую культуру, а разам з ім – гвалтоўная арыентацыя на велікаросаў. Праз нейкі час з Масквы прыслалі новага сакратара. Як высветлілася, ён быў алкаголікам [...][29].

Нарэшце, здаецца ў 1935 г., мае мары збыліся. Адпаведна інструкцыям, якія паступілі «зверху», усе інстытуты нацыянальных меншасцяў былі з'яднаныя ў адзін інстытут. Паўстала пытанне: каго прызначаць дырэктарам? Вельмі імкнуўся да гэтага Агурскі[30]. Аднак я ў навуцы стаяў вышэй за яго, меў званне акадэміка, а ён быў толькі старшым навуковым супрацоўнікам. Калі дырэктарам прызначылі мяне, то Агурскі падчас сустрэч рабіў выгляд, што не бачыць мяне. Нават збіраўся звальняцца з акадэміі, так моцна быў пакрыўджаны. Але ўрэшце застаўся.

Маё дырэктарства было даволі няўдалым. У польскім сектары засталіся два ці тры супрацоўнікі: я, Скарджус і Копка[31], якога ўзялі толькі, каб меў нейкія сродкі на жыццё. Вялікія праблемы паўсталі з габрэйскім сектарам. Супрацоўнікаў там было дастаткова, але я не ведаў ідыш. Мой былы канкурэнт Агурскі, калі яго запыталі, чым займаецца аддзел мовы габрэйскага сектара, адказаў, што не ведае, бо гэты аддзел быў скарочаны па маёй віне.

Перыяд падтрымкі нацыянальных меншасцяў быў непрацяглым. Адбываліся палітычныя перамены. Увагу прыцягвалі нават самыя маленькія ўстановы, пачалося закрыццё школ. Таксама быў выказаны намер спыніць выданне літоўскай газеты. У рэшце рэшт, здаецца ў 1936 г., было прынята рашэнне пра ліквідацыю Інстытута нацыянальных меншасцяў і пра перавод сектараў асобных народаў у адпаведныя беларускія інстытуты. Гісторыкаў – у Ін-

---

28 Мікалай Бялуга (1885 – пасля 1960), у 1929–1930 гг. – віцэ-прэзідэнт БелАН, потым служачы Беларускага кааператыўнага саюза. Арыштаваны ў студзені 1933 г. і высланы на 3 гады ў Казахстан. Рэабілітаваны ў 1960 г. (гл.: Возвращенные имена…, с. 22).

29 Matulaitis S. Poema prozoje. Mano gyvenimo atsiminimai. 1942. 164 lap. Antrosios memuarų dalies redakcija. Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. Ф. 91, спр. 318, арк. 375–389.

30 Самуіл Агурскі (1884–1947), гісторык, член-карэспандэнт АН БССР (1936). У 1934 г. – намеснік дырэктара Інстытута нацыянальных меншасцяў АН БССР. Арыштаваны ў 1938 г. і высланы ў Казахстан на 5 год (гл.: Возвращенные имена…, с. 16).

31 Магчыма, гаворка ідзе пра Вікенція Копку (1892–1938), які ў той час таксама працаваў у літоўскай газеце «Раўдонаніс артояс». Арыштаваны ў жніўні 1937 г., асуджаны і расстраляны як «літоўскі шпіён» у Менску ў лістападзе 1938 г. Рэабілітаваны ў 1959 г.

стытут гісторыі, аддзяленне ідыш – у Інстытут мовы, аддзяленне габрэйскай літаратуры – у Інстытут літаратуры. Мы з Скарджусам апынуліся ў Інстытуце гісторыі Беларусі, але па-ранейшаму вывучалі гісторыю Літвы.

Першым прэзідэнтам акадэміі быў Ігнатоўскі, віцэ-прэзідэнтам, або, як тады называлі гэтую пасаду, неадменным сакратаром акадэміі, – натуральна, Ластоўскі. Дзеля характарыстыкі нацыяналістычнага настрою апошняга дастаткова прыгадаць ягоны намер пераканаць мяне, што ўсе князі Літвы нібыта былі беларусамі [ … ]. Паводле меркавання Ластоўскага, імя Ягайла – гэта, насамрэч, сапсаванае беларускае імя Якаў. Нават куршы, што жывуць на беразе Куршскага заліва і мора, на ягоны погляд, – асіміляваныя беларусы. І вось чаму! Калі ён аднойчы быў у вёсцы Юодкрантэ, то пачуў, як пастух крычаў да каровы: «Куды ты?» Гэта сведчыла, што раней яны былі беларусамі, – усур'ёз разважаў Ластоўскі. Мне нічога не заставалася, як толькі пасміхнуцца і запытаць: «Няўжо так магло быць?» Не было сэнсу спрачацца з такой абсурднай высновай.

Сам Ігнатоўскі таксама быў нацыяналіст, але не выказваў гэта публічна, а толькі ў сваёй кампаніі. [Намеснік] дырэктар[а] Інстытута мовы Чарнушэвіч – таксама нацыяналіст, а большасць супрацоўнікаў – радыкальныя нацыяналісты. Яны адпаведна і працавалі ў гэтым кірунку. Актуальным стала вывучэнне крывічоў ды іншых зніклых народаў, якіх услаўлялі, бо яны былі продкамі беларусаў. Нават расійскія навукоўцы пачалі спрыяць беларусам і праслаўляць гісторыю іх князёў.

Аднак у рэшце рэшт вышэйшая ўлада вырашыла пакончыць з беларускім нацыяналізмам. У адзін цудоўны дзень, здаецца ў 1932 г., у адной з газет Мінска з'явілася рэзкая крытыка […][32].

Не магу абысці маўчаннем выбары новых акадэмікаў пасля ліквідацыі беларускіх нацыяналістаў. Адпаведна статуту, акадэміка выбіралі акадэмікі. Але ўлада вырашыла далучыць да гэтай працэдуры грамадскія арганізацыі і фабрычных рабочых. Члены камісіі вызначыліся, дзе і хто будзе праводзіць выбарчыя сходы, каб запытаць іх удзельнікаў, каго яны могуць прапанаваць у акадэмікі. Мне давялося выступаць на сходзе прафесараў Беларускага ўніверсітэта і Інстытута эканомікі Акадэміі навук. Усё ішло нармальна, некаторыя кандыдаты мелі вышэйшую адукацыю. Але, калі я назваў прозвішча кандыдата, якога ведалі як малаадукаванага чалавека, бо ён быў народным настаўнікам, праўда, на пасадзе народнага камі-

32 У гэтым месцы абрываецца другая рэдакцыя мемуараў. Іх працяг узяты з чацвёртай машынапіснай рэдакцыі, якая таксама не была апублікаваная. Успаміны пра падзеі пасля 1927 г. не былі выкарыстаны даследчыкамі (заўвага – *В. С.*).

сара Беларусі, у зале пачуўся гул. Але камісіі было загадана зверху абраць яго акадэмікам [ … ][33].

Аднак наступіў 1937 год[34], які стаў годам вялікіх перамен у акадэміі. Што адбывалася там пасля 1937 г., мне невядома.

Каб закончыць аповед пра маю дзейнасць у Беларускай акадэміі навук, трэба коратка ахарактарызаваць мае навуковыя працы, напісаныя ў гэты перыяд. Я меў поўную свабоду выбару тэматыкі сваіх навуковых даследаванняў як у гісторыі, так і ў сумежных навуках. Аднак з працамі, якія павінны былі выдавацца ў Беларусі, склалася дзіўная сітуацыя. Справа ў тым, што мяне абавязалі пісаць на літоўскай мове, аднак літоўскіх літараў не было ні ў друкарні Акадэміі навук, ні ў якой-небудзь іншай друкарні ў Беларусі. Пасля працяглых пошукаў гэтыя літары знайшліся ў Ленінградзе, у друкарні Акадэміі навук СССР. Дзякуючы гэтаму і быў апублікаваны першы том майго даследавання, прысвечанага сацыяльна-эканамічнаму становішчу Літвы напярэдадні паўстання 1863 г.

Праз некалькі год з'явіліся літоўскія літары таксама ў друкарні Акадэміі навук, і праблема друку стала цалкам вырашальнай. Аднак я трапіў у безвыходную сітуацыю з рэцэнзентамі. Паводле патрабаванняў, на кожнай навуковай працы павінен быў стаяць подпіс «адказнага рэцэнзента», які нібыта нёс адказнасць за вытрыманую марксісцкую і партыйную лінію ў выданні. Калі б я мог пісаць па-расейску або па-беларуску, то меў бы справу з такімі сапраўднымі гісторыкамі і паважанымі людзьмі, як Пічэта і Шчарбакоў[35]. Але ў маёй сітуацыі, каб мець іх рэцэнзентамі, давялося б усю працу перакласці на расейскую мову.

Аднаведна, я быў вымушаны мець справу з такімі гісторыкамі-«сурагатамі», як «акадэмік» Сэрбента[36], які не напісаў аніводнага слова

33 Працяг у рукапісе на с. 295 (заўвага – *В. С.*).

34 Matulaičio S. Memuarai. Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. Ф. 1, спр. 1050, арк. 288–290, 295.

35 Васіль Шчарбакоў, (1898–1939), гісторык, акадэмік АН БССР (1931). У 1931–1935 гг. – віцэ-прэзідэнт, у 1935–1937 гг. – неадменны сакратар АН БССР, у 1936–1937 гг. – дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР. Даследаваў першабытнае грамадства, гісторыю феадалізму і грамадзянскай вайны ў Беларусі. Арыштаваны органамі НКУС у чэрвені 1937 г., асуджаны і расстраляны ў чэрвені 1938 г. Рэабілітаваны ў 1957 г. (гл.: Возвращенные имена..., с. 118–119).

36 Віталь Сербента, (1895–1980), гісторык, акадэмік АН БССР (1931). У 1925–1931 гг. – выкладчык БДУ, прафесар (1930). У 1929–1932 гг. – дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б). З 1932 г. – загадчык сектара ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Арыштаваны органамі НКУС у маі 1937 г., асуджаны на 10 год лагера. У 1949 г. паўторна арыштаваны. Высланы ў Краснаярскі край. Рэабілітаваны ў 1956 г.

па гісторыі, ці Капсукас. Апошні не закончыў нават сярэдняй школы, а пра вышэйшую адукацыю няма чаго і казаць[37]. Праўда, ён лічыў сябе гісторыкам і нейкі час выкладаў гісторыю ў Кумызе. Гэта была ўся ягоная кваліфікацыя як гісторыка. Але тут, у Савецкім Саюзе, кожны чалец партыі, які займае больш-менш высокае становішча, лічыцца аўтарытэтам у гісторыі, а таксама іншых пытаннях грамадскага жыцця. Адпаведна, і Капсукас, які кіраваў Літоўскім аддзяленнем у Камінтэрне, лічыўся кампетэнтным у пытаннях гісторыі Літвы.

З гэтымі дзвюма асобамі мне і давялося мець справу падчас выдання маёй першай кнігі, прысвечанай сацыянальна-эканамічнаму становішчу Літвы напярэдадні паўстання 1863 г. Рэцэнзентам быў Сербента, і з ягоным подпісам кніга была апублікавана. Рэцэнзент настойваў, каб былі апублікаваныя і ягоныя заўвагі, у якіх Сербента паказаў сябе поўным прафанам у навуцы. Так, ён ахарактарызаваў маю працу і мяне як прыналежных да колішняй «юрыдычнай школы», прадстаўнікі якой тлумачылі гісторыю не з пастулатаў гістарычнага матэрыялізму, а на падставе аналізу дзяржаўнага заканадаўства.

Насамрэч, Сербента не меў уяўлення ні пра гістарычны матэрыялізм, ні пра «юрыдычную школу». Ягоныя высновы грунтаваліся толькі на тым, што ён заўважыў у маёй працы згадкі царскіх законаў, якія пагоршылі сацыяльна-эканамічнае становішча шляхты Літвы і выклікалі незадавальненне сялян, а таксама характарыстыку тых звярыных метадаў, што выкарыстоўваліся ўладай падчас адмены прыгону. У выніку матэрыяльнае становішча пагоршылася і, адпаведна, раслі сімпатыі да паўстанцаў. Вось за гэта Сербента і папракнуў мяне ў прыналежнасці да «юрыдычнай школы».

Другі том гісторыі паўстання 1863 г. у Літве я ўжо не даваў на рэцэнзію Сербенту, а паслаў яго Капсукасу. Капсукас без тлумачэння свайго меркавання не пагадзіўся з маёй канцэпцыяй, што паўстанне было не толькі польскім. Літоўцы далучыліся да яго, каб разам з палякамі вызваліцца з-пад прыгнёту царызму. Прычынай росту патрыятызму і разгортвання літоўскага нацыянальнага руху было пагаршэнне матэрыяльнага становішча асноўнай

Вярнуўся да навуковай і выкладчыцкай дзейнасці. У 1957–1967 гг. – загадчык сектара гісторыі філасофіі ў Інстытуце філасофіі і права АН БССР (гл.: Возвращенные имена..., с. 96–98).

37 Вінцас Міцкявічус-Капсукас, (1880–1935), сацыял-дэмакрат, пазней дзеяч камуністычнага руху, публіцыст, адзін з заснавальнікаў Камуністычнай партыі Літвы і Літоўскай Савецкай Рэспублікі. У 1921–1935 гг. жыў у Маскве, працаваў у выканкаме Камінтэрна. Быў аўтарам шматлікіх артыкулаў па гісторыі, філасофіі і літаратуры. Вышэйшай адукацыі не меў, але з 1902 па 1904 г. быў вольным слухачом у Берлінскім універсітэце.

масы насельніцтва. А вось Капсукас сцвердзіў, што паўстанне нібыта было польскім, «таму друкаваць працу Матулайціса нельга».

Мне нічога не заставалася, як звярнуцца да Сербенты. Ён зрабіў тое, што і трэба было чакаць. Сербента напісаў, што згодны з меркаваннем Капсукаса. Пры гэтым ён заявіў, што можа паправіць рукапіс, але на вокладцы павінна стаяць ягонае імя разам з маім. Гэта рабіла з яго гісторыка, і Сербента ўжо мог публічна заявіць, што мае гістарычныя публікацыі[38]. Для мяне ж гэта было непрымальна. Вырашыў аддаць рукапіс у пераклад на расейскую мову, каб потым звярнуцца па рэцэнзію да Пічэты або да Шчарбакова. Пераклад зацягнуўся.

Прыйшоў 1937 г., рукапіс і яго пераклад згінулі, трапіўшы ў рукі ДПУ. Аналагічным быў лёс іншай маёй кнігі, напісанай ужо па-расейску, – «История Литвы от Люблинской унии до присоединения к России». Таксама без следу знік мой зборнік дакументаў, прысвечаных купецтву Літвы, з шырокім уступам, прысвечаным развіццю купецтва ў Заходняй Еўропе. Да таго ж у архівах і кнігарнях Ленінграда было сабрана шмат матэрыялаў пра эканамічнае становішча Літвы ў другой палове XIX ст. Усе гэтыя матэрыялы згінулі ў 1937 г.[39]

1952 г. Вільня. Жверынас, вул. Шлайто, № 10.

[38] Старонка 383 у рукапісе адсутнічае (заўвага – *В. С.*).
[39] Старонка 387 у рукапісе адсутнічае (заўвага – *В. С.*).

ISSN 2424-5224

# «С ЭТИМ ВОПРОСОМ ПОКОНЧИЛИ...», АБО СТАРОНКА З БІЯГРАФІІ АКАДЭМІКА І «АНТЫПАТРЫЁТА» АНТОНА ЖЭБРАКА (1901–1965)

***Анатоль Вялікі,***
*канд. гіст. навук (Мінск)*

***Аляксандр Смалянчук,***
*доктар гіст. навук (Варшава)*

***Summary***

Anton Žebrak (1901–1965) was a famous Belarusian geneticist. During the political campaign against geneticists in the USSR he, as a representative of the "bourgeois" science, lost his position of the President of the Belarusian Academy of Sciences and the possibilities to continue research activities. The Žebrak case is a good example of repressive mechanisms that were used against scientists during the campaign against cosmopolitanism initiated by I. Stalin in 1947–1948. The publication also includes a fragment of transcript of Belarusian Communist Party Central Committee Bureau meeting of 16 October 1947, where the case of Prof. Žebrak was discussed.

Гісторыя ўзаемаадносін улады і навукі ў БССР у перыяд сталінізму яшчэ чакае даследчыкаў, якія б здолелі перадаць увесь трагізм сітуацыі навукоўцаў у таталітарнай дзяржаве. Ва ўмовах палітычнага і ідэалагічнага ціску, адсутнасці свабоды мыслення і магчымасцяў шырокіх кантактаў з даследчыкамі іншых краін было надзвычай цяжка захаваць вернасць навуцы, тым больш што часцяком навуковец стаяў перад выбарам паміж жыццём і смерцю. Іншы бок гэтай гісторыі – з'яўленне прыстасаванцаў, якія выкарыстоўвалі палітычную атмасферу дзеля ўласнай кар'еры і расправы з канкурэнтамі-навукоўцамі.

Усё гэта яскрава выявілася ў гісторыі савецкай генетыкі 1930–1950-х гг. Лёс гэтай навукі, якую можна лічыць адным з найвялікшых адкрыццяў XX ст., у СССР найперш адлюстраваўся ў трагедыі сусветна вядомага генетыка, біёлага, батаніка і географа Мікалая Вавілава (1887–1943). Асуджаны як «вораг народа» (арт. 58-1а, 58-7, 58-9, 58-11 УК РСФСР), ён памёр ад голаду ў Саратаўскай турме ў студзені 1943 г. Непасрэднае дачыненне да ягонай гібелі мелі праціўнікі развіцця генетыкі, якія гуртаваліся вакол «народнага акадэміка» Трафіма Лысенкі (1898–1976). Апошні, адмаўляючы існаванне генаў, стварыў псеўданавуковую канцэпцыю спадчыннасці і ідаўтварэння. Маючы падтрымку І. Сталіна, ён пад лозунгам «Далоў буржуазную генетыку!» фактычна вяртаў навуку на паўстагоддзя назад.

…Мікалай Вавілаў закапаны ў агульнай магіле «зэкаў», а ў 1955 г. быў рэабілітаваны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР «за адсутнасцю складу злачынства». Але сапраўдная рэабілітацыя адбылася толькі ў часы перабудовы. У 1985 г. у Політэхнічным музеі Масквы адбылася прэзентацыя фільма *Звезда Вавилова* (рэжысёр А. Барсюк, сцэнарыст С. Дзячэнка). Магчыма, што найбольш запамінальным яе момантам стаў выступ колішняга калегі М. Вавілава Уладзіміра Эфраімсона (1908–1989), які таксама зведаў арышты і высылкі.

Як прыгадаў у сваёй кнізе пра бацьку Юрый Вавілаў (2008), У. Эфраімсон быў вельмі ўсхваляваны і літаральна пракрычаў сваю прамову[1]:

> *Я пришел сюда, чтобы сказать правду. […] В фильме не сказано самого главного. Не сказано, что Вавилов – не трагический случай в нашей истории. Вавилов – это одна из многих десятков миллионов жертв самой подлой, самой бессовестной, самой жестокой системы. Системы, которая уничтожила, по самым мягким подсчетам, пятьдесят, а скорее – семьдесят миллионов ни в чем не повинных людей. И система эта – сталинизм. Система эта – социализм. Социализм, который безраздельно властвовал в нашей стране и который и по сей день не обвинен в своих преступлениях. Я готов доказать вам, что цифры, которые я называю сейчас, могут быть только заниженными.*
>
> *Я не обвиняю авторов фильма в том, что они не смогли сказать правду о гибели Вавилова. Они скромно сказали: «погиб в саратовской тюрьме»… Он не погиб. Он – сдох! Сдох как собака. Сдох он от пеллагры – это такая болезнь, которая вызывается абсолютным,*

[1] Вавилов Ю. В долгом поиске. Книга о братьях Николае и Сергее Вавиловых. Изд. второе, дополн., перераб. Москва, 2008, с. 214–215.

*запредельным истощением. Именно от этой болезни издыхают бездомные собаки… Наверное, многие из вас видели таких собак зимой на канализационных люках… Так вот: великий ученый, гений мирового ранга, гордость отечественной науки, академик Николай Иванович Вавилов сдох как собака в саратовской тюрьме… И надо, чтобы все, кто собрался здесь, знали и помнили это…*

*Но и это еще не все, что я хочу вам сказать… Главное. Я – старый человек. Я перенес два инфаркта. Я более двадцати лет провел в лагерях, ссылке, на фронте. Я, может быть, завтра умру. Умру – и кроме меня вам, может быть, никто и никогда не скажет правды. А правда заключается в том, что вряд ли среди вас, сидящих в этом зале, найдется двое-трое людей, которые, оказавшись в застенках КГБ, подвергнувшись тем бесчеловечным и диким издевательствам, которым подвергались миллионы наших соотечественников и продолжают подвергаться по сей день лучшие люди нашей страны, – вряд ли найдется среди вас хоть два человека, которые не сломались бы, не отказались бы от любых своих мыслей, не отреклись бы от любых своих убеждений… Страх, который сковал людей – это страх не выдуманный. Это реальный страх реальной опасности. И вы должны это понимать.*

*До тех пор, пока страной правит номенклатурная шпана, охраняемая политической полицией, называемой КГБ, пока на наших глазах в тюрьмы и лагеря бросают людей за то, что они осмелились сказать слово правды, за то, что они осмелились сохранить хоть малые крохи своего достоинства, до тех пор, пока не будут названы поименно виновники этого страха, – вы не можете, вы не должны спать спокойно. Над каждым из вас и над вашими детьми висит этот страх. И не говорите мне, что вы не боитесь… Даже я боюсь сейчас, хотя – моя жизнь прожита. И боюсь я не смерти, а физической боли, физических мучений…*

*Палачи, которые правили нашей страной, – не наказаны. И до тех пор, пока за собачью смерть Вавилова, за собачью смерть миллионов узников, за собачью смерть миллионов умерших от голода крестьян, сотен тысяч военнопленных, пока за эти смерти не упал ни один волос с головы ни одного из палачей – никто из нас не застрахован от повторения пройденного… Пока на смену партократии у руководства государства не встанут люди, отвечающие за каждый свой поступок, за каждое свое слово – наша страна будет страной рабов, страной, представляющей чудовищный урок всему миру…*

*Я призываю вас – помните о том, что я сказал вам сегодня. Помните! Помните!*



*Антон Жэбрак перад паездкай у ЗША. 1929 г.*

Гісторыя беларускай генетыкі мела сваю трагічную старонку, звязаную з лёсам прэзідэнта Акадэміі навук БССР Антона Раманавіча Жэбрака (1901–1965).

Ён нарадзіўся 27 снежня 1901 г. у в. Збляны паблізу мяст. Зэльва ў Гарадзенскай губ.[2] Улетку 1915 г. па прычыне набліжэння фронту ягоныя бацькі, як і большасць аднавяскоўцаў, выправіліся ў бежанства. У 1918 г. у г. Шацку Тамбоўскай губ. А. Жэбрак закончыў школу. Ён падтрымаў бальшавіцкі пераварот, уступіў у Чырвоную армію, удзельнічаў у грамадзянскай вайне, стаў камуністам. Пасля вайны вучыўся ў Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі, а пасля яе заканчэння (1925) – у аспірантуры пры акадэміі. Адначасна быў студэнтам Інстытута чырвонай прафесуры. У 1929 г. узначаліў кафедру генетыкі і селекцыі раслін Ціміразеўскай акадэміі.

А ўжо ў наступным годзе апынуўся на стажыроўцы ў Злучаных Штатах Амерыкі. Спачатку Антон Жэбрак працаваў у лабараторыі прафесара Калумбійскага ўніверсітэта Лэслі Дэна (Leslie Clarence Dunn, 1893–1974), а потым перабраўся ў Каліфарнійскі тэхналагічны інстытут да аднаго з заснавальнікаў генетыкі прафесара Томаса Моргана (Thomas Hunt Morgan, 1866–1945).

Пасля вяртання ў СССР А. Жэбрак узначаліў кафедру генетыкі і цыталогіі Ціміразеўскай акадэміі, якой кіраваў да верасня 1948 г.

[2] Кароткая біяграма А.Р. Жэбрака складзеная на падставе прадмовы да зборніка: Академик А. Р. Жебрак. Материалы научной конф. «А. Р. Жебрак ученый, организатор науки, патриот», посвященной 100-летию со дня рождения академика А. Р. Жебрака. Сост. Н. В. Токарев: Под ред. И. Д. Волотовского, Н. А. Картеля, В. И. Новицкого. Минск, 2001. Аўтар прадмовы – акадэмік І. Валатоўскі.

Даследаванні ў галіне генетыкі зрабілі ягонае імя вядомым па-за межамі СССР. У красавіку 1940 г. ён быў абраны акадэмікам АН БССР, а ў маі 1947 г. узначаліў Акадэмію навук. Фактычна ўпершыню ў гісторыі на чале беларускай акадэмічнай навукі стаў навуковец, які меў міжнародную вядомасць. Але перыяд ягонага прэзідэнцтва аказаўся вельмі кароткім.

Антон Жэбрак быў адным з найбольш прынцыповых праціўнікаў акадэміка Трафіма Лысенкі і ягоных «тэорый». Увосень 1947 г. супраць яго была разгорнутая кампанія, якая стала пачаткам разгрому савецкай генетыкі. У лістападзе 1947 г. Антон Жэбрак быў зняты з пасады прэзідэнта АН БССР.

Ягоная «справа» была непасрэдна звязаная з вядомай кампаніяй барацьбы з «мендэлізмам-марганізмам» у біялагічнай навуцы. Яна пачалася яшчэ ў 1930-я гг. Прыхільнікі «адзіна правільнай» «мічурынскай» біялогіі на чале з Т. Лысенкам прайгравалі ў навуковых дыскусіях, але перамаглі ў палітычных гульнях. Яны пераканалі Сталіна і ягонае атачэнне ў цудадзейнасці ўласных «канцэпцый», і ўлады распачалі кампанію пераследу праціўнікаў «лысенкаўшчыны». Як «ворагі народа» або «шпіёны» ў турмах і лагерах загінулі многія вядучыя біёлагі СССР. Апрача згаданага Мікалая Вавілава, трагічны лёс напаткаў Георгія Карпенчанку, Рыгора Лявіцкага, Георгія Мейстэра, Васіля Сляпкова, Ізраэля Агола ды інш.[3]

Пасля вайны адбыўся «другі акт» расправы з навукай і навукоўцамі. Ён супаў з чарговай хваляй палітычных рэпрэсій, якія разгарнуліся ўжо пад сцягам барацьбы з «касмапалітызмам» і «антыпатрыятызмам». Пасля жнівеньскай сесіі Усесаюзнай Акадэміі сельскагаспадарчых навук імя Леніна (1948), якую ўзначальваў Лысенка, генетыка ў СССР фактычна стала забароненай навукай. Адказнасць за гэта цалкам на сумленні І. Сталіна, бо менавіта ён прыняў такое рашэнне. Больш за тое, у ноч перад апошнім днём сесіі ён сустракаўся з Лысенкам і прадыктаваў таму пачатак заключнай прамовы. Падчас свайго выступу Т. Лысенка заявіў, што ўсе ягоныя дзеянні з'яўляюцца рэалізацыяй рашэнняў ЦК УсеКП(б). Прысутныя зразумелі, хто насамрэч з'яўляецца галоўным рэжысёрам «спектакля», і сустрэлі заяву Лысенкі бурнымі апладысментамі[4].

Антон Жэбрак быў звольнены з Ціміразеўскай акадэміі. Адначасна была ліквідаваная ягоная лабараторыя ў Інстытуце біялогіі АН БССР. Працу ён знайшоў толькі ў Маскоўскім фармацэўтычным інстытуце пасля публічнага прызнання сваіх «памылак». Аднак нават у гэтай сітуацыі даследчык

[3] Сонин А. С. «Дело» Жебрака и Дубинина // Вопросы истории естествознания и техники. 2000, № 1, с. 34.

[4] Ings S. Stalin i naukowcy. Historia gieniuszu i szaleństwa. Warszawa, 2017, s. 367.

захаваў вернасць навуцы. У Фармацэўтычным інстытуце ён стварыў тайны асяродак генетычных даследаванняў. Апрача таго, з канца 1940-х гг. выкладаў у «хатняй школе» заснавальніка савецкай кібернетыкі Аляксея Ляпунова. Гэтая «школа» стваралася для дочак Ляпунова, але ператварылася ў свайго роду нефармальны цэнтр вывучэння забароненых навуковых дысцыплін і тэорый[5].

Калі напрыканцы 1950-х гг. палітычная сітуацыя змянілася, А. Жэбрак узначаліў даследаванні па эксперыментальнай поліплаідыі ў Інстытуце біялогіі АН БССР. З 1963 г. ён працаваў у Аддзеле генетыкі і цыталогіі, які ў 1965 г. быў ператвораны ў Інстытут генетыкі і цыталогіі АН БССР. Навуковыя працы А. Р. Жэбрака былі прысвечаны гібрыдызацыі, поліплаідыі і селекцыі галоўным чынам пшаніцы і грэчкі.

Але варта вярнуцца да пачатку «справы» Антона Жэбрака… Яе вытокі – у з'яўленні ягонага артыкула на старонках амерыканскага часопіса *Science* у 1945 г. Артыкул быў адказам на публікацыі амерыканскіх аўтараў, прысвечаныя савецкай генетыцы. Так, у 1944 г. у лістападаўскім нумары часопіса быў надрукаваны артыкул старшыні Амерыкана-савецкага навуковага таварыства і настаўніка Антона Жэбрака, прафесара Лэслі Дэна, які быў напісаны ў стрыманым, карэктным стылі і станоўча ацэньваў развіццё генетыкі ў СССР (Dunn L. C. Science in the USSR. Soviet Biology // Science. 1944. Vol. 99. № 2561, p. 65–67). Аўтар сцвярджаў: «Развіццё біялагічных даследаванняў у Савецкім Саюзе навучыла нас аднаму вельмі каштоўнаму ўроку, а менавіта таму, што кантроль і арганізацыя навукі ўсім грамадствам […] не знішчае навуковага духу і ініцыятывы і не паглынае індывідуальнага навукоўца ў мёртвым моры ананімнасці»[6].

Аднак пазней на старонках гэтага ж часопіса з'явіўся артыкул прафесара Гарвардскага ўніверсітэта Карла Сакса (Karl Sax, 1892–1973) з аналагічнай назвай «Савецкая біялогія» (Sax K. Soviet Biology // Science. 1944. Vol. 99. № 2572, p. 298–299). Аўтар рэзка крытыкаваў стан савецкай біялагічнай навукі і асабліва дзейнасць акадэміка Лысенкі. Ён сцвярджаў, што ідэі Т. Лысенкі з'яўляюцца «архаічнымі», што ягоны метад «яравізацыі», насамрэч, быў прыменены ў ЗША яшчэ да Грамадзянскай вайны і быў адкінуты з-за яго неэфектыўнасці. Аўтар таксама задаваў пытанне пра лёс М. Вавілава, Г. Карпенчанкі ды іншых генетыкаў. «Нашыя захапленні рускім народам і ваеннай магутнасцю Савецкай рэспублікі, – адзначаў К. Сакс, – не павінны нам закрываць вочы на тое, што навука не мае свабоды

[5] Ibidem, s. 370, 403.

[6] Цытата паводле: Сонин А. С. «Дело» Жебрака и Дубинина, с. 36.

ў таталітарных краінах, дзе яна вымушана прыстасоўвацца да палітычнай філасофіі»[7].

Паводле расійскага даследчыка А. Соніна, публікацыі Л. Дэна і К. Сакса падштурхнулі А. Жэбрака звярнуцца да сакратара ЦК УсеКП(б) Георгія Малянкова з перакладамі іх артыкулаў. У лісце да сакратара ЦК прафесар звяртаў яго ўвагу на тое, што барацьба Т. Лысенкі супраць генетыкі добра вядомая ў ЗША, і яна, насамрэч, прывяла да падзення ўзроўню генетычнай навукі ў СССР. Ён таксама накіраваў Г. Малянкову праект адказу на артыкулы амерыканскіх генетыкаў. У гэтым праекце крытыкаваўся тэзіс К. Сакса пра палітычнае ўмяшанне савецкай дзяржавы ў навуку, але адначасна ўтрымлівалася крытыка «вучонага агранома» Т. Лысенкі і выказвалася надзея, што дзейнасць апошняга не стрымае паспяховага развіцця генетыкі ў СССР як часткі сусветнай біялагічнай навукі[8].

Тэкст А. Жэбрака быў падтрыманы партыйнымі органамі, перакладзены на англійскую мову і неўзабаве апублікаваны на старонках часопіса (Zhebrak A. R. Soviet Biology // Science. 1945. Vol. 102. № 22649, p. 357–358). Але таксама быў апублікаваны адказ К. Сакса (Sax K. Soviet Biology // Science. 1945. Vol. 103. № 2660, p. 649), які ў даволі жорсткай форме заявіў, што не верыць словам А. Жэбрака пра свабоду навуковых даследаванняў у СССР, і яшчэ раз запытаў пра лёс Вавілава, Карпенчанкі ды інш.[9] Зразумела, што адказаць на гэтае пытанне А. Жэбрак не мог.

Трэба таксама адзначыць, што ў 1947 г. на старонках *Science* быў апублікаваны артыкул прафесара Мікалая Дубініна, прысвечаны асновам савецкай школы эвалюцыйнай генетыкі. Прыгадваліся працы Мікалая Вавілава, Антона Жэбрака, Андрэя Белазерскага (1905–1972), Іосіфа Рапапорта (1912–1990) ды інш. Акадэмік Лысенка не згадваўся… (Dubinin N. P. Work of Soviet Biologists: Theoretical Genetics // Science. 1947. Vol. 105. № 2718, p. 109–112).

Англійскі даследчык Сайман Інгс (Simon Ings) выказаў меркаванне, што публікацыю А. Жэбрака на старонках *Science* трэба разглядаць як элемент барацьбы з групай Лысенкі, да якой далучылася частка партыйнай наменклатуры, у прыватнасці Г. Молатаў. Апіраючыся на публікацыі на старонках часопіса *Journal of the History of Biology* (1996), ён сцвердзіў, што А. Жэбрак з санкцыі партыйнай эліты сустракаўся з амерыканскімі біёлагамі і пераконваў апошніх у неабходнасці стварэння сумеснага фронту барацьбы

[7] Тамсама, с. 37.

[8] Тамсама, с. 39.

[9] Тамсама.

супраць «лысенкаўшчыны». Дзеля гэтага быў выкарыстаны ўдзел А. Жэбрака ў міжнароднай канферэнцыі па стварэнні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Сан-Францыска (май 1945 г.)[10].

А. Жэбрак і М. Дубінін прыкладалі вялікія намаганні, каб пераканаць замежных навукоўцаў у росквіце савецкай генетыкі. Яны падтрымлівалі шырокія кантакты з вядомымі даследчыкамі з усяго свету, выношвалі ідэю арганізацыі і правядзення ў СССР міжнароднага кангрэсу генетыкаў. Здавалася, што партыя «мічурынцаў-лысенкаўцаў» страціла партыйную падтрымку. Але толькі здавалася…

У 1947 г. з ініцыятывы Сталіна распачалася кампанія барацьбы з г. зв. «безродным космополитизмом» і «низкопоклонством» перад Захадам. Праціўнікі генетыкі гэтым удала скарысталіся. 6 сакавіка 1947 г. у газеце *Ленинградская правда* з'явіўся артыкул блізкага паплечніка Т. Лысенкі Ісая Прэзента «Борьба идеологий в биологической науке», у якой адзначалася, што «фашысцкі часопіс (маецца на ўвазе амерыканскі *Science.* – аўт.) надрукаваў артыкул «прафашысцкага цемрашала» Карла Сакса пра стан савецкай генетыкі, у якім той «злосна выступае супраць марксізму».

Але галоўны ўдар быў скіраваны супраць Антона Жэбрака. І. Прэзент біў жорстка: «Карл Сакс не заслугоўваў бы аніякай увагі. Аднак, здаецца, больш цікава, да якіх межаў нізкапаклонніцкага поўзання перад замежжам можа дайсці прафесар, які жыве ў савецкай краіне і ў той жа час цягне адну і тую ж ноту са спадаром Саксам. А менавіта так паступіў прафесар Ціміразеўскай акадэміі А. Р. Жэбрак, які ў артыкуле, апублікаваным ім за межамі, з нагоды выступу Сакса, па сутнасці, салідарызуецца з амерыканскім прафесарам у ацэнцы тэарэтычных дасягненняў нашай савецкай перадавой школы біёлагаў, мічурынскай школы, якую ўзначальвае акадэмік Лысенка»[11].

Гэты артыкул І. Прэзента не меў шырокага розгаласу. Аднак усё кардынальна змянілася ўлетку 1947 г., калі кампанія барацьбы супраць «космополитизма» набрала ход. Яе важным эпізодам стаў «суд гонару» над прафесарамі-медыкамі Іосіфам Роскіным і Нінай Клюевай. Згаданыя навукоўцы зрабілі значны крок наперад у біятэрапіі анкалагічных захворванняў. Пра гэты поспех даведаліся амерыканскія медыкі, якія праз Міністэрства аховы здароўя СССР прапанавалі супрацу. Увосень 1946 г. амерыканцам перадалі рукапіс кнігі І. Роскіна і Н. Клюевай і створаны імі лекавы прэпарат «крузін». Аднак супрацоўніцтва было разарвана, а савецкія ўдзельнікі рэпрэсаваныя.

---

10 Ings S. Stalin i naukowcy. Historia gieniuszu i szaleństwa, s. 345.

11 Сонин А. С. «Дело» Жебрака и Дубинина, с. 40.

Аўтараў адкрыцця прыцягнулі да «суда гонару», які адбыўся ў чэрвені 1947 г. у адным з маскоўскіх тэатраў. Магчыма, сцэнар для гэтага «спектакля» пісаў сам сакратар па ідэалогіі А. Жданаў, пазіцыі якога ў блізкім атачэнні Сталіна былі вельмі моцнымі. Больш за тысячу гледачоў, пераважна з ліку партыйных і дзяржаўных чыноўнікаў, тры дні назіралі і слухалі выступы абвінаваўцаў, сведкаў, падсудных, якія спрабавалі апраўдацца. Па выніках «суда» навукоўцы атрымалі грамадскую вымову, але далей справа не пайшла. Больш за тое, праз месяц І. Роскін і Н. Клюева вярнуліся да навуковай дзейнасці.

Затое партыйныя арганізацыі СССР атрымалі закрыты ліст ЦК УсеКП(б) «Аб справе прафесараў Клюевай і Роскіна», адпаведна якому паўсюдна ствараліся «суды гонару» як важны элемент рэпрэсій супраць інтэлігенцыі. За два гады іх існавання адбылося каля 50 судовых працэсаў, а «героем» аднаго з іх увосень 1947 г. стаў Антон Жэбрак.

Напрыканцы лета 1947 г. *Литературная газета* і *Правда* апублікавалі артыкулы, аўтары якіх жорстка крытыкавалі беларускага генетыка. Так, на старонках *Литературной газеты* (2 жніўня) у артыкуле «На суд общественности», падпісаным А. Сурковым, А. Твардоўскім і Г. Фішам, сцвярджалася, што Антон Жэбрак прысвяціў сваю публікацыю ахайванню «передавога савецкага вучонага, вядомага ўсяму культурнаму чалавецтву працамі ў галіне фізіялогіі раслін і генетыкі, акадэміка Т. Д. Лысенкі», што ён нібыта салідарызаваўся з «найбольш рэакцыйнымі амерыканскімі прафесарамі» і прапанаваў ім саюз супраць «народнага акадэміка»[12].

2 верасня 1947 г. у газеце *Правда* з'явіўся артыкул «прафесара» І. Лапцева (насамрэч, ён не быў прафесарам і меў ступень кандыдата навук – аўт.) «Антипатриотические поступки под флагом «научной» критики», які передрукавалі цэнтральныя газеты БССР, у т. л. *Советская Белоруссия*[13]. Фактычна гэта быў пераказ публікацыі *Литературной газеты*, у канцы якога аўтар заклікаў прыцягнуць да суда тых, хто «сваімі антыпатрыятычнымі ўчынкамі ганьбіць нашу перадавую савецкую навуку».

Антон Жэбрак зразумеў пагрозу і звярнуўся ў ЦК УсеКП(б), якое калісьці санкцыянавала ягоны артыкул у амерыканскім часопісе. 5 верасня 1947 г. ён напісаў ліст А. Жданаву. Навуковец не прызнаў абвінавачванняў у «низкопоклонстве» перад замежжам, лічыў уласную крытыку дзейнасці акадэміка Лысенкі адпаведнай «савецкім нормам», але напрыканцы ліста ўсё

12 Тамсама, с. 42.

13 Лаптев И. Антипатриотические поступки под флагом «научной» критики // Советская Белоруссия, 2 сентября 1947 г., с. 2.

ж аддаў даніну «традыцыі». Ён прызнаў свае «памылкі» і выказаў надзею, што будзе мець магчымасць іх выправіць[14]. Аднак адказу ён не атрымаў. Былыя партыйныя саюзнікі генетыкаў схаваліся.

Трафім Лысенка заставаўся фаварытам І. Сталіна. Апошняга вельмі зацікавіла г. зв. «кусцістая пшаніца», вопыты з якой праводзіў Лысенка. Асаблівасцю гэтага сорту была вялізная колькасць зерняў на адной расліне. Пры гэтым яны не ўтрымлівалі глютэну і надаваліся толькі на выраб макаронаў кепскай якасці. У Старажытным Егіпце кусцістая пшаніца вырошчвалася дзеля выпасу быдла. Аднак Сталін звязваў з ёй вялізныя надзеі на ўздым сельскай гаспадаркі. Тым больш што ў 1946–1947 гг. СССР ахапіў голад, які быў выкліканы не столькі наступствамі Другой сусветнай вайны, колькі велізарным экспартам хлеба з краіны. Паводле некаторых дадзеных, у тыя гады ад голаду памерла каля 2 млн чалавек, пераважна жыхароў вёсак[15].

Між тым публікацыі ў цэнтральных газетах запусцілі махавік рэпрэсій. Наступным этапам стала пазачарговае пасяджэнне парткама Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР, на якім Антона Жэбрака абвінавацілі ў тым, што ён прынізіў дасягненні савецкай навукі, заклікаў да стварэння супольна з амерыканцамі «біялогіі сусветнага маштабу», паклёпнічаў на акадэміка Лысенку. Парткам прыняў рашэнне, што дзеянні А. Жэбрака трапляюць пад дзейнасць суда гонару міністэрства[16]. 13 кастрычніка распачалося папярэдняе следства. Прафесар А. Жэбрак зразумеў усю цяжкасць палітычных абвінавачванняў і быў вымушаны прызнаць свае памылкі[17].

У Маскве яшчэ працягваліся допыты сведкаў, а прэзідэнта АН БССР А. Жэбрака ўжо выклікалі ў Мінск. 16 кастрычніка 1947 г. адбылося шматгадзіннае пасяджэнне Бюро ЦК КП(б)Б, на якім абмяркоўвалася пытанне «Аб прэзідэнце Акадэміі навук БССР А. Р. Жэбраку». Па выніках абмеркавання была прынятая пастанова, у якой адзначалася, што А. Жэбрак праявіў «антипатриотизм» і «низкопоклонство» перад амерыканскімі вучонымі і апаганіў дасягненні савецкіх навукоўцаў. Адзначалася, што ён нібыта страціў аўтарытэт сярод навуковай і савецкай грамадскасці, у сувязі з чым ЦК КП(б)Б вырашыла звольніць яго з пасады прэзідэнта Акадэміі навук БССР[18].

14 Сонин А. С. «Дело» Жебрака и Дубинина, с. 43.
15 Ings S. Stalin i naukowcy. Historia gieniuszu i szaleństwa, s. 352.
16 Сонин А. С. «Дело» Жебрака и Дубинина, с. 46.
17 Тамсама, с. 47.
18 НАРБ. Ф. 4п, воп. 61, спр. 462 (Протоколы заседаний Бюро ЦК КП(б)Б, 1947), арк. 7.

За гэтым лаканічным рашэннем стаяла драматычнае па сваім накале і псіхалогіі абмеркаванне «антипатриотического поступка» акадэміка Антона Жэбрака. На пашыраным пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б прысутнічалі не толькі высокія партыйныя работнікі – П. Панамарэнка, М. Зімянін, М. Іаўчук, – але і вядомыя навукоўцы: Ул. Перцаў, А. Пракапчук і Ц. Годнеў[19].

Спачатку далі слова А. Жэбраку, які паспрабаваў абараніцца ад тых паклёпаў, якія абрынуліся на яго ў Маскве і Мінску. Ён прызнаў справядлівасць крытыкі ягонага артыкула ў амерыканскім часопісе, але пры гэтым заўважыў, што некаторыя асобы імкнуцца выкарыстаць гэтую крытыку дзеля звядзення асабістых рахункаў[20]. Тым самым ён паспрабаваў пакінуць за сабой права на дыскусію з Трафімам Лысенкам ды яго прыхільнікамі, бо разумеў, што гэта пытанне будзе адным з галоўных. Так яно і атрымалася.

Абвінавачванні А. Жэбрака ў тым, што ён крытыкаваў Т. Лысенку, выказаў сакратар партарганізацыі АН БССР Маісееў. Ён пералічыў «памылкі» А. Жэбрака, да якіх аднёс выступ на старонках «буржуазнага» часопіса, згадкі аўтара пра ўзнагароды Т. Лысенкі і… кепскую арыентацыю ў пытаннях марксісцкай філасофіі[21].

Таксама ў выступе Маісеева прагучалі словы, якія надаюць гонар шэрагу беларускіх навукоўцаў, якія падтрымалі А. Жэбрака. Яны разумелі складанасць сітуацыі і тое, што моцна рызыкуюць уласным становішчам, але прыстойнасць, годнасць і сумленне не дазволілі ім шальмаваць і ганьбіць калегу. Для Маісеева гэта было праявай «гнилого либерализма» і «интеллигентской мягкотелости»[22]. Сярод тых, хто адмовіўся ганьбіць Антона Жэбрака, былі гісторык Уладзімір Перцаў (1877–1960), дэрматолаг Андрэй Пракапчук (1896–1970), фізіёлаг раслін Ціхан Годнеў (1893–1982). Іх паводзіны можна разглядаць як маўклівую падтрымку калегі і нязгоду з шальмаваннем А. Жэбрака, якое разгарнулася ў маштабе ўсяго СССР, а таксама як пратэст супраць цемрашальства і прымітывізму ў навуцы, якія несла з сабой «лысенкаўшчына».

Як гэта ні дзіўна, але для акадэміка Ул. Перцава, як і для іншых, гэты адкрыты дэмарш не скончыўся праследам. 12 лістапада 1947 г. газета *Советская Белоруссия* надрукавала артыкул, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння «выдатнага вучонага-гісторыка і грамадскага дзеяча»

---

19 Гл. стэнаграму гэтага пасяджэння ў канцы артыкула.

20 Тамсама, арк. 41.

21 Тамсама, арк. 46.

22 Тамсама, арк. 48.

вялікай патрыярхальнай сям'і і суседскіх сувязях. Большасць была непісьменнай, і хаця мужчыны служылі ў войску, а таксама займаліся заробкавай міграцыяй, мадэрныя наратывы прагрэсу, рэвалюцыі і нацыяналізму амаль не пранікалі ў карціну свету гэтай супольнасці[20]. Юзаф Абрэмбскі сустрэў свайго антрапалагічнага *Іншага* не ў пазаеўрапейскіх каланіяльных краінах, дзе не мог распачаць даследаванні па пэўных арганізацыйных і фінансавых прычынах, а ў постфеадальных, немадэрнізаваных вёсках Усходняй Еўропы, якія знаходзіліся на адлегласці аднадзённага падарожжа ад універсітэцкіх асяродкаў Югаславіі ці Польшчы. Яго этнаграфічны кантакт з *Іншымі* адбываўся ва ўмовах унутранага каланіялізму з ягонымі тэрытарыяльнымі (перыферыя) і сацыяльнымі (этнакаставымі) асаблівасцямі.

Увесну 1934 г., калі Юзаф Абрэмбскі распачынаў Палескую экспедыцыю, ён меў ужо не толькі тэарэтычныя веды, а таксама грунтоўны досвед у даследаванні сялянскай супольнасці. Дзякуючы грунтоўнай этнаграфічнай, антрапалагічнай, сацыялагічнай, а таксама лінгвістычнай адукацыі (свабодна валодаў мовамі з паўднёваславянскай і ўсходнеславянскай моўных груп, добра арыентаваўся ў тэарэтычных пытаннях мовазнаўства), ён належаў да найлепш падрыхтаваных польскіх сацыяльных даследчыкаў свайго пакалення.

Навуковую зацікаўленасць культурай сялянскага грамадства ўсходніх тэрыторый тагачаснай Польшчы, у прыватнасці Палесся, яму прывіў Казімір Машыньскі[21], які сам праводзіў там палявыя даследаванні на працягу некалькіх сезонаў. Палессе, якое ацэньвалася як рэгіён у культурным і моўным плане найбольш архаічны ў славянскім свеце, быў захапляльным інтэлектуальным выклікам для прадстаўнікоў розных навуковых дысцыплін. Пашыранае меркаванне навукоўцаў пра архаіку рэгіёна разам з вынікамі перапісаў насельніцтва ў ІІ Рэчы Паспалітай, якія засведчылі вялікую колькасць «нацыянальна нявызначаных» людзей на гэтых тэрыторыях, схілялі палітыкаў да прызнання яго жыхароў найбольш спрыяльнай групай для паланізацыі. Менавіта таму Палессе было абранае як рэгіён першачарговага сістэматычнага навуковага даследавання. Палітычнае рашэнне на ўрадавым узроўні па рэалізацыі такіх даследчых праектаў супала з вяртаннем Ю. Абрэмбскага з Лондана.

[20] Гл.: Taylor Charles, 2010, *Nowoczesne imaginaria społeczne,* tłum. A. Puchejda, K. Szymaniak, Kraków: Wydawnictwo Znak, s. 235–245.

[21] Пра навуковую цікавасць Абрэмбскага да Палесся і яго асабістую зацікаўленасць у правядзенні даследаванняў у гэтым рэгіёне больш падрабязна гл.: Энгелькінг Ганна, 2008, *Юзаф Абрэмбскі (1905–1967): да біяграфіі антраполага,* «Homo Historicus. Гадавік антрапалагічнай гісторыі». Пад рэд. А. Смаленчука. Вільня: European Humanities University, с. 217–235.

* * *

Рэалізацыя даследчыцкай праграмы на ўсходніх землях праводзілася ў інстытуцыйных межах, якія фармалізавалі супрацоўніцтва асяродку палітыкаў і дзяржаўных чыноўнікаў з навукоўцамі з універсітэтаў Варшавы, Кракава, Познані, Львова і Вільні, а таксама з пазаакадэмічных навуковых арганізацый і экспертных устаноў. Назірала за выкананнем праграмы і дбала пра фінансаванне даследаванняў[22] згаданая Камісія НДУЗ, створаная 2 сакавіка 1934 г. Як ужо адзначалася, ёй кіраваў міністр вайсковых спраў генерал Каспшыцкі. Камісія была выканаўчым органам Камітэта нацыянальных спраў пры Радзе міністраў, г. зн. з'яўлялася ўрадавым інстытутам, а не вайсковым. У сваю чаргу дзейнасць камісіі падлягала каардынацыі з боку Бюро арганізацыі навуковых даследаванняў Усходніх зямель.

Найважнейшым навуковым партнёрам камісіі быў Інстытут даследаванняў нацыянальных праблем (Інстытут ДНП), які актыўна дзейнічаў з 1926 г., калі ў выніку дзяржаўнага перавароту да ўлады ў краіне прыйшоў Юзаф Пілсудскі. У палітыцы распачаўся перыяд аўтарытарнага рэжыму санацыі. Інстытут ДНП функцыянаваў як недзяржаўны незалежны *think-tank*, які сабраў палітыкаў і найвялікшыя акадэмічныя аўтарытэты ў сферы даследаванняў праблематыкі нацыянальных адносін і нацыянальных меншасцяў[23]. Камісію і інстытут звязвалі асабістыя сувязі і, перш за ўсё, асоба Станіслава Юзафа

[22] *«Навуковыя даследаванні Камісіі НДУЗ, праведзеныя Інстытутам даследаванняў нацыянальных праблем, фінансаваліся з некалькіх крыніц. На гэта ўказвае бюджэт камісіі за 1935 г. Спадзяваліся на ўнёскі з Фонду нацыянальнай культуры (200 тыс. зл.), Фонду працы (180 тыс.), Міністэрстваў унутраных справаў (10 тыс.), войска, замежных справаў, грамадскай апекі, прамысловасці і гандлю, асветы і рэлігійных веравызнанняў, сельскай гаспадаркі і сельскагаспадарчых рэформ (па 5 тыс.), Галоўнага штаба (таксама 5 тыс.) і банкаў (28 тыс.)»* (Serwański Jacek, Wrzesińska Katarzyna, 2006, *Józef Obrębski w Instytucie Badań Spraw Narodowościowych w latach 1934–39*, «Sprawy Narodowościowe», t. 29, s. 87–88).

[23] Grott Olgierd, 2013, *Instytut Badań Spraw Narodowościowych i Komisja Naukowych Badań Ziem Wschodnich w planowaniu polityki II Rzeczypospolitej Polskiej na Kresach Wschodnich*, Kraków: Księgarnia Akademicka; Serwański Jacek, Wrzesińska Katarzyna, 2006, *Józef Obrębski w Instytucie Badań Spraw Narodowościowych w latach 1934–39*, «Sprawy Narodowościowe», t. 29, s. 81–89; Stach Stephan, 2016, *The Institute for Nationality Research (1921–1939) – A Think Tank for Minority Politics in Poland?* w: *Religion in the Mirror of Law. Eastern European Perspectives from the Early Modern Period to 1939*, ed. by Yvonne Kleinmann, Stephan Stach, Tracie L. Wilson, Frankfurt am Main: Vittorio Klostermann, s. 149–179.

Папроцкага, генеральнага сакратара абедзвюх арганізацый і галоўнага рэдактара выдаванага інстытутам раз на два месяцы часопіса «Sprawy Narodowościowe» (1927–1939). Значная частка навукоўцаў, якія рэалізавалі даследчую праграму камісіі, былі сябрамі інстытута або супрацоўнічалі з ім. Юзаф Абрэмбскі стаў дзейным сябрам інстытута 28 сакавіка 1936 г. На той момант ён ужо два гады супрацоўнічаў з інстытутам і камісіяй.

Экспедыцыя Абрэмбскага ў Палессе распачалася 15 красавіка 1934 г. падрыхтоўчымі тэарэтычнымі працамі[24]. Праз месяц навукоўцы пачалі палявыя даследаванні. А фармальным заканчэннем экспедыцыі можна лічыць Першы справаздачны навуковы з’езд, прысвечаны Усходнім землям Рэчы Паспалітай, які адбыўся ў Варшаве 20–21 верасня 1936 г. На гэтым з’ездзе Юзаф Абрэмбскі ў рэфераце *Dzisiejsi ludzie Polesia* прадставіў найважнейшыя вынікі сваіх даследаванняў[25]. Пасля 1936 г. ён працягваў сваё супрацоўніцтва з камісіяй як кіраўнік этнасацыялагічных даследаванняў на Валыні[26]. Аднак гэты этап ягонай навуковай дзейнасці адлюстраваўся ў невялікай колькасці крыніц і не з’яўляецца прадметам аналізу ў дадзеным артыкуле.

[24] Гл.: Engelking Anna, 2001, *Poleska ekspedycja etnosocjologiczna Józefa Obrębskiego w latach 1934–1937. Organizacja. Metody badań. Problematyka. Uczestnicy*, «Etnografia Polska» XLV, 1–2, s. 23–45; Engelking Anna, 2007b, *Polesie Józefa Obrębskiego*, w: Józef Obrębski, *Polesie. Studia etnosocjologiczne*, t. 1, redakcja naukowa i wstęp A. Engelking, wyd. Oficyna Naukowa, Warszawa, s. 9–32, беларуская версія: Палессе Юзафа Абрэмбскага, «Arche», 2011, nr 3 (102), s. 118–136.

[25] Вялікі артыкул Абрэмбскага *Dzisiejsi ludzie Polesia* быў апублікаваны ў 1936 г. (Obrębski Józef, 1936a, *Dzisiejsi ludzie Polesia*, «Przegląd Socjologiczny», t. 4, nr 3–4, s. 414–446), таксама публікавалася дыскусія, якая суправаджала ягоны рэферат падчас I Навуковага з’езда… (Obrębski Józef, 1938, *Dyskusja nad referatem «Dzisiejsi ludzie Polesia»*, w: *I Zjazd Naukowy poświęcony Ziemiom Wschodnim w Warszawie. 20 i 21 września 1936 r. Polesie. (Sprawozdanie i dyskusje)*, red. S. J. Paprocki, Warszawa: Komisja Naukowych Badań Ziem Wschodnich, s. 47–62). Абодва тэксты ў пашыранай версіі і навуковай крытыцы на аснове арыгінальных запісаў прадстаўленыя ў выданнях: Obrębski Józef, 2007, *Dzisiejsi ludzie Polesia*, w: *Polesie. Studia etnosocjologiczne*, t. 1, redakcja naukowa i wstęp Anna Engelking, Warszawa: Oficyna Naukowa, s. 276–318; Obrębski Józef, 2007, *Dyskusja po referacie Józefa Obrębskiego «Dzisiejsi ludzie Polesia»*, w: *Polesie. Studia etnosocjologiczne*, t. 1, redakcja naukowa i wstęp Anna Engelking, Warszawa: Oficyna Naukowa, s. 319–334. беларуская версія: *Сённяшнія людзі Палесся* і *Сённяшнія людзі Палесся. Дапаўненні.* Пераклад Алекс Моніч і Аляксандр Пашкевіч, «Arche», 2013, nr 4(121), s. 453–500.

[26] Гл.: Grott Olgierd, 2013, *Instytut Badań Spraw Narodowościowych i Komisja Naukowych Badań Ziem Wschodnich w planowaniu polityki II Rzeczypospolitej Polskiej na Kresach Wschodnich*, Kraków: Księgarnia Akademicka, s. 119–120.

Навуковыя мэты Камісіі НДУЗ у залежнасці ад таго, хто іх фармуляваў, ставіліся мовай, якая дрэйфавала паміж імкненнем да аб'ектыўнасці і ідэалогіяй. Такім быў тыповы навуковы дыскурс эпохі, аднак не ўсе даследчыкі карысталіся ім у роўнай ступені. Працытуем фрагмент праграмнай прамовы «Зыходныя думкі ў даследаваннях Усходніх крэсаў» акадэмічнага гісторыка і адначасна служачага міністэрства, звязанага з камісіяй, Уладзіслава Вяльгорскага. Яна прагучала на арганізацыйным сходзе камісіі, дзе абмяркоўваліся нацыянальныя адносіны на ўсходніх землях. Вяльгорскі сцвярджаў, што «нацыянальная аморфнасць мас», «іх сацыяльны і гаспадарчы прымітывізм» у Палессі (а таксама ў Карпатах) дае шансы палепшыць нацыянальную статыстыку на карысць тытульнай нацыі. Ён абгрунтоўваў гэта тым, што «адсутнасць аднастайнасці і выразнасці форм у этнічных індывідуальнасцяў украінцаў і беларусаў, якасна самых маладых і слабых, а колькасна самых моцных», з'яўляецца спрыяльным чыннікам іх «выхавання» на карысць польскай нацыі[27]. Аднак Абрэмбскі заўсёды будзе трымацца на адлегласці ад апрыёрных установак і каланіяльных мэтаў.

Праведзеныя Абрэмбскім даследаванні былі, як ён гэта сам сфармуляваў у падрыхтаванай праграме[28], сканцэнтраваны на «сучасных сацыяльна-культурных адносінах ва ўсходняй вёсцы»[29]. Асаблівы акцэнт рабіўся на «характарыстыку тых сістэмаў актыўнасці і культурных каштоўнасцяў, якія канструявалі нацыянальнае жыццё вясковай групы»[30]. Плануючы даследаванні, ён абвяшчаў: «Этнолаг мусіць паказаць, чым з'яўляецца сучасная рэчаіснасць усходняй вёскі ў сферы нацыянальных праблем, якія нацыянальныя аблічы люду тут прысутныя, якія элементы ляжаць у аснове працэсу нацыяналізацыі вёскі, якія складовыя гэтага працэсу і ў якім кірунку ён ідзе»[31]. Уласную канцэпцыю даследчага праекта Абрэмбскі грунтаваў перш за ўсё на тэарэтычных палажэннях прац Уільяма І. Томаса і Фларыяна Знанецкага, якія тычыліся працэсаў сацыяльна-культурнай дэзарганізацыі і рэарганізацыі[32]. Таксама ён

27 Цытата паводле: Grott Olgierd, 2013, *Instytut Badań Spraw Narodowościowych i Komisja Naukowych Badań Ziem Wschodnich w planowaniu polityki II Rzeczypospolitej Polskiej na Kresach Wschodnich*, Kraków: Księgarnia Akademicka, s. 93–95.

28 Obrębski Józef, 1934, «Program badań etnologicznych w zakresie spraw narodowościowych w województwach wschodnich», Warszawa, машынапіс, 13 стар. // Сямейны архіў Абрэмбскіх (у валоданні аўтаркі).

29 Ibidem, s. 1.

30 Ibidem, s. 3–4.

31 Ibidem, s. 2.

32 Thomas William Isaac, Znaniecki Florian, 1918–1920, *The Polish Peasant in Europe and America*, vol. 1–5, Boston: Richard G. Badger, The Gorham Press.

абапіраўся на тэарэтычныя і метадалагічныя рамкі разумення сацыяльнай антрапалогіі свайго настаўніка Браніслава Маліноўскага.

Як бы парадаксальна гэта ні гучала ў святле вышэй адзначанага, але Камісія НДУЗ, што фармальна належала да суб'ектаў, якія рэалізавалі каланізацыйна-асіміляцыйную палітыку ўрада, а з вуснаў яе прадстаўнікоў неаднаразова гучалі амаль не прыкрытыя навуковай тэрміналогіяй ідэалагічныя і палітычныя дэкларацыі, тым не менш не абмяжоўвала свабоду даследаванняў. Больш за тое, у даследаваннях нацыянальных працэсаў яна дазваляла навукоўцам кіравацца тэарэтычнымі прынцыпамі і практычнымі падыходамі найбольш выбітных польскіх навукоўцаў і экспертаў у галіне сацыяльных навук, якія свае тэорыі і метады фарміравалі ў дыялогу з сусветнай навукай. Вядучым тэарэтыкам і аўтарытэтам у гэтай сферы быў Фларыян Знанецкі[33]. Ягоны вучань і супрацоўнік Станіслаў Орсіні-Розэнберг ужо на рубяжы 1920–1930-х гг. выкарыстоўваў тэарэтычныя падыходы настаўніка для экспертных праграм сацыялагічных даследаванняў[34]. Апошнія выпрацоўваліся ў кіраваным Ф. Знанецкім Польскім сацыялагічным інстытуце ў Познані, які ў 1930-х гг. супрацоўнічаў з варшаўскім Інстытутам ДНП.

Апублікаваная ў часопісе *Sprawy Narodowościowe* у 1930 г. *Праграма сацыялагічных даследаванняў у галіне нацыянальных праблем ва ўсходніх ваяводствах Рэчы Паспалітай Польскай (Program badań socjologicznych w zakresie zagadnień narodowościowych w województwach wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej)* Орсіні-Розенберга[35] тэарэтычна была звязаная з гуманістычнай сацыялогіяй Знанецкага і ў якасці фундаментальнага прынцыпу метадалогіі прыняла перспектыву гуманістычнага каэфіцыента[36]. Яна таксама

33 Гл.: Linkiewicz Olga, 2019, *Toward Expertocracy. Scientific Debates on Applied Knowledge in Interwar Poland*, w: *A New Organon: Science Studies in Interwar Poland*, ed. Friedrich Cain and Bernhard Kleeberg, Tübingen: Mohr Siebeck [у друку], s. 7–9.

34 Orsini-Rosenberg Stanisław, 1929, *Program badań socjologicznych w zakresie społecznego podłoża życia gospodarczego w województwach wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej*, Poznań: Polski Instytut Socjologiczny; Orsini-Rosenberg Stanisław, 1930, *Program badań socjologicznych w zakresie zagadnień narodowościowych w województwach wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej*, Warszawa: Instytut Badań Spraw Narodowościowych.

35 Orsini-Rosenberg Stanisław, 1930, *Program badań socjologicznych w zakresie zagadnień narodowościowych w województwach wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej*, Warszawa: Instytut Badań Spraw Narodowościowych.

36 Орсіні-Розенберг адзначаў між іншым: «*[Навуковае даследаванне нацыянальнасцяў] павінна мець* ***гуманістычны*** *характар, г. зн. трактаваць нацыянальнасць не як нейкую натуральную з'яву, якую даследуе аб'ектыўны назіральнік, а як сінтэз прадметаў і ўчынкаў, якія і складаюць сутнасць нацыянальнай свядомасці. Гэтак жа працэсы, якія адбываюцца ў нацыянальнай групе, павінны быць трактаваныя не як нейкі натуральны*

падкрэслівала неабходнасць правядзення даследаванняў «у інтарэсах навукі і рацыяналізаванай нацыянальнай палітыкі»[37]. Аўтар *Праграмы...* рэкамендаваў «выключэнне кожнай ненавуковай ацэнкі» ў даследаваннях, якія праводзяцца «цалкам аб'ектыўнымі людзьмі»[38]. Ён дэклараваў: «У адпаведнасці з гуманістычнай пазіцыяй, адзіным крытэрыем павінен быць пункт гледжання самога індывіда і групы, да якой яго залічваюць»[39].

Як вучань і пераемнік Маліноўскага, які ўвёў у антрапалогію дырэктыўнае палажэнне пра ўлік «пункту гледжання абарыгена», Абрэмбскі цалкам падзяляў такі падыход[40]. Такім чынам, сфарміраваная Орсіні-Розэнбергам

---

*працэс, адарваны ад свядомасці чалавека, а як змены ў сістэмах чалавечай дзейнасці і каштоўнасцяў»* (Orsini-Rosenberg Stanisław, 1930, *Program badań socjologicznych w zakresie zagadnień narodowościowych w województwach wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej*, Warszawa: Instytut Badań Spraw Narodowościowych, s. 13–14. Выдзяленне аўтара).

37 Orsini-Rosenberg Stanisław, 1930, *Program badań socjologicznych w zakresie zagadnień narodowościowych w województwach wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej*, Warszawa: Instytut Badań Spraw Narodowościowych, s. 45.

38 Orsini-Rosenberg Stanisław, 1930, *Program badań socjologicznych w zakresie zagadnień narodowościowych w województwach wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej*, Warszawa: Instytut Badań Spraw Narodowościowych, s. 23, 36. Увосень 1935 г. Орсіні-Розенберг падчас адкрыцця семінара па нацыянальнасцях у інстытуце заявіў: *«Па-за межамі даследаванняў мы можам быць самымі жорсткімі нацыяналістамі, палітыкамі, рэфарматарамі і г. д., аднак у межах даследаванняў мы павінны заставацца выключна аб'ектыўнымі аналітыкамі, пранікаючымі ў сутнасць даследаваных феноменаў і групаў. Не тое, што «павінна быць», паводле нашага меркавання, але тое, «што ёсць», што існуе незалежна ад нашых сімпатый і антыпатый, павінна нас выключна займаць»* (*Z Instytutu Badań Spraw Narodowościowych*, 1935, «Sprawy Narodowościowe», t. 9, nr 3–4, s. 349).

39 Orsini-Rosenberg Stanisław, 1930, *Program badań socjologicznych w zakresie zagadnień narodowościowych w województwach wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej*, Warszawa: Instytut Badań Spraw Narodowościowych, s. 26.

40 Вось адзін з прыкладаў метадалагічнай дэкларацыі, які знаходзіцца ў ягонай працы: *«[Жаданне этнолага адчуць і зразумець, чым жывуць людзі] [...] – неад'емная частка таго даследчага метада, прадметам якога з'яўляецца чалавек у розных увасабленнях, у розных гістарычных ці лакальных тыпах грамадстваў і культур. Яно з'яўляецца натуральным вынікам агульнага для этналогіі і сацыялогіі метадалагічнага пастулата, які сцвярджае неабходнасць даследавання грамадства і культуры не звонку, пры дапамозе гетэрагенічных нібыта аб'ектыўных крытэрыяў, але знутры, г. зн. праз адкрыццё і апісанне таго, якім чынам розныя формы і мадэлі калектыўнага жыцця вызначаюць свет чалавечай істоты, як функцыянуюць у жыцці калектыву інстытуцыі, звычаі і ўстановы, чым з'яўляюцца і якую выконваюць ролю?»* (Абрэмбскі Юзаф, 2008, Панская школа і мужыцкія дзеці, «Homo Historicus. Гадавік антрапалагічнай гісторыі». Пад рэд. А. Смаленчука. Вільня: European Humanities University, s. 230).

*Праграма…* стала матрыцай ягонай уласнай «Праграмы этналагічных даследаванняў…». Сёння немагчыма вызначыць, ці было адзінства дзвюх праграм патрабаваннем камісіі, ці камісія прыняла прапанову Ю. Абрэмбскага.

Праграма Абрэмбскага, адрасаваная не акадэмічнаму асяроддзю, а звязанаму з урадам суб'екту даследаванняў, напісаная фармальнай і «палітычна карэктнай» мовай, адрозніваецца ад эсэістычнага стылю, якім ён пісаў навуковыя тэксты. Гэта афіцыйны дакумент, ад якога, магчыма, залежала фінансаванне даследаванняў. Не баючыся памыліцца, можна сцвярджаць, што праграма выконвала функцыю сучаснай заяўкі на атрыманне гранту на даследаванні. Аўтар павінен быў да пэўнай ступені адпавядаць чаканням кіраўнікоў. Аднак ён ні ў чым не адмовіўся ад навуковага дыскурсу на карысць палітычнага.

У той жа час яго экспертны падыход прадугледжваў зварот да сацыяльнай практыкі і ўсвядомленасць выкарыстання вынікаў даследавання. У праграме чытаем: «Мы яшчэ далёкія ад моманту, калі этналогія будзе здольная на замову даць грунтоўны і дакладны адказ на розныя пытанні сацыяльна-культурнага жыцця вёскі. Але многія з гэтых пытанняў ужо зараз патрабуюць адказу [...]. Праверкай аб'ектывізму навукі, як і рухавіком паляпшэння яе метадаў, з'яўляецца прымяненне навуковых дасягненняў у сферы практычных задач і праблем [...]. Ад паспяховага вырашэння гэтай праблемы (нацыянальнай – А. Э.) залежыць, ці атрымаецца і ў якой ступені атрымаецца прыцягнуць шырокія індыферэнтныя або нават апазіцыйныя сялянскія масы Усходніх крэсаў да актыўнай і канструктыўнай кааперацыі з жыццём сучаснай дзяржавы»[41].

Развагі пра палескіх сялян у катэгорыях патэнцыйных партнёраў «актыўнай і канструктыўнай грамадзянскай кааперацыі» – сведчанне дэмакратычнай і эмансіпіраванай пазіцыі Юзафа Абрэмбскага. Яе зыходным пунктам быў клопат пра пераўтварэнне сялянскай супольнасці ў грамадзян і суб'ект польскай дзяржавы, а не ахвяр палітыкі асіміляцыі. Апісваючы і інтэрпрэтуючы «з пункту гледжання абарыгена» працэс сацыяльна-культурных перамен у вясковых супольнасцях Палесся, даследчык выстаўляў, на ягоны погляд, аб'ектыўныя аргументы супраць нацыяналістычнай палітыкі «пашырэння польскасці шляхам экспансіі» сярод «нацыянальна-аморфных народаў Крэсаў», цытуючы

41 Obrębski Józef, 1934, «Program badań etnologicznych w zakresie spraw narodowościowych w województwach wschodnich», Warszawa, maszynopis, s. 1–2] // Сямейны архіў Абрэмбскіх (у валоданні аўтаркі).

Вяльгорскага[42], а таксама супраць сімвалічнага і рэальнага гвалту ў яе рэалізацыі.

У якой ступені ён збіраўся, незалежна ад палітычнай арыентацыі непасрэдных начальнікаў і кірунку дзяржаўнай палітыкі, ствараць і выкарыстоўваць прастору даследчыцкай свабоды, немагчыма сказаць на аснове даступных крыніц. Пра гэта найлепей сведчаць вынікі ягоных даследаванняў, як апублікаваныя, так і не апублікаваныя, а таксама захаваныя даследчыя матэрыялы і перапіска.

* * *

Спынімся на вялікім фрагменце ліста Абрэмбскага, напісанага праз паўгода пасля пачатку экспедыцыі на Палессе, у лістападзе 1934 г., і адрасаванага да сяброўкі і калегі, этнографа з Віленскага ўніверсітэта Марыі Знамяроўскай-Пруфяровай. Ліст быў звязаны з ягонай спробай далучыць да даследчай групы жанчыну, якая мела супрацьлеглыя палітычныя погляды. Яе кандыдатуру адкінула Камісія НДУЗ.

Вось гэты фрагмент: «Ты пісала [...], што здзіўляешся маёй увазе да палітычных поглядаў даследчыка. Хачу заўважыць, што ў нашых даследаваннях гэтыя погляды значаць вельмі шмат. Гаворка ідзе пра тое, каб удзельнік палявых даследаванняў, які вывучае нацыянальную свядомасць палешукоў, не паддаўся ўплыву агульнай адміністрацыйна-палітычнай атмасферы Палесся і не рабіў заўчасных высноў пра невыразную анацыянальную пазіцыю палешукоў. Мы працуем тут, як бачна, у вельмі цяжкіх і неспрыяльных умовах. З аднаго боку, маем мясцовую шавіністычную і прасякнутую імкненнем да паланізацыі адміністрацыю, якая з захапленнем глядзіць на сучасную вострую палітычную лінію і прагназуе поўную паланізацыю Палесся ў найбліжэйшую пяцігодку. З другога боку, маем палешука, які асцярожны і недаверлівы, пры першым кантакце адмаўляецца ад усіх праўкраінскіх і прабеларускіх сімпатый і нават выказвае гатоўнасць прыняць патрабаванні ўлады па ўсіх пытаннях. Такім чынам, праводзячы даследаванні, мы павінны пазбягаць неадпаведнага рэзанансу ні з боку адміністрацыі (што магло б вельмі ўскладніць нашу працу), ні з боку людзей, якіх вывучаем такім чынам, каб яны не маглі зарыентавацца ў нашых даследаваннях.

[42] Grott Olgierd, 2013, *Instytut Badań Spraw Narodowościowych i Komisja Naukowych Badań Ziem Wschodnich w planowaniu polityki II Rzeczypospolitej Polskiej na Kresach Wschodnich*, Kraków: Księgarnia Akademicka, s. 95.

Інфармацыя, якую я меў [...], вельмі заахвочвала мяне прыняць на працу Петрусевічаву. Як эндэк, яна была б адчувальнай да памылак мясцовай адміністрацыі, а як жонка радыкала – мела б адкрытыя вочы для разумення мясцовага радыкалізму, які таксама з'яўляецца прадметам нашых даследаванняў. Я асцерагаўся толькі адной рэчы, звязанай з ёй, – менавіта тыповага для польскага нацыяналіста пагардлівага стаўлення і змяншэння тых фрагментаў нацыянальнай свядомасці, якія мы стараемся тактоўна і непрыкметна адшукаць у палешука, на першы погляд абыякавага і згоднага на кампрамісы. Пішу пра гэта так падрабязна, бо не хачу, каб ты думала, што чыесьці палітычныя погляды могуць паўплываць тым ці іншым чынам на мае адносіны да яго. Для мяне яны істотныя ў той меры, у якой могуць прадвызначаць стаўленне даследчыка да аб'екта даследаванняў»[43].

Сябра экспедыцыі Абрэмбскага і студэнт Пруфяровай Зыгмунт Карыбуцяк, не раздумваючы пра дылемы метаду і этыкі, у гэты самы час наступным чынам каментаваў у лісце да сваёй настаўніцы адносіны даследчай групы да палітыкі мясцовых і цэнтральных уладаў: «Праца [...] не толькі цяжкая, але і небяспечная, бо накіраваная супраць палітыкі мясцовага ваяводы, якая не з'яўляецца ні гуманістычнай, ні эфектыўнай. Насамрэч, усё санкцыянаваў Прэзідыум Рады міністраў. Адпаведна, калі даведаецеся, што я ў Бярозе-Картузскай, прашу моцна не здзіўляцца»[44].

Ужо самая саркастычная згадка канцэнтрацыйнага лагера ў Бярозе-Картузскай, дзе ўлады трымалі палітычных праціўнікаў, сведчыла пра інтэлектуальную незалежнасць Абрэмбскага і яго калегі, а таксама пра іх адносіны да магчымага палітычнага, адміністрацыйнага і ідэалагічнага ціску на даследаванні.

Пра складаную сітуацыю даследчыкаў на Палессі, якія, нягледзячы на тое, што былі забяспечаны дакументамі ўрадавай камісіі і прыехалі са сталіцы дзеля рэалізацыі дзяржаўнай навуковай праграмы, павінны былі змагацца з недаверам мясцовай адміністрацыі і фармальнымі цяжкасцямі, сведчаць лісты Карыбуцяка да Абрэмбскага з Палесся ўлетку 1935 г.: «Прайшоў 594 км у розных умовах побыту і надвор'я, лепшых і горшых [...]. Між іншым, меў некалькі інцыдэнтаў з паліцыяй [...]. Я сказаў каменданту, што прад'яўленне свайго пасведчання лічу фармальнасцю. Зразумела, што мы доўга дыскутавалі на гэтую тэму, і я стараўся пераканаць гэтага «царка» ў слушнасці маіх

43 Ліст ад 13. 11. 1934 г. // Archiwum Muzeum Etnograficznego w Toruniu im. Marii Znamierowskiej-Prüfferowej.

44 Ліст ад 22. 10. 1935 г. // Archiwum Muzeum Etnograficznego w Toruniu im. Marii Znamierowskiej-Prüfferowej.

аргументаў» [...]. І яшчэ: «Пару дзён таму я быў у Лунінецкім старастве [...], і, на жаль, мне адмовілі ў праве праводзіць даследаванні да 9 дня гэтага месяца ў сувязі з нейкімі вайсковымі аперацыямі на гэтых тэрыторыях [...]»[45].

* * *

Аналіз навуковых працаў Абрэмбскага, прысвечаных Палессю, як апублікаваных, так і тых, што засталіся ў рукапісах, сведчыць пра тыя імператывы, якімі ён кіраваўся. Як бачым, на ягонае стаўленне да асобы не ўплывалі палітычныя погляды чалавека. Таксама палітыка дзяржавы і яе інстытутаў, якія замаўлялі навуковыя даследаванні, не была ў стане паўплываць на аналітычна-інтэрпрэтацыйныя працы даследчыка, якія нярэдка вялі да высноў, што супярэчылі афіцыйнай лініі палітычнага кіраўніцтва. Адначасна яны дэканструявалі напоўненыя забабонамі і стэрэатыпамі і пашыраныя ў грамадстве ўяўленні пра беларуска-ўкраінскія сялянскія супольнасці, якія таксама мелі пэўны ўплыў і на навукоўцаў. Наступствам прынятай дырэктывы, якая сцвярджала, што «нягледзячы на [выказаныя] некаторымі сумневы [трэба заставацца] верным праўдзе і не [выходзіць] за навуковы аб'ектывізм»[46], была свядомая абарона незалежнасці мыслення, крытычная пазіцыя.

У манаграфіі пра функцыянаванне польскай школы ў праваслаўных вёсках Палесся Абрэмбскі адкрыта пісаў пра каланіяльны характар палітыкі польскай дзяржавы ва ўсходніх ваяводствах. Ва ўступе ён папярэджваў, што гэтая «праца не з'яўляецца апісаннем пераможнага паходу цывілізацыі. Гэта, хутчэй, хроніка паражэнняў і няўдач. [ ... ] Але форма, якую яна набыла ў свой час на Палессі, гэтым рэліктавым рэгіёне традыцыйнай народнай культуры і перыферыйным абшары экспансіі этнічна чужой нацыянальнай цывілізацыі, ставіць яе ў шэраг працэсаў і сітуацый, тыповых для розных каланіяльных тэрыторый [ ... ]»[47].

Таксама ён сфармуляваў пэўныя ўказанні для сацыяльнай практыкі, якія супярэчылі палітычнай праграме ўлады, напрыклад: «Толькі поўная змена сацыяльнай функцыі школы, ператварэнне яе ў сродак вызваленчай барацьбы палескага селяніна, якая б вучыла яго пагарджаць панскімі

45 Лісты ад 17. 08. 1935 і 4. 09. 1935 // Сямейны архіў Абрэмбскіх (у валоданні аўтаркі).

46 Obrębski Józef, 2007, *Dyskusja po referacie Józefa Obrębskiego «Dzisiejsi ludzie Polesia»*, w: *Polesie. Studia etnosocjologiczne*, t. 1, redakcja naukowa i wstęp Anna Engelking, Warszawa: Oficyna Naukowa, s. 331.

47 Абрэмбскі Юзаф, 2008, *Панская школа і мужыцкія дзеці*, «Homo Historicus. Гадавік антрапалагічнай гісторыі». Пад рэд. А. Смаленчука. Вільня: European Humanities University, с. 229–230.

ўзорамі і ўмацоўвала сялянскае пачуццё годнасці, пашырала ўсведамленне ўласных правоў і веру ва ўласныя магчымасці і сілы ў дзяржаўным маштабе, можа надаць ёй новы сэнс і новае значэнне, з'яднаць з жыццём вёскі, з сацыяльнымі памкненнямі, якія пакрысе абуджаюцца, і ўзрослымі культурнымі патрэбамі»[48].

У нарысе, прысвечаным стэрэатыпам вобраза палешука ў польскай культуры, Ю. Абрэмбскі канстатаваў: «Вобраз, які мы ствараем, распавядаючы пра яго, на ягоную тэму і ягоным коштам, не перадае [...] рэчаіснасці, а з'яўляецца дакладным [...] адбіткам і вобразам нас саміх, такіх, якімі мы зараз з'яўляемся. І калі гэты вобраз вагаецца паміж хахолам і малпачалавекам, то няўжо паляшук нясе адказнасць за гэта?»[49]

Прыведзеныя фрагменты паходзяць з працаў, якія пры жыцці Юзафа Абрэмбскага не з'явіліся ў друку[50]. Прычыны гэтага трэба шукаць перш за ўсё ў знешніх умовах. Заняты надзвычай інтэнсіўнай навуковай працай, ён не здолеў апрацаваць і апублікаваць вынікі сваіх даследаванняў да пачатку Другой сусветнай вайны. Адказ на пытанне, ці гэтая акалічнасць была адзінай прычынай адсутнасці публікацый, патрабуе далейшага вывучэння.

Аднак гэта зусім не азначае, што Абрэмбскі выказваў незалежныя погляды толькі ў тэкстах... для шуфляды. Ён таксама выказваў іх публічна, напрыклад, у артыкуле *Dzisiejsi ludzie Polesia*, які перад публікацыяй[51] Абрэмбскі прадставіў як рэферат на І Навуковым з'ездзе, прысвечаным Усходнім землям, пра які ўжо была гаворка.

Вынікам «тактоўнага і непрыкметнага пошуку фрагментаў нацыянальнай свядомасці палешука ў гэтым тэксце, між іншым, было сцверджанне, што «культурная асіміляцыя палешука ці, хутчэй, ягонае прыстасаванне да агульнапольскіх культурных узораў [...] ні ў якім выпадку не з'яўляецца паказчыкам яго сацыяльнай асіміляцыі, яго ўрастання ў польскую нацыю»[52].

Даследчык таксама апісаў сацыяльныя і культурныя механізмы палеска-польскіх антаганізмаў і канфліктаў, прааналізаваў у класавых і нацыянальных

---

48 Ibidem, c. 282.

49 Obrębski Józef, 2007, *Legenda leśnych ludzi*, w: *Polesie. Studia etnosocjologiczne*, t. 1, redakcja naukowa i wstęp Anna Engelking, Warszawa: Oficyna Naukowa, s. 443.

50 Крытычна завостранымі былі таксама яго нерэалізаваныя навуковыя планы. Пра адзін з іх ведаем з ліста да Б. Маліноўскага, у якім ён дзякаваў за дасланы экзэмпляр *Coral Gardens*: *«Яны вельмі дапамагаюць мне пры апрацоўцы [...] тэмаў, якімі зараз заняты. [...] Для Палесся вельмі каштоўнай будзе канцэпцыя **магіі слова** ў сучаснай палітычнай прапагандзе»* (ліст ад 24. 01. 1935 // Yale University Archives. Вылучэнне аўтара.

51 Obrębski Józef, 1936, *Dzisiejsi ludzie Polesia*, «Przegląd Socjologiczny», t. 4, nr 3–4, s. 414–446.

52 Абрэмбскі Юзаф, 2013, *Сённяшнія людзі Палесся*, «Arche», т. 4, с. 481.

катэгорыях пачуцце крыўды і прыніжэння палескіх сялян, а таксама фарміраванне стэрэатыпа ворага, пашыранага на палякаў. «У гэтай сітуацыі ўзаемнага раздражнення вобраз польскага асяродка фармуецца пад уплывам страху, антыпатыі, жалю і крыўдаў – і, канешне, з'яўляецца негатыўным. [...] Індывідуальныя крыўды [...] абагульняюцца і значна ўзмацняюцца, ператвараюцца ў легенду сацыяльнай крыўды, якая лакалізуецца ўжо не ў вузкай сферы сялянска-панскіх канфліктаў, а ва ўсёй плоскасці руска-польскіх дачыненняў»[53]. Гэтыя і падобныя з'явы ён трактаваў як «фарпосты нацыянальнай ідэалогіі»[54]. Абрэмбскі сцвярджаў: «Вывучэнне палешукоў пераконвае нас, што такая этнічная група непараўнальна мацней памятае зведаныя ў працэсе яе цывілізавання крыўды і прыніжэнні, пра якія, зноў жа, тытульная нацыя хацела б не ведаць і не памятаць»[55].

Згаданы двухдзённы навуковы з'езд адбыўся ў Варшаўскім універсітэце пры ўдзеле вядомых прадстаўнікоў свету навукі і ўрадавых колаў. Ён быў публічным падсумаваннем вынікаў паўтарагадовых даследаванняў Палесся пад эгідай Камісіі НДУЗ[56]. У дыскусіі, якая адбывалася пасля амаль гадзіннага выступу Ю. Абрэмбскага, «узнікла пытанне высноў практычна-палітычнага характару з апорай на працу і высновы дакладчыка [...]. [Абрэмбскі адзначыў], што не адчувае сябе ні дастаткова кампетэнтным, ні пакліканым да раблення такіх высноў. Ягоная праца для палітыка і грамадскага дзеяча можа быць дапаможнай толькі настолькі, наколькі палегчыць яму пазнанне і зразуменне той сацыяльнай рэчаіснасці палескага селяніна, якую дзеяч ці палітык імкнецца фармаваць згодна з задачамі, якія ён перад сабой ставіць у імя дзяржаўных, нацыянальных ці класавых інтарэсаў. Пра вызначэнне гэтых задач і абдумванне метадаў дзеяння мусіць заўсёды дбаць, аднак, не тэарэтык, а сам дзеяч»[57].

Абрэмбскі акрэсліў сябе як тэарэтыка і паслядоўна заставаўся на навуковай пазіцыі. Яго аналітычна-інтэрпрэтацыйны падыход дазваляў ставіць крытычны дыягназ, хаця быў толькі – і ажно – імкненнем да «разумення сацыяльнай рэчаіснасці».

---

53 Ibidem, c. 480.

54 Ibidem.

55 Ibidem, c. 486.

56 Гл.: Grott Olgierd, 2013, *Instytut Badań Spraw Narodowościowych i Komisja Naukowych Badań Ziem Wschodnich w planowaniu polityki II Rzeczypospolitej Polskiej na Kresach Wschodnich*, Kraków: Księgarnia Akademicka, s. 153–175; *I Zjazd Naukowy Poświęcony Ziemiom Wschodnim w Warszawie 20 i 21 września 1936 r. Polesie (Sprawozdanie i dyskusje)*, 1938, red. S. J. Paprocki, Warszawa: Komisja Naukowych Badań Ziem Wschodnich.

57 Абрэмбскі Юзаф, 2013. *Дыскусія пасля даклада Юзафа Абрэмбскага «Сённяшнія людзі Палесся»*, «Arche», т. 4, с. 516.

Генерал Каспшыцкі, а таксама палітыкі і дзяржаўныя чыноўнікі пасля знаёмства з вынікамі ягоных даследаванняў маглі адчуваць сябе «цалкам і ўсебакова падрыхтаванымі»[58] для перамены палітыкі ў дачыненні да нацыянальных меншасцяў на ўсходзе краіны. Іншае пытанне: ці яны мелі жаданне трактаваць гэтыя вынікі як рэкамендацыі для ўласнай палітыкі?

Няма сумненняў, што навуковы з'езд, прысвечаны Палессю, засведчыў поспех Абрэмбскага. Акадэмічны асяродак аднадушна прыняў ягоную пазіцыю як навукоўца і эксперта. Прэса паведамляла: «Рэктар Антаневіч, каментуючы асобныя рэфераты, больш увагі надаў асобным з іх, як, напрыклад, рэферату доктара Абрэмбскага *Dzisiejsi ludzi Polesia,* адзначаючы ягоны аб'ектывізм, навуковасць метаду, актуальнасць узнятых пытанняў, доказам чаго была ажыўленая дыскусія»[59]. З'езд атрымаў шырокі розгалас у прэсе.

Сёння, праглядаючы перыядычныя выданні верасня 1936 г., трапляем на інфармацыйныя нататкі і каментары, большасць якіх тычылася выступленняў генерала Каспшыцкага, кіраўніка Бюро меліярацыі Палесся Стэфана Рыхлоўскага і этнасацыёлага Юзафа Абрэмбскага. «Трэба вучыцца этнасацыялогіі!» – гэтым сказам закончыў свой артыкул *Elita napływowa czyli uczmy się etnosocjologii* журналіст газеты «Кур'ер Віленскі» Юзаф Свянціцкі (псеўданімм Пётр Лемеш).

Справаздачу з працы з'езда ў трох частках ён закончыў артыкулам, цалкам прысвечаным выступленню Абрэмбскага, у якім адзначыў: «Дастаткова таго, што мы паўтарылі за выступоўцам і дыскутантамі на Палескім з'ездзе, каб пераканацца, што этнасацыялогія не з'яўляецца навукай, адарванай ад жыцця. З дапамогай навукі мы, мясцовыя людзі, можам растлумачыць нават найуплывовейшай эліце тое, што самі добра разумеем. Навука выводзіць на паверхню трагічныя непаразуменні, якія сустракаем на кожным кроку, – непаразуменні паміж намі і тымі, хто хоча нас ашчасліваць супраць нашай волі. Яны не хочуць нашай дапамогі, бо не маюць даверу, бо баяцца даць нам зашмат улады. Трэба вучыцца этнасацыялогіі! Можа, гэта дапаможа пераадолець непаразуменні»[60].

Аднак да пачатку Другой сусветнай вайны непаразуменні толькі паглыбляліся. Пасля навуковай легітымізацыі Абрэмбскага не адбылося ні

[58] *I Zjazd Naukowy Poświęcony Ziemiom Wschodnim w Warszawie 20 i 21 września 1936 r. Polesie (Sprawozdanie i dyskusje)*, 1938, red. S. J. Paprocki, Warszawa: Komisja Naukowych Badań Ziem Wschodnich, s. 16.

[59] Lemiesz Piotr [Józef Święcicki], 1936, *Polesie musi być zmeljorowane. Zakończenie Zjazdu Komisji Naukowych Badań Ziem Wschodnich*, «Kurjer Wileński», nr 260, 22. 09. 36, s. 2.

[60] Lemiesz P[iotr] [Józef Święcicki], 1936, *Elita napływowa czyli uczmy się etnosocjologii*, «Kurjer Wileński», nr 263, 25. 09. 1936, s. 1.

карэкціроўкі сацыяльнай практыкі, ні тым больш змены палітычнага курсу кіруючага лагера. Ягоны дыягназ хутка знайшоў пацвярджэнне ў гістарычных падзеях. З пачаткам вайны ў верасні 1939 г. Палессе стала арэнай шматлікіх актаў варожасці супраць палякаў: адбываліся забойствы ўладальнікаў маёнткаў (іх называлі тут «польскімі панамі»). Бежанцы і атрады польскай арміі падчас адступлення перамяшчаліся па яго тэрыторыі, адчуваючы рэальную небяспеку.

Паланізацыйная «цывілізацыйна-культурная місія» скончылася фіяска. Генерал Каспшыцкі і іншыя кіраўнікі польскай каланізацыйна-асіміляцыйнай палітыкі на беларускіх і ўкраінскіх землях павінны былі прыняць да ведама факты, якія аспрэчвалі тэзіс, што «мы на ўсходзе Польшчы спрадвеку і пайсці адсюль, як гэта нам спрабуюць падказаць розныя няпрошаныя чужыя дарадцы, не маем намеру»[61].

* * *

Антрапалагічныя веды, якія былі вынікам даследаванняў Юзафа Абрэмбскага, не выкарыстоўваліся ў практыцы па палітычных прычынах, хаця ўмовы для іх выпрацоўкі забяспечылі тыя ж самыя палітычныя заказчыкі. Але адначасна паўстае пытанне, якім чынам гэтыя веды выкарыстала польская этналогія/антрапалогія і сацыялогія.

Абрэмбскі апублікаваў толькі чатыры тэксты, якія змяшчалі вынікі даследаванняў на Палессі; усе з'явіліся ў друку ў 1936 г. Этнагеаграфічны аналіз, які ён услед за Орсіні-Розенбергам называў статычным, паспрыяў фармаванню неэсэнцыялісцкай, канструктывісцкай тэорыі этнічнай групы. Ён разумеў гэтую групу як «уяўны твор», заснаваны на пачуцці адасобленасці і ўсведамленні існуючай розніцы паміж чальцамі і нечальцамі групы. Гэтую тэорыю даследчык прадставіў у артыкулах *Problem etniczny Polesia*[62] і P*roblem grup etnicznych w etnologii i jego socjologiczne ujęcie*[63].

---

61 *I Zjazd Naukowy Poświęcony Ziemiom Wschodnim w Warszawie 20 i 21 września 1936 r. Polesie (Sprawozdanie i dyskusje)*, 1938, red. S. J. Paprocki, Warszawa: Komisja Naukowych Badań Ziem Wschodnich, s. 99.

62 Obrębski Józef, 1936, *Problem etniczny Polesia*, «Sprawy Narodowościowe», t. 10, nr 1–2, s. 1–23; Пашыраная версія гэтага артыкула з крытычным аналізам на падставе арыгінальных аўтарскіх запісаў была апублікаваная як *Lud bez Ojczyzny* w: *Polesie. Studia etnosocjologiczne,* t. 1, redakcja naukowa i wstęp Anna Engelking, Warszawa: Oficyna Naukowa, s. 186–275; беларуская версія: *Народ без Бацькаўшчыны*, перакл. Андрэй Бераснеў, «Arche» 2011, nr 3 (102), с. 137–220.

63 Obrębski Józef, 1936, *Problem grup etnicznych w etnologii i jego socjologiczne ujęcie*, «Przegląd Socjologiczny», nr 1–2, s. 177–195.

Фактычна ён прапанаваў змену прынятага ў польскай этналогіі этычнага падыходу на эмічны. Даследчыкі творчасці Абрэмбскага пагаджаюцца, што гэтым наватарскім падыходам навуковец апярэдзіў свой час[64]. Прапанаваны падыход не знайшоў водгуку ў тагачаснай польскай этналогіі, якая ўсё яшчэ функцыянавала ў межах пазітывісцкай парадыгмы. Навацыі Ю. Абрэмбскага ігнаравалі і нават крытыкавалі[65].

Іншы аспект даследаванняў Абрэмбскага на Палессі – гэта «аналіз працэсу нацыяналізацыі ў яго канкрэтным дынамічным развіцці»[66], прадстаўлены артыкуламі *Dzisiejsi ludzie Polesia*[67] і *Statyczne i dynamiczne podejście w badaniach narodowościowych*[68], якія сталі свайго роду тэарэтычным заключэннем першай згаданай публікацыі. Палявыя даследаванні і тэарэтычныя працы Абрэмбскага месціліся ў шырокім кантэксце вывучэння нацыятворчых працэсаў. Яго цікавілі ўніверсаліі сусветнага гістарычнага працэсу ўзнікнення новых нацыянальных структур. Пасля вайны ён таксама займаўся кампаратывісцкімі даследаваннямі працэсаў уздыму па сацыяльнай лесвіцы, нацыянальнай асіміляцыі і нацыянальных рухаў, выступаючы як палявы даследчык працэсаў дэкаланізацыі ў Ямайцы (у супрацоўніцтве з *British Colonial Social Science Research Council*) і як эксперт у *Trusteeship Department* Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

У Польшчы працы Юзафа Абрэмбскага атрымалі прызнанне толькі пасля яго смерці, пачынаючы з 1970-х гг. Высвятленне прычын гэтага –

64 Гл.: Benedyktowicz Zbigniew, 2000, *Józef Obrębski – identyfikacja a stereotyp*, w: *Portrety «obcego». Od stereotypu do symbolu*, Kraków, s. 19–38; Borkowska Grażyna, 2008, *Daleko od mitu. Kresy według Obrębskiego*, «Prace Filologiczne. Seria Literaturoznawcza», t. 55, s. 123–130; Engelking Anna, 2006, *«Nowy Malinowski», czyli o związkach Józefa Obrębskiego z europejską i pozaeuropejską antropologią społeczną*, w: *Klasyczna socjologia polska i jej współczesna recepcja*, red. J. Mucha, W. Wincławski, Toruń: Uniwersytet Mikołaja Kopernika, s. 199–223; Kutrzeba-Pojnarowa Anna, 1979, *Wkład Józefa Obrębskiego w badanie procesów etnicznych*, «Etnografia Polska», t. 23, z. 2, s. 72–82; Nowicka Ewa, 2006, *Obrębskiego wspólnoty wyobrażone*, «Sprawy Narodowościowe» t. 29, s. 109–121.

65 Linkiewicz Olga, 2016, *Scientific ideals and political engagement. Polish ethnology and the 'ethnic question' between the wars*, «Acta Poloniae-Historica» 114, s. 22–23.

66 Obrębski Józef, 1934, «Program badań etnologicznych w zakresie spraw narodowościowych w województwach wschodnich», Варшава, машынапіс, 5 стар.] // Сямейны архіў Абрэмбскіх (у валоданні аўтаркі).

67 Obrębski Józef, 1936, *Dzisiejsi ludzie Polesia*, „Przegląd Socjologiczny», t. 4, nr 3–4, s. 414–446.

68 Obrębski Józef, 1936, *Statyczne i dynamiczne podejście w badaniach narodowościowych*, «Sprawy Narodowościowe», 1936, t. 10, nr 6, s. 585–600.

тэма асобнага даследавання, якое павінна ўлічваць успрыманне канцэпцыі Ю. Абрэмбскага з боку польскіх этнолагаў і сацыёлагаў як у 1930-х гг., так і пасля Другой сусветнай вайны, а таксама яго інстытуцыянальную пазіцыю і асабістыя сувязі ў акадэмічным асяроддзі. Таксама трэба паглыбіцца ў праблему ўзаемазалежнасці паміж навукай і палітыкай як у даваеннай і пасляваеннай Польшчы, так і ў перспектыве ўніверсальных узораў і механізмаў.

Пераклад з польскай мовы Таццяны Казак і Аляксандра Смаленчука.

© HOMO HISTORICUS 2019
ISSN 2424-5224

# ПАМІЖ ДВУХ СВЕТАЎ: ГІСТОРЫЯ САМАГУБСТВА ГРАФА АЛЯКСАНДРА БІСПІНГА

***Аляксандр Радзюк,***
*канд. гіст. навук (Гродна)*

***Summary***

The article is devoted to the last years of Aliaksandr Bispinh's life. He was one of the wealthiest landlords in Hrodna region but committed a suicide in 1867. The author tries to reveal the motives of his last action. Based on numerous archival as well on memories sources he concludes that it was a justice system mistake that provoked him to commit a suicide. Such mistakes were rather common in Muravyov's system of justice and punishment thus leading to a great deal of new tragedies.

24 красавіка 1867 г., за тыдзень да свята Вялікадня ў нумары свайго гатэля ў сталіцы Расейскай імперыі 23-гадовы граф Аляксандр Біспінг звёў рахункі з жыццём. Уладар шматлікіх маёнткаў у Гродзенскай і Аўгустоўскай губернях, былы студэнт Бонскага ўніверсітэта і без пяці хвілін афіцыйны сужэнец дачкі самарскага губернатара перарэзаў сабе горла...

У тагачаснай Расейскай імперыі спроба самагубства, а таксама акт яго здзяйснення з'яўляліся крымінальнымі злачынствамі, за якія былі прадугледжаны пэўныя санкцыі. Адпаведна, кожны раз праводзіліся пэўныя следчыя мерапрыемствы для выяўлення ўсіх акалічнасцяў. Адбылося яно і ў згаданым выпадку, тым больш што гэтым разам улады мелі справу не з шараговым суіцыдам. Але следства было досыць павярхоўным і не здолела даць канчатковага адказу аб прычынах, што падштурхнулі графа

Біспінга на падобны крок. Яно і зразумела чаму: аб'ектыўнае расследаванне магло мець моцны грамадскі рэзананс, які б паказаў тагачасныя расейскія ўлады ў досыць непрыемным святле. Акрамя таго, для выяўлення комплексу ўсіх прычын самагубства графа афіцыйных звестак, якімі аперыравала III Аддзяленне, было недастаткова. Праз 150 год прапаную адкрыць новае следства ў справе самагубства Аляксандра Біспінга.

У гэтым артыкуле паспрабую рэканструяваць асноўныя этапы жыцця графа з мэтай па магчымасці поўна выявіць верагодныя прычыны ягонага ўчынку. Дзеля гэтага акрамя звестак выключна біяграфічнага характару спатрэбіцца шырокае кола крыніц, якія раскрываюць спецыфіку самой эпохі. Адметнасць дадзенага канкрэтнага выпадку заключаецца ў тым, што, нягледзячы на адносна кароткі жыццёвы шлях, вакол гэтай асобы сфармаваўся досыць шырокі комплекс дакументаў разнастайнага характару: архіўны (пераважна афіцыйнага характару), заканадаўчы, а таксама мемуарны. Апошнія, на нашу думку, уяўляюць найбольшую цікавасць. Такая разнастайнасць крыніц не толькі ўзбагачае веды аб гэтай асобе, але дае магчымасць верыфікаваць звесткі, што паходзяць з іншага тыпу дакументаў.

Род Біспінгаў мае нямецкае паходжанне. З часоў Стэфана Баторыя яны жылі на ўсходніх межах Рэчы Паспалітай, займаючы розныя вайсковыя і цывільныя пасады. У канцы XVIII ст. Біспінгі «пусцілі карані» ў Ваўкавыскім, а пасля і ў Гродзенскім паветах. Вайна 1812 г., а таксама празмерная адданасць забавам некаторых прадстаўнікоў мужчынскай лініі паставілі Біспінгаў на мяжу банкруцтва. Ад канчатковага збяднення фамілію выратавалі жанчыны: Аляксандра Свечына і Юзэфа Вайчынскія, у дзявоцтве Біспінгі. Пасля смерці сваіх сужэнцаў (абодва займалі высокія пасады ў службовай іерархіі Расейскай імперыі), не маючы сваіх уласных дзяцей, яны ў 1853 г. аб'ядналі свае маёнткі ў агульны маярат. Для тых часоў гэта быў унікальны выпадак, які патрабаваў ад дзвюх жанчын не толькі паразумення, але настойлівасці, цярпення і патрэбных сувязяў у вышэйшых колах пецярбургскага двара. Дзеля канчатковага вырашэння дадзенага пытання спатрэбіўся непасрэдны ўдзел імператара, які адмысловым імянным указам[1] даў на гэта свой дазвол. У склад Масалянскай ардынацыі ўвайшлі непасрэдна Масаляны, а таксама Верцялішкі, Паплаўцы, Скалубава, Трэйглі (Гродзенскі павет) і Вярэйкі, Кузмічы, Мацейкаўшчына (Ваўкавыскі павет) – разам 1970 мужчынскіх душ[2]. Паводле гэтага даку-

1 Полное собрание законов Российской империи (собр. 2-е). Т. XXVIII, № 27409.
2 Тамсама.

мента, уладаром усёй гэтай маёмасці пасля смерці фундатарак мусіў стаць меўшы на той час 11 год Аляксандр Біспінг.

Бацька Аляксандра – Каміл Біспінг – даводзіўся родным пляменнікам заснавальніцам маярату. У адрозненне ад свайго бацькі Адама, які ахвяраваў значны капітал на карысць польскіх войскаў, што выступалі на баку Напалеона, а таксама ў чыне палкоўніка ўдзельнічаў у кампаніях 1812–1813 гг., Каміл быў лаяльным расейскім падданым. Больш за тое, верагодна з прычыны складанай фінансавай сітуацыі ў сям'і, ён быў вымушаны адмовіцца ад бесклапотнага жыцця памешчыка і паступіць на вайсковую службу, якую адбываў у Сумскім гусарскім палку. У складзе гэтага вайсковага фармавання ён браў непасрэдны ўдзел у падаўленні паўстання 1830–1831 гг., дзе страціў сваё здароўе і неўзабаве памёр[3]. Але ён паспеў ажаніцца і абзавесціся трыма сынамі. Пры гэтым Аляксандр не быў старэйшым. Тым не менш, у абыход маяратнага права менавіта ён стаў адзіным уладаром велізарнай маёмасці сваіх стрыечных бабак. Прычына гэтага, верагодна, крыецца ў тым, што адна з фундатарак ардынацыі (Ю. Вайчынская) была яго хроснай маці і любіла яго больш за іншых унучатых пляменнікаў. Несумненна, гэты крок спарадзіў унутраны сямейны канфлікт паміж Янам (старэйшым братам) і Аляксандрам. Яго водгукі можна знайсці не толькі ў дайшоўшых да нашых дзён мемуарах Яна Біспінга, але і ўрадавых дакументах таго часу. У далейшым гэтая канфрантацыя толькі ўзмацнілася. Па меры магчымасці паспрабую адсачыць узаемаадносіны паміж братамі.

Дзіцячыя гады Аляксандра для даследавання не ўяўляюць вялікай цікавасці. Адзінае, што адзначым, – гэта выключны нямецкі характар яго адукацыі. Спачатку гэта была губернская гімназія ў Мітаве, дзе ўвесь навучальны працэс адбываўся на нямецкай мове, а пасля выбар быў зроблены на карысць Бонскага ўніверсітэта[4]. Таму не дзіва, што нават асабісты слуга ў графа быў немцам. У 1862 г., маючы 18 год, ён наведаў 2-ю Сусветную выставу ў Лондане і захапіўся культурай гэтай краіны. У тым жа годзе ў Бонскім універсітэце пазнаёміўся з сынам англіканскага святара Фортэск'ю Андэрсанам, які на пэўны час стаў яго найбліжэйшым кампаньёнам і настаўнікам англійскай мовы. Дзякуючы гэтай асобе мы маем досыць аб'ектыўнага сведку тых падзей, якія шмат у чым прадвызначылі ўвесь далейшы лёс Аляксандра.

1863 год стаў паваротным у біяграфіі А. Біспінга. Менавіта з гэтай даты варта пачаць гістарычнае расследаванне. Успаміны Ф. Андэрсана, што былі на-

---

3 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (далей: НГАБ у Гродне). Ф. 1, воп. 27, спр. 1065, арк. 2.

4 Тамсама. Ф. 3, воп. 1, спр. 40, арк. 176.

пісаныя ім па гарачых слядах тых падзей, даюць магчымасць даволі дакладна рэканструяваць усе акалічнасці.

На пачатку сакавіка 1863 г. Аляксандр Біспінг разам з Ф. Андэрсанам і нямецкім слугой з Берліна праз Кёнігсберг вярнуўся на радзіму. У сувязі з паўстаннем на мяжы яны прайшлі самы пільны дагляд з боку памежнай стражы, але нічога супрацьзаконнага выяўлена не было. Згодна з існуючымі правіламі, праверку павінны былі прайсці нават кнігі (на нямецкай мове), якія ўвозіліся ў межы імперыі. Гэту працэдуру ў Вільні выканаў старшы цэнзар П. Кукальнікаў, але нічога крамольнага ў іх змесце не выявіў[5]. Трапіўшы ў іншае культурнае і цывілізацыйнае асяроддзе, Ф. Андэрсан у найдрабнейшых дэталях занатаваў усе адметнасці іх побыту ў г. зв. «Рускай Польшчы»[6]. Яго цікавіла ўсё: традыцыі, звычаі, святы, ежа, сельская гаспадарка, рыбалка, габрэі, адмена прыгону і ўзаемаадносіны двара з сялянамі, кірмашы, нацыянальнае пытанне і шмат што іншае.

Натуральна, што па-за ўвагай аўтара не засталося паўстанне, якое разгортвалася ў краі і на сумежных тэрыторыях. Адносіны да яго на старонках дзённіка неадназначныя. З аднаго боку, ён досыць падрабязна апісвае царскія рэпрэсіі, сведкам якіх ён з'яўляўся, выказваючы пры гэтым сваю спагаду і спачуванне ахвярам[7]. З іншага боку, аўтар таксама асуджае паўстанцаў, якія сваімі неасцярожнымі дзеяннямі ставілі пад удар іншых жыхароў, пераважна землеўладальнікаў. Тым больш што ў хуткім часе ён сам, разам з А. Біспінгам, стаў закладнікам гэтай палітычнай сітуацыі.

26 жніўня 1863 г. падчас выезду з Гродна ў адзін са сваіх маёнткаў на гарадской рагатцы А. Біспінг быў затрыманы. Разам з ім былі арыштаваныя Ф. Андэрсан і нямецкі слуга. Без тлумачэння прычын усе яны, а таксама іх рэчы былі пільна агледжаны. Як сведчыць Ф. Андэрсан, яго спробы выказаць пратэст прывялі толькі да эскалацыі напружанасці, у той час як граф, лепей знаёмы з мясцовымі рэаліямі, пакорліва выконваў усе загады вайсковых і паліцэйскіх чыноў[8]. Без тлумачэння прычын (што для тых часоў было хутчэй правілам, а не выключэннем) усе трое былі кінутыя ў гарадзенскую турму ў адзіночныя камеры. Спадзяванні графа на тое, што гэта нейкая памылка і што іх выпусцяць адразу пасля высвятлення ўсіх абставін, не апраўдаліся. Зранку пачаліся допыты ў следчай камісіі. Абвінавачванні тычыліся імавер-

---

5 Тамсама. Ф. 1, воп. 34, спр. 1017, арк. 7.

6 Anderson B. Seven month' residence in Russian Poland in 1863. London and Cambrige, 1864.

7 Ibidem, p. 112–135.

8 Ibidem, p. 137–141.

нага наведвання графам і яго ўніверсітэцкім сябрам паўстанцаў і дастаўкі ім зброі ды іншых прыпасаў.

Ключавым момантам усёй гэтай справы з'яўляецца пытанне аб крыніцы паходжання гэтых сведчанняў. Адказ (хоць і не канчатковы) на гэтае пытанне даюць архіўныя дакументы. Паводле тагачаснай практыкі, усе паўстанцы, якія былі схоплены царскімі ўладамі альбо здаліся ім добраахвотна, падвяргаліся абавязковаму допыту з боку часовай вайсковай адміністрацыі. Асноўнай мэтай апошніх было не толькі выяўленне ўсіх абставін канкрэтнага выпадку. У першую чаргу ўлады такім чынам імкнуліся здабыць новыя імёны і звесткі аб датычных да паўстання асобах. Пры гэтым «ступень раскаяння» былых інсургентаў вызначалася ў залежнасці ад таго, наколькі «шчыра» тыя выдавалі следству імёны сваіх былых паплечнікаў і тых, хто ім дапамагаў. У сваю чаргу ад «раскаяння» наўпрост залежаў канчатковы прысуд. Натуральна, што падобная сістэма ацэнкі «шчырасці» спарадзіла ў 1863 г. шмат злоўжыванняў і нічым не пацверджаных даносаў.

Упершыню прозвішча Аляксандра Біспінга сустракаецца ў следчых матэрыялах чыноўніка Мінскай губернскай казённай палаты Восіпа Свіжынскага (Свідзінскага). Добраахвотна здаўшыся царскім уладам, ён на допыце сярод іншых асобаў назваў імя графа, а таксама паведаміў пра англічаніна, які таго суправаджаў. Абвінавачванні тычыліся таго, што яны нібыта прывозілі ў атрад Ляндара (Аляксандра Лянкевіча) зброю (7 рэвальвераў, 2 двухствольныя пісталеты, 2 шаблі і 2 стрэльбы). Акрамя таго, В. Свіжынскі сцвярджаў, што А. Біспінг займаў пасаду акруговага начальніка паўстанцкай арганізацыі Гродзенскага і Ваўкавыскага паветаў![9] Гэтыя факты пацвердзіў іншы паўстанец таго ж атрада – нейкі Плаўскі (праўда, у абвінаваўчым акце замест Плаўскага фігуравала імя мешчаніна Віктара Іваноўскага)[10]. Менавіта гэтыя дзве асобы выступілі галоўнымі сведкамі ў працэсе. У хуткім часе з'явіўся яшчэ адзін сведка: 30 жніўня (ужо пасля арышту ўладальніка Масалян) 21-гадовы Аляксандр Эйсымант згадаў яго прозвішча сярод тых, хто наведваў атрад Духінскага[11]. Натуральна, што гэтага было дастаткова, каб запусціць махавік рэпрэсіўнай машыны.

Пытанне аб верагоднасці вышэй згаданых сведчанняў застаецца адкрытым і сёння. У сваіх мемуарах Ф. Андэрсан, а таксама родны брат Аляксандра – Ян Біспінг – у адзін голас сцвярджалі, што падобныя даносы былі зроблены г. зв. «чырвонымі» з мэтай адпомсціць багатаму землеўласніку

---

[9] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 34, спр. 675, арк. 7.

[10] Тамсама. Арк. 7, 28.

[11] Тамсама. Спр. 682, арк. 2.

за тое, што той адмовіўся дапамагаць паўстанцам: «Смела ідучы супраць паўстання, занадта вока ім муляў, і фальшывым, недарэчным даносам пагубілі яго»[12]. Падобнага меркавання прытрымліваўся і сам масалянскі ардынатар, які на чарговым допыце сцвярджаў: «Прыпісваю толькі жаданню адпомсціць мне за тое, што я ніколі ні да чаго ў былым мяцяжы не належаў і не садзейнічаў, за што яны, помсцячы мне, стараюцца ўзвесці паклёп на мяне ў вачах урада»[13].

Разам з тым нельга выключаць і іншую версію паходжання абвінавачванняў. Як падаецца, зыходзячы з той сітуацыі, што склалася ў краі на той час, а таксама аналізу ўсёй сістэмы судова-следчых мерапрыемстваў над удзельнікамі паўстання[14], нельга выключаць верагоднасці таго, што свае «шчырыя прызнанні» вышэй згаданыя асобы рабілі пад дыктоўку следчых. Альбо падпісвалі чыстыя паперы, якія пасля запаўняліся патрэбнай інфармацыяй. Як вядома, М. Мураўёў асабіста практыкаваў падобныя спосабы здабыцця звестак яшчэ з часоў паўстання 1831 года[15].

Такім чынам, з аднаго боку мы маем паказанні трох былых паўстанцаў, а з другога – сведчанні Аляксандра і Яна Біспінгаў, а таксама Ф. Андэрсана. Апошнія двое ўяўляюць цікавасць яшчэ і таму, што раскрываюць погляды маладога графа, яго ўнутраны свет. Абапіраючыся на іх, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што першы масалянскі ардынатар належаў да кансерватыўнага палітычнага лагеру. Аб гэтым сведчыць таксама кола ягоных партнёраў, якое складалася амаль выключна з прадстаўнікоў найвышэйшых слаёў грамадства. Ніхто з іх не быў прыхільнікам узброенай барацьбы і не далучыўся да паўстання.

На гэта таксама ўказваюць запісы яго роднага брата Яна, які негатыўна ставіўся да паўстання: «Пачатак праклятай рэвалюцыі, якая наш бедны край давяла да жабрацтва і краху ўсяго грамадскага жыцця»[16], пісаў ён у сваіх успамінах, адрасаваных нашчадкам. Дзённік Андэрсана не ўтрымлівае такой негатыўнай ацэнкі, але таксама ён не засведчыў ніякай спагады патрыятычнаму руху з боку графа. Увесь 1863 г. ён быў заняты выключна сваімі хатнімі

12 Moje wspomnienia w Massalianach spisane. Pamętniki Jana ordynata Bispinga 1842–1892. Rękopis // Zakład Narodowy Ossolineum we Wrocławiu, s. 50.

13 НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 1, спр. 40, арк. 177.

14 Радзюк А. Дзейнасць следчых і судовых камісій на тэрыторыі Беларусі ў 1863–1867 гг. (на прыкладзе Гродзенскай губ.) // Паўстанне 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі, Літве і Украіне : гісторыя і памяць : зборнік навуковых артыкулаў. Мінск, 2014, с. 208–223.

15 НГАБ у Гродне. Ф. 5, воп. 1, спр. 1, арк. 377.

16 Moje wspomnienia w Massalianach…, s. 42.

справамі, пераважна гаспадаркай. Гэта быў час, які ў сувязі з адменай прыгону і спынення часоваабавязаных адносінаў з сялянамі патрабаваў пошуку новых метадаў яе вядзення. Можна меркаваць, што ў свае 20 год, знаходзячыся пераважна па-за межамі радзімы, Аляксандр яшчэ не паспеў выпрацаваць дакладныя, цвёрдыя палітычныя погляды. Значна больш за палітыку ён цікавіўся гаспадарчымі справамі, якія, як падаецца, і абумовілі яго вяртанне на радзіму.

Але тагачасная рэпрэсіўная машына не засяроджвалася на выяўленні ўсіх гэтых акалічнасцей. Яе не цікавілі доказы, алібі ці адсутнасць логікі ва ўчынках іншага боку. Яна заўсёды прымала бок абвінавачання. Выпадкі апраўдання шляхціца былі адзінкавыя. Гэтая машына дзейнічала па прынцыпе, які пасля канчаткова сфармаваў Лаўрэнці Берыя: «Быў бы чалавек, а артыкул заўсёды знойдзецца». А пры наяўнасці ў тагачаснай сістэме пакаранняў такога віду, як адміністратыўная ссылка, ёй нават не патрабавалася нейкай вонкавай адпаведнасці прававым нормам. І нават калі за добранадзейнасць той ці іншай асобы былі гатовыя паручыцца дзясяткі іншых сведкаў, суддзі ўсё роўна пры вынясенні вердыкту прымалі да ўвагі адзінкавае, нічым не пацверджанае сведчанне супрацьлеглага боку.

Трапіўшы ў лапы мураўёўскіх следчых і суддзяў (даволі часта гэта былі адныя і тыя ж асобы), граф Біспінг не меў шансаў на паратунак. Усе акалічнасці гэтага працэсу падрабязна апісаныя ў дзённіку Ф. Андэрсана. Камісія адхіляла ўсе аргументы, якія сведчылі пра адсутнасць віны падследных, і верыла ўсяму, што ўказвала на іх удзел у паўстанні. З мэтаю пошуку новых улік у сядзібах графа былі праведзеныяператрусы, але нічога супрацьзаконнага яны не выявілі. Сведкі, нягледзячы на тое, што англічаніну ўдалося выкрыць іх падман, на вочных стаўках працягвалі настойваць на сваім.

З дапамогай суайчыннікаў, а таксама дзякуючы ўмяшанню брытанскага пасла ў Пецярбургу лорда Нэпера Андэрсан быў урэшце вызвалены з вязніцы. А Біспінг, нягледзячы на тое, што зацікаўленасць яго лёсам праявіў міністр унутраных спраў П. Валуеў[17], чакаў прысуду за кратамі. 7 верасня следчая справа паступіла да гродзенскага губернатара І. Скварцова. «Не сустрэўшы ў справе ніякіх падстаў, каб не даваць веры сведчанням мяцежнікаў, што вярнуліся», губернатар прапанаваў прызнаць А. Біспінга «абсалютна нядобранадзейным у палітычных адносінах» і выслаць яго з краю[18]. 15 верасня М. Мураўёў сваім подпісам зацвердзіў гэтую сентэнцыю, вызначыўшы ў якасці месца адбыцця пакарання Арэнбургскую губ. Акрамя таго, маёнткі А. Біспінга былі абкладзеныя г. зв. 10 % зборам.

[17] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 34, спр. 675, арк. 18.

[18] Тамсама. Арк. 28.

Менш чым за тры тыдні лёс А. Біспінга цалкам перавярнуўся: з аднаго з самых заможных зямян Гродзеншчыны ён ператварыўся ў ссыльнага выгнанца. Пры гэтым тут варта звярнуць увагу на той факт, што высылаўся ён у адміністратыўным парадку, г. зн. без разгляду справы судом і, адпаведна, яшчэ аднаго шансу на апраўданне. Падобны спосаб вынясення прысуду сведчыў аб слабасці пазіцый абвінавачання, а тая хуткасць, з якой усё было зроблена, – аб імкненні не дапусціць умяшання ўплывовых сваякоў і знаёмых Біспінгаў.

Таксама звяртае на сабе ўвагу і тая выбарнасць, з якой следчыя аднесліся да інфармацыі «сведкаў»: з аднаго боку, яны безумоўна давалі веру таму, што граф разам з англічанінам наведваў і дапамагаў паўстанцам, з другога боку, свайго працягу не знайшла гісторыя з імаверным ачольваннем акруговай структуры ў паўстанцкай арганізацыі. Прозвішча Біспінга адсутнічала ў спісах яе сяброў, што былі складзены царскай выведкай[19].

20 верасня Аляксандр быў выпушчаны з турмы на парукі маршалка мясцовага дваранства С. Ромера. Але гэта быў толькі кароткачасовы глыток свабоды для ўпарадкавання пільных маёмасных і хатніх спраў. Ужо 29 верасня граф у суправаджэнні жандара быў высланы з Гродна. Канчатковым месцам прызначэння быў г. Уфа.

Менш чым праз год (чэрвень 1864 г.) А. Біспінг вярнуўся ў горад над Нёманам. Гэта не было звязана з палёгкай ці пераглядам прысуду. Наадварот, тут яму «шылася» новая справа. На гэты раз абвінаваўчы бок абапіраўся на паказанні Эразма Заблоцкага, які засведчыў, што ў траўні 1863 г. яны разам з Кастусём Каліноўскім, робячы інспекцыйную паездку па Гродзенскім ваяводстве, спыняліся на ноч у маёнтку Вярэйкі, што належаў графу[20]. Гэтага было дастаткова, каб Аляксандра з Уфы даставілі ў Гродна дзеля допыту.

У дадзеным выпадку нас не цікавяць акалічнасці гэтай справы, у якой нават царскія следчыя разабраліся досыць хутка. Увагу прыцягваюць палітычныя погляды графа, якія з гэтага часу ўсё часцей пачынаюць фігураваць у тагачасных дакументах. Нават казённае справаводства не здольнае гэтага схаваць: «Я смею надеяться, что Правительство сумеет узнать откровенность и верность чувств моих, чувств верного подданного, который не только никогда действием, но даже мыслей не согрешил против НЕГО (тут і далей так у дакуменце – *А. Р.*), и который всегда был и всегда будет готов пожертвовать последнею копейку, пролить последнюю каплю крови за ЦАРЯ и РОССИЮ, и который считает себя вполне истным Русским и никогда не перестанет быть оным во что бы ни стало и что бы на него ни говорили и

19 Тамсама. Спр. 1574, арк. 9–15.

20 Тамсама. Ф. 3, воп. 1, спр. 40, арк. 63.

ни показывали»[21], – такімі словам закончыў свае адказы на пытанні камісіі Аляксандр Біспінг.

Канешне, чытаючы такія прызнанні, можна западозрыць графа ў няшчырасці. Магчыма, падчас следства А. Біспінг апрануў маску пакорлівага, адданага «рускай справе» абываццеля выключна з мэтай атрымання амністыі і вяртання сваіх маёнткаў. Варта звярнуцца да іншых крыніц. Адзіным вядомым сведчаннем у польскай мемуарнай літаратуры адносна знаходжання масалянскага ардынатара ў Арэнбургскай губ. з'яўляюцца ўспаміны Якуба Гейштара. У іх ён адзначыў, што граф пасля яго ад'езду цалкам перастаў бываць у польскіх дамах, аддаючы перавагу выключна рускім[22]. Гэтыя звесткі пацвярджаюцца і пашыраюцца архіўнымі крыніцамі, што паходзяць з 1864–1866 гг. Уфімскія ўлады, даючы характарыстыку Аляксандру, адзначылі, што «ад самага часу свайго прыезду [...] адразу даў зразумець, што ён ніколі не падзяляў мары палякаў, і, не маючы нічога агульнага з польскімі ўраджэнцамі, высланымі з Заходняга края, ён адкрыта адкінуў зносіны з імі і асуджаў іх палітычныя памкненні»[23].

Аб шчырасці і паслядоўнасці яго ўчынкаў сведчаць не толькі гэтыя словы, але і ўся далейшая логіка падзей. У хуткім часе пасля сваёй высылкі А. Біспінг пачаў наведваць царкву. Урэшце, 10 снежня 1865 г. пасля вышэйшага дазволу ў той жа самай Уфе ён перайшоў у праваслаўе. Гэты крок даўся яму нялёгка. Тым самым ён не толькі канчаткова парываў з мясцовай палоніяй, але назаўсёды псаваў адносіны з роднымі братамі і іншымі сваякамі. Прамыя сведчанні аб гэтым канфлікце ўтрымліваюцца як у афіцыйных дакументах, так і непасрэдна ва ўспамінах Яна Біспінга: «Сустрэўся з ім (братам – *А. Р.*) у Гродне ў 1867 г. пры абставінах, аб якіх лепей не ўзгадваць»[24].

Яго адданасць праваслаўю была дакументальна засведчана брэсцкім епіскапам Ігнаціем падчас кароткага побыту Аляксандра ў Гродне ў 1866 г. Ён браў непасрэдны ўдзел у справе перабудовы Вярэйскага касцёла ў царкву. З 1865 г. у афіцыйнай перапісцы Біспінг усё часцей фігуруе ў якасці «паборніка рускай справы ў Заходнім краі»[25]. Нядзіўна, што на розных узроўнях уладнай іерархіі ўсё часцей пачынаюць гучаць галасы аб магчымасці і нават неабходнасці яго вяртання на радзіму.

Спачатку гэта былі прашэнні непасрэдна Аляксандра і яго сваякоў (напрыклад, Тадэвуша Сегеня). Пасля да іх далучыўся арэнбургскі губернатар

[21] Тамсама. Арк. 177.
[22] Pamiętniki Jakuba Gieysztora z lat 1857–1865. Wilno, 1913. T. 2, s. 104.
[23] Lietuvos valstybės istorijos archyvas (LVIA). F. 378, bendrasis skyrius, ap. 1863, b. 771, l. 39.
[24] Moje wspomnienia w Massalianach…, s. 59.
[25] LVIA. F. 378, b/s, ap. 1863, b. 771, l. 69.

Рыгор Аксакаў. Справа дайшла да міністра ўнутраных спраў. Пазней да яе вырашэння падключыўся гродзенскі губернатар І. Скварцоў, на чыё меркаванне абапіраўся М. Мураўёў, высылаючы графа ў 1863 г. Са зместу ўсіх гэтых заключэнняў вынікала, што асоба А. Біспінга вельмі запатрабаваная ў краі, хаця яшчэ 2–3 гады таму яе знаходжанне там было прызнана шкодным. Адначасова з гэтым пачынае ўздымацца пытанне аб вызваленні маёнткаў А. Біспінга ад дзеяння Указа ад 10 снежня 1865 г., які прадугледжваў абавязковы продаж уладанняў асобаў, што былі высланыя ў двухгадовы тэрмін, асобам «рускага паходжання».

Але нягледзячы на ўсе гэтыя намаганні, падтрымку ў сталіцы, улады так і не здолелі вырашыць аніводнага з гэтых пытанняў. Яны не былі ў стане абысці тую сістэму, якую самі стварылі. Спачатку сваё рашучае супрацьдзеянне гэтай ідэі выказаў віленскі генерал-губернатар Канстанцін фон Кауфман[26], для якога аўтарытэт яго папярэдніка быў непарушны. У асобе ягонага пераемніка на гэтай пасадзе, Эдуарда Баранава, улады фактычна прызналі сваю памылку, якая была зроблена імі ў 1863 г. «Сведчанні супраць яго не былі як след расследаваныя, і ўвогуле яго датычнасць да мяцяжу не пацвердзілася ніякімі новымі доказамі»[27], – адзначаў новы віленскі генерал-губернатар у 1866 г. Але нічога не змянілася.

Створаная М. Мураўёвым і яго паслядоўнікамі сістэма кіравання ў Літве і Беларусі абапіралася на адметную адміністрацыйна-прававую сістэму, якая ў значнай ступені выходзіла за рамкі агульнаімперскага заканадаўства і практыкі. У першую чаргу гэта тычылася пасады віленскага генерал-губернатара. Яна была надзелена асобным статусам, які дазваляў ёй не падпарадкоўвацца агульнадзяржаўнай сістэме кіравання і даваў пэўныя заканадаўчыя паўнамоцтвы. Улада асобных міністэрстваў, ведамстваў і камітэтаў у сувязі з гэтым тут мела досыць абмежаваны характар. Вось чаму адзін росчырк М. Мураўёва быў мацнейшы за ўсе аб'яднаныя намаганні прадстаўнікоў царскай адміністрацыі розных узроўняў. Адзінае, што ўдалося ім зрабіць у гэтай сітуацыі для А. Біспінга, дык гэта з дазволу міністра ўнутраных спраў вызваліць таго ад паліцэйскага нагляду на месцы ссылкі, а таксама дазволіць кароткачасовыя візіты ў сталіцу і Варшаву (падчас якіх ён атрымаў права спыняцца на радзіме для вырашэння маёмасных пытанняў).

Апошні раз Аляксандр прыехаў дамоў у лютым 1867 г. Але за гэты час ён і на радзіме стаў чужынцам. Сваякі, блізкія, знаёмыя адвярнуліся ад яго, сустрэлі амаль што з пагардай[28]. У гэтай сітуацыі ён шукаў новае таварыства

---

26 Ibidem. l. 47.
27 Ibidem. B/s, ap. 1867, b. 2412, l. 6.
28 Ibidem. l. 44.

і знайшоў яго сярод рускіх прыезджых сем'яў. І тут, калі даваць веру пазнейшым звесткам, што былі сабраныя афіцэрам корпуса жандараў П. Гравэ, ён «без галавы» закахаўся ў адну з дачок нейкага Трафімоўскага[29]. Здавалася б, што ў гэтым факце нічога заганнага няма, калі б не адна акалічнасць. Справа ў тым, што за месяц да гэтага ў графа адбыліся афіцыйныя заручаны з Вольгай Аксакавай, дачкой уфімскага губернатара і, адпаведна, унучкай вядомага пісьменніка Сяргея Аксакава.

Праўда, версія аб новай пасіі не знаходзіць свайго пацвярджэння ў тым расследаванні, што праводзілася сталічнымі жандарамі. У ёй задакументавана, што пасля прыезду з Гродна ў Пецярбург А. Біспінг усе дні праводзіў у Аксакавых, а лісты, што засталіся пасля яго смерці, «напоўненыя клопатамі і меркаваннямі адносна хуткага вяселля»[30]. Разам з тым сталічныя следчыя робяць акцэнт на матэрыяльных праблемах, з якімі сутыкнуўся граф пры падрыхтоўцы да пачатку сямейнага жыцця. Згодна з іх версіяй, ён меў пільную патрэбу ў грошах і нават спрабаваў пазычыць 15 тыс. у кагосьці з Булгарыных, але атрымаў адмову[31].

У сваю чаргу пісьменніца Эліза Ажэшка, чый родавы маёнтак Мількаўшчына знаходзіўся паблізу Масалян, звярнула ўвагу (грунтуючыся, праўда, на чутках) на іншы аспект справы: «Катастрофа самагубства даўно ўжо наспявала ў сумленні няшчаснага, і канчаткова садзейнічалі ёй наступныя акалічнасці. Калі ў адным з пецярбургскіх клубаў нейкі высокі саноўнік-міністр альбо падобны да яго не захацеў паціснуць працягнутую яму Біспінгам руку, пры гэтым на ўвесь голас сказаў, што не хоча запэцкаць сваю руку аб руку чалавека, які выракся веры і Айчыны»[32].

Падводзячы вынікі расследавання, хацелася б звярнуць увагу на наступнае. Менавіта несправядлівае, неабгрунтаванае рашэнне аб пакаранні графа стала пачаткам яго канца. Яно разбурыла яго ўнутраны свет, выбіла глебу (у тым ліку фінансавую) з-пад яго ног, падзяліла свет навокал на «сваіх» і «чужых». Гэта, безумоўна, была першасная прычына, на якую пасля накладаліся іншыя, другасныя, так ці інакш звязаныя з першай. Галоўную віну ў трагедыі, што здарылася 24 красавіка 1867 г. у нумары сталічнага гатэля, нясуць царскія ўлады, якія сваім неабгрунтаваным рашэннем зламалі жыццё бязвіннаму чалавеку.

29 Ibidem. l. 45.
30 LVIA. F. 378, b/s, ap. 1863, b. 771, l. 71.
31 Ibidem.
32 Румак Г. Масаляны праз смугу стагоддзяў. Слонім, 2014, с. 44.

Дэталёвы разбор гісторыі самагубства Аляксандра Біспінга важны для разумення, што дадзены выпадак з'яўляецца адной з многіх тысяч ілюстрацый таго, як дзейнічала царская рэпрэсіўная машына ў перыяд задушэння паўстання 1863 г. і адразу пасля яго. Гэтай машыне, якой кіраваў тагачасны начальнік края М. Мураўёў, не было справы да паламаных лёсаў тысяч і тысяч асобаў. Яна не патрабавала аб'ектыўнасці следства ці захавання хаця б нейкай бачнасці законнасці. Імкнучыся выслужыцца перад царом, дасягнуць вырашэння сваіх асабістых мэтаў, М. Мураўёў укінуў падкантрольны яму край у стан хаосу і беззаконня, разбурыўшы лакальны свет мясцовых жыхароў, зрабіўшы іх закладнікамі і ахвярамі створанай ім сістэмы.

ISSN 2424-5224

# ПОВСЯКДЕННЯ ОКУПОВАНОГО МІНСЬКА ОЧИМА НІМЕЦЬКИХ ФОТОГРАФІВ: ЗА МАТЕРІАЛАМИ ФЕДЕРАЛЬНОГО АРХІВУ НІМЕЧЧИНИ ТА ЦДКФФА УКРАЇНИ ІМ. Г.С. ПШЕНИЧНОГО

***Ольга Ковалевська,***
*доктар іст. наук (Київ)*

## *Summary*

The article describes the reasons, the purpose and the process of displaying the everyday life of the residents of the occupied Minsk in photographs taken by German photographers during 1942–1943. The paper explains the reasons for the special attention of photographers to certain civil construction facilities of the Belarusian capital, the appearance of its inhabitants, the reasons for showing the confidence by local residents to the photographers themselves. The text demonstrates the process for identifying the names of certain individual performers working on the assignments by the German occupation authorities, as well as the facts of their biography.

У 1997 та 2008 роках з Федерального архіву Німеччини (м. Кобленц) (далі – ФАН) до фондів Центрального державного кінофотофоноархіву України ім. Г.С. Пшеничного (м. Київ) (далі – ЦДКФФАУ ім. Г.С. Пшеничного) було передано 4 018 фотодокументів. У переважній більшості – це копії фотодокументів, що зберігалися в українському архіві до початку Другої світової війни[1]. Ці

[1] У 1996 р., перебуваючи у службовому відрядженні у Федеральному архіві Німеччини, директор Центрального Державного архіву громадських об'єднань України (далі – ЦДАГОУ) Руслан Пиріг з'ясував, що в ФАН зберігаються лише копії фотодокументів (фотопозитиви), вивезених з архівів Радянського Союзу. У вересні 1997 р. Національна комісія з питань повернення в Україну культурних цінностей через Міністерство закордонних

фотодокументи відображали політичне, соціально-культурне і економічне життя України довоєнного періоду, тобто з 1862 по 1940 рр. Окремою групою (503 документи) до київського архіву були передані фотографії, виконані німецькими фотографами протягом 1942–1943 рр. у м. Києві (Україна), м. Мінську (Білорусь), м. Смоленську (РФ) та інших містах і селах.

Первісне ознайомлення зі змістом зображень на фотографіях обумовило формулювання теми, визначення об'єкта дослідження, тобто повсякдення окупованого Мінська у відображенні німецьких військових фотографів, а також предмету – ним стали 116 фотографій, виконаних протягом 1942–1943 рр. у Мінську та його околицях, німецькими фотографами Рік, Ліпке та Майєром.

Подальший огляд та опис фотодокументів дозволив сформулювати низку питань до них: хто був автором цих фотографій, з якою метою були зроблені ці фотографії, чи були ці фото зобов'язані своєю появою виключно особистому інтересу фотографів до захоплених теренів та до побуту місцевого населення, чи це був результат спеціального завдання з науковою, адміністративною або

---

справ України одержала від ФАН п'ять ящиків з фотопозитивами. Після детального вивчення цих документів співробітники ЦДКФФАУ ім. Г.С. Пшеничного з'ясували, що із 3890 фотопозитивів 3278 – є копіями фотодокументів, вивезених із архіву за межі України у період Другої світової війни. Решта 612 знімків датуються 1942–1943 рр. У листопаді 1997 р. відбулася урочиста церемонія передавання цих фотопозитивів Національною комісією з питань повернення в Україну культурних цінностей Центральному державному кінофотофоноархіву України ім. Г.С. Пшеничного. З метою подальшого розшуку втрачених фотодокументів довоєнного Всеукраїнського фотокіноархіву колишній директор архіву Наталія Слончак у листопаді 2003 р. була відряджена до Федерального архіву Німеччини. У результаті проведеного нею аналізу було встановлено, що 3278 позитивів, переданих ЦДКФФАУ у 1997 р., виготовлені з дубль-негативів, які в свою чергу були виготовлені фотоархівом Федерального архіву ФРН із позитивів, що надійшли разом з іншими документами із США в 1960-х рр. XX ст. У фотоархіві ФАН переважну їх більшість було включено до фонду 131 «ERR: allgemeine Angelenheiten, russisce Stadte und Ortschaffen, jeweils nebst Umgebung». 1940–1944 (1905–1939). Також з'ясувалося, що частину цих фотопозитів було включено до інших фондів, і таким чином, копії з них у 1997 р. до ЦДКФФАУ ім. Г.С. Пшеничного не потрапили. Це були фотопозитиви за 1927–1938 рр. із фонду №1 (розділи «Наука», «Оборонна промисловість», «Пропаганда»). Завдяки проведеній роботі з відбору й зусиллям Українсько-німецької комісії з питань повернення та реституції втрачених та незаконно переміщених культурних цінностей ФАН 20 листопада 2008 р. повернув ЦДКФФАУ ім. Г. Пшеничного ще 246 фотопозитивів (238 од. обл.) (Докладніше див.: Каталог фотопозитивів, повернених та переданих Федеральним архівом Німеччини / Держ. архів. служба України, ЦДКФФА України імені Г.С. Пшеничного; уклад.: Г.І. Божук. – К., 2013. – С. 5).




*Будинок Червоної армії і флоту.*

пропагандистською метою, чи існують інші аналогічні фотодокументи, чи не проводилися ці зйомки в межах якогось проекту, організованого німецькими органами влади на окупованих територіях, чи здійснювалися спроби істориків дослідити тогочасні візуальні документи? Та деякі інші.

Подальший аналіз фотодокументів дозволив припустити, що до об'єктиву німецьких фотографів потрапляло те, що їх вражало, а можливо й викликало подив чи несприйняття. Явний інтерес німців становила радянська архітектура, що підтверджено значною кількістю знімків адміністративних будівель, закладів науки і культури, церков, магазинів, житлових будинків. Не менше зацікавлення авторів фотографій викликав побут місцевого населення, причому, як той, що не зазнав суттєвих змін у зв'язку з окупацією, так і явно ускладнений окупаційною владою. Потрапили до об'єктива фотографів й витвори радянського мистецтва.

Більшість наявних фотографій давали можливість створити загальне уявлення про повсякденне життя місцевих мешканців в окупованій білоруській столиці та їх основні заняття, що уначнювало наші знання про тогочасний період історії Білорусі та інших окупованих територій. Цінність цих матеріалів



*Басейн Дома Червоної армії і флоту.*

обумовлена дуже обмеженою кількістю подібних фотодокументів, створених радянськими фотографами (як професійними, так й аматорами). Для порівняння варто згадати, що в Україні останнім часом вийшло друком кілька видань, які містять фотодокументи часів Другої світової війни, але за змістом вони відрізняються від фотодокументів, що стали предметом нашого зацікавлення[2].

Порівняльний аналіз фотодокументів, зроблених різними фотографами, дозволив дійти висновку, що вони взаємодоповнюють один одне, фіксуючи різні об'єкти з різних ракурсів, різних перспектив, деталізуючи та уточнюючи обраний об' єкт або сюжет.

Відібрані архівні фотодокументи цілком придатні до вивчення їх у діахронному вимірі, оскільки дозволяють відстежити історію міста, його окремих кварталів та вулиць, окремих будівель, протягом різних історичних періодів, відстежити їх еволюцію, імовірні перебудови, зміни фасадів, зовнішнього декору, маркерів політичної пропаганди тощо.

[2] Київ. 1939–1945. Post scriptum / Дмитро Малаков. – К.: Сидоренко В.Б., 2010. – 224 с.; Війна. 1941–1945. Фотоальбом. – [Електронний ресурс]. – Режим доступу: http://www.archives.gov.ua/Publicat/AV_1941-1945.php та інші.



*Шахова вітальня.*

Серед основних сюжетів, які були відображені фотографами, були цивільна та промислова архітектура міста, історичні пам'ятки архітектури, які вціліли у ході воєнних дій, антропологічні типи (жінки, діти, літні люди, жебраки), види занять місцевого населення під окупаційною владою, а також місцеві поховальні практики, види кладовищ та надгробків. Додатковим сюжетом виступали картини сільського життя, зафіксовані у селах неподалік Мінська.

Деякі фотографії з київського архіву дозволили поставити запитання про попереднє призначення відзнятих та зафіксованих на фотоплівці будинків і визначити причину того особливого інтересу, який проявляли до них німецькі фотографи.

Перш за все, особливу увагу фотографів привернув Будинок Червоної армії і флоту (сучасний «Центральный Дом офицеров»). Ця будівля була закладена у білоруській столиці у 1934 році[3]. Політичне обґрунтування доцільності будівництва цього будинку було представлено на шпальтах газети «Звезда» ще у січні 1924 р. У тексті повідомлення, зокрема, зазначалося, що «Гарнизон гор. Минска при настоящем политическом горизонте, когда можно ожидать

[3] Крапивин С. Центральный Дом офицеров: проявление временем. – [Електронний ресурс]. – Режим доступу: http://news.tut.by/society/387990.html

непредвиденные осложнения и сюрпризы (в частности, со стороны весьма «дружелюбной» соседки Польши) – приобретает особое значение. … Посещать театр, концерт, кино красноармейцу, который получает 65 коп. в месяц, или младшему командиру, получающему 14 руб., – не по карману. … Поэтому мы и говорим, что в Минске необходимо оборудовать «Дом Красной Армии»[4]. Відтак будівництво цієї споруди було спланованой завершено ще перед війною. Цей будинок одразу став унікальним архітектурним об'єктом, оскільки тут був перший у столиці радянської Білорусі критий плавальний басейн, «шахова вітальня», декорована цінними породами дерева, кубічні вежі БЧА (ДКА) містили в середині водяні резервуари – аварійні ємкості на випадок пожежі у театральному залі. Отже, не дивно, що після окупації міста, цю будівлю «облюбовали» німецькі офіцери.

Подальше порівняння фотографій виконаних німецькими фотографами у 40-х рр. ХХ ст., та фото, виконаного вже після звільнення Мінська А. Сіротіним (1944)[5], дало можливість сформувати повноцінне уявлення про зовнішній вигляд місцевості навколо БЧА, про зовнішній вигляд усіх фасадів будівлі, зафіксувати ті архітектурні споруди, що знаходились поруч, але до сьогодні не збереглися.

Розшукуючи інші матеріали, дотичні до обраної теми дослідження, вдалося знайти ще кілька цікавих фотографій. Одна з них була виконана тим самим німецьким фотографом, що й низка фото з ЦДКФФА. Її автором був/була Рік. Фотографія була датована 1943 р. На фотографії видно, як гауляйтер Вільгельм Ріхард Пауль Кубе віддає розпорядження на польському католицькому кладовищі (це так звані «золотогорские могилы») у Мінську. Нині це перехрестя вулиць Козлова та проспекту Незалежності. Поруч з Вільгельмом Кубе був зафіксований его ад'ютант. Нині це фото викладено на сайті Федерального архіву Німеччини.

Іншою фотографією, яка привернула увагу, стало фото, на якому було зафіксовано події 23 вересня 1943 р., коли з лівого парадного колишнього БЧА виносили труну з залишками тіла Вільгельма Кубе[6] – генерального комісара Генерального комісаріату «Білорутенія» (Білорусія) у складі рейхкомісаріату «Остланд»[7]. Як відомо, призначення В. Кубе на цю посаду

---

4 Там само.

5 Там само.

6 Клее Э. Биографический словарь Третьего Рейха. Кто кем был до и после 1945 г. (Klee Ernst. Das Personen-lexikon zum Dritten Reich. Wer war was vor und nach 1945). Франкфурт: Fischer Verlag, 2003. – P. 346.

7 Там само.



*Будинок Червоної армії і флоту. 1944.*



*Гауляйтер Кубе на кладовищі.*



*Краєвиди міста. 1945.*



*Відбудова. 1947.*

було ознаменовано розстрілом 2 278 в'язнів Мінського гетто. Пізніше гауляйтер відзначився доволі жорстокою окупаційною політикою та масовими вбивствами місцевих мешканців[8]. Хоча водночас, згідно з настановами Імперського Міністерства окупованих територій рейхсляйтера Альфреда Розенберга, саме В. Кубе дозволив використання на окупованих територіях біло-червоно-білого прапору та гербу «Погоня».

Намагання дізнатися про долю будівлі БЧА після звільнення Мінська, дозволило розшукати фотографії 1940-х рр., зроблені білоруськими фотографами, на яких зафіксовано повоєнну відбудову БЧА, а також додаткові фотодокументи з німецького архіву, автором яких був/була Рік, оскільки в київській колекції документів його/її авторських фото з Мінська, зберігається небагато. Ці фотографії дозволяють розширити наші уявлення щодо імовірних об᾽єктів, які цікавили фотографа, обраних ним сюжетів для зйомки та якості виконаних робіт.

До фотографій, імовірно виконаних Рік, визначених за аналогією до його/її попередніх фото урбаністичного змісту, слід віднести фотодокумент з одноповерховою забудовою, тлом якої виступав давній костел. Як виявилося, це була одна з найвідоміших пам'яток архітектури Мінська, побудована на початку ХХ ст. – костел Святого Симеона і Святої Олени (так званий «Червоний костел»)[9]. Вірогідно, що костел без хрестів недарма потрапив до об'єктива фотографа. Відомо, що радянська влада у 1923 р. вилучила з нього усі храмові цінності, а у 1932 р. остаточно закрила. Спочатку у приміщенні костьолу був Державний польський театр БССР, а потім кіностудія. Лише у 1942 р. під час окупації цивільна влада міста дозволила його знову відкрити і відновити богослужіння.

Наступні чотири фото також були виконані Рік. Це були зображення зруйнованого приміщення Мінського театру опери та балету, фасад бібліо-

---

8 Тому не дивно, що він був вбитий радянськими партизанами. У 1996 р. у тому ж приміщенні Центрального будинку офіцерів відбулася церемонія траурного прощання з Оленою Мазаник – безпосереднім виконавцем ліквідації гауляйтера. (Заўвага рэд.: Незадавальнне кіраўніцтва СССР не ў меншай ступені выклікала палітыка Кубэ па развіццю беларускамоўнай адукацыі, падтрымцы беларускай культуры і стварэнні беларускіх арганізацый, як важных элементаў антыпартызанскай палітыкі. Гісторык Юры Туронак у 1989 г. адзначыў канфлікт В. Кубэ з кіраўніцтвам СС у Генеральнай акрузе «Беларусь» і выказаў гіпотэзу пра дачыненне СС да яго зайбойства. Гл.: Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мінск, 1993, с. 124-149).

9 Житлові будинки в м. Мінськ, травень 1943 р. Фото Рік (?). // ЦДКФФАУ ім. Г.С. Пшеничного, од.зб. 8309, 8310, 8311, 8316.



Фасад бібліотеки. 1943.



Корпуси Білоруського Державного університету. 1943.



*Скульптура спортсменки. 1943.*



*Житловий будинок професорів. 1943.*

теки ім. В.І. Леніна[10] та корпуси Мінського університету[11]. Ці фотографії було цікаво порівняти з іншими світлинами цих будівель, які відносилися як до довоєнного, так й до післявоєнного часу. Завдяки використанню візуально-компаративного методу дослідження фотодокументів вдалося виявити зовнішні зміни старого будинку Національної бібліотеки Білорусі, який вважався пам'яткою доби конструктивізму, побудованою протягом 1929–1932 рр. за проектом архітектора Георгія Лаврова[12]. І будинок, і територія поруч з ним, були яскравими свідками змін історичних епох. У випадку з фотографіями корпусів університету цікаво було спробувати реконструювати квартал, представлений на фотографіях, на підставі порівняння віднайденого

[10] Фасад бібліотеки ім. В.І.Ленина, м. Минск, травень 1943 р. Фото Рік. // ЦДКФФАУ ім. Г.С. Пшеничного, од. зб. 8273.

[11] Корпуси Мінського університету, м. Мінськ, травень 1943 р. Фото Рик. // ЦДКФФАУ ім. Г.С. Пшеничного, од. зб. 8289.

[12] Генеалогічний форум ВГД. – [Електронний ресурс]. – Режим доступу: http://forum.vgd.ru/1629/32429/80.htm?a=stdforum_view&o=

в інтернет-мережі фото 1930-х років, а також архівного фото 1940-х років. До речі, сучасної фотографії будинку, який був відзнятий Рік, розшукати не вдалося. Так само не вдалося розшукати фото пізнішого часу, яке б відображало зафіксований фотокамерою Рік, житловий будинок для професорського складу міста Мінська[13]. Відсутність сучасних фотофіксацій згаданих об'єктів дозволила зробити припущення, згодом підтверджене білоруськими колегами, що описані вище будівлі були повністю зруйновані під час звільнення міста у 1944 р.



*Селянин білорус. 1943.*

Авторству Рік, який/яка, як видно, багато знімав/знімала у Мінську та його околицях, належали й ті фотографії, які не лише відображали повсякдення людей, їх помешкання, місця праці та відпочинку. У змісті деяких з них можна побачити прояв сарказму, а в інших випадках можна говорити про наявність у фотографа своєрідного почуття гумору. Характерною у цьому сенсі можна вважати фотографію селянина з підводою на тлі традиційного сільського дерев'яного туалету[14].

До категорії фотографій, які відображали пам'ятки радянського мистецтва, зокрема паркової скульптури, можна було б віднести фото невизначеного автора, яке представляло фігуру дівчини-спортсменки з метальним диском[15]. За аналогією з іншими віднайденими фото мінських парків, датованих вже 1960-ми роками, було зроблено припущення щодо місця розташування пам'ятника з фотографії – імовірно, це парк ім. М. Горького.

13 Житловий будинок для професорського складу м. Минска, травень 1943 р. Фото Рік. // ЦДКФФАУ ім. Г.С. Пшеничного, од.зб.8272.

14 Селянин біля підводи в одному з сіл під Мінськом, травень 1943 р. Фото Рік. // ЦДКФФАУ ім. Г.Пшеничного.

15 Скульптура спортсменки у парку в м. Мінськ, 1943 р. // ЦДКФФАУ ім. Г. Пшеничного, од. зб. 8291.

Певне уявлення про те, що ще знімали німецькі фотографи у 1942-му та 1943-му роках на території окупованої Білорусі, дають дві наступні фотографії: «Белоруський селянин» (м. Слуцьк, травень 1943 р.)[16] та «Посадка до вагонів мешканців м. Орша Вітебської області перед відправкою на примусові роботи в Німеччині» (м. Орша, травень 1943 р.)[17]. Останнє фото належало Ліпке. Постать цього фотографа привернула нашу особливу увагу. І недарма.

Зацікавившись прізвищами фотографів, чиї імена були зазначені на фото з ЦДКФФАУ ім. Г.С. Пшеничного та Федерального архіву Німеччини, і почавши шукати про них біографічні відомості, нами було виявлено чимало важливої інформації.

Виявилося, що оглянуті та опрацьовані в київському кінофотофоноархіві фотографії з окупованого Мінська та інших міст Білорусі, України і Росії, є частиною колишнього архіву, який створювався Оперативним штабом рейсляйтера Альфреда Розенберга (далі – ОШР), спрямованого на реалізацію політики тотальної конфіскації та присвоєння Третім Рейхом культурних та наукових цінностей на окупованих територіях Східної та Західної Європи. Нині документи цього архіву розкидані по 29 сховищах у 8 країнах Європи (Україна, Литва, Росія та ін.) та Північної Америки (США). Значна його частина зберігається в Центральному Державному архіві вищих органів влади та управління України (далі – ЦДАВОВУУ) у фондах 3674, 3676 та 3206.

Саме серед матеріалів фонду 3676, вдалося розшукати особову справу співробітниці ОШР Вільтруди Ліпке – фотографа[18]. Крайніми датами справи були визначені лютий-вересень 1942 р. та січень-лютий 1943 р. Фото, виконані Вільтрудою Ліпке у Мінську, були датовані травнем 1943 р. Серед понад 300 співробітників ОШР були як німецькі, так і місцеві наукові співробітники, а також технічний персонал. Фотографи відносилися саме до останньої з них. Той факт, що фотографом ОШР була жінка, певним чином пояснює, чому на деяких фотографіях людей, зроблених Вільтрудою Ліпке, було певне здивування, або навпаки – привітна посмішка: одних явно дивувала жінка з фотоапаратом у непризначених для цього місцях (наприклад, на кладовищі або на похороні), а іншим – була до вподоби її привітність, бо інакше було

16 Белоруський селянин, м. Слуцьк, травень 1943 р. // ЦДКФФАУ ім. Г. Пшеничного, од.зб. 7749.

17 Посадка до вагонів мешканців м. Орша Вітебської області перед відправкою на примусові роботи в Німеччині, м. Орша, травень 1943 р. Фото В.Ліпке. // ЦДКФФАУ ім. Г. Пшеничного, од.зб. 8334, 8335.

18 Особова справа Вільтруди Ліпке // ЦДАВОВУУ. Ф.3676, оп.1, спр. 102, арк. 248-258 та оп.1, спр.223, арк. 13-26.

важко пояснити щирі посмішки на обличчях, сфотографованих нею людей. Матеріали особової справи В.Ліпке дозволили трохи пролити світло й на особистість самої співробітниці ОШР, зокрема, визначити місце її реєстрації у Києві, виявити службові відрядження та їх тривалість, місце перебування після виїзду з теренів СРСР.

Серед інших особових справ співробітників ОШР також вдалось знайти й особову справу Маргарет Рік. Однак її матеріали дозволили лише встановити стать фотографа, чого неможна було визначити за підписами під фотодокументами. Інших відомостей виявилося недостатньо для відтворення її службової біографії та діяльності у роки війни.

Імен та прізвищ інших фотографів (наприклад, Майєр) серед співробітників Головної робочої групи (ГРГ) України ОШР розшукати не вдалося. Імовірно, що вони могли бути співробітниками ГРГ «Остланд», яка працювала на територіях Естонії, Латвії, Литви, західних областей Росії та Білорусі[19].

Таким чином, стало зрозуміло, що фотографії, зроблені німецькими фотографами, не були власністю якихось фотолюбителів, які волею випадку опинилися на окупованій території і робили фотографії для власного вжитку. Це були фотодокументи, підготовлені фахівцями, на вимогу структури, яка всебічно займалася окупованими територіями.

З матеріалами архіву ОШР свого часу працювала американська дослідниця Патріція Кеннеді Грімстед, яка опублікувала повний перелік архівосховищ, де нині перебувають документи штабу, інформацію про історію колекції та їхній склад, а також бібліографію з теми, в спеціальному довіднику. Серед українських істориків матеріали архіву нині плідно опрацьовують працівниці ЦДАВОВУУ Тетяна Себта[20] та Наталія Малолєтова[21]. Не так давно на основі матеріалів архіву ОШР науковий співробітник Інституту історії України НАНУ Наталія Кашеварова захистила кандидатську дисертацію на

---

[19] Кашеварова Н. Г. Оперативний штаб рейхсляйтера Розенберга та його діяльність у галузі організації наукових досліджень окупованих територій // Україна в Другій світовій війні: погляд з XXI ст. Кн.1. – К.: Наукова думка, 2011. – С. 686.

[20] Себта Т. Оперативний штаб рейсляйтера Розенберга та його бібліотечна діяльність в Україні: джерелознавчий аналіз // Бібліотеки Києва у період нацистської окупації Києва (1941-1943): Дослідження. Аннотований покажчик. Публікація документів. – К., 2004.

[21] Кашеварова Н. Г. Деятельность Оперативного штаба рейхсляйтера Розенберга в оккупированной Европе в период Второй мировой войны: справочник-указатель арх. док. из киев. собраний / Н. Г. Кашеварова, Н. И. Малолетова; предредкол., вступ. сл. А. С. Онищенко; НАН Украины, Нац. б-ка Украины им. В. И. Вернадского [и др.]. – К.: НБУ им. В.И. Вернадского, 2006. – 578 с.

тему «Документи Оперативного штабу рейхсляйтера Розенберга як джерело з історії вивчення нацистами окупованих східних територій (1941–1944)[22]. Саме завдяки її статтям та дослідженням стало можливим встановити, чим визначався вибір сюжетів фотографій і мету їх виконання.

Як відомо, безпосередня діяльність ОШР була спрямована на конфіскацію та переміщення культурних цінностей, формування джерельної бази з історії, економіки, політики, культури народів окупованих територій, наукове вивчення та інтеграцію окупованих територій. Цілями такої діяльності були: 1) збирання стратегічної інформації необхідної для оперативного ведення війни та освоєння ресурсної бази СРСР, 2) реалізація окупаційної політики і співпраця з місцевою інтелігенцією; 3) проведення успішної пропаганди та агітації серед місцевого населення через пресу, радіо, освітні заходи[23].

Оскільки співробітники ОШР формували Східну бібліотеку А. Розенберга, яка була науковим центром «з історії східного простору», Наукових інститутів Вищої школи, а також архіву наукових, аналітичних, довідниково-інформаційних робіт про окуповані країни, цим пояснювалися численні фотографії навчальних закладів, бібліотек, архівів та їхнього вмісту.

На основі добутих матеріалів працівники ОШР писали так звані «розробки» з питань більшовицької ідеології, ролі Компартії в житті радянських людей, щодо постатей єврейського походження при владі, щодо особливостей радянської пропаганди, ідеологічного навчання та виховання, повсякденного життя в СРСР. Цим пояснювалася велика кількість фотографій, виконаних німецькими фотографами, які мали підтверджувати та ілюструвати висновки таких праць.

Фотодокументи, які репрезентували матеріали етнографічного змісту, явно були потрібні окремим зондерштабам, як наприклад зондерштабу «Фольклористика», який збирав не лише етнографічні відомості, але й зразки народної культури, свідчення німецького культурного впливу на місцеву культуру[24]. Певна увага зондерштабами приділялася питанням індо-германістики, розселення германських племен, історії німецької колонізації, історії саксон-

[22] Кашеварова Н.Г. Документи Оперативного штабу рейхсляйтера Розенберга як джерело з історії вивчення нацистами окупованих східних територій (1941–1944): дис... канд. іст. наук: 07.00.06 / Кашеварова Наталія Григорівна; Київський національний ун-т ім. Тараса Шевченка. – К., 2008. – 293 арк.

[23] Кашеварова Н. Г. Оперативний штаб рейхсляйтера Розенберга та його діяльність у галузі організації наукових досліджень окупованих територій // Україна в Другій світовій війні: погляд з XXI ст. Кн.1. – К.: Наукова думка, 2011. – С. 686.

[24] Там само. – С. 688.

ського та магдебурзького права, тому й фотографії старовинних ратуш, костелів чи протестантських кірх, були необхідним ілюстративним матеріалом.

Підготовлені фотографами документальні свідчення разом із аналітичними, науковими чи інформативно-довідниковими текстами також надсилалися до різних установ в Німеччині. Зокрема, користувачами візуальної інформації були: Берлінський університет ім. Фрідріха Вільгельма, університет ім. Альберта в Кенігсберзі, Берлінська державна бібліотека, Гамбурзький інститут світової економіки, Інститут вивчення магдебурзького міського права. Наукові матеріали замовляли державні установи та відомства. Зокрема, Імперський фільмархів, Рейхсміністерство пропаганди, імперські відомства статистики, використання фільмів і фотознімків у науці й освіті, Генеалогічне відомство, кінофотоуправління, Рейхміністерство науки, виховання та народної освіти[25].

Таким чином, незважаючи на те, що проаналізовані фотодокументи з колекції ЦДКФФАУ ім. Г.С. Пшеничного та Федерального архіву Німеччини були створені протягом 1942–1943 рр., крайні хронологічні межі загального фотоархіву можуть бути розширені до 1941 р. та 1944 р. Замовником цих матеріалів були різні вищезгадані німецькі установи. Серед виконавців були професійні німецькі фотографи, фрагменти біографій яких (Вільтруди Ліпке та Маргарет Рік) вдалося розшукати серед особових справ співробітників Оперативного штабу Розенберга, які зберігаються в ЦДАВОВУУ. Інформацію щодо інших фотографів віднайти не вдалось, оскільки це потребує більш ґрунтовного заглиблення в тему. Однак, завдяки аналізу історіографії проблеми, стало можливим припустити, що їхні особові справи можуть зберігатися серед документів ГРГ «Остланд». Імовірно, що окремі матеріали та фотодокументи щодо теренів Білорусі також можуть бути виявлені серед документів Айнзацштабу Головної групи «Прибалтика», в листуванні робочих груп Литви та Білорусі, матеріалах зондерштабів за 1941–1944 рр., які нині зберігаються серед документів ОШР, що є частиною архівного фонду ЦДАВОВУ України.

Виходячи з відомостей про походження опрацьованих фотодокументів, стає зрозумілим, що са́ме намагалися відзняти німецькі фахівці, з якою метою; стає зрозумілим вибір ними об᾽єктів та сюжетів для зйомок. Окремо слід відзначити високий професійний рівень виконання фотографій і явний художній смак фотографів. Завдяки цьому ці матеріали можуть бути використані і як предмет дослідження фахівця зі спеціальних історичних дисциплін, і як ілюстративний матеріал до багатьох інших тем, які будуть дотичні часів окупації Білорусі та його столиці – міста Мінськ.

---

25 Там само. – С. 691–692.

ISSN 2424-5224

# ЖЫХАРЫ БССР ВА ЎМОВАХ КУЛЬТУ СТАЛІНА Ў 1930-Я – ПАЧАТКУ 1940-Х гг.: «ПРАВЕДНІКІ», «БАГАБОРЦЫ» І МАЎКЛІВАЯ БОЛЬШАСЦЬ

***Аляксандр Гужалоўскі,***
*доктар гіст. навук (Мінск)*

***Summary***

The article, based on archival sources and periodical materials, is devoted to studying the reactions of Soviet Belarusians to the efforts of the authorities to construct Stalin's cult in the second half of the 1930s – early 1940s. The author's focus is on the sentiments that express the attitude of certain social groups to the leader's cult. The conclusion is made about the unproductiveness of the bipolar approach in assessing the attitude of society to the cult of Stalin, which was shaped by ideological influences, personal interests, beliefs, rumors, speculation, etc.

Адказнасць за фармаванне культу Сталіна традыцыйна ўскладаецца на савецкую прапаганду, якая мэтанакіравана і цэнтралізавана праводзілася праз СМІ, кнігі, кінафільмы, тэатральныя пастаноўкі, творы выяўленчага мастацтва ды інш. Праз аддзелы прапаганды і агітацыі партыйных органаў розных узроўняў Сталін трымаў уласнаручна створаную прапагандысцкую машыну пад асабістым кантролем, яна працавала на яго «ручным кіраванні». Праз асабіста напісаныя пастановы і дырэктывы ЦК УсеКП(б) ён вызначаў не толькі змест прапагандысцкіх пасланняў, але таксама іх стылістыку і форму. Прапагандысцкая машына рэагавала на кожны намёк, які сыходзіў з галоўнага крамлёўскага кабінета. З сярэдзіны 1930-х гг. імя і вобраз Сталіна ўвесь час прысутнічалі ў штодзённым жыцці савецкіх беларусаў.

Працэс укаранення культу асобы Сталіна суправаджаўся сацыяльна-псіхалагічным рэгрэсам у кірунку першабытнага грамадства, дзе панавала неабмежаваная ўлада «бацькі». Яго татальная тыранія была б невыноснай, калі б не ўзнікаў кампенсаторны механізм абагаўлення «калектыўнага бацькі», альбо ў тэрмінах псіхааналізу – перанясенні на яго калектыўнага лібіда. Гэта вымагала аб'яднання людзей у братэрскі саюз, асноўнай рысай якога з'яўлялася ўсеагульнае адзінства ў аднолькавай абдзеленасці. Фрэйд сцвярджаў, што феномен абагаўлення правадыра масамі адлюстроўвае замяшчэнне ў псіхіцы Звыш-Я (ідэалізаванага вобраза першабытнага бацькі) канкрэтнай асобай дыктатара.

## *«Праведнікі»*

Як лічыць А. А. Ціхаміраў, ключавымі эмоцыямі «праведнікаў» у адносінах да Сталіна з'яўляліся ўдзячнасць, сяброўства і каханне – комплекс пачуццяў, адказных за фармаванне сацыяльных адносінаў і забеспячэнне інтэграцыі грамадства. Пэўнай роўніцай гэтых пачуццяў зрабіўся «давер» – базавая інтэгруючая эмоцыя дыктатур XX ст. Сацыяльны давер, сфармаваны ў СССР з дапамогай культу Сталіна, меў прымусовы характар, ён накіроўваўся, іерархізаваўся, дазіраваўся[1]. Грузчык завода «Асінторф» Міхаіл Каржыцкі, запытваючы ў сваім лісце да Сталіна, чаму іх брыгада галадае, атрымліваючы па 200–300 грамаў хлеба ў дзень, пісаў: «Я верыў Вам, Іосіф Вісарыёнавіч, раней, веру і зараз. Я веру больш, чым самому сабе, Вашым дакладам, дакладам Варашылава і Молатава, верыў і веру газетам. Верыў і непахісна веру, што наша краіна сацыялізму выраблае замест 4-х мільярдаў пудоў у 1914 годзе, 7–8 мільярдаў пудоў»[2].

Усіх «праведнікаў», якія адкрыта падтрымлівалі культ правадыра, можна падзяліць на дзве непрапарцыйныя групы. Бо́льшую групу «праведнікаў» складалі людзі, якія верылі ці імкнуліся паверыць у боскія якасці правадыра, у тое, што ўсім у сваім жыцці яны абавязаны аднаму чалавеку. Яны імкнуліся пераканаць сябе ў тым, што сталінская прапаганда адлюстроўвае рэальныя факты, каштоўнасці і пагрозы. Традыцыйная, архаічная масавая свядомасць тагачаснага насельніцтва БССР была спрыяльнай глебай для падобнага самападману. Наіўная вера ў «калектыўнага бацьку» ўжывалася ў свядомасці гэтай сацыяльнай групы са страхам зрабіцца ворагам і адначасова жаданнем

---

1 Тихомиров А. «Лучший друг немецкого народа». Культ Сталина в Восточной Германии (1945–1961 гг.). Москва, 2014, с. 144.

2 НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 14823, арк. 78.

трапіць у шэрагі партыйна-савецкай бюракратыі. У кожнага «праведніка», які перавыканаў план, атрымаў прэмію і дармовую пуцёўку ў санаторый, была розная доля шчырасці ў яго ўдзячнасці таварышу Сталіну за ўласны жыццёвы поспех.

Мы ўжо ніколі не даведаемся пра ўсю палітру складаных і супярэчлівых пачуццяў, якія адчувалі прадстаўнікі беларускай партыйна-савецкай эліты да правадыра. «Мова культу»[3], якую выкарыстоўвалі кіраўнікі ўсіх узроўняў падчас розных партыйных і савецкіх рытуалаў, дазваляе казаць толькі пра афіцыйнае абагаўленне Сталіна. Паступова гэтае абагаўленне пранікала таксама ў прыватную прастору кіраўнікоў. Так, у «нізенькай хатцы» члена ЦВК БССР Зосі Сіманчык партрэтамі дыктатара быў упрыгожаны не толькі яе асабісты пакой, але пакоі сястры і бацькі[4]. Насамрэч, пачуцці да правадыра ўтваралі складаную камбінацыю пакланення, страху, амбіцый, удзячнасці, надзеі, шчасця і адчаю. Сёння можна толькі здагадвацца, што насамрэч адчуваў абвінавачаны ва ўсіх смяротных грахах А. Р. Чарвякоў, калі напісаў у сваёй перадсмяротнай запісцы: «Я пакідаю жыццё з імем партыі і правадыра таварыша Сталіна ў сэрцы»[5].

Сейбіты культу Сталіна знайшлі ўрадлівую глебу ў асяродку ўдзельнікаў індустрыялізацыі. Нягледзячы на цяжкія ўмовы працы на прадпрыемствах і будоўлях першых пяцігодак, а таксама дэфіцыт харчовых і прамысловых тавараў у гарадах, рабочыя знаходзіліся ў лепшым становішчы, чым калгаснікі. Большасць новых будаўнічых і прамысловых рабочых 1930-х гг. былі ўчарашнімі сялянамі, якія тымі ці іншымі шляхамі здолелі пазбегнуць лёсу сельскагаспадарчых рабоў. Многія з іх шчыра верылі ва ўласную вызначальную ролю ў стварэнні новага бяскласавага грамадства ўсеагульнага дабрабыту. Гэтая вера жывілася рэальнымі поспехамі індустрыялізацыі краіны, некаторым паляпшэннем бытавых умоў і забеспячэння ў сярэдзіне 1930-х гг., а таксама перспектыў сацыяльнага ўздыму праз ударніцтва, вынаходніцтва і грамадскі актывізм.

З пачаткам другой пяцігодкі сацыяльным трамплінам для рабочых магла стаць іх ударная праца ў складзе г. зв. «сталінскіх брыгад» – працоўных ка-

[3] Упершыню гэты тэрмін, які, на нашу думку, вельмі ўдала перадае галоўны дыскурс партыйнай прапаганды сталінскіх часоў, быў выкарыстаны брытанскай даследчыцай Сарай Дэвіс (Davis S. Popular Opinion in Stalin's = Russia. Terror, Propaganda and Dissent, 1934–1941. Cambridge University Press, 1997, p. 178).

[4] Жук М. Знатныя людзі – члены ЦВК БССР // Работніца і калгасніца Беларусі. 1935, № 20, с. 20.

[5] Аляксандр Чарвякоў: …Я ніколі не быў ворагам. Выбраныя артыкулы і прамовы. Успаміны сучаснікаў. Скл. В. Ц. Мыслівец. Мінск, 1992, с. 10.

лектываў, якія дэманстравалі найлепшыя вытворчыя паказчыкі. Адным з тых, каму падобная форма працоўнай мабілізацыі дапамагла трапіць у калідоры Крамля, быў машыніст «сталінскай калоны паравозаў» віцяблянін Самсонаў. Дэлегаваны ў пачатку 1935 г. на VII Усесаюзны з'езд Саветаў у Маскву, ён вярнуўся адтуль на радзіму ўжо іншым чалавекам. Адбылося гэта дзякуючы аднай лёсавызначальнай сустрэчы, якую Самсонаў апісаў наступным чынам: «У 5 гадзін вечара на з'ездзе ў перарыве, праходзячы па Крамлю, я тварам к твару сустрэўся з таварышам Сталіным. Ён, усміхаючыся, прыклаў руку к фуражцы. Ад радасці я не мог сказаць ні слова, але я выпраміўся і ад усяго сэрца аддаў чэсць нашаму правадыру. Я лічу, што гэта – лепшая мінута ў маім жыцці»[6].

Другім віцебскім дэлегатам VII Усесаюзнага з'езда Саветаў была работніца лёнапрадзільнай фабрыкі «Дзвіна» Фёкла Цыганкова. У дзень адкрыцця з'езда яна таксама ўбачыла Сталіна: «На розных мовах, з розных канцоў зала несліся воклічы: «Няхай жыве таварыш Сталін – правадыр сусветнага пролетарыята!» Я апладзіравала нашаму правадыру. З сэрца ў мяне несліся прывітальныя воклічы таму, чыё імя вымаўляецца ў нас з бязмежнай любоўю, нашаму Сталіну, арганізатару нашых перамог, натхніцелю нашай будоўлі соцыялізма». Акрамя правадыра, віцебскую работніцу моцна ўразіла Масква, якая, адпаведна планам савецкага кіраўніцтва, пераўтваралася ў вітрыну сталінскага сацыялізму, сімвалічны цэнтр, вакол якога фармавалася новая савецкая ідэнтычнасць: «Якой блізкай, роднай аказалася для мяне наша чырвоная сталіца. Хадзіла я па прыгожых маскоўскіх вуліцах некалькі дзён і дзівілася. Многа аўтобусаў, аўтамабіляў, таксі, трамваяў, прыгожыя магазіны, у якіх усё ёсць. Высокія шматпавярховыя дамы. Людзі такія блізкія. Усюды ветліва запытваюць аб рабоце, аб жыцці, у госці запрашаюць»[7].

Акрамя сацыяльных перспектыў, удзел у «сталінскай брыгадзе» ўздымаў статус рабочага ў калектыве, паляпшаў яго матэрыяльнае становішча. Напрыклад, на віцебскай швейнай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» для работніц-«сталінак» меліся маральныя і матэрыяльныя формы стымулявання. Да першых адносіліся змяшчэнне іх фотаздымкаў на чырвоную дошку, а таксама ўручэння брыгадзірам партрэта Сталіна. Да другіх – палепшаныя пайкі, абеды ў спецыяльнай сталоўцы, дармовыя квіткі ў кіно і тэатр[8].

З восені 1935 г. у БССР, як і ва ўсёй краіне, пачаў разгортвацца «стаханаўскі рух», які аб'ядноўваў рабочых, калгаснікаў, інжынерна-тэхнічных

---

6 Брыскін. На злёце сталінскіх брыгад // Віцебскі пролетарый. 1935, 9 лютага. № 31, с. 3.

7 Цыганкова Ф. Я. Што я бачыла ў Маскве // Віцебскі пролетарый. 1935, 27 лютага. № 45, с. 3.

8 Сталінскія брыгады – вышэйшая форма соцспаборніцтва // Работніца і калгасніца Беларусі. 1934, № 9, с. 8.

працаўнікоў, якія шматкроць перавыканалі вызначаныя нормы вытворчасці. Разгортванне стаханаўскага руху актыўна матэрыяльна і маральна стымулявалася дзяржавай. У сталоўцы мінскага скуранога завода «Бальшавік» стаханаўцы елі за асобнымі сталамі з лепшым асартыментам і абслугоўваннем[9]. Мінскі гарадскі савет з асобага фонду рамантаваў ім кватэры[10]. Па радыё для іх перадавалі канцэрты па заяўках, у клубах праводзілі адмысловыя «балі стаханаўцаў», у сталіцы рэспублікі адкрылі «стаханаўскі ўніверсітэт выходнага дня». Нарэшце, на зімовыя канікулы 1935–1936 навучальнага года 50 дзяцей беларускіх стаханаўцаў паехалі на экскурсію ў Ленінград, яшчэ 290 дзяцей стаханаўцаў і ўдарнікаў накіраваліся ў беларускія дамы адпачынку[11].

У «стаханаўцаў», якіх афіцыйная прапаганда называла «найлепшымі прадстаўнікамі народа», былі ўсе падставы звязваць уласны жыццёвы поспех з імем правадыра. Менавіта ён на Першай Усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў у лістападзе 1935 г. у Крамлі прамовіў фразу: «Жыць стала лепш, таварышы. Жыць стала весялей». У значнай ступені гэта адпавядала рэчаіснасці. З 1 студзеня 1935 г. з ініцыятывы Сталіна былі адменены карткі на хлеб. На працягу года зніклі карткі таксама на мяса, масла, цукар, тлушч, рыбу, бульбу, махорку. Паводле інфармацыі кіраўнікоў мінскай партарганізацыі, працоўныя сталіцы сустрэлі адмену карткавай сістэмы «з нечуваным уздымам». Выступаючы на агульнагарадскім мітынгу 28 верасня 1935 г., работніца кандытарскай фабрыкі «Камунарка» Шымкевіч сказала: «Вы сабе не ўяўляеце, якая радасць ахапіла мяне пасля азнаямлення з пастановай ЦК і СНК. Мы павінны за гэта дзякаваць таварышу Сталіну. Я памятаю, як мы куплялі бохан хлеба за 25 руб., а цяпер ён каштуе 1 р. 70 кап. Перавыканаць план па ўсіх паказчыках – такое я бяру на сябе абавязацельства». Начальнік цэха абутковай фабрыкі імя Кагановіча Капілевіч наўпрост звязаў паляпшэнне матэрыяльнага становішча са «слушнай палітыкай нашай партыі на чале са Сталіным»[12].

7 верасня 1938 г. сталяр-стаханавец мінскай мэблевай фабрыкі імя Молатава Гірш Гебелеў, апісваючы ў лісце Сталіну ўласнае шчаслівае жыццё ў асобнай кватэры з электрычным асвятленнем і заробкам у 800–900 руб. у месяц, пісаў: «Пры такім вясёлым і радасным жыцці як не займацца мастацтвам! Дасылаю Вам, таварыш Сталін, падарунак – шахматную скрыню з наборам шахматных фігур, складзеную з некалькіх тысяч кавалкаў дрэва розных парод. Вырабляючы гэту рэч, я адчуваў вялікую радасць, веда-

9 «Звязда». 1935, 26 кастрычніка. № 244, с. 3.
10 «Звязда». 1935, 9 снежня. № 279, с. 4.
11 «Звязда». 1935, 29 снежня. № 296, с. 4.
12 НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 8987, арк. 237.




*Малюнак на старонцы газеты «Звязда». 11 ліпеня 1939 г.*

ючы, што мая карпатлівая праца будзе ў руках у наймудрэйшага з мудрых, найлюбімейшага з любімых, самага дарагога – у Вас, таварыш Сталін. Я абяцаю Вам, Іосіф Вісарыёнавіч, што, калі ворагі, фашысцкія гады, паспрабуюць напасці на нашу шчаслівую краіну, я адкладу часова маю працу па мастацтве і, не шкадуючы жыцця, са стрэльбаю ў руках па-майстэрску буду біць ворага на той тэрыторыі, адкуль ён з'явіцца. Жывіце доўгія гады на страх ворагам і на радасць працоўным усяго свету! Вядзіце нас наперад да вяршынь камунізму! Няхай жыве наш правадыр, настаўнік і сябра таварыш Сталін!»[13]

Прапаганда культу асобы была разлічана перш за ўсё на людзей з фальклорным успрыманнем сусвету. Аднак, як сцвярджае Ш. Фіцпатрык, памяць пра калектывізацыю на працягу 1930-х гг. не дазваляла ўмацавацца на вёсцы вобразу «добрага цара». Калі правадыр рабіў некаторыя саступкі, яны ўспрымаліся з падазронасцю, калі ж узмацняў ціск – гэта толькі спрыяла ўяўленням сялян пра Сталіна як пра галоўнага ворага[14]. Гэтая выснова амерыканскага гісторыка пацвярджаецца многімі крыніцамі, якія захоўваюцца ў беларускіх архівах, перш за ўсё лістамі сялян у розныя ўладныя інстанцыі. У 1940 г. ка-

[13] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 13340, арк. 33.

[14] Фицпатрик Ш. Сталинские крестьяне. Социальная история Советской России в 30-е годы: деревня. Москва, 2001, с. 331.

муніст Кандраценка, які пражываў у Шарынскім сельсавеце Горацкага раёна, напісаў В. М. Молатаву ліст, дзе працытаваў тыповыя выказванні зацкаваных начальствам калгаснікаў, накшталт: «Мы так не жылі і ў прыгонным праве, што нам рабіць, нідзе на нас не звяртаюць увагі»[15].

Разам з тым захаваліся крыніцы, якія сведчаць пра эфектыўнасць прапаганды культу правадыра сярод калгаснікаў, перш за ўсё сярод кіруючых калгасных работнікаў, механізатараў, стаханаўцаў. У іх веры ў правадыра быў значны практычны складнік. Публічная дэманстрацыя лаяльнасці з'яўлялася адной са стратэгій актыўнага прыстасавання да новых умоў жыцця. Падобныя паводзіны выпрацоўваліся як з дапамогай тэрору, так і пад уздзеяннем шматлікіх прапагандысцкіх акцый, адрасаваных вясковай аўдыторыі. Адна з найбуйнейшых падобных акцый пад назвай «Усебеларускае спаборніцтва калгасных брыгад» адбылася ў 1935 г. Яе кульмінацыяй стала падпісанне пераможцамі спаборніцтва рапарта «нашаму вялікаму правадыру т. Сталіну»[16].

У разгар масавых рэпрэсій увосень 1937 г. многія калгаснікі з гармонікамі і песнямі, як на свята, ішлі галасаваць за безальтэрнатыўных кандыдатаў у Вярхоўны Савет СССР. Напрыклад, у Асвейскім раёне 90-гадовы Ігнат Ясюкевіч, апускаючы бюлетэнь у выбарчую урну, узнёсла прамовіў: «Дзякуй нашаму Сталіну, ура!» Яго брат, 80-гадовы Уладзімір, адмовіўся ад прапанаванага яму калгаснага воза: «Пайду галасаваць за Сталіна пешшу. Пры савецкай уладзе я зрабіўся маладым». Людзі пакідалі на бюлетэнях надпісы: «Галасую за вернага саратніка Сталіна – Варашылава, за шчаслівае жыццё», «Аддаю свой голас Варашылаву, а калі спатрэбіцца – аддам жыццё», укладалі ў скрыні паштоўкі з выявай Сталіна і Варашылава і надпісамі «Жадаю доўгія гады жыцця». На выбарчых участках былі чутны рэплікі: «Як тут усё добра ўладкавана!», «Якое шчасце даў нам Сталін!». Адзін выбаршчык, атрымаўшы бюлетэнь, ад радаснага хвалявання заплакаў. 70-гадовы стары Кроль сказаў на выбарчым участку: «Хто мог падумаць і нават сасніць, што я, калісьці забіты, бедны яўрэй, буду шчаслівы. Хачу аддаць голас бацьку, вялікаму і любімаму Сталіну». Энтузіязм быў такі, што ад радасці на адным участку старыя пачалі скакаць. Некаторыя калгаснікі прыходзілі на выбарчыя ўчасткі па некалькі разоў, каб зноў адчуць атмасферу свята і паглядзець на галасаванне[17].

Да пачатку Другой сусветнай вайны ў масавай сялянскай свядомасці ўжо трывала замацаваўся вобраз «Сталіна-бацькі». Менавіта да яго ў 1940 г. з пратэстам супраць утварэння калгаса звярнуліся жыхары в. Ходзевічы Пярэчын-

15 НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 17098, арк. 159.

16 «Звязда». 1935, 8 мая. № 103, с. 3.

17 НАРБ. Ф. 4п., воп. 1, спр. 11849, арк. 3–14.

скага сельсавета Слонімскага раёна: «Нібыта найшла цёмная хмара і закрыла тое сонца, якое засвяціла ў 1939 г. Мы, грамадзяне ў колькасці 62-х сямействаў, зноў будзем галадаваць гэтак жа, як пры польскіх панах, здаўшы апошнія свае лахманы на насенне, сохі ды бароны. Ратуйце нас, грамадзян, ратуй, наш добры бацька Сталін, бо сярод нашых загадчыкаў ходзіць чутка, што той, хто будзе зямлю патрабаваць, таго вывезем… Просім, бацька Сталін, каб Вы нас баранілі, зямлю за намі зацвердзілі, ды каб пшанічку, авёс, ячмень беспрашкодна маглі жаць, просім, просім, просім, бацька родны, адказ нам даць»[18].

У тым жа годзе член валаснога камітэта в. Табулкі Пінскага раёна Сяргей Мельнік так дэманстраваў у звароце да правадыра ўласную адданасць: «Я маю вялікую пакорнасць Вам, вялікі наш, любімы і слаўны правадыр Сталін, маю вялікую пакорнасць і ганаруся Вамі, дарагі бацька»[19]. «Дзіцячае» стаўленне сялян да правадыра паступова распаўсюджвалася на рэспубліканскае партыйна-савецкае кіраўніцтва. Напрыклад, калгасніца пенсійнага ўзросту з Веткаўскага раёна А. П. Іванова ў лісце да 29-гадовай старшыні Вярхоўнага Савета БССР Н. Р. Грэкавай звярнулася да яе наступным чынам: «Добры дзень, дарагая наша маці, Надзея Рыгораўна!»[20].

Адным з найбольш спрыяльных сацыяльных асяродкаў для фармавання культу правадыра была Чырвоная армія. Гэтаму спрыялі такія яе спецыфічныя рысы, як строгая дысцыпліна, жорсткая рэгламентацыя, агульнасць суб’ектаў вайсковай дзейнасці. Сталін надаваў асаблівую ўвагу палітычнаму выхаванню камандзіраў і байцоў, што паспрыяла моцнай палітызацыі арміі. Вось як у 1936 г. апісваў сваю палітычную падрыхтоўку адзін з курсантаў Аб’яднанай беларускай вайсковай школы: «У школе я вывучыў гісторыю СССР, гісторыю грамадзянскай вайны, эканамічную палітыку і асабліва глыбока гісторыю ВКП(б). Я навучыўся самастойна працаваць над творамі Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна»[21].

Ва ўмовах шпіёнаманіі злавесны характар у памежных частках, размешчаных на тэрыторыі БССР, набывала правядзенне такой формы працоўнай мабілізацыі, як «сталінскія вахты». Так, у сярэдзіне студзеня 1938 г. удзельнік «сталінскай вахты» памежнік Нікішын, заўважыўшы парушальніка, «забіў яго з першага стрэлу», за што атрымаў узнагароду ад наркама Б. Д. Бермана[22].

---

18 Тамсама. Спр. 14824, арк. 156б–156в.
19 Тамсама. Спр. 14833, арк. 53.
20 Тамсама. Спр. 17055, арк. 51.
21 Зайцаў К. Самастойна працую над творамі класікаў марксізма // «Звязда». 1936, 20 красавіка. № 90, с. 3.
22 Канстанцінаў Ф. На сталінскай вахце // «Звязда». 1938, 14 студзеня. № 11, с. 4.

Яшчэ адну сацыяльную групу, якая разглядалася прапагандыстамі ў якасці вельмі перспектыўнай, з пункту гледжання ўкаранення культу правадыра, утварала студэнцкая моладзь. Сярэдняя спецыяльная і асабліва вышэйшая адукацыя ў сталінскім СССР разглядаліся ў якасці найважнейшага «сацыяльнага ліфта». У 1930-я гг. гэты «ліфт» стаў даступны пераважна для дзяцей рабочых і бяднейшых сялян. Атрымліваючы бясплатную адукацыю, сталінскія стыпендыі, а таксама інтэрнаты і харчаванне па льготных коштах, савецкая студэнцкая моладзь добра ведала, каму трэба было дзякаваць за ўсё гэта. І, наадварот, непрыемныя навіны, накшталт увядзення ў 1940 г. платнай адукацыі, асноўная студэнцкая маса не жадала звязваць з імем дыктатара. Студэнтка адной з мінскіх ВНУ В. Храмянкова так апісвала ў лісце да сяброўкі калектыўную рэакцыю яе аднакурснікаў на гэту навіну: «Калі б ты толькі ведала, які настрой быў у студэнтаў, асабліва ў першыя дні. У калідорах збіраліся натоўпы і спявалі розныя песні пра Сталіна і падобныя»[23].

Разам з тым метады фармавання са студэнтаў беларускіх вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў «людзей новага тыпу» былі стандартныя і прымітыўныя. Так, пасля праверкі выкладання вучэбнага прадмета «ленінізм» у тэхнікумах, дырэктар Музея рэвалюцыі А. А. Данільчык[24] у сакавіку 1935 г. дакладваў партыйнаму кіраўніцтву пра тое, што «студэнты не чытаюць газет і да заняткаў складаюць спісы правадыроў нашай партыі і палітычных дзеячаў БССР (бо іх ніхто не ведае) і засвойваюць гэтыя звесткі метадам завучвання»[25]. Пасля праверкі выкладання «ленінізму» ў Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце ў сваёй справаздачы ў ЦК правяраючы шчыра напісаў: «Адказы студэнтаў зводзіліся да паўтарэння цытат з кнігі Сталіна, без разумення іх сутнасці»[26].

Інтэлігенцыя – пісьменнікі, паэты, жывапісцы, скульптары, кампазітары, кінематаграфісты і тэатральныя дзеячы – з'яўлялася другой па значнасці, пасля партыйных функцыянераў, групай «служыцеляў культу». Уласнымі творамі, адрасаванымі максімальна шырокай аўдыторыі, яны фармавалі ў масавай свядомасці вобраз Сталіна як чалавека, які валодае ўнікальнымі, звышнатуральнымі здольнасцямі, якія і дазваляюць прывесці чалавецтва ў «светлае заўтра». За выкананне сацыяльнай замовы ім належала ўзнагарода ў выглядзе ганарараў, прэмій, прэстыжу, славы і іншых прывілеяў ад

[23] НАРБ. Ф 4п, воп. 1, спр. 16849, арк. 48.

[24] А. А. Данільчык як «член контррэвалюцыйнай групоўкі» быў асуджаны да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы яго лёс невядомы.

[25] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 8934, арк. 38.

[26] Тамсама. Спр. 8934, арк. 29.

творчых саюзаў. Ілюстрацыяй гэтага можа быць наступная абвестка, што з'явілася ў пачатку 1934 г. на старонках беларускай моладзевай газеты: «Для *найбольш выдатных і кваліфікаваных* (курсіў – *А. Г.*) работнікаў навукі, літаратуры і мастацтва адчыняецца ў Менску закрыты размеркавальнік павышанага тыпу на 360 чалавек»[27]. Нельга сцвярджаць, што ўсе беларускія творцы былі няшчырыя ва ўслаўленні правадыра, але такіх на адрэзку часу ад 1929 да 1953 г. рабілася ўсё больш.

Меншую групу «праведнікаў» утваралі беспрынцыпныя цынікі, якія разумелі беспадстаўнасць, штучнасць, а можа, і шкоднасць абагаўлення Сталіна і тым не менш актыўна ўдзельнічалі ў гэтым працэсе з кароткатэрміновых меркантыльных меркаванняў. Гэта былі сапраўдныя вучні Сталіна, якія з яго дазволу амаль цалкам пазбавіліся традыцыйнай маральнай сістэмы каардынат. Напрыклад, актыўны ўдзельнік антырэлігійных кампаній партарг калгаса «Бальшавік» Ельскага раёна Шаўцоў у пачатку 1935 г. арганізаваў продаж калгаснікам і аднаасобнікам канфіскаваных з мясцовай царквы абразоў і царкоўнага начыння, а на здабытыя грошы ладзіў п'янкі[28]. Магчыма, пачуццё беспакаранасці (акрамя гандлю культавымі рэчамі партарг зганьбіўся тым, што гвалціў калгасніц) у яго з'явілася падчас выканання важнага партыйнага задання ў выглядзе барацьбы з рэлігіяй, што было найважнейшай перадумовай укаранення культу Сталіна.

Пачатак саветызацыі ў Глыбоцкім раёне адзначыўся двума нававядзеннямі. Першае з іх, у выглядзе з'яўлення партрэтаў правадыра ў інтэр'ерах і на фасадах дзяржаўных устаноў, а таксама агрэсіўнай культавай рыторыкі на грамадскіх сходах, мела сімвалічны характар. Пра другую навіну практычнага характару жыхары раёна распавядалі шэптам, бо яна ніяк не стасавалася з тым, пра што казалі на сходах прапагандысты. Менавіта ва ўмовах татальнага дэфіцыту і доўгіх чэргаў па хлеб, мыла, цукар, мануфактуру, папяросы і іншыя тавары першай неабходнасці прысланае з Мінска парткіраўніцтва адкрыла ў райкаме спецсталоўку. Акрамя яе меўся спецбуфет для сакратароў і загадчыкаў аддзела райкама, дзе давалі «селядцы і двухрублёвыя папяросы»[29].

Працэс зрошчвання партыі і НКУС, пераўтварэнне супрацоўнікаў апошняга ў «перадавы ўзброены атрад партыі» абумовіў іх актыўны ўдзел у абслугоўванні культу. Складанасць працы па высочванні і пакаранні «ворагаў» давала падставу на атрыманне прэферэнцый матэрыяльнага характару. Часам апетыты прадстаўнікоў карных органаў прыходзілі ў супярэчнасць з ін-

27 «Чырвоная змена». 1934, 9 студзеня. № 7, с. 4.
28 НАРБ. Ф 4п, воп. 1, спр. 7258, арк. 119.
29 Тамсама. Спр. 17071, арк. 258.

тарэсамі партыйных функцыянераў. Адна з падобных канфліктных сітуацый склалася ў пачатку 1940 г. у Дзісенскім раёне, калі сакратар райкама партыі Барсукоў паскардзіўся П. К. Панамарэнку на супрацоўнікаў мясцовага райаддзела НКУС. Маючы службовае жытло, яны занялі яшчэ па 2–3 кватэры, вызваленыя ад «непрацоўнага элемента». Найбольшыя здольнасці падчас пераддзелу нерухомасці ў раёне праявіў начальнік палітаддзела Вілейскай абласной школы міліцыі Беркавец, які заняў адразу тры кватэры[30].

## *«Багаборцы»*

Нешматлікія моцныя духам жыхары БССР рызыкавалі адкрыта дэклараваць уласную варожасць да сталінізму. Надта небяспечнымі былі наступствы падобнай варожасці, якія вагаліся ў дыяпазоне ад сацыяльнай маргіналізацыі да гвалтоўнай смерці. Супраць падобных паводзінаў паўставаў інстынкт самазахавання. «Багаборцы», у адрозненне ад маўклівай масы насельніцтва, не ўспрымалі культу Сталіна не толькі ўнутрана, але таксама знешне. Яны адмаўляліся выкарыстоўваць мову культу нават у мэтах выжывання.

З іншага боку, адмаўленне культу Сталіна, сталінізму ў цэлым увесь час прадукаваў сам рэжым, які не дазваляў найдрабнейшай нязгоды з яго ідэалагічнымі догмамі. Партыйна-ідэалагічны дыктат уступаў у супярэчнасць з базавай характарыстыкай чалавечай псіхікі, а менавіта – крытычным мысленнем. Першым крокам да антысталінскага супраціву была думка: «улада сама, а я сам па сабе, я зрабіўся будаўніком сацыялізму ў выніку збегу абставінаў, мая лаяльнасць да рэжыму – гэта толькі сродак выжывання». Падобнае самаадмежаванне ад улады ў часткі пасіўных апанентаў культу пад уздзеяннем розных унутраных і знешніх абставінаў набывала актыўныя формы. Так з'яўляліся свядомыя і ўпэўненыя ворагі сталінізму і культу правадыра як яго сімвалічнай, найбольш відавочнай праявы. Яны не трапілі альбо здолелі вызваліцца з палону сталінскіх міфаў, пратэставалі супраць сталінскай мадэлі пабудовы сацыялізму, а ў некаторых выпадках прапаноўвалі уласныя альтэрнатывы.

Усе разнастайныя формы супраціву ўсталяванню культу Сталіна з боку насельніцтва з пэўнай доляй умоўнасці можна разглядаць у кантэксце іх падзелу на два асноўныя віды – актыўныя і пасіўныя. Найбольш небяспечнымі, з пункту гледжання ўлады, з'яўляліся актыўныя формы супраціву, такія як выраб і распаўсюд антысталінскіх улётак, а таксама пашкоджанне выяваў правадыра. Кожны выпадак з'яўлення ў публічным месцы ўлёткі альбо здзеку з партрэта Сталіна адразу дакладваўся мясцовым парткіраўніцтвам ці органамі НКУС у ЦК КП(б)Б.

30 Тамсама. Спр. 17074, арк. 136.

Найбольш радыкальнай формай «іканаборства» з'яўлялася спаленне партрэтаў Сталіна, у чым прасочваецца семантыка спалення небяспекі, ад якой старажытныя славяне пазбаўляліся з дапамогаю агню[31]. Менавіта падобным чынам у 1938 г. пазбавілі родны сельсавет ад партрэта правадыра, спаліўшы яго ў найбліжэйшым гаі, 19-гадовы калгаснік А. Антаненка і 12-гадовы школьнік Л. Літвіненка. На пытанне старшыні калгаса «Бальшавік» Чарніцкага с/с Лёзненскага раёна, навошта яны гэта зрабілі, маладзёны адказалі: «Мы яго спалілі, бо ён не дае нам хлеба»[32].

Ігнараванне выпадку «іканаборства» стала зачэпкай для арышту ў лістападзе 1937 г. намесніка старшыні СНК БССР І. Г. Жураўлёва[33]. Пра гэты выпадак за месяц да яго арышту на VI пленуме ЦК КП(б)Б публічна казаў в. а. першага сакратара ЦК А. А. Волкаў: «У віцебскі гаркам даставілі партрэт Сталіна, у які стрэліў сын гандляра, але Жураўлёў – у той час сакратар гаркама – не ўжыў захадаў супраць яго»[34]. Работнік калгаса «1 Мая» Сіроцінскага раёна А. Адаменка быў арыштаваны за тое, што пасек лозунгі да выбараў і партрэты кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР[35].

Вядомы яшчэ ў Сярэднявеччы спосаб пашкоджання сакральных выяваў, калі на фрэсках і абразах выколвалі вочы святым, набыў новы маштаб і сэнс у сталінскай БССР. Выколваючы вочы на партрэтах Сталіна, беларускія «іканаборцы» дэманстравалі пратэст супраць распачатага ім тэрору. Так, 30 жніўня 1937 г. у ленінскім кутку на будаўніцтве аэрадрома ў Быхаўскім раёне невядомы пракалоў вочы на партрэце дыктатара і прымацаваў запіску «Забойца, і ты будзеш забіты»[36]. У тым жа годзе ў калгасе імя Варашылава Самахвалавіцкага сельсавета Мінскага раёна «плакат у чырвоным кутку, на якім таварыш Сталін быў паказаны ў атачэнні дзяўчат і дзяцей, у некалькіх месцах пракалолі тупым прадметам і прапалілі папяросай»[37]. Падобны ўчынак здзейснілі невядомыя вучні беларускай сярэдняй школы г. Дуброўна[38].

У адрозненне ад прыгаданых вышэй і шматлікіх іншых падобных выпадкаў, калі «іканаборцы» пазбеглі арышту, у адносінах да мінчанкі, работніцы

---

31 Народная демонология Полесья. Т. II. Демонологизация умерших людей. Сост. Л. Н. Виноградова, Е. Е. Левкиевская. Москва., 2012, с. 398.

32 НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 11867, арк. 28.

33 Як «член антысавецкай трацкісцкай арганізацыі» ў жніўні 1938 г. І. Г. Жураўлёў быў прыгавораны да найвышэйшай меры пакарання.

34 НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 10970, арк. 64 .

35 Тамсама. Спр. 12059, арк. 32.

36 Тамсама. Спр. 11509, арк. 130.

37 Тамсама. Спр. 12099, арк. 132.

38 Тамсама. Спр. 13803, арк. 50.

Белкамунбуда В. Валевіч, якая ў лістападзе 1937 г. неўзабаве пасля арышту яе брата пракалола вочы ў партрэце Сталіна і дэманстратыўна паказвала яго іншым рабочым, была распачата крымінальная справа[39]. Была арыштавана таксама жыхарка в. Смалічы Чырвона-Слабодскага раёна Н. Усовіч, якая ў дзень пахавання Сярго Арджанікідзэ падвучыла выкалаць вочы на партрэтах Сталіна і Варашылава 4-гадовага сына («маўляў, гэта зрабіла дзіця і яму нічога за гэта не будзе»)[40]. За парэзаны невядомымі партрэт К. Я. Варашылава, які вісеў на плоце дома № 29 па Цнянскай вуліцы ў Мінску, давялося адказваць гаспадарам дома[41]. Трынаццаццю і трыма гадамі ў ГУЛАГу адпаведна заплацілі выкрытыя ў «падступным» спосабе апаганьвання ў сваіх службовых кабінетах партрэта правадыра (за партрэтамі Сталіна былі схаваны партрэты Троцкага) наркам юстыцыі БССР П. В. Кузьмін і старшыня Вярхоўнага Суда БССР Р. С. Кудзельскі[42].

Ва ўмовах масавага тэрору не вытрымлівала псіхіка не толькі ў катаў і іх ахвяраў, але таксама ў прапагандыстаў рэжыму. Так, 15 мая 1938 г. в. а. першага сакратара ЦК КП(б)Б А. А. Волкаў атрымаў паведамленне ад кіраўніцтва НКУС пра начальніка палітаддзела Асіповіцкага аддзялення службы руху Беларускай чыгункі Мікалаева. Апошні на занятках з чыгуначнікамі дэманстраваў надрукаваныя ў афіцыйных выданнях сталінскія партрэты «з рысамі Гітлера, Мусаліні і Троцкага». Пасля дэманстрацыі «шкодных» партрэтаў Мікалаеў іх публічна знішчаў[43].

У барацьбе з аднаасобнай уладай Сталіна на працягу 1930-х гг. выкарыстоўваўся такі праверaны від агітацыйна-палітычнай зброі, як улёткі.Размова ідзе пра рэшткі падпольных груп левай апазіцыі, а таксама нешматлікія моладзевыя антысталінскія групы. Іх з'яўленне было непазбежным вынікам адной з асноўных супярэчнасцяў савецкага таталітарызму, а менавіта – паміж міфам аб змаганні за праўду і неадпаведнай яму рэчаіснасцю. Антысталінскія моладзевыя групы, якія складаліся са студэнтаў ВНУ, тэхнікумаў, рабочых, спавядалі розную ідэалогію і ставілі нерэальныя мэты па змене дзяржаўнай палітыкі. Разгарнуць дзейнасць, як правіла, яны не паспявалі. Пасля распрацоўкі праграмных дакументаў і распаўсюду першых улётак прыходзілі непазбежныя арышты, допыты і жорсткае пакаранне.

39 Тамсама. Спр. 12068, арк. 199.
40 Тамсама. Спр. 12100, арк. 70.
41 Тамсама. Спр. 13225, арк. 267.
42 Тамсама. Спр. 12100, арк. 193.
43 Тамсама. Спр. 13220, арк. 152.

22 лютага 1933 г. у адным з мінскіх трамваяў была знойдзеная ўлётка, напісаная пад капірку ад рукі: «Мы гінем з голаду. Нас, рабочых, савецкая ўлада прадала буржуазіі. Сталіна падкупілі, ён дае няслушныя распараджэнні. Па яго ініцыятыве турмы поўныя пралетарыяту. Не хапае турмаў – будуй новыя, цэрквы перарабляй на турмы. Зразумейце самі, што далей нам няма чаго трываць і чакаць. Як вы ведаеце, нам нават чорнага хлеба не дадуць. Ён ідзе за мяжу нашаму ворагу. За 1000 пудоў хлеба нам прысылаюць швейную машынку, за вагон цукру – стальное зубіла. Нам трэба скінуць Сталіна і не дазваляць вывазу за мяжу аніводнага граму. Чым памерці з голаду, хай у нас страляюць ці мы ў іх, здраднікаў. Не бойся крыві, калі хочаш есці, рабуй хлебныя крамы, пачынай рэвалюцыю, узбройвайся. Нас ужо 316 чалавек, а будзе 316 мільёнаў. Далоў Савецкую Уладу, далоў яе правадыра Сталіна»[44].

Колькасць падпольных улётак павялічылася падчас Вялікага тэрору. 5 снежня 1937 г. у Мінску ў доме № 2 па вул. Фабрыцыуса з'явілася напісаная хімічным алоўкам, друкаванымі літарамі ўлётка наступнага зместу: «Смерць жандарам НКУС. Яны ў нас на ўліку за арышт нявінных рабочых»[45]. Тады ж у мінскім польскім тэхнікуме супрацоўнікі НКУС знайшлі ўлёткі з шакуючым зместам: «Усе студэнты СССР супраць Сталіна. Мы не баімся бальшавікоў, а хочам хутчэй вайны. Мы дапаможам дарагому Троцкаму супраць СССР»[46].

19 мая 1940 г. наркам унутраных спраў БССР Лаўрэнцій Цанава мабілізаваў увесь аператыўны склад і агентуру свайго ведамства на пошукі аўтара ўлёткі, якую атрымалі дэлегаты XVIII з'езда КП(б)Б, рэдакцыі рэспубліканскіх газет, вышэйшыя навучальныя ўстановы, праўленне Саюза пісьменнікаў, заводскія камітэты ды інш. Пафас гэтага ананімнага дакумента быў накіраваны супраць падпісанага годам раней савецка-германскага пакта аб ненападзе. Аўтар улёткі ацэньваў яго наступным чынам: «...Калі фашызм прапанаваў крамлёўскім прастытуткам удзельнічаць у раздзеле Польшчы і на базе гэтага быў заключаны дагавор аб «дружбе», тады нават малыя дзеці змаглі зразумець, што зараз жа пасля «дамовы» фашызм пачне наступ па ўсім фронце, пачне жэрці дзяржаву за дзяржавай. І сёння мы з'яўляемся сведкамі еўрапейскага пажару, які ўзнік на базе «дамовы» камунізму з германскім фашызмам»[47].

Забойства Льва Троцкага ў Мексіцы ў жніўні 1940 г. яго мінскія прыхільнікі адзначылі расклейкай на цэнтральных будынках беларускай сталіцы наступнай лаканічнай ўлёткі: «Няхай жыве партыя Леніна! Далоў самаўлад-

44 Тамсама. Спр. 6299, арк. 387–388.
45 Тамсама. Спр. 12059, арк. 19.
46 НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 12101, арк. 38.
47 Тамсама. Спр. 16931, арк. 78.

дзе! Далоў Сасо-крывасоса! Далоў голад! Няхай жывуць народы СССР! Мінскі камітэт Ленінскай УсеКП(б)»[48].

Новы фронт сацыяльнага непадпарадкавання сталінізму з’явіўся пасля далучэння да БССР заходнебеларускіх земляў. Толькі на працягу першага няпоўнага года знаходжання Заходняй Беларусі ў складзе Савецкай Беларусі НКУС было выкрыта 109 падпольных «польскіх» арганізацый, арыштаваны 3 231 іх удзельнік[49]. Распаўсюд улётак «з паклёпніцкімі выдумкамі супраць правадыра народаў», як гэта было, напрыклад, у ліпені 1940 г. у в. Хрустава Поразаўскага раёна[50], з’яўляўся адным з эфектыўных метадаў іх дзейнасці.

Пасіўныя формы супраціву культу Сталіна трапялі ў поле зроку органаў бяспекі толькі ў другую чаргу. Але гэта не рабіла іх менш небяспечнымі для таталітарнай сістэмы. «Зброя слабых» не дазваляла актыўна супрацьстаяць сталінскай прапагандзе, але не перашкаджала яе крытычна ўспрымаць і нават крытыкаваць.

Сталінскія рэпрэсіі 1930-х гг. паспрыялі легітымізацыі ў масавай свядомасці насельніцтва БССР гвалту, у тым ліку яго крайняй формы – забойства. Нямногія, даведзеныя да адчаю безвыходнасцю становішча, забываліся на беларускую цярплівасць і адважваліся ўголас жадаць смерці свайму галоўнаму ворагу. Так, падчас абмеркавання навіны аб забойстве Сяргея Кірава на бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце выключаны з партыі трацкіст Садоўскі сказаў: «Што, Кірава? Трэба было Сталіна!»[51] Рабочы бабруйскай мэблевай фабрыкі імя Халтурына Ф. Ліпскі падчас абмеркавання працэсу «Паралельнага антысавецкага трацкісцкага цэнтра» адкрыта пашкадаваў: «Гэтыя тэрарысты дурні, што не забілі Сталіна і Варашылава, бо яны мелі да іх доступ, сустракаліся з імі часта на мітынгах, Краснай плошчы, іншых месцах. Калі б забілі, то маглі б узяць уладу ў свае рукі»[52].

У жніўні 1936 г. на адным са сходаў у Тураўскім раёне ў падтрымку працэсу над «Антысавецкім аб’яднаным трацкісцка-зіноўеўскім цэнтрам» калгаснік Ілля Шаўчук сказаў: «Чорт з ім, са Сталіным, Леніным, каб іх не было, мо лягчэй было б жыць». Калгаснікі Рыгор Сакалоўскі і Іван Баланчук адкаментавалі прысуд Рыгору Зіноўеву і Льву Каменеву наступнай фразай: «Каб расстралялі Сталіна і іншых, то, можа, стала б лепш жыць». Калгаснік

---

48 Тамсама. Арк. 77.

49 Тамсама. Спр. 16932, арк. 152.

50 Тамсама. Арк. 215.

51 Пасля крутога павароту. Ідэолага-палітычная барацьба ў Беларусі. 1932–1936 гг. Дакументы, матэрыялы, аналіз / Аўт.-склад.: У. І. Адамушка і інш. Мінск, 2008, с. 305.

52 НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 12100, арк. 105.

калгаса «Новы свет» Далгоўскага сельсавета Старобінскага раёна Ілля Рудзеня таксама публічна звязаў свае спадзяванні на лепшае жыццё з забойствам «правадыроў партыі і рабочага класа»[53]. Рабочы торфаарцелі імя Варашылава Папярнянскага сельсавета Мінскага раёна выказаў сваю думку пра тое, што «трэба забіць Сталіна», у пісьмовай форме, выразаўшы яе на прылаўку мясцовай крамы[54].

Усе гэтыя выпадкі адразу ж рабіліся прадметам абмеркавання «на самым версе». Механізм рэагавання ўлады на іх выглядаў наступным чынам. 6 верасня 1936 г. сакратар Аршанскага райкама партыі Р. І. Соскін адправіў тэрміновае сакрэтнае пасланне першаму сакратару ЦК КП(б)Б М. Гікалу, дзе паведамляў, што «да яго дайшлі чуткі» аб калгасніку калгаса «Чырвонае аб'яднанне» Шыбецкага раёна камуністу І. С. Дзенісюку, які «дабіваўся паездкі ў Маскву на нараду перадавікоў жывёлагадоўлі з мэтай забойства Сталіна». М. Гікала пакінуў на палях гэтага паведамлення наступную рэзалюцыю: «Тэрмінова тт. Ляплеўскаму альбо Якубоўскаму»[55].

Своеасаблівай лакмусавай паперай, якая прадэманстравала ўладзе пратэстны патэнцыял грамадства ў дачыненні да культу першай асобы, зрабіліся выбары ў Вярхоўны Савет СССР 12 снежня 1937 г. Перад выбарамі было заяўлена, што яны будуць праводзіцца на альтэрнатыўнай аснове, што давала надзею на дэмакратызацыю грамадска-палітычнага жыцця ў краіне. Аднак многія з тых, хто спрабаваў балатавацца ў Вярхоўны Савет у якасці альтэрнатыўных кандыдатаў – перш за ўсё «царкоўнікі», – былі арыштаваны. Нягледзячы на масавы тэрор увосень 1937 г., на дзясятках перадвыбарчых сходаў супрацоўнікі НКУС фіксавалі выпадкі іншадумства, крытычнага стаўлення да кандыдатаў ад улады, уключаючы самога Сталіна.

20 лістапада 1937 г. Барыс Берман у сакрэтным дакладзе А. А. Волкаву так абагульніў «негатыўныя з'явы» падчас правядзення перадвыбарчай кампаніі ў БССР: «На сходзе ў Родненскім сельсавеце Клімавіцкага раёна калгаснік Сямён Кац адкрыта і рэзка выступіў супраць кандыдатуры Сталіна. Арыштаваны. У м. Шацілкі Парыцкага раёна П. А. Гузоўскі высоўваў кандыдатамі ворагаў народа Троцкага, Зіноўева і Каменева. Яго на сходзе падтрымаў Манкевіч. Абодва арыштаваны. У Клясніцкім сельсавеце Краснапольскага раёна Емяльян Старавойтаў адкрыта прапанаваў не га-

---

53 Тамсама. Спр. 10668, арк. 18, 22.

54 Тамсама. Спр. 12138, арк. 17.

55 Пасля крутога павароту…, с. 452. І. М. Ляплеўскі – наркам унутраных спраў БССР, расстраляны на палігоне «Камунарка» ў ліпені 1938 г.; Я. А. Якубоўскі – памочнік наркама ўнутраных спраў БССР.

ласаваць за кіраўнікоў УсеКП(б). Арыштаваны. У Чавускім раёне супраць Сталіна выступілі член калгаса «Ленінскі шлях» Долаў і «Перамога» Барадоўскі. Абодва арыштаваны. У в. Кашкі Заслаўскага раёна падчас абмеркавання кандыдатур супраць Сталіна і Варашылава выступіў калгаснік Далікат. Арыштаваны. У в. Красноўка Бабруйскага раёна супраць кандыдатуры Сталіна выступіў нейкі Баборуш. Арыштаваны [ ... ]. У Дубровенскім раёне прапанавалі кандыдатуру рэпрэсаванага Тухачэўскага, у Полацкім раёне – Троцкага, у Капыльскім раёне – Якаўлева, у Старобінскім раёне – Убарэвіча»[56].

Выпадкі адмовы галасаваць за Сталіна меліся таксама ў Аршанскім, Бешанковіцкім, Буда-Кашалёўскім, Быхаўскім, Бярэзінскім, Гомельскім, Грэскім, Добрушскім, Дрысенскім, Жлобінскім, Журавіцкім, Кіраўскім, Лельчыцкім, Мазырскім, Нараўлянскім, Слуцкім, Суражскім, Талачынскім, Халопеніцкім раёнах. Цэлымі вёскамі адмаўляліся ўдзельнічаць у выбарах у Вярхоўны Савет «царкоўнікі і сектанты». Яны называлі Сталіна «антыхрыстам», вешалі чорныя крыжы на яго партрэты і выбарчыя спісы. На адным з передвыбарчых сходаў у сталіцы Савецкай Беларусі, што праходзіў у раёне Нямігі, Гітля Тэтэльман, якая шмат што пабачыла ў жыцці, па-прарочы папярэдзіла яго ўдзельнікаў: «НКУС арыштаваў добрых людзей, якія кіравалі дзяржавай. Гэтыя, якіх цяпер абіраюць, давядуць нас да вайны»[57].

Тыя, хто з ідэйных меркаванняў адмаўляўся ад галасавання, крытыкаваў уладных кандыдатаў, а таксама спрабаваў выставіць альтэрнатыўныя кандыдатуры, арыштоўваліся або браліся органамі ў «распрацоўку». Так, увосень 1937 г. НКУС пачаў «распрацоўваць» паэта Пятра Глебку, які выказаў незадавальненне тым, што не ўбачыў у спісах кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР Янку Купалу і Якуба Коласа[58]. Пра масавасць арыштаў, якімі ўлада адказала на перадвыбарчы ўздым грамадска-палітычнай актыўнасці насельніцтва, сведчыць наступная дырэктыва ЦК КП(б)Б судова-следчым органам рэспублікі: «Следства па справах, што ўзнікаюць у сувязі з перадвыбарчай кампаніяй на месцах, заканчваюцца ў пяцідзённы тэрмін, і справы накіроўваюцца па падсуднасці»[59].

Ва ўмовах закрытага грамадства яшчэ адным відам «зброі слабых» былі чуткі пра Сталіна. Даследчыкі сталінскай эпохі адзначаюць важную ролю

---

56 НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 12055, арк. 180–182.
57 Тамсама. Спр. 12059, арк. 7.
58 Тамсама. Спр. 11848, арк. 214.
59 Тамсама. Спр. 12055, арк. 217.

чутак у фармаванні новай савецкай ідэнтычнасці, стварэнні карціны свету грамадзян СССР[60]. Народныя пагалоскі стваралі альтэрнатыву інфармацыі, якую навязвалі афіцыйныя крыніцы, а таму выклікалі асаблівую цікавасць і распаўсюджваліся з неймавернай хуткасцю. Ва ўсіх выпадках, якім ёсць дакументальнае пацвярджэнне, чуткі пра Сталіна адлюстроўвалі глыбіннае жаданне вызваліцца ад тырана. Напрыклад, увесну 1932 г. у Жлобінскім раёне перадавалася чутка пра тое, што «Варашылаў падстрэліў Сталіна, які хацеў збегчы за мяжу. Цяпер Сталін ляжыць у бальніцы»[61].

У 1936 г. партыйныя органы даведаліся пра яшчэ адну небяспечную чутку, якую перадавалі ў Мехаўскім раёне: «Сталіна ў Маскве ўжо няма, за яго кіруе Крупская»[62]. Прыняцце Канстытуцыі 1936 г. выклікала надзеі на змену ўлады, яны фармуляваліся наступным чынам: «Троцкі прыехаў у Маскву і па новай Канстытуцыі будзе абраны ў склад урада СССР»[63].

## *Маўклівая большасць*

Палітра паводзінаў людзей, якія жылі ў таталітарным рэжыме, не зводзілася да сляпога падпарадкавання альбо розных форм супраціву. Большасць людзей не выказвала ўласных меркаванняў публічна, фактычна не ўдзельнічала ў грамадскім і палітычным жыцці рэспублікі і, паводле дэфініцыі Ж. Бадрыяра, утварала «маўклівую большасць». На думку французскага філосафа, паводзіны людзей, што ўваходзілі ў гэтую шматлікую групу, характарызаваліся агульнай пасіўнасцю, інертнасцю і схільнасцю да канфармізму: «Яны не выпраменьваюць, але, наадварот, паглынаюць усе выпраменьванні перыферычных сузор'яў Дзяржавы, Гісторыі, Культуры, Сэнсу. Яны ёсць інерцыя, магутнасць інерцыі, улада нейтральнага»[64].

Сучасныя даследчыкі сталінізму ўсе часцей кажуць пра існаванне ў 1930-я гг. пэўнага сацыяльнага парадку, які дасягаўся падчас камунікацый (перамоў, торгу) паміж уладай і грамадствам. Ці не першым гэта зрабіў С. Масковічы, які выказаў сумнеў адносна справядлівасці катэгарычнага сцверджання свайго папярэдніка Г. Тарда: «Для натоўпу не існуе сярэдзіны

[60] Johnston T. Being Soviet. Identity, Rumour, and Everyday Life under Stalin 1939–1953. Oxford, 2011, p. 21.

[61] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 6059, арк. 5.

[62] Тамсама. Спр. 10668, арк. 27.

[63] Тамсама. Арк. 107.

[64] Бодрийар Ж. В тени молчаливого большинства, или Конец социального. Екатеринбург, 2000, с. 7.

паміж праклёнам і каханнем, паміж жахам і захапленнем, паміж воклічамі «няхай жыве» і «смерць яму»[65].

Пра гібрыднасць паводзінаў абыякавага да палітычных пытанняў і грамадскіх справаў таталітарнага суб'екта, яго прыстасаванне з мэтай аптымізацыі ўласных жыццёвых перспектываў пісаў А. Людтке. Адным з ключавых паняццяў яго даследаванняў гісторыі штодзённасці з'яўляецца «сваволле» (Eigensinn), якое ляжыць у аснове крытыкі біпалярнай канцэпцыі ўлады. На думку А. Людтке, залежнасць гістарычных актараў, нават у таталітарных рэжымах, ніколі не бывае поўнай, яны пераследуюць уласныя стратэгіі, гэткім чынам уплываючы на ўладу[66]. Канцэпцыя перамоваў і гандлю ў таталітарным грамадстве пацвярджаецца беларускімі архіўнымі матэрыяламі.

Вось як, напрыклад, рабочыя Смалявіцкага торфазавода ў адзін з выхадных дзён 1932 г. удзельнічалі ў «добраахвотна-прымусовай» палітычнай гульні «Да сацыялізму». Камсамолец абвяшчае: «Пачынаецца гульня. Буду задаваць пытанні і іх галасаваць. Хто няправільна прагаласуе – судзіць будзем». Камсамолец задае пытанне: «Хто за калектывізацыю?» Шмат. «Хто супраць?» Трое. Пачынаецца суцэльная блытаніна, бо палітычна непісьменны суддзя не ведае асноўных партыйных дырэктываў па калгасным будаўніцтве. Каб выйсці з гэтага складанага становішча, камсамолец голасна задае пытанне: «Хто за таварыша Сталіна?» Усе. «Хто супраць таварыша Сталіна?» Адзін. У сярэдзіну натоўпу выштурхоўваюць сярэдніх гадоў работніцу. «Чаму ты супраць Сталіна?» Наступіла дзіўная цішыня. «Таму што яго няма». Рогат і зноў напружаная цішыня. «Як гэта яго няма?» – «На балоце у нас яго няма. Каб быў тут, можа, іначай у нас было б, парадку было б больш»[67].

Намаганні партыйнага кіраўніцтва максімальна палітызаваць камунікацыйную прастору сутыкаліся з вялікімі перашкодамі не толькі сярод беспартыйнай рабочай масы, але таксама на ўзроўні шараговых камуністаў. Значная частка апошніх імкнуліся да паляпшэння ўласных жыццёвых перспектываў, намагаючыся пры гэтым заставацца ў традыцыйных межах палітычнага. Так, выступаючы на адной з нарадаў у 1936 г., загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Д. Ю. Конік адзначаў: «Сотні камуністаў у нашых партарганізацыях не адрозніваюць ЦК ад ЦВК, калі задаеш пытанне «Хто такі Сталін?» адказваюць: «Старшыня ЦВК», а калі пытаешся «Хто такі Молатаў?» – «Старшыня ЦК»[68].

---

65 Московичи С. Век толп. Москва, 2011, с. 157.

66 Lüdtke A. Eigen-Sinn. Fabrikalltag, Arbeitererfahrungen und Politik vom Kaiserreich bis in den Faschismus. Hamburg, 1993.

67 НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 6059, арк. 52–55.

68 Тамсама. Спр. 10641, арк. 99.

Больш падобны на сацыяльны торг, чым на акт супрацiву быў учынак, якi здзейснiў у 1939 г. вiцяблянiн М. I. Гольдзiн. У адказ на iнфармацыю першага сакратара вiцебскага абкама партыi I. А. Стулава аб аднаўленнi яго ў партыi ён заявiў, што возьме дасланы з Масквы партбiлет толькi пры ўмове, што рашэнне будзе падпiсана не членам Камiсii партыйнага кантролю Е. М. Яраслаўскiм, а генеральным сакратаром ЦК УсеКП(б) Сталiным. Тым самым Гольдзiн перайшоў нябачную для староннiх мяжу дазволенага i быў паўторна выключаны з партыi[69].

* * *

Да сярэдзiны 1930-х гг. у Савецкай Беларусi склаўся самастойны сацыяльны феномен – культ асобы Сталiна. Iнструментальным сродкам яго канструявання была партыйная бюракратыя, якая ўтварала кiруючы клас савецкага грамадства. Галоўным аб'ектам яе мэтанакiраванага прапагандысцкага ўздзеяння стала бяднейшая, найменш адукаваная частка грамадства, перад прадстаўнiкамi якой сталiнская «рэвалюцыя зверху» адкрывала новыя сацыяльныя перспектывы. Адданасць правадыру ў iх спалучалася з выканальнасцю, сцiпласцю ў спажываннi, энтузiязмам, гатоўнасцю да любых ахвяраў дзеля агульнай справы.

Разам з тым у вынiку распачатых Сталiным змен сацыяльнай структуры савецкага грамадства з'явiлiся тыя, для каго культ правадыра быў непрымальны. Да iх адносiлiся прадстаўнiкi «эксплуататарскiх класаў», палiтычнай апазiцыi, частка iнтэлiгенцыi, студэнцтва. Нягледзячы на афiцыйнае пазiцыянаванне сябе як улады рабочага класа, узаемаадносiны сталiнскага кiраўнiцтва i рабочых, асаблiва тых, хто меў прафесiю да рэвалюцыi, былi таксама няпростыя. Да «багаборцаў» адносiлася меншасць заможных, iнiцыятыўных сялян, вядомая як «кулацтва», якое стала спачатку аб'ектам прапагандысцкага ганьбавання, а потым – палiтычных рэпрэсiй.

Асноўная маса насельнiцтва БССР, альбо г. зв. «простыя людзi», на працягу 1930-х гг. засвоiлi базавыя каштоўнасцi таталiтарнай iдэалогii i не шукалi iншай сацыяльнай альтэрнатывы.

69 Тамсама. Спр. 13803, арк. 150.

ISSN 2424-5224

# ОТНОШЕНИЕ К СОВЕТСКИМ ГОСУДАРСТВЕННЫМ ПРАЗДНИКАМ В ЧАСТНОЙ ПЕРЕПИСКЕ МЕЖДУ ФРОНТОМ И ТЫЛОМ В 1941–1945 гг.

***Леонид Смиловицкий,***
*PhD (Тель-Авив)*

***Summary***

The article is devoted to the study of the place and role of holidays in the life of individuals during World War II based on their relation to the three main state holidays in the Soviet calendar – November 7, May 1 and February 23. The attitude to the state holidays makes it possible to judge about people's assessment of the events happening in the rear and at the front, to understand how the propaganda efforts of the regime were able to penetrate the personal life of citizens, evoke patriotism or, on the contrary, arouse irritation.

The question is, to what degree did Soviet citizens during the war with Nazi Germany accepted public holidays and considered them "their own" (personal or family) in the absence of religious and national holidays abolished by the Communist Party after usurpation of power in the country in 1917. The conclusion is that the Soviet state during the years of war, using the natural need of citizens to rest, pursued two main goals – to allow people at the front and in the rear temporary rest and simultaneously check the state control over the population of the country. The present paper is based upon data from letters and diaries of Soviet Jews – soldiers and officers of the Red Army – which were collected in the archives of the Diaspora Research Center at Tel Aviv University over the last years (2012–2018) and are herein introduced into academic discussion for the first time.

